# ПОЛЫМЯ
# РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ і КРЫТЫКІ

**3**

1 9 3 8





# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ТРЭЦЯЯ*





МЕНСК — 1938

## ВАЕННАЙ КАЛЕГІІ ВЯРХОЎНАГА СУДА СССР

Велізарнейшым гневам і нянавісцю напоўніліся нашы сэрцы, калі мы даведаліся, што тройчы праклятыя выродкі, здраднікі, шпіёны і забойцы з права-трацкісцкай банды Троцкага, Бухарына, Рыкава і інш. хацелі прадаць нашу бацькаўшчыну азвярэламу фашызму, раскрамсаць свяшчэнную зямлю нашай дарагой радзімы, затапіць у крыві здабытыя ў баях свабоду і шчасце вялікага савецкага народа.

Усё лепшае, усё перадавое чалавецтва жахнулася ад нябачанай у гісторыі чорнай здрады подлых іуд, злачыннай зграі халопаў капітала.

З чым параўнаць злачынствы гэтых шалёных фашысцкіх сабак?

Змрочнае і жудаснае сярэдневякоўе, кастры інквізіцыі, звярынае іезуіцтва—усё гэта меркне перад метадамі і сродкамі гэтых падкалодных змей.

Яны падымалі свае брудныя акрываўленыя рукі на лепшых людзей чалавецтва, на вялікіх Леніна і Сталіна—геніяў і правадыроў працоўных і прыгнечаных усяго свету.

Перад намі ўстаюць першыя дні Кастрычніка, тераічны рабочы Петраград, уся маладая ўзброеная Савецкая краіна. Галодная і разбураная сусветнай вайной, яна выйшла на абарону сваёй свяшчэннай свабоды ад нашэсця чатырнаццаці імперыялістычных дзяржаў. Белагвардзейскія полчышчы, нямецкія генералы, японскія самураі, польскія паны, англійскія і французскія інтэрвенты ўзнялі крыжовы паход супроць нашай рэвалюцыі. Але ў няроўным баі рэвалюцыйны народ перамог. Ён перамог таму, што вялікія Ленін і Сталін кіравалі яго мужнай барацьбой, жылі ў сэрцы кожнага байца сацыялістычнай рэвалюцыі. А ў гэты час загаворшчыкі, правакатары і тэрарысты—Троцкі, Бухарын, Рыкаў, разам з гнуснымі падонкамі царскай ахранкі—эсэрамі, меншавікамі і нацыяналістамі з-за вугла накіроўвалі сваю зброю ў чыстыя і благародныя сэрцы Леніна, Сталіна, Свердлова.

Вышкаленыя агенты міжнародных ахранак, яны хацелі звішчыць савецкую ўладу і ўстанавіць уладу буржуазіі.

*Бруднай крывёю сваёй заплоціць злачынная зграя за подлую чорную здраду.*

Гестапаўскія махляры, яны імкнуліся распрадаць самае дарагое, што ёсць у савецкага народа,—яго вялікую радзіму, яго светлае і шчаслівае жыццё.

Яны імкнуліся разарваць сувязі сталінскай дружбы народа

аддаць пад ярмо фашысцкіх дзяржаў Украіну, Беларусь і другія братнія рэспублікі.

Нашу родную совецкую Беларусь, якая пышна расквітнела пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі, права-трацкісцкія бандыты разам з буржуазнымі нацыяналістамі прагнулі задушыць пад ботам нямецкіх і польскіх фашыстаў. Але свабодны беларускі народ—нашы рабочыя, нашы калгаснікі, наша інтэлігенцыя, якія перажылі шматвяковы гнёт нямецкіх памешчыкаў і польскай шляхты, жудасці нямецкай і польскай акупацыі,—ніколі не дазволіць ступіць подлай назе інтэрвентаў на сваю свяшчэнную і непарушную зямлю.

*Бруднай крывёй сваёй заплоціць злачынная зграя за подлую чорную здраду.*

У вяках будуць праклятыя імёны забойцаў, на руках якіх гарыць благародная кроў Кірава, Куйбышэва, Менжынскага, Горкага.

Родны Аляксей Максімавіч, горды наш буравеснік!

Яшчэ так нядаўна чулы, ветлівы і скромны, ты вучыў нас бязмежна любіць нашу радзіму, яе вялікіх правадыроў, наш народ, яго цудоўную сучаснасць і светлую будучыню. Ты вучыў нас ненавідзець лютых ворагаў народа—фашыстаў, якія знішчаюць найвялікшыя здабыткі сусветнай культуры.

На ўвесь свет гучэў твой мудры голас вяшчуна соцыялістычнага гуманізма і большэвіцкай праўды і знаходзіў жывы водгук у сэрцах усяго прагрэсіўнага чалавецтва.

Не дрогнула рука забойцы, які ля ложка хворага замест лякарства сыпаў у шклянку яд, які адабраў у народа любімага яго сына, геніяльнага рускага пісьменніка, чалавека вялікага палымнеючага сэрца.

Будзьце праклятыя, подлыя забойцы!

Неўміручым агнём гарацьь словы вялікага Горкага:—„Калі вораг не здаецца—яго знішчаюць!"

*Бруднай крывёй сваёй заплоціць злачынная зграя за подлую чорную здраду.*

Не зацямніць нікому і ніколі сталінскае сонца!

Высока над радзімай гараць рубінавыя крэмлёўскія зоры, іх яркае святло далёка відаць за межамі нашай краіны.

На варце нашага радаснага жыцця мужна і пільна стаіць атуленая ўсенародная любоўю совецкая разведка на чале з маршалам совецкай разведкі Нікалаем Іванавічам Ежовым.

Слава бясстрашным чэкістам, рыцарам пролетарскага меча!

Ад усёй душы дзякуй вам, верныя сыны народа—непахісныя і бязлітасныя да ворагаў народа, доблесныя наркамунутдзельцы, за выкрыццё прэзрэннай права-трацкісцкай банды.

Ад усёй душы дзякуй Вам, наш родны і любімы таварыш Сталін, за бацькоўскія клопаты аб беларускім народзе, за шчаслівае жыццё, за ачыстку нашай совецкай зямлі ад фашысцкай нечысці.

Выкрыццё фашысцкай банды яшчэ і яшчэ раз напамінае нам, што мы знаходзімся ў капіталістычным акружэнні, адкуль падсылаюцца да нас забойцы, шпіёны і дыверсанты. Мацаваць рэволюцыйную пільнасць—вось пярвейшы абавязак совецкага грамадзя-

ніна. Мы абяцаем яшчэ вышэй узняць рэвалюцыйную пільнасць, цясней згуртавацца вакол вялікай партыі Леніна—Сталіна, вакол правадыра народаў таварыша І. В. Сталіна.

Таварышы члены Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда!

Мы, савецкія пісьменнікі БССР, далучаем свой голас да перапоўненага гневам голасу ўсяго савецкага народа і патрабуем знішчыць гадаў, змесці іх з твару зямлі.

Благародная кроў вялікіх сыноў народа—Горкага, Кірава, Куйбышэва і Менжынскага—кліча да самай бязлітаснай кары.

*Патрабуем расстраляць шалёных фашысцкіх сабак—усіх да аднаго!*

**Агульны сход Савецкіх Пісьменнікаў БССР.**

*Янка Купала*

# СМЕРЦЬ ЗАБОЙЦАМ А. М. ГОРКАГА!

„... Ажыццявілі зладзейскае ўмярцвенне В. В. Куйбышэва, В. Р. Менжынскага і А. М. Горкага".
(З паведамлення Пракуратуры СССР).

Гэтакай подласці, гэтакай здрады
Свет і не чуў і не бачыў.
Смерць крывапійцам, раз'юшаным гадам,
Вынішчыць след іх сабачы!

Годы міналі, жылі яны годы,—
Іх за людзей палічылі,—
А яны, здрайцы вольных народаў,
Нож нам пад сэрца тачылі.

Мала падпалаў, ім трэба атруты,
Дай ім крыві па калены!
Смерць вам, жывыя нябожчыкі-трупы,
Смерць за пісьменніка-генія!

Спі, буравеснік, усмерчаны Горкі
Хэўрай прадажніцкіх юдаў.
Дум тваіх радасных ясныя зоркі
Векі свяціці нам будуць.

Мы, згартаваныя сталінскай воляй,
Смерцю сатром людаедаў.
Пойдзем, як йшлі мы, у сонечнай долі
Ленінска-сталінскім следам.

Менск, 28.II 1938 г.

*Якуб Колас*

# АЧЫСЦІЦЬ РАДЗІМУ АД ГНОЙНАЙ ЗАРАЗЫ

Легенда народа стварыла Іуду,
Як вобраз агіднае твары,
Як гнусную постаць прадажнага бруду,
Як сімвал апошняй заразы.

Сягоння паблекла фігура Іуды
Прад бандай з трацкісцкага блока:
Такіх ліхадзеяў, такое паскуды
Яшчэ і не бачыла вока.

Іуда чысцейшы ад іх у стократы:
Павесіўся сам на асіне.
Вы-ж, смродныя трупы, а вы, зброд праклятыя,
Вы чым заплацілі айчыне?

Народ вас пытае, давайце адказы!
Яго-ж адказ толькі адзін:
Ачысціць радзіму ад гнойнай заразы
І ўбіць ёй асінавы клін.

6. III-38 г.

*„Гэтая штука мацнейшая чым „Фауст“ Гётэ (любоў перамагае смерць).*

**І. СТАЛІН**

*А. М. Горкі*

# ДЗЯЎЧЫНА І СМЕРЦЬ

*(Казка)*

I

Цераз вёску ехаў цар з вайны.
Едзе—чорнай злосцю сэрца точыць.
Чуе—за кустамі бузіны
Дзеўчына рагоча.

Грозна бровы рыжыя нахмурыў,—
Цар ударыў шпорамі каня.
Наляцеў на дзеўчыну як бура,
І крычыць, аж панцыры звіняць:

„Ты чаго,—крычыць у злосці грубай,—
Ты чаго тут выскаляеш зубы?
Вораг сёння мае перамогу,
Уся мая дружына перабіта,
У палоне палавіна світы,
Еду я дамоў узяць падмогу,
Я твой цар, я ў крыўдзе і нястачы,
Як мне смех твой неразумны бачыць?“

Кофтачку паправіўшы на грудзях,
Адказала дзеўчына цару:
— „Адыйдзіся,—з мілым гавару!
Бацюхна, ідзі, так лепей будзе“.

---

Калі любіш, тут не да цароў.
Няма часу гутарыць з царамі!
Бо любоў гарыць другой парой,
Шмат хутчэй за свечку ў божым храме.

Цар затрыпся ў лютасці звярынай,
Загадаў сваёй пакорнай світе:
— „Ну-тка, кіньце у турму дзяўчыну,

Альбо лепш,—адразу задушыце!“
Паслухмяныя скрывіўшы рожы,
Да дзяўчыны рынулі, як чэрці,
Конюхі царовы і вяльможы,—
Аддалі дзяўчыну ў рукі Смерці.

II

Смерць у дземанаў заўсёды у падданні,
Але ў той дзень не была ў настрої,—
У вясну жыцця зярняты і кахання
Ажываюць нат‘ у ёй, старое.
Нудна век мець справу з тухлым мясам,
Ды знішчаць хваробы у гнілізне,
Нудна мерай смертнай мерыць час ёй,
Хочацца пажыць пабескарысней.
Усё прад непазбежнай з ёй сустрэчай—
У недарэчным страху адчуванні.
Надакучыў жуд ёй чалавечы,
Ёй абрыдлі склепы, пахаванні.
Занятая справай непадзячнай,
На зямлі забруджанай і беднай,
Робіць яна справу гэтую удачна,
Людзі-ж яе лічаць непатрэбнай.
Пэўна, што для смерці крыўдна гэта.
Яна ў злосці на людское стада,
Часам праганяе прэч са свету,
І каго не трэба, без спагады.

Д‘ябла пакахаць, ці што ёй,
У ахвоту дыхаць пекла чадам,
Зарыдаць ад спалюбоўных боляў
Разам з агнякудрым Д‘яблам!

III

Вось дзяўчына перад Смерцю стала,
Смела ўдару грознага чакае.
Смерць мармыча,—знаць пашкадавала:
„Бачыш ты, якая маладая!
Што нагрубіяніла цару?
Я цябе за гэта замару!“

„Ты не злуй,—адказвае дзяўчына,—
На мяне злаваць няма табе прычыны
Цалаваў мяне упершыню мой мілы,
Пад кустом зялёнае бузіны.
Ці да цара мне у той час была?
Ну, а цар, на грэх, бяжыць з вайны.
Я тады, кажу яму, цару,
Ты ідзі моў, бацюхна, ідзі!

Добра так, як быццам, гавару,
А як выйшла дрэнна, паглядзі!
Што-ж? Няма куды ад Смерці дзецца,
Пэўна ўмерці мне, а не кахацца.
Смертухна! Прашу цябе ад сэрца,
Дай ты мне яшчэ нацалавацца!“
Дзіўна чуць размову гэту Смерці,
Не прасіў ніхто так, перад тым як гінуць.
Думае: „Як буду жыць на свеце,
Калі людзі цалавацца кінуць?“
Смерць пад ясным сонцам косці ўгрэўшы,
Кажа дзеўчыне, паклікаўшы змяю:

— Ну, ідзі, цалуйся, ды хутчэй-жа!
Ноч—твая, а раніцой—заб‘ю!
І на камень села, і чакае,
А змяя касу ёй джгалам ліжа.
Дзеўчына ад шчасця аж рыдае,
Смерць бурчыць: „Ідзі, хутчэй, ідзі-ж!“

## IV

Абагрэтая вясновым сонцам,
Смерць стаптаныя разула лапці,
Прылягла на камень, ды заснула.
І нядобры сон прысніўся Смерці!
Быццa бацька яе, стары Каін,
З праўнукам сваім іскарыотам,
На гару ідуць, струхнелыя, слабыя,
Нібы дзве змяі паўзуць пацiху.
—„Госпадзі!“ — панура стогне Каін,
Пазіраючы на неба ўзрокам цмяным,
—„Госпадзі!—ўсклікае злы Іуда,
Ад зямлі вачэй не узнімае.
Над гарой, у воблаку ружовым,
Там гасподзь, і ён чытае кнігу:
Зорамі напісаная кніга.
Млечны шлях—лісток яе адзіны.
На вяршаліне гары—Архангел,
Сноп маланак ён трымае ў ручцы.
Кажа да вандроўнікаў сурова:

—„Прэч ідзіце! Вас гасподзь не прыме!“
—„Міхаіле!—скардзіцца тут Каін,—
Ведаю, вялік мой грэх прад светам,
Бо жыцця забойцу нарадзіў я,
Бацька я праклятай, подлай Смерці!
—„Міхаіле!—пачынае Іуда,—
Ведаю, за Каіна больш грэшны,
А таму, што здрадзіў подлай Смерці
Светлае, як сонца, сэрца бога!

Ī абодвы ў голас усклікаюць:
„Міхаіле! Хай Гасподзь хоць слова
Скажа нам, хоць толькі пашкадуе—
Дараваў каб, мы ўжо не ўмаляем!“
Ціха ім адказвае Архангел:

„Тройчы я казаў Яму пра гэта,
Двойчы Ен нічога не сказаў мне,
А на трэці, толькі раз прамовіў:
„Ведай, покуль Смерць жывое губіць,
Няма Каіну з Іудай прабачэння.
Хай даруе той, хто сілу мае
Саўладаць навекі з сілай Смерці“.

Тут Братазабойца й Здраднік,
Горасна завылі, зарыдалі,
Абняліся і зваліліся абодвы,
У смуроднае балота пад гарою.
А ў балоце, радыя, шалеюць,
Ваўкалакі, ведзьмары і чэрці,
Ī плююць на Каіна з Іудай,
Сінімі, балотнымі агнямі.

V

Смерць прачнулася пад самы пад палудзень,
Глянула—дзяўчына не прыйшла!
Смерць бурчыць з прасоння: „Бач ты, блудзень!
Ноч, відаць, кароткая была!“
Узяла сланэчнік за плятнём,
Нюхае, любуецца, як сонца
Пазалочвае жывым сваім агнём,
Ліст асіны ў жоўтыя чырвонцы.
Раптам глянуўшы на сонца, заспявала
Як умела, ціха і гучнава:
„Вось няшчаднаю рукой
Людзі бліжняга заб‘юць,
Ī хаваюць. Ī пяюць:

„Со святыми упокой!“
Я не цямлю ад чаго:
Дэспат б‘е і прыганяе,
А як здохне—і яго
З гэтай песняй пахаваюць!
Чэсны, ці зладзей памёр,
З тэю самаю тугой,
Заспявае сумны хор:
„Со святыми упокой!“
Дурня, злыдня або хама,
Я заб‘ю сваёй рукой,
Заспяваюць ім ў храме:
„Со святыми упокой!“

VI

Песня скончана, для злосці ёсць прычына,
Часу прамінула ўжо багата,—
Не звяртаецца назад дзяўчына.
Гэта дрэнна. Смерці не да жартаў.
Злуючы, у лютасці жарлочнай,
Смерць абула ў лапці свае ногі,
Ледзьве дачакаўшы светлай ночы,
Грознай хмарай рушыла ў дарогу,
Праз гадзіну бачыць: на ўзлессі,
Пад расістай, маладой ляшчынай,
На траве, у праменнях ясных месяцу,
Дзяўчына сядзіць, вясны багіняй.
Як зямля ў вясновую пару,
Яна голая, на целе яе ланнім,
Палымнеюць пацалункаў зоры,
Яркі след гарачага кахання.
Два саскі,—дзве зоры на грудзях,
І—як зоры—пазіраюць вочы,
На далёкі ў небе млечны шлях,
На дарогу сінякудрай ночы.
Пад вачмі яе запалі цені,
Вусны—ранаю вільготнаю чырвоны,
Да яе схіліўшыся ў калені,
Дрэмле хлопец як алень стамлены.
Смерць глядзіць, і палыменне гневу
Загасае ў чэрапе пустым.
— „Ты чаго-ж тут, гэта, нібы Ева,
Крыешся ад бога у кусты?“
Быццам небам, прамяністым целам,
Засланіўшы любага свайго,
Ёй адказвае дзяўчына смела:
— „Не крычы, спалохаеш яго.
Не крычы, спакойна спіць мой мілы,
Востраю касою не бразжы!
Я прыду і лягу у магілу,
А яго—надоўга зберажы!
Вінавата, ў тэрмін не прышла я,
Думала—там Смерць ужо чакае,—
То яшчэ раз хлопца абдыму:
Вельмі-ж добра тут са мной яму!“
Ды ён і прыгожы, яснавокі!
Глянь, якія ён пакінуў знакі,
На грудзях маіх, на маіх шчоках,
Бач, квітнеюць вогненныя макі!“
Смерць, саромячыся, ціха засмяялася:
„Ты нібы-та з сонцам цалавалася.
Але-ж, у мяне ты не адзіна,—
Тысячы я забіваць павінна!

Шчыра часу я, аднак, служу,
Справы шмат, а я ўжо старая,
Кожнаю хвілінай даражу,
Ну, збірайся, дзеўчына, пара нам!“
Дзеўчына сваё:

„Абдыме мілы,
Неба і зямлі, як не было,
І ў душы наземнай поўна сілы,
Там гарыць няземнае святло.

Згінуў страх прад Лёсам беспарадны,
Бог і людзі непатрэбны болей,
Як дзіцё сабою радасць рада
І любоў любуецца сабою“.

Смерць маўчыць задумліва і строга,
Бачыць не суняць тэй песні слоў ёй!
Прыгажэй за сонца—няма бога,
За любоў, няма агню цудоўней!

## VII

Смерць маўчыць, а дзеўчыны тэй словы,
Зайздрасці агнём ёй косці плавяць,
Кідаюць яе і ў жар і ў холад.
Сэрца Смерць, свету што-ж надарыць?
Смерць—жанчына, хоць не маці, ёй
Сэрца—так-жа, розуму мацней;
У сэрцы Смерці, гнеўным і глухім,
Есць паросткі жалю і тугі,
Тым, каму яна любоў падорыць,
Хто паранены ў душу тугою,
Па начах пяшчотна так гаворыць,
Аб вялікай радасці спакою!
„Што-ж,—сказала Смерць,—хай будзе цуда!
Дазваляю я табе—жыві!
Толькі я з табою побач буду,
Вечна буду я каля Любві“.

З тэй пары Любоў і Смерць, як сёстры
Ходзяць неразлучныя да сёння,
За Любоўю Смерць з касою вострай
Валачэцца ўсюды, нібы зводня.
Паслухмяная сястра уладзе,
На вяселлях і на пахаваннях,
Скрозь няўтомна і няўхільна ладзіць
Шчасце жыць і радасці Кахання.

*Пераклаў Эд. САМУИЛЁНАК.*

*Сулейман Стальскі*

## ГОРКАМУ

Не, мне ніколі не забыць
Цябе,
Вялікі Горкі!
Ты зорка, што ў шляху мігціць
Мая,
Вялікі Горкі!

Твой розум—быццам нетры гор,
Глыбокі змест тваіх размоў,
Ты песень распазнаў узор
Маіх,
Вялікі Горкі!

Я словы піў тvae як мёд,
Адчуў я дум тваіх узлёт.
Ты—новы сонечны усход
Ва мне,
Вялікі Горкі!

Я ад трывогі сумаваў,
Што ты стаміўся хворым стаў,
Тады калі мяне прымаў,
У Маскве,
Вялікі Горкі.

Ты наш бядняцкі велікан!
Спазнаў жыцця ты акіян.
Стаў молад Стальскі Сулейман
З табой,
Вялікі Горкі!

*Пераклаў* МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ.

*Аляксей Талстой*

# ХЛЕБ

## (Абарона Царыцына)

Аповесць *)

### Раздзел сёмы

1

Вясновы вецер гнаў над стэпам клочча паравозных дымоў. Рэдкія воблакі плылі, як белыя дымы ў сіняве, цені ад іх ляцелі па металічна чорных палосах пахаці, па бур'янах кінутых палёў. Ляцелі трывожныя свісткі паравозаў. Паязды расцягнуліся ад краю да краю стэпу.

Шэсцьдзесят эшалонаў 5-й арміі Варашылава павольна паўзлі з Луганска ў Мілерава, каб адтуль павярнуць на поўнач з нямецкага абкружэння.

У класных—памятых, заржаўленых вагонах, у таварных—з паламанымі бакамі і дзвярмі, на платформах—везлі маемасць: горы артылерыйскіх знарадаў, гарматы з разарванымі ствaламі, ахапкі вінтовак, цынкавыя скрыні з патронамі, ліставое жалеза, стальныя балванкі, машыны і станкі, так-сяк прыкрытыя брэзентамі і рагожамі, скрынкі з кансервамі і цукрам, шпалы, рэйкі. На іншых платформах быў накідан хатні скарб—ложакі, вузлы, клеткі з птушкамі.

Бляялі авечкі, козы, пішчэлі парасяты, які-небудзь самаварны паднос або люстэрка, прыткнутае бокам, пускала сонечныя зайчыкі далёка ў стэп. На дахах вагонаў, у развалку, пакурвалі кулямётчыкі каля кулямётаў. На вагонных ступеньках сядзелі дзеці. З боку паяздоў цягнулася жывёла—каровы і коні.

Вераніцы эшалонаў, агалашаючы стэп паравознымі свісткамі, стукаючы счапленнем часта спыняліся. Табуны хлапчукоў—басанож па веснавой траве—імчаліся наперад...

Але вось, заглушаючы дзіцячыя вясёлыя крыкі, стукат жалеза, свісткі паравозаў, чулася знаёмае грознае гудзенне. З неба, бліскаючы, падаў срабрысты германскі самалёт.

Пачыналася страляніна з дахаў, пляцовак і платформаў... Скакалі верхавыя, адганяючы жывёлу далей ад палатна. Жанчыны

*) Канец. Пачатак гл. у № 2 „П. Р.“.

спалохана махалі рукамі з вокан, клічучы дзяцей. Самалёт, злосна равучы, ляцеў невысока, ад крыла яго адлучаўся чорны шарык... „Кладзіся! Кладзіся!“—крычалі адсюль тым, хто быў у полі. Бомба, дакрануўшыся да зямлі, ірвалася, падкідаючы ў іржавым дыме пыл, трэскі, і часцяком грукат разрыва заміраў у жаласным крыку дзіцяці, або карова нязграбна бегла ад статка, цягнучы за сабою сінія кішкі.

2

Здарылася тое, што гаварыў Варашылаў у салон-вагоне на станцыі Кабанье. Галоўштаб загадаў, што-б там ні было, зноў заняць Сватава. Выконваючы загад, Варашылаў выбіў немцаў з ветраных млыноў на ўзгорках каля сяла недалёка ад Сватава, збіў іх батарэю і, з той прычыны, што конніцы ў яго не было, байцы доўга гналіся, пешыя, за шпарка ўцякаючымі гарматамі. Начштаба Коля Руднёў паслаў данясенне Галоўштабу: „Усё пакуль у нашу карысць. Тэрмінова высылайце дзве сотні кавалерыі і дзве батарэі. Возьмем Сватава“.

Але становішча на яго левым флангу было ўжо катастрафічнае. Данецкая, 2-я і 3-я арміі прадаўжалі адступаць на ўсход. Не гледзячы на мужнасць асобных атрадаў, ні біцца колькі-небудзь паспяхова, ні трымаць фронт яны ўжо не маглі. Камандармы, атрымліваючы ад Галоўштаба загады—рухацца туды і туды,—адказвалі: „Добра, будзе зроблена“,—і рухаліся ў тым напрамку, куды імчаліся ў разбітых вагонах іх раскудлачаныя, шумныя атрады, прызнаючы адну—сваю ўласную стратэгію.

Камандармы, камандзіры, начальнікі штабаў, камісары трацілі галаву ў гэтай блытаніне зыбкага фронту на колах. Усякая сувязь была паарвана. Галоўштаб перабраўся на самы поўдзень Данбаса, у Ліскі—станцыю на магістралі Мілерава—Варонеж.

Туды камандарм 3-й арміі паслаў данясенне, што яго атрады больш не жадаюць пакідаць сваіх эшалонаў і 3-й арміі, як баявой адзінкі больш не існуе.

Данецкая і 2-я арміі блукалі недзе па-за магчымасцямі злавіць іх на канец тэлеграфнага проваду.

Рэшткі 1-й арміі, страціўшы ўсякую арыентыроўку, кінуліся на поўдзень, к Таганрогу, дзе цэлыя суткі білі і трапалі 20-ю Баварскую дывізію, і адступілі таму, што ўжо не ведалі, што ім далей рабіць.

Левы фланг 5-й арміі глыбока агаліўся. Варашылаў, не атрымліваючы ад Галоўштаба ні кавалерыі, ні артылерыі, пачаў адыходзіць да Луганску.

Пры пераправе праз Данец немцы дагналі яго, але сустрэлі сур‘ёзны адпор: гэта былі ўжо не эшалонныя атрады з скіфскай стратэгіяй—паляцець, ударыць і рассыпацца... Немцы не маглі зламаць супраціўлення перадавых ліній, Варашылаў у парадку пераправіў усе часці на левы бераг Данца і ззаду сябе ўзарваў мост.

У другі раз немцы дагналі яго пад самым Луганскам. Эвакуацыя горада яшчэ не скончылася, і трэба было затрымаць ворага не менш, чым на двое сутак. Немцы, абыйшоўшы фронт, з узгоркаў

адкрылі ўраганны агонь па праваму флангу. Ён захістаўся, байцы ў паніцы пачалі кідаць акопы. Тады Луганскі і Комуністычны атрады, якія былі ў цэнтры, падняліся і без стрэлу кінуліся на немцаў. Паражаемыя ў рукапашным баю штыкамі і гранатамі, немцы, кінуўшы батарэю, увесь абоз і самалёты, паспешна пачалі адступаць і, урэшце, уцяклі.

Прайшло восем дзён, як пачаліся ўсе гэтыя баі на ўсход ад Харкава. У мінуту найвышэйшага напружання галоўнакамандуючы чырвонымі украінскімі арміямі быў выклікан у Маскву для дачы тлумачэнняў. Галоўштаб канчаткова страціў арыентыроўку. Страціўшы надзею сабраць у адно цэлае ездзіўшы на колах фронт, ён склаў новы, вельмі невыразны план: прымусіць немцаў вельмі глыбока ўцягнуцца ў Данбас—з узарванымі станцыямі, віадукамі, і мастамі,—тым часам вывесці асноўныя сілы з-пад удара, згрупаваць іх у адзін кулак і пачаць контрнаступленне.

Месцам згрупавання такога кулака вызначылася станцыя Ліхая—на паўднёвы ўсход ад Луганска. Рэшткі Данецкай і 3-й армій туды накіроўваліся з поўдня, а 5-я армія Варашылава—праз Луганск, з поўначы.

Варашылаў разумеў, што згрупоўваць войскі на станцыі Ліхой небяспечна і выканаць гэтага нельга: Ліхая была адкрыта з усіх бакоў ударам немцаў. Таму ён не выканаў гэтага неажыццявімага распараджэння. Калі эвакуацыя Луганска скончылася і атрады, трымаўшыя фронт, былі адцягнуты, 5-я армія не павярнула на паўднёвы ўсход да Ліхой, а разам з шасцідзесяццю эшалонамі, з фарміруемымі атрадамі рабочай, шахцерскай і сялянскай моладзі рушыла на поўнач, на Мілерава.

## 3

У адным з паяздоў на паравозе вісеў чорны сцяг з чэрапам і касцямі. На трох першых—пульманаўскіх—вагонах, бліндзіраваных знутры да паловы акон мяшкамі з пяском, было сурыкам напісана: „Смерць сусветнай буржуазіі“. У вагонах размяшчаўся анархісцкі атрад „Бура“. Сюды яго занесла вірам грамадзянскай вайны. У ім усё было пакрыта таямніцай.

Анархісты нават блізка не дазвалялі падыходзіць да вагонаў. Выскакваючы за патрэбай на палатно, апранутыя—хто ў гусарскую куртку, хто ў плюшавы з разводамі фрэнч, хто ў енотавую шубу з адрэзанымі крысамі і ў матроскай шапачцы на віхрастай галаве,—анархісты грымелі падвешанымі да пояса гранатамі, хрыпелі на тых, хто вылупліваў вочы на такіх нябачаных людзей:

— Праходзь, чаго разглядаць, праходзь шпарка...

Начальніка ў іх прынцыпова не было: усякую спробу камандаваць яны лічылі замахам на свабоду асобы, усякую дысцыпліну—гвалтам. Усе пытанні вырашалі большасцю галасоў, агульны сход у іх называўся „канфедэрацыя“.

Часамі з вагона — асцярожна, задам з пляцоўкі —спускаўся шчуплы дзядок з нячэсаныміваласамі, у даўгім, замежным паліто, у чорным мяккім, вельмі забруджаным пылам, капялюшы. Выставіўшы

кадык, забраўшы шэрую бародку, дзядок глядзеў на неба праз крыва сідзячыя на плоскім носе пенснэ. Як відаць яго цікавілі нямецкія аэрапланы. Заклаўшы за спіну рукі, шчоўкаючы жылаватымі пальцамі, ён хадзіў узад і ўперад, паглядаючы па баках, прыемна ўсміхаўся чырвонымі, свежымі губамі.

Гэта быў ідэолаг атрада, анархіст Якаў Злы, прыехаўшы ў семнаццатым годзе з Амерыкі. Атрад адбіў яго ў паўднёвым стэпу ў партызанскага атамана Лыхо, які ўсюды вазіў за сабой у тачанцы адважнага дзядка, здзіўляючыся тым, што „дзід“ можа бойка ляпаць на розных замежных мовах.

Калі сцямнела і ў бязмежнай лілёвасіняй вышыні высыпаўшыя зоры зацягнула воблачкамі,—на захадзе, у баку Луганска, заціхлі нямецкія гарматы, грукацеўшыя ўвесь дзень. Разгаралася далёкае зарава. З-за краю стэпу выплываў прамень пражэктара. У эшалонах там-сям пачуліся песні.

У адным з пульманаўскіх вагонаў, дзе ўся ўнутранасць — перагародкі і купэ—была выдзерта і ва ўсю даўжыню стаяў вузкі з нястругавых дошак стол, сядзелі анархісты, утаропіўшыся на мільгаючыя агеньчыкі свечных агаркаў. Адбывалася „канфедэрацыя“. Пасля гарачых спрэчак, калі выхапліваліся кольты і нагавы, было вырашана: з прычыны важнасці пытання ўстрымацца да канца паседжання ад гарачыцельных напіткаў. Дакладчыкам выступаў Якаў Злы.

Пад грукат колаў, зацягнуты пластом махорачнага дыму, ён гаварыў:

— Анархія! Няма саладзей слова. Няма чысцей ідэі. Анархія, або вышэйшая свабода,—канчатковая мара чалавецтва...

Якаў Злы выгаварваў словы сакавіта і смачна, усмяхаючыся свежымі губамі, хітра—праз крыва сідзячыя пенснэ — паглядаючы на слухачоў.

—... Анархія—барацьба з усякай уладай у імя безуладдзя. Мне пяцьдзесят два гады. Я сядзеў у турмах усіх краін свету...

Агеньчыкі на доўгім стале захісталіся ад прыязнага смеху слухачоў.

—... Урэшце—я на волі... Я дыхаю паветрам дзікай свабоды... Наша задача—замацаваць гэту вышэйшую заваёву... Наша задача— безуладнае грамадства... Што гэта значыць? Вы мяне разумееце?

— Валяй, валяй!..—падганялі яго анархісты.

—... Мы супроць усякай формы ўлады—манархічнай, буржуазна-рэспубліканскай і нават комуністычнай... Усякая ўлада, якую-б мэту яна ні ставіла перад сабою,—гвалт, турма для вольнага духу... Можа не так?

— Так, так... Правільна... Крый далей!—адказвалі моцныя галасы... За сталом, асвечаным агаркамі, сядзела рознашэрстнае грамадства: тут былі чорнаморскія маракі, якім стала цесна ў жыцці, украінскія вясковыя хлапцы, з тых, каму не варта было вяртацца дахаты за розныя справы, і даўгаваласыя маладыя людзі, якія называлі сябе настаўнікамі, студэнтамі, а то і акцызнымі чыноўнікамі,—не мала было і такіх—па гутарцы з Одэсы і Херсона,—хто невыразна называў сваю прафесію і сваё мінулае...

—... Мы павінны запаліць полымя трэцяй рэволюцыі,—растапырыўшы перад свечкай брудныя тонкія пальцы, гаварыў Якаў Злы,—вялікай трэцяй рэволюцыі безуладдзя... Чорны сцяг анархіі мы ўздымем над руінамі дзяржаў, бо кожная дзяржава ёсць прыгнёт... І няхай вас не палохае: першы ўдар мы павінны нанесці дыктатуры пролетарыята,..

— Правільна! Крый, Якаў!—ухвальна загулі галасы. Адзін, вясковы, Мікола Магіла, сказаў выразна:

— Не для таго праліваці кроў, каб камісары глядзелі нам у душу, які такі інспектары па засеках лазілі...

—... Мы лічымся ў складзе 5-й арміі... Але з 5-й арміяй нам не па дарозе... Наша дарога—да вялікага вопыта бязуладдзя. Наша бліжэйшая задача—адваяваць тэрыторыю з густым і багатым сялянскім насельніцтвам і там паставіць наш вопыт безуладнага грамадства, знішчыць усякую залежнасць сяляніна ад прамысловага горада... Хай сабе хаты асвятляюцца лучынай. Агонь лучыны нам даражэй за электрычную лямпачку... Мы супроць электрычнай лямпачкі! Па электрычных правадах горад нясе дыктатуру. Няхай лучына! Але яна асвятляе сялянскую волю. З чорным сцягам кінемся ў пушчу вёскі, абудзім у душах прагу да анархіі, нашымі шаблямі паперасякаем электрычныя правады...

— А няхай іхныя гарады падохнуць,—сказаў Мікола Магіла...

І другі—павольна і ляніва:

— Страсануць гарады, так штоб пух і пер'е паляцела,—то дзіло!

На гэта—адзін з маракоў:

— Дзеравеншчына! Боршч ды сала—да скону часу! А кінематограф ты бачыш у сваім уяўленні? Кандзіцерскую? Ці кафейную ўстанову? Гэта ўсё на вёсцы хіба ў вас? Барсукі!

— Прапаную,—гаркнуў другі,—пытанне аб існаванні гарадоў вылучыць асобным дакладам...

Якаў Злы пад стук колаў мог бы гаварыць доўга, заміласаны прыгожымі словамі. Але слухачам крыху надакучылі адцягненыя разважанні. Людзі былі поўнакроўныя, рэальныя. Акрамя таго, усіх турбавала тое, што былі звязаны па руках і нагах: прыходзілася рушыць не туды, куды хацелася, а куды накіроўваліся эшалоны. Кінуць вагоны, пайсці пехатою—таксама нельга было,—у бліндзіраваных вагонах атрад „Бура“ вёз здабытую крываваю працай маёмасць: пудоў дванаццаць розных залатых цэпак, гадзіннікаў, партсігараў і залатой манеты, дарагія футры і дамскія манто, цукар, кофе і некалькі бочак каньяку.

Пачаліся спрэчкі па дакладу. Гарачую моладзь, якая кінецца ў спрэчкі аб бягучых праблемах анархізма, хутка адпіхнулі больш сталыя. Аднаму, сухотнаму, з вялікімі вачыма гімназісту, які дамагаўся адказу: „Дазвольце, таварышы,—як-жа так? Анархізм адкідае прыгнёт, а дакладчык прапануе пачаць з заваёвы тэрыторыі, гэта значыць—з прыгнёту. Як-жа так?“—гэтаму смаркачу прыгразілі—выкінуць яго нахаду праз акно.

Спрэчкі звяліся да таго: куды ехаць з Мілерава? Ці прабівацца, не даючы сябе абяззброіць, у Велікаросію, ці павярнуць на поўдзень,—прабівацца са зброяй да Растова, на Каўказ?

Шумелі багата. Махалі кулакамі так, што агаркі падскоквалі на дашчаным стале. Высветлілася раптам, што, не гледзячы на забарону, палова „канфедэрацыі“ п'яная ўдрызг. Так ні да чаго разумнага ў гэтую ноч не дагаварыліся.

4

Вакзал у Мілераве, пероны, калеі, пустыры, брукаваная плошча—усё было запруджана людзьмі, падводамі, жывёлай, коннымі запрэжкамі гармат, ваеннымі двуколкамі. Дымілі кастры, акружаныя барадатымі франтавікамі ў кіслых шынелях, мітынгавалі кучкі партызанаў, плакалі дзеці. На падводах—сярод хатніх манаткаў, дзяцей, спалоханых жанчын—сядзелі сяляне, тужліва пазіраючы на ўвесь гэты шматтысячны табар.

З боку Луганска, са свістам і дымам, падыходзілі эшалоны. Але дарогі далей на поўнач ім не было. Цягнікі, што паспелі праскачыць на поўнач—у бок Лісак, стаялі: за гарызонтам чулася аддаленная артылерыйская страляніна.

На вакзале, у буфеце—у кутку за сталом, заваленым бекешамі, зброяй, паперамі,—засядаў урад Данецка-Крываражскай рэспублікі. Совет народных камісараў збіраўся апошні раз. Весткі, толькі вось атрыманыя, былі жахлівыя: немцы, шырачы наступленне, зашлі па грунту на поўнач ад Мілерава, вёрст за сорак, занялі станцыю Чэрткова, перарэзаўшы дарогу на Лісکі. На руках урада заставалася разнашэрстная армія, велізарная ваенная і грамадзянская маемасць і тысяч дваццаць бежанцаў...

Старшыня Соўнаркома рэспублікі—Арцём—з брытым круглым чэрапам, шырокі, круглатвары,—павольна жуючы хлеб, пазіраў ястрабавымі вачыма на тарпкія губы Межына. Коля Руднёў, апусціўшы павекі, прыадкрыўшы рот, з намаганнем услухваўся,—юнацкі твар яго быў пакрыты попелам стомленасці. Дзябёлы, брыты, спакойны Бахвалаў, грэбліва выпнуўшы ніжнюю губу, гартаў дакументы. Другія, страшэнна стомленыя, абпаленыя сонцам, сядзелі—хто затуліўшы рукой вочы, хто схіліўшы галаву на кулак. Пархоменка пісаў запіску,—захапіўшы жменяй вусы,—шчаўчком перакінуў яе Колю Рудневу. Той прачытаў: „Трымай курс на Кліма...“—і загарэўся белазубай усмешкай.

— Дарога на поўнач адрэзана, рызыкаваць—прабівацца ў Лісکі—вар'яцтва,—усхвалявана гаварыў Межын, выцягваючы бараду ў бок Варашылава.—Дарога на поўдзень цераз Ліхую таксама ўжо, відаць, перарэзана. Застаецца адна дарога—на ўсход цераз Ліхую на Царыцын. Але ці можам мы ручацца, што немцы прапусцяць нас цераз Ліхую, не наладзяць нам крывавай лазні? Не, ручацца нельга. І нават калі мы паспеем правесці ўсе эшалоны цераз Ліхую, нам прыдзецца дзвесце вёрст прабівацца на Царыцын цераз паўстаўшае казацтва. Ці можам мы пятнаццаць тысяч жанчын, дзяцей, рабочых кідаць на волю выпадковасцей вайны? Не, не можам... Вывад...

— Ага! Вывад?—усхапіўшыся, прамовіў Коля Руднёў.

— Вывад: мы ў мяшку... Мы перагружаны небоездольнымі элементамі... Баявыя часці яшчэ вельмі недысцыплінаваныя... У такім становішчы мы не здолеем прарвацца ні на поўдзень, ні на поўнач, ні на Царыцын... Трэба памятаць: па Брэсцкаму дагавору—немцы не павінны займаць Данецкай акругі. Калі мы застанемся тут і не будзем іх чапаць, дык і немцам няма падстаў чапаць нас... За тры-чатыры тыдні мы ўпарадкуем армію, падцягнем сілы, дысцыплінуем і тады здолеем перайсці ў наступленне—улегцы, без кашмарнага дадатку ў шэсцьдзесят эшалонаў... Я прапаную застацца ў Мілераве...

Ён павярнуўся да Арцёма,—і той важка кіўнуў галавой. Хмурны Бахвалаў, не гледзячы, адказаў: „Так, другога выйсця няма". Пархоменка насупіўся, грыз вусы. Коля Руднёў павёў плячыма, нібы ў яго засвярбела пад кашуляй.

Варашылаў—падцягнуты, свежы, румяны,—пасмейваючыся карымі вачыма, як заўсёды, здавалася, прагна ўбіраў у сябе словы і ўражанні.

— Можна мне?—Ён працягнуў руку да Арцёма, і той зноў важка кіўнуў.—Я згодзен з таварышам Межыным: армію распускаць нельга... Атрады трэба з'яднаць і дысцыплінаваць.—Ён устаў, кароткімі рухамі паправіў наплечныя рамяні.—Але я не згодзен, што гэта трэба рабіць у Мілераве. Немцы разбойнічаюць на Украіне і будуць разбойнічаць на Доне. Нас яны тут не пакінуць у спакоі...

Рука яго павісла ў паветры. За вялікімі вакзальнымі вокнамі ірвануў выбух, пасыпаліся пабітыя шыбы. Затупалі ногі бягучых... Закрычалі: „Двох... Санітары... Глядзі, глядзі,—яшчэ ляціць... Лезь пад вагоны..." І зноў грымнула бомба з самалёта. Слуп вапны, дыму, асколкаў наўскасяк уляцеў праз вакно, абсыпаючы сядзеўшых за сталом. Арцём усміхнуўся, далоней змахнуў з голага чэрапа. Бахвалаў злосна выпнуў губу, пазіраючы на вакно. Пархоменка прабасіў:

— А ў дах трапіла-б—дык і—ушчэнт...

Варашылаў пацягнуўся да фуражкі, што ляжала на паперах, глыбока насунуў яе на галаву.

— Бачылі, як яны нас пакінуць у спакоі? Таварышы, наша свяшчэнная задача—захаваць армію, захаваць усю маемасць, захаваць бежанцаў, што даверыліся нам... Дарога адна—у Царыцын... Будзем прабівацца месяц, тры месяцы. У дарозе сфармуемся, у баях умацуемся... У Царыцын мы павінны прыйсці з баявой арміяй... І няхай сабе Троцкі намагаецца раззброіць нас...

— Раззброіць?—перапытаў Арцём, барвавеючы.

— Так... Троцкі загадаў Галоўштабу раззброіць усе украінскія арміі і атрады, якія пераходзяць граніцу Велікаросіі. Нібыта, каб выканаць дагавор з немцамі. Не веру! Троцкі лічыць нас партызанскімі бандамі... Патрабаванне Троцкага лічу глыбока памылковым...

— Здрадніцтвам,—прабасіў Пархоменка.

— Рэвалюцыя—адна! (Твар у Варашылава загарэўся). У нас

адзін вораг, адзін фронт і адна стратэгія—на Доне, на Украіне, у Велікаросіі!.. Біцца цяпер тут, у Мілераве, з немцамі—задача мясцовая і прыватная. Задача агульнарэволюцыйнага парадку высоўваецца ў Царыцыне... Калі белае казацтва авалодае Царыцыным—Волга апыніцца ў контррэволюцыі, уся поўнач застанецца без хлеба... Вывад зразумелы... Стаўлю на галасаванне прапанову: зараз-жа усім эшалонам даць напрамак на Царыцын і ні пры якіх акалічнасцях нашай арміі не распускаць і не раззбройваць...

5

Гэты раз спыніліся, відаць, надоўга. Іван Гара высунуўся ў вакно. Усход яшчэ не зялянеў, ноч была цёмная.

— А ну, давай кацялок,—сказаў Іван Гара ў змрок вагона. Асцярожна пераступаючы цераз спаўшых, выбраўся на пляцоўку, саскочыў на палатно. За ім вылезла некалькі чалавек, такіх жа галодных: забыліся, калі і елі,—харчамі была—адна сырая бульба.

Са ўчарашняга вечара эшалон поўз амаль што без прыпынку—з Мілерава ў Ліхую. Некалькі разоў спрабавалі вылазіць—варыць гэтую бульбу, але толькі раскладуць агонь—пачынаюцца кароткія свісткі паравоза, крыкі: „Сядай, хлопцы!..“

Цяпер спыніліся недзе ў стэпе, паблізу Данца, недалёка, мабыць, ад станіцы Каменскай. Наперадзе нешта заштопарылася. Іван Гара сышоў з насыпу, і тыя, што вылезлі за ім,—шахцёры—пачалі ламаць дранкавыя шчыты, што ляжалі штабелямі ля палатна. Агонь разгарэўся, асвятляючы знізу чорныя колы вагонаў. Шахцёры моўчкі глядзелі, як Іван Гара на раменьчыку падвешвае германскі стальны шлем, поўны бульбы.

— Полымя вялікае, перагарыць рамень,—сказаў адзін малады вышэйшы ростам, чым Іван Гара. На ім не было ні шапкі, ні ботаў—усё снаражэнне: рваныя штаны і кашуля, падпяразаныя патранташам.—А шапка гэтая зручная—сказаў ён, кіўнуўшы на германскі шлем.—Трэба-б прыдбаць такую шапку...

Другі, з голымі грудзямі, з магутнай шыяй, з добрадушным смелым тварам, ледзь пачаўшым абрастаць кучаравай бародкай, прысеўшы на карачкі, сказаў:

— Дзірачкі ў ёй прасвідраваць з краю—і дужку жалезную,—тады будзе зручна.

—Дзірачкі, дзірачкі... То-ж—баявы шлем, дурніца,—хрыпата прамовіў трэці, каржакаваты, з чорнымі валасамі, што падалі на хмурныя вочы. Гэты адзеты быў добра—у зялёна-шэрыя суконныя штаны і ў такую-ж суконную куртку, якая лопнула пад пахамі. Адзежу ён зняў з немца ў бою каля Луганска. Не было ў яго толькі ботаў,—боты былі цесныя...

Іван Гара, прыладжваючы збоку агня на вугаллях шлем з бульбай, прыглядаўся да гэтых людзей.

Учора, калі нечакана ў Мілерава пачалі прыбываць эшалоны, Іван эвакуіраваўся разам з лазарэтамі на вакзал (Раны яго амаль што зусім загаіліся, а ў гарачцы гэтага дня ён і забыўся на іх). На вакзале стыкнуўся з партыйцам Еўдакімам Балабіным, пуцілаў-

цам. Доўга гаварыць не было часу: „Хадзем у Асобы аддзел, зараз цябе аформім... „Праціснуліся да вагона, там таксама доўга не пыталіся,—ведалі, што за чалавек Іван Гара.

— На нагах стаяць можаш?

— Канешне, магу, што за пытанне...

— Зараз ударная задача—узняць боездольнасць арміі. Цябе кінем у шахцёрскі атрад...

Іван Гара кіўнуў галавой, узяў з кучы—на падлозе вагона—вінтоўку, пайшоў шукаць трэці шахцерскі атрад, з тых, што далучыліся да арміі на станцыі Варварapолле. Убачыў хмурных, здаровых, мурзатых, як д'яблы, хлопцаў. Кінуўшы шахты і паселкі, шахцеры ішлі ад немцаў з жонкамі і дзецьмі. Сякая-такая хатняя маёмасць іхняя змяшчалася на дахах вагонаў.

Іван Гара пагаварыў з тымі, што стаялі на калеях, даў скруціць махорачкі і, не выяўляючы сябе, проста,—папрасіўся ў іхны атрад байцом.

— Добра,—яму адказалі,—ідзі, будзеш з намі...

Вада пачала кіпець. Усе прыселі на карачкі, слухаючы як заявала тонкімі галаскамі над бульбай. Удоўж насыпу загарэлася яшчэ некалькі кастроў.

— Гэта не работа, хлопцы,—сказаў Іван Гара,—у полі бульбу варыць... Так мы немцаў не паб'ем...

Трое сядзеўшых ля агню паглядзелі на яго, сталі чакаць—што ён скажа далей.

— У атрадзе трэба арганізаваць правільную гаспадарку. Мне скажуць: „ідзі ў разведку“. Куды я пайду, галодны? Правільна? Правільна. Давайце, хлопцы пагаворым: што ў каго ёсць. Бульбу, сала, хлеб возьмем на вучот.Складзем ведамасць,—колькі прадуктаў нам трэба, пашлем яе ў штаб арміі. Выберам загадчыка гаспадаркай. І справа ў нас пойдзе...

Чалавек у нямецкім мундзіры, хмурна гледзячы з-пад ускудлачаных валасоў на Івана Гару, спытаўся:

— Ты хто-ж такі будзеш?

— Я—здалёк,—адказаў Іван Гара,—піцерскі металіст.

— Значыць, комуніст...

Іван Гара насцярожана паглядзеў скосу. Усе трое глядзелі на яго адкрыта, проста, спагадна.

— А вас у атрадзе,—спытаў ён,—багата комуністаў?

— А мы ўсе за совецкую ўладу,—прастадушна адказаў высокі хлопец у падранай кашулі. Другі, прыгожы, з бародкай, пацвердзіў: „Ага“. Хмурны кіўнуў валасамі.

— Партыйных у нас мала. Граматных мала. Мы ўсе большэвікі. Чулі, чулі пра вас, піцерскіх металістаў. А вы чулі пра нас,—не ведаю...

— Мы—падземныя,—засмяяўся, закідваючы галаву, хлопец у падранай кашулі.—Краты...

— Сонейка раз на тыдзень бачым,—сказаў другі, з бародкай.

Хмурны, з прыкрасці, што яго перапыняюць, цяжка паглядзеў на хлопцаў.

— Гэтыя вось—Федзька і Валодзька—з трынаццаці гадоў у шах-

тах. Мы тут усе—патомственыя.—Ён кіўнуў галавой, усміхнуўся, і ўсмешка ў яго была такая-ж хмурная, як бляск чорных вачэй.—Мы адразу ўбачылі, што ты комуніст... Свае, брат, свае не бойся.

— Асцярожнасць у нашай справе не шкодзіць,—весела адказаў Іван Гара.—Мы з атрадам паехалі ў адно сяло, там усе за совецкую ўладу, але без комуністаў. На раніцу я адзін жывы і астаўся.

Тады абодвы хлопцы зусім ўжо гучна засмяяліся, паказваючы белыя зубы. Хмурны сказаў:

— На вёсцы гэта можа быць, а на шахтах не можа быць, каб советы—без комуністаў... Я вось—Емельян Жук... Кім я быў да совецкай улады? Я табе зараз скажу... Спаў на нарах, у брудзе, у вашывых трантах. Прапіваў з сябе ўсё, жонку біў... Божа мой, прыйду п'яны і біць-жа мне нікога больш не дазволена. Крыўды мяне багата, як сябе памятаю,—усе крыўды памятаю, у мяне ў галаве кроў запяклася, ад крыўды галава баліць... Вось—я і звер... Галоўны інжынер не ўцёк-бы тады, уначы, немец, сукін сын...—Ён шалёна зірнуў на хлопца ў падранай кашулі.—Валодзька, памятаеш першы мітынг за совецкую ўладу? Я тады хацеў немцу горла выесці...

Тады перш-на-перш узялі мы на заводскім двары дошак—паўтарадзюймоўкі,—з баракаў увесь бруд—нары выкінулі, перагарадзілі,—кожнаму асобнае памяшканне, дверцы і замочак... Я прачынаюся раніцай, памятаю, што я—гаспадар, іду міма бункераў, коксавай печы—я гаспадар, спускаюся ў ствол, іду да свайго забоя,—я гаспадар... Цяпер мне няма чаго з жонкай біцца. Цяпер у яе—самавар, ёй сорамна хадзіць у трантах, яна ходзіць ахайная, таму што я—член заводскага камітэта, мае дзеці ў школу ходзяць... Ты, браток, падумай над гэтым і напішы ў Петраград: каб не сумняваліся,—данецкія шахцёры пайшлі ваяваць за совецкую ўладу. Ваяваць будзем зацята...

Пачуўся конскі тупат. Усе чацвёра павярнуліся ў змрок. На святло кастра наскаквала пяць коннікаў. Адразу суняліся,—з фыркаючых конскіх мордаў паляцела пена ў агонь. Першым саскочыў дужы чалавек, у добрай гімнасцёрцы, і зараз-жа прысеў на калені ля агню, дастаў з палявой сумкі карту—нахіліўся, разглядаючы.

За ім з мокрага каня злез магутны чалавек з доўгімі вусамі,—і—трэці—хударлявы юнак у шэрай куртцы. Абодвы яны хутка прыселі з боку першага чалавека над картай. Ён сказаў:

— Розуму ў вас багата ў абодвух: пакідаць на сваім флангу за дзесяць вёрст узброеную станіцу. А калі заўтра-ж яны ўзарвуць мост ля Каменскай?*) Дваццаць эшалонаў у нас адрэзаны?

Хударлявы юнак—яму з упартасцю:

— Пачакай, Клім... Яшчэ горш—завядземся біцца з гундораўцамі, страцім чорт ведае колькі часу. У нас уся задача—як мага хутчэй праскочыць цераз Ліхую...

*) Станіца Каменская прыблізна на палове дарогі між Міleравым і Ліхой. Станіца Гундораўская—дзесяць вёрст на захад ад Каменскай—на левым беразе Данца.

— Значыць, ты вядзеш ар'ергардныя баі, маючы на плячах неразбітага праціўніка? Так трэба зразумець тваю тактыку?

Тады магутны чалавек, зацямняючы сваімі вусамі палявую карту, прабасіў:

— Коля, ён у правах...

— Канешне, у правах,—горача сказаў Варашылаў.—Усё адно два-тры дні нам прыдзецца стрымліваць ворага ля Каменскай. На золаку мы кінем атрады Лукаша і Луганскі з батарэяй Куліка на Гундораўскую... Яны пойдуць левым берагам Данца...—Ён локцем адхіліў ад карты галаву Пархоменкі.—Александр Якаўлевіч, прыбяры-ж вусы, нічога не відаць... Гундораўскую заняць і трымаць... Левы фланг у нас будзе надзейны. Фронт мы разгортваем з абодвух бакоў палатна перад Каменскай.

Іван Гара, каб відней ім было глядзець на карту, падкінуў у касцёр яшчэ парачку шчытоў. Ад моцнай гарачыні Варашылаў адхіснуўся назад.

— Ну ты, будзе ўжо,—сказаў, гледзячы на Івана Гару, і—раптам:—А! Гэта вось хто... Здарова.

— Здарова, Клімент Ефрэмавіч,—адказаў Іван Гара.

— Гэта ты ў Смольным тады стаяў у ахове?

— Я, Клімент Ефрэмавіч.

— Ты ў іх у атрадзе?

— Са ўчарашняга дня.

— Правільна. Папрацуй з імі. Шахцёры—народ жалезны, але з дысцыплінай у іх слабавата.—Рухам павекаў ён паклікаў бліжэй Івана Гару.

— З Пятровым—камандзірам атрада—гаварыў?

— Клімент Ефрэмавіч, камандзір у мяне на падазрэнні.

— Ваш Пятроў зусім дарэмна ўгробіў атрад два разы на Данцу і ля Луганска... Заўтра я ў вас прамітынгую. Дадзім надзейнага чалавека. Ты падрыхтуй хлопцаў...

— Ёсць.

— У разведку ідзеш?

— Ёсць, таварыш камандарм.

— Адбяры чалавек дзесяць. Заданне такое: глядзі... (Іван Гара прысеў, Варашылаў агрызкам алоўка паставіў кропку на карце). Ваш эшалон знаходзіцца тут... Каменская—тры кілометры на поўдзень,—тут. Ты пойдзеш левым берагам Данца проста на станіцу Гундораўскую. Абставіны такія: гундораўскія казакі выразалі рэўком і совет. Тры дні назад на іх наляцеў Яхім Шчадэнка з атрадам, патрапаў і пайшоў. Сёння атрымліваем весткі, што гундораўцы маюць намер ударыць на Каменскую, узарваць мост і адрэзаць вашы эшалоны. Гэта значыць: яны маюць сувязь з немцамі, атрымалі зброю. Немцы блізка. Дзе немцы? Вось твая задача: намацаць германскія сілы. Пажадана да паўдня мець ад цябе весткі...

— Ёсць, таварыш камандарм...

— Справа адказная і небяспечная...

— Ёсць.

Іван Гара адвёў ад кастра хмурнага шахцёра і абодвух хлоп-

цаў, пашаптаў ім, ківаючы на камандарма, і яны ўчацвярох палезлі на палатно да вагона. Калі ён азірнуўся, ля кастра двое ўжо сядалі на коней. Варашылаў, прысеўшы над кастром, смяючыся, даставаў са шлему бульбіну. Абпякаючыся, пакідаў яе на далоні, разламаў, палавінку з'еў, палавінку кінуў назад. Узяўшы ў веставога повад, лёгка і мякка перакінуўся ў сядло, адразу піхнуў наўскач гнедага жарабца.

Пархоменка ўзлез цяжка на каня. Руднёў заскакаў на адной назе за пайшоўшым конікам і, ускочыўшы, доўга лавіў стрэмя. Коннікі паімчалі ў ноч.

Іван Гара сказаў Валодзьку:

— Бульбу вазьмі, раздай па кішэнях.

## Раздзел восьмы

Пархоменка перакінуў бекешу цераз шыю рыжага коніка, папаху ссунуў на патыліцу, седзячы ў сядле бокам,—вынуў нагу са стрэмя. Сонца ўзыходзіла над руда-зялёным стэпам—пякло яго бронзавы дабрадушны твар.

З абодвух бакоў палатна, капашыліся людзі,—з крыкам, гамонкай, смехам капаючы і адкідаючы зямлю. Лінія акопаў на захадзе ўпіралася ў пышныя зараслі левага берага Дзнца. Ззаду, вярсты за тры, разлеглася вялікая станіца Каменская. Туды—праз мост—паўзлі эшалоны.

Шмат розных людзей перапраўлялася з-за ракі на лодках—дабраахвотна капаць умацаванні. У станіцы пачыналася паніка. Каменская даўно была вядомай як чырвоная станіца. Яшчэ зімой станічны совет арыштаваў больш як паўсотні мясцовых і прыезджых генералаў і казачых афіцэраў і накіраваў іх у цэнтр, у Луганск.

Час быў такі цяжкі, што начальніку Чырвонай гвардыі, Пархоменку прышлося іх расстраляць. Казацтва бліжэйшых хутароў і станіц, і асабліва—самай контррэволюцыйнай—Гундораўскай, паабяцала за гэтыя арышты расправіцца з каменцамі. Затаіўшы здавён злосць, чакала толькі выпадку. З падыходам немцаў выпадак знайшоўся. У Каменскай чакалі налёту кожнай начы.

Да Пархоменкі падышоў натоўп дабраахвотнікаў,—былі тут і рамеснікі, і хутарскія мужыкі, і мяшчане, што жылі на ўскраінах станіцы, і хлопчыкі з рэальнага вучылішча. Некаторыя яго пазналі, працягвалі рукі. Ён вітаўся зверху...

— Александр Якаўлевіч, сіла вашая—надоўга да нас?

— Засталіся-б у нас, мы-б тут фронт стварылі, усе-б узяліся за вінтоўкі, да праўды...

— Быў тут Яхім, дапамог нам. Але што-ж,—Гундораўскую запаліў, а казакі ўсе ў стэп паўцякалі. Цяпер яны ўдвая зласнейшыя...

Пархоменка, пакручваючы вус, гаварыў зверху:

— Хто з рыдлёўкамі—калі ласка... Астатнім прыдзецца назад,

таварышы... Шанцавага інструменту вольнага няма... Каціцеся, таварышы, з ваеннай зоны.

Тыя, што былі з рыдлёўкамі, пайшлі капаць. Астатнія неахвотна падаліся да ракі. Засталася стаяць адна рослая, прыгожая, нахмураная дзяўчына.

— А ты што згубіла?—сказаў ёй Пархоменка, наязджаючы так, што конь зачапіў губамі дзяўчыну. Але яна і не зварухнулася.— Я-ж табе не знайду—што згубіла...

— Ну, не акопы капаць—дайце вінтоўку,—хрыплавата маладым голасам хмурна сказала дзяўчына і ўзняла на яго прыгожыя сярдзітыя вочы пад цёмнымі брывямі...

— Ваяваць хочаш?—спытаў Пархоменка, весела моршчачы нос.

— Прыходзіцца...

— Чаму?

— Выйсця няма,—злосна сказала яна і зноў пачала глядзець на выстаўленую наперад босую нагу...

— Ты хто-ж такая?

— Агрыпіна Чабрэц. Я казака забіла на Ніжнім Чыру. Яхім мяне ўзяў у эшалон... Не для таго я забіла, каб мяне кожны чорт хапаў... Ну, у Каменскай я вылезла... Дасі вінтоўку ці не? Не жартуючы кажу!—Яна зноў падняла вочы, і Пархоменка ўбачыў: вось-вось яны замуцяцца слязамі.

Александр Якаўлевіч насупіўся, выцягнуў з палявой сумкі кавалак паперы, напісаў некалькі слоў.

— Ідзі,—бачыш—дзе разгружаюць вагон. Спытай камандзіра Лукаша, перадай запіску. Пачакай—у спадніцы, ці што, ваяваць будзеш?

— А ну цябе!—Агрыпіна схапіла запіску, імклівай хадою пайшла па полю. І, калі яна была ўжо далёка, Пархоменка ўзяўся за бакі і раскацістым басам зарагатаў так, што конік натапырыў вушы, сам пабег трушком.

З вагонаў ужо выгружаліся байцы і на полі, падаючыся назад і азіраючыся, строіліся ў дзве лініі. З пляцформы, з крыкамі і вясёлай лаянкай, кідалі на рукі артылерыйскія знарады, грузілі іх у двуколкі. Чатыры гарматы ў рознашэрстнай запражцы стаялі наперадзе, недалёка,—адтуль таксама нешта крычалі.

Невысокі ваенны, з чорнымі вусікамі, чырвоны, потны з разадраным каўняром, кідаўся ад вагона да байцоў,—хрыпеў нададрваным горлам. Агрыпіна проста падышла да яго, тарганула за рукаў:

— Начальнік...

Лукаш крычаў:

— Павозак для знарадаў не хапае... Другая лінія байцоў возьме па знараду ў рукі, данясе да месца размяшчэння батарэі...

Агрыпіна пацягнула яго за рукаў. Лукаш павярнуўся, бліснуў зубамі.

— Начальнік, прачытай запіску.

— А ну цябе...

— Прачытай запіску,—сурова, упарта паўтарыла Агрыпіна. Ён схапіў, прачытаў.

— Таварыш Федасеенка!—усё гэтак-жа надрываючы шыйныя жылы, зароў Лукаш. — Выдай дзеўцы вінтоўку, патроны!.. (І—да Агрыпіны). Імя, прозвішча? Добра, потым запішу, калі жывая вернешся... Ідзі ў ланцуг... Пачакай... Як-жа ты?.. Эй, Федасееў, выдай дзеўцы штаны...

З таварнага вагона адказалі з прыкрасцю:

— Няма штаноў...

— У баю здабудзеш, ідзі...

Гадзін да сямі раніцы ў вагон Варашылава, прычэплены да бронецягніка, пачалі паступаць весткі разведкі. Без сядла прыскакаў Валодзька-шахцёр, бязладна расказаў, што яны—пяць чалавек—уначы абмінулі казачыя пікеты,—калі пачало развідняць—ля самай станцыі ўбачылі германскі раз'езд,—немцы ішлі на рысях з боку Старабельскай шашы (з паўночнага захаду) у Гундораўскую—шахцёры не стрымаліся, абстралялі немцаў і ўстрывожылі ўсю станіцу. Прышлося хавацца па гумнах. Ён, Валодзька, як яму загадаў Іван Гара злавіў казачага каня і прыскакаў сюды, а Іван Гара з таварышамі сядзяць у гумне, і іх трэба выручаць.

Варашылаў аддаў загад—разбіць праціўніка і заняць Гундораўскую. Комуністычны атрад Лукаша і 1-ы Луганскі рушылі левым берагам Данца, стэпам—яшчэ па вясноваму вохкім і зялёным. Сонца пачынала ўжо паліць спіны і патыліцы.

Воддаль за хвалямі стэпавай спякоты паказаліся пірамідальныя таполі, сады, белая царква станіцы Гундораўскай, ціхамірна, здавалася, дрэмлючай на беразе Данца. Чатыры гарматы батарэі Куліка, валячыся на бакі, наўскач на рыжых, буланых, змардаваных коніках, перагналі ланцугі і ўспаўзалі на крэйдавы ўзгорак.

Ланцугі пасоўваліся таропка, байцы нахаду сцягвалі пінжакі і шынелькі. З берагавых зараснікаў пачалі пастрэльваць казацкія пікеты. Агрыпіна ішла, як у сне. Цяжкі парусінавы мех з патронамі біў па бядру, рамень вінтоўкі рэзаў плячо. Яна глядзела на каршуноў, што плавалі над стэпам... Чыйсьці голас часамі крычаў ззаду: „Дзяўчына, не зарывайся“. Агрыпіна спынялася, набіраючы поўныя грудзі цёплага стэпавога ветру.

Калі з крэйдавага ўзгорку ўдарылі гарматы Куліка, магутныя гукі гэтыя ўзбадзёрылі байцоў. Пошугі дыму ўзняліся за далёкімі таполямі. Плаваючыя каршуны спалохана кідаліся ў блакіце...

Агрыпіна, як і ўсе, што беглі направа і налева ад яе, скацілася ў неглыбокі акоп, толькі што пакінуты казакамі. Высокія таполі, скірты леташняй пшаніцы, саламяныя стрэхі свірнаў і мазаных хат былі за трыста крокаў. Шмат хат гарэла ў бязветранасці паўдня, як свечкі, без дыму, высока кідаючы клочча гаручай саломы і кружыўшых над вогнішчам галубоў.

Падабраўшы пад спадніцу босыя ногі, выцягнуўшы шыю, Аг-

рыпіна, як птушка, круціла галавой: яна не адважвалася страляць дарэмна, як іншыя,—марна траціць патроны... Страляць яна ўмела,—яшчэ дзяўчынкай яе навучыў брат Мікалай... Казачыя кулі ўзнімалі пыл у яе пад самым носам. Але хоць бы адзін паказаўся казак....

За яе плячом, абпальваючы газамі, застукаў кулямёт. Наперадзе сталі падаць галінкі з кустоў. Цераз яе галаву пераскочыў Лукаш, памахваючы наганам,—раздзіраючы рот на ўвесь твар—не было нічога чутна, але зразумела: „Наперад, хлопцы!“ Агрыпіна, без намагання, нібы паднятая ветрам, устала і пабегла босымі нагамі па гарачай зямлі. Наперадзе—плот. Таропка падумала: „Як-жа палезу—загалюся...“

Зараз-жа яе перагнаў пажылы чалавек у акулярах, у спаўзаўшых палатняных штанах. Ён нязграбна палез цераз плот. Агрыпіна ірванула нагамі вузкую мар'іну спадніцу і, усё з тым-жа нябывалым захапленнем пераскочыла на зады казачага двара—на гумно. І там, нарэшце, убачыла ворага.

Удоўж мазанай сцяны, нагнуўшыся, бег чорнабароды чалавек у кароткім чорным мундзіры з чырвонымі пагонамі. Агрыпіна ўзняла вінтоўку... „Дурніца, страляй!“—закрычаў чалавек у жалезных акулярах,—ён увесь троссся, шукаючы ў кішэнях абойму. Казак заскочыў за рог хлява, прытуліўшыся да сцяны, пачаў цэліцца. І, перш чым Агрыпіна знайшла яго скажоны злосцю твар на падскакваючай мушцы вінтоўкі, казак сам стрэліў,—чалавек у акулярах узмахнуў рукамі. Агрыпіна ўскрыкнула, націснула спуск—ложа моцна штурхнула яе ў ключыцу. У казака далёка адляцела вінтоўка. Ён завішчаў і галавою наперад кінуўся на дзяўчыну, і абодвы—і казак і дзяўчына—схапіліся голымі рукамі, у абдымку. Агрыпіна адчувала, як трашчаць яе і яго косці. Боручыся, дыхаючы, сапучы,—яны круціліся. Да іх падбягалі байцы. Казак ламаў ёй спіну, сухой барадой абдзіраў шыю, дабіраўся зубамі да горла. Абодвы ўпалі. Пакаціліся. Рукі яго раптам разняліся. Агрыпіна ўскочыла. Казак хрыпеў.

Нехта моцна, ласкава падтрымаў яе за плечы. „Сабака... снахач ... сабака“—шаптала яна. Скінула з плеч цяжкую руку, павярнулася... Перад ёй стаяў Іван Гара.

— Гапка!—сказаў ён, расцягваючы моцназубы рот ад вуха да вуха... у круглых карых вачах яго было такое здзіўленне, такая радасць,—Агрыпіна ледзь не абхапіла яго за шыю рукамі... Гэта-ж пры ўсіх!... Прамовіла толькі, насілу разнімаючы зубы:

— Іван... Здароў...

Хваля наступаючых панесла Агрыпіну і Івана на шырокую царкоўную плошчу. Бой канчаўся, казакі былі выбіты з станіцы і конна адыходзілі ў стэп, за ўзгоркі... Усё больш рэдка хлопалі адзінкавыя стрэлы. Чуўся смех, вясёлыя крыкі. Рыпелі калодзежы. Дым, гарачы пыл засцілаў станіцу, медным шарам вісела над ёй паўднёвае сонца.

— Ну, сустрэць яе ў баю!.. Гапа!... Апамятацца не магу,—паўтараў Іван Гара.

— Потым усё раскажу, Іван... Піць хачу...

Толькі цяпер у яе пачалі трэсціся ногі і рукі. Насілу сцягнула рамень вінтоўкі з пляча, голыя ступні яе раз'ехаліся ў халоднай гразі ля калодзежа...

— Гапа! Гапка!—закрычалі грубыя вясёлыя галасы. Да яе праціскаўся брат Мікалай,—аброс барадой, памужнеў... Яго яна абняла і галаву на хвіліну паклала яму на грудзі... Падышоў малады казак Іван Прахвацілаў, халоднымі, светлымі вачыма проста глядзеў у вочы,—ударыў Гапку рукой аб руку:

— Што-ж ты не ва ўсёй баявой форме?.. Глядзі, засмяём!

Падышлі Матвей Салох і абодвы Васіліі Крываносы... Як мядзведзь, праціснуўся Тарас Бакун: „Гэта твая сястра, Мікалай?“— і рот разявіў... „Дзеўка, як трэба“, сказалі байцы. Віталіся, знаёміліся, прыязна аглядалі Агрыпіну.

Яна стаяла, як нежывая ад сораму, схіліўшы галаву ў зліНялай хустцы, завязанай па-украінску. Спадніца ў яе была разадрана на ўсё бядро, кофта вісела клоччам і на баку крывяпадцёкі ад казачых кіпцяў...

Моўчкі яна пачала выбірацца з кола байцоў. Іван Гара дагнаў яе. Агрыпіна ішла да паваленых калёсаў, дзе валяўся ніцма забіты казак.

— Няўжо з яго возьмеш?—спытаў Іван.

— Камандзір загадаў—здабыць. Я іх зараз ля калодзежа памыю.

— Пусці, пусці,—сказаў Іван, сурова адхіляючы Агрыпіну,— я сам гэта зраблю.—І, прысеўшы, пачаў сцягваць з казака штаны з лампасамі і добрыя боты.

2

Тут-жа на плошчы зайшлі на апусцелы казачы двор, і ля калодзежа ў карыце, дзе пояць жывёлу, Агрыпіна пачала мыць казачыя штаны.

Іван Гара сядзеў паблізу, трымаючы між каленаў вінтоўку, глядзеў, як Агрыпіна выцягвала на вяроўцы драўлянае вядро і, падхапіўшы яго за дужку, адкідвалася—дужая, стройная,—вылівала ваду і зноў апускала вядро ў калодзеж і ўсміхалася ад таго, што ёй было прыемна—вось Іван сядзіць паблізу і глядзіць на яе.

— Пісьмо атрымала маё?—кашлянуўшы, запытаўся ён. Агрыпіна кіўнула.—Гляджу на цябе—не веру... Здарава ты вырасла за паўтары гады...

Агрыпіна адвярнулася, улезла босымі нагамі ў карыта і таптала штаны.

— Ты іх тапчы з пяском... Ты, Гапа, пераходзь у наш атрад. Я цябе запішу... І табе лягчэй, і мне спакайней...

— Добра,—адказала Агрыпіна і павярнулася да яго спіной.

— Ты што там нарабіла ў Ніжнім Чыру?

— Ну—чаго... (Яна задыхнулася, ён маўчаў). Для каго-небудзь, значыць, я сябе берагла... Вельмі нават добра вышла... Табе, бадай, усё расказалі,—чаго пытаешся...

— Правільна,—туды Іону і дарога, падлюку... Правільна, Гапа... Пачала жыць смела, так і прадаўжай.

Яна памыла, добра выкруціла штаны, пайшла вешаць іх на сонцапёку. Іван, як сланечнік, паварачваўся да яе, стараючыся ўсё-ткі не глядзець на яе смуглае бядро, што мігцела ў прарэху падранай спадніцы.

— Як ты з казачышкам на гумне счапілася, ах, здарава!.. Ну, дзеўкі пайшлі ў рэволюцыю... Сябе ў крыўду не даюць...

Агрыпіна—не павяртаючыся:

— А што-ж дзяўчатам рабіць?

— Не, правільна, правільна...

Тады яна раптам, першы раз, засмяялася,—бровы ў яе па-дзіцячаму разышліся, твар стаў круглым, мілым, паказаліся роўныя зубы,—расцвіла, як ружа.

— Ты чаго?—спытаў Іван, расцягваючы рот следам за ёй.

— З думкі свае смяюся.

— Ну і дурніца ты...

Яна яшчэ званчэй засмяялася, падгінаючы калені,—вось-вось, здаецца сядзе на зямлю. Іван ударыў аб зямлю ложам вінтоўкі, пакрыўджана скрывіў нос, стаў глядзець убок, і ўсё-ткі і яго разабрала—зарагатаў, разявіўшы рот. Тады Гапка села.

— Ой, мама! А я чакала—ты сур'ёзны, не падступішся да яго... А яшчэ—баялася—скажа: што я цябе, дурную, скажа, за сядлом буду вадзіць? Ой, мама!

— Добра, надзявай штаны, ты—баец! Ідзі да атрада... Схамянуцца—будзе не да смеху...

— Яны-ж хліпкія.

Іван надзьмуў шчокі. Але і самому хацелася яшчэ хвілінку працягнуць ля калодзежа на спусцелым двары—глядзець, як Агрыпіна ўзяла штаны, страсанула іх, памацала і, кіўнуўшы галавой, перакінула праз плячо. Лёгка нагнуўшыся, узяла з зямлі сумку з патронамі, раптам спалохана азірнулася—дзе-ж вінтоўка? Высока ўзняла бровы. Убачыла яе ў Івана між каленаў, і ён не адразу аддаў, прытрымаў...

— Ну, аддай...

— Бяры, бяры...

З патугай яна пачала торгаць вінтоўку. Гарачае бядро яе кранулася яго пляча і так абпаліла,—Іван дзіўна паглядзеў. Яна ўраз нахмурылася:

— Гэта кінь, Іван...

Але дагаварыць ім гэты раз не давялося. За варотамі, аглушальна грымнуўшы, узняўся слуп дыму і пылу. Закрычалі людзі, пачалася страляніна. Іван, ускочыўшы, загадаў Агрыпіне надзець макраватыя штаны, і пакуль яна скакала на аднойназе, няўмела цэлячыся ў іх другой нагой, выбухнула яшчэ некалькі знарадаў. Пачалося контрнаступленне немцаў разам з казакамі,—іх конныя сотні вярнуліся з стэпу і шпарка акружалі станіцу Гундораўскую.

3

Начны сцюдзёны вецер, што прабіраў спіну, цёплая зямля пад жыватом, пах маладой травы, пышнае ад зорак лілёва-аксамітнае неба—і віднае, калі Іван паварачваўся набок, залазячы ў сумку з патронамі,—і шум боя, і ўспышкі стрэлаў, і прыгнятаючы шалёны свіст знарада, і нават напружаная трывога адступаючых, якім увесь час заходзіла ў тыл конніца,—усё, усе ўспрымалася ўзнята, востра, гучна, з упэўненасцю ў сілах, у перамогу, у шчасце...

І ўсё таму, што побач у калдобіне ляжала Агрыпіна, мармычучы нешта злосна і страляючы гэтак-жа, як тыя некалькі дзесяткаў байцоў, што засталіся ад разбітага і рассеянага па стэпу атрада.

Была ўжо сярэдзіна ночы. Луганскі і Комуністычны атрады адступалі, стрымліваючы націск казачых соцень. Бой за Гундораўскую скончыўся плачэўна. Дарога для адступлення на левым беразе Данца была адрэзана, станіца акружана, па плошчы, па зграмаджэнню войска білі нямецкія гарматы. Прышлося адступаць праз разбураны знарадамі запалены мост на правы бераг. Такога павароту ніхто не чакаў, маладыя байцы разгубіліся, страцілі строй, і ўроссып пайшоў кожны ратаваць сваю скуру, выходзячы з акружэння.

Начальнік групы Лукаш насіўся конна па стэпу, збіраючы бягучых. Батарэя Куліка, выскакваючы на ўзгоркі, паварачвала ствалы і пасылала апошнія знарады па імчаўшых конных лавах.

Байцы і самі не разумелі—адкуль узялася гэтая паніка. Усім зразумела, што бягучых па адным, як баранаў, казакі пасякуць шаблямі. І людзі. здавалася не палахлівыя—дык не-ж: нехта закрычаў дзікім голасам, нехта, кінуўшы вінтоўку, і бекешу, і шапку, кінуўся ўцякаць. І—найшло ачмурэнне. А сораму ўжо цяпер не абабрацца. „Харошыя,—скажа заўтра Варашылаў, праязджаючы на гнедым кані міма эшалона.—Нядрэнна прабегліся ўначы, прыгожы ў вас выгляд, дзякую, таварышы“.

У надыйшоўшым змроку казакі перасталі націскаць, баючыся за коней. Сціхнулі нямецкія гарматы. І атрады, сышоўшыся, адыходзілі пад прыкрыццем рэдкага агню ланцугоў—на паўднёвы ўсход, да палатна чыгункі, арыентуючыся на далекія свісты паравозаў.

Часам, ззаду ланцуга, што прыкрываў адступленне, выступаў у попельным святле зорак коннік на цяжка дыхаўшым кані.

— Давай, давай, хлопцы—на дзвесце крокаў...

Байцы моўчкі падымаліся, стомлена пераходзілі і зноў прыладжваліся за няроўнасцямі зямлі. Іван Гара гаварыў Агрыпіне:

— Не хавайся ў цемры, трымайся побач.

У абставінах боя думаць не было калі. Але шчасце здавалася такім шырокім, што Іван толькі здзіўляўся. Ніколі-б не паверыў—каб расказалі яму раней пра якога-небудзь сур'ёзнага чалавека, які праз глупства, якое не варта таго, каб пра яго і гаварылі, праз тое толькі, што пабыў з дзяўчынай сам-на-сам ля калодзежа, адчуў у грудзях небывалую мужнасць... Нібы Івану толькі і не

жапала гэтага драбочка солі... Зямля стала лёгкай пад нагамі, і зоркі здаліся сваімі—рабоча-сялянскімі, міргаючымі, як маякі, над вялікай рэволюцыяй, і думкам стала лёгка... Дзіўная рэч—чалавек...

4

Немцы зразумелі, нарэшце, адважны план Варашылава—з усімі трымя тысячамі вагонаў прабіцца на царыцынскі кірунак. Такое рашэнне прынцыпова ўжо адрознівалася ад партызанскіх дзеянняў чырвоных атрадаў, з якімі немцам даводзілася мець справу.

Немцы намерваліся заперці варашылаўскія эшалоны між Мілеравым і Ліхой і прымусіць 5-ю армію пакінуць вагоны і рассеяцца. Яны пачалі акружаць Ліхую і адначасова з боку Мілерава кінуліся на прарыў ар'ергарда 5-й арміі, што акапалася ля станіцы Каменскай.

Варашылаў застаўся тут, ў ар'ергардзе, з найбольш боездольнымі часцямі. Кіраваць прасоўваннем паяздоў у Ліхую былі пасланы Коля Руднёў і Арцём. Яны паскакалі, абганяючы паязды, што прасоўваліся павольна.

Раніцай,—гэта быў дзень Першага мая,—у затуманеным стэпе, на лініі перадавых акопаў ля Каменскай, сабраўся мітынг. Варашылаў гаварыў з каня:

— Сёння ва ўсім свеце шумяць рабочыя дэманстрацыі пад чырвонымі сцягамі. Сёння дзень яднання, дзень агляду. Чырвоны дзень пролетарыята, чорны дзень буржуазіі, гатовай кожную хвіліну ўдарыць бязлітасным свінцом у адкрытыя грудзі рабочых.

Гнеды конь яго, з зоркай на ілбу,—дзеля такога вялікага дня пачышчаны ў шашку і туга забінтаваны па бабках з-за недахвату палатна марлевымі бінтамі, стульваў вушы, уздрыгваючы мордай, апырскваў пенай байцоў, што згрудзіліся вакол камандарма,—загарэлых, дужых, рослых—таксама дзеля свята—ахайна зашпіліўшых каўняры і падпяразаўшых заскарузлыя ад поту кашулі. Узняўшы галовы, байцы напружана глядзелі на вясёлы твар камандарма...

— Байцы, мы першыя намерыліся перайсці ад слоў да справы, пад кіраўніцтвам вялікага правадыра, не пужаючыся ўсіх армій і флотаў сусветнай буржуазіі,—намерыліся пабудаваць новы свет... У гэтым цвёрдым намеры наша першая задача—ачысціць тэрыторыю РСФСР ад імперыялістаў і контррэволюцыянераў. Гэтая задача даручана вам, байцы, і яе трэба выканаць... Немцы наступаюць, каб захапіць ваенную маемасць у нашых паяздах і разбурыць нашы далейшыя планы барацьбы. Гэтага дапусціць мы не можам. Сёння мы павінны паказаць імперыялістам, што чырвоны сцяг нельга вырваць з пролетарскіх рук... Сёння ва ўсім свеце грыміць „Інтэрнацыянал", на нашым участку загрыміць пераможны бой. Пролетарыі ўсяго свету пачуюць яго грозныя гукі. Не важна, што мы—за тысячы вёрст. Бачаць яны нас? Бачаць. Чуюць яны нас? Чуюць. Таварышы, няхай жыве...

Голас яго і крыкі байцоў былі заглушаны: з-за ўзгоркаў з боку Мілерава ўдарылі нямецкія гарматы.

Ліхая—вялікае сяло, што раскінула па схілах палыновых узгоркаў белыя хаты, саламяныя гумны, платы, высокія таполі, вішнёвыя сады. Чыгуначная станцыя размешчана ля падножжа ўзгоркаў. На ўсход ад сяла і станцыі ляжыць балацістая нізіна. Яе агінае каляя царыцынскага адгалінення, што перасякае на першым перагоне ля станіцы Белая Калітва раку Данец.

На поўдзень ад Ліхой ідзе растоўская магістраль. Па ёй цяпер наступалі немцы, абстрэльваючы за адзін перагон—ад Ліхой—станцыю Зверава. Туды, у Зверава, на бронепляцоўцы выехаў Арцём, каб забраць, што можна, з чыгуначнага састава і вывезці бежанцаў.

Нямецкія аэрапланы кружылі над Ліхой, скідаючы бомбы, і ўжо шмат хат і скіртаў гарэла, засцілаючы дымам узгоркі і ветраныя млыны.

Увесь дзень Першага мая прыбывалі эшалоны, напіраючы адзін на другі. Запасных калей не хапала для такой колькасці манеўруючых паяздоў. Паравозы вылі, машыністы лаяліся, высоўваючыся да пояса, бежанцы з расчыненых дзвярэй цяплушак спалохана глядзелі на неба. Паязды ішлі і зноў доўга стаялі, здавалася, па невядомай прычыне.

Прычына ўсяго гэтага растучага бязладдзя была ў тым, што дарога на ўсход, на Царыцын, была ўжо адрэзана: казакі ля Белай Калітвы ўзарвалі мост праз Данец. Ліхая зрабілася мяшком, куды прыбывалі і прыбывалі эшалоны з дзесяткамі тысяч людзей, узброеных і бяззбройных.

Гарачы быў дзень Першага мая ў стэпу ля станіцы Каменскай. Сонца цмяна свяціла скрозь пыл і дым. Жалезны грукат устрасаў зямлю, раскідаючы лінію варашылаўскіх акопаў. Зноў і зноў скрозь пыл і дым паяўляліся напоўпрыгнутыя фігуры ў катлах для гатавання бульбы на галовах, з выстаўленымі перад сабой шырокімі лязамі.

З залітых крывёю акопаў падымаліся камандзіры аддзяленняў, камісары, вылезлі аглушаныя, абсыпаныя зямлёй, байцы, і, разяўляючы крыкам чорныя раты, разлепліваючы зацярушаныя зямлёй, налітыя нянавісцю вочы,—спатыкаючыся, беглі насустрач гадам,—маці іх памяні,—як вілы ў сноп—утыкалі чатырохкантовыя штыхі ў вузкаплечага, задаўленага каўняром, афіцэрышку, у напханае украінскім салам пуза барвовага унтэр-афіцэра, ужо без усякай нямецкай самаўпэўненасці круціўшага рэвальверам, у сухарлявыя грудзі,—даруй яму божа,—нямецкага радавога ў акулярах, з кірпатым прыстойным носам, пасланага крывавай буржуазіяй шукаць сабе магілу ў данскіх стэпах...

І раз і другі немцы хадзілі ў атаку, і не вытрымлівалі штыкавой контратакі, заварачваліся і беглі, і ўжо нямала іх, небаракаў валялася на палыну ці стагнала ў варонках ад знарадаў.

Абараняць прыходзілася, акрамя таго, і свой левы фланг ад гундораўскіх казакаў, не падпускаючы іх да Каменскай. Фронт страшэнна расцягнуўся, перакінуўшыся на правы бераг Данца. Папаўненняў нехапала. Уся надзея была на тое, што за гэтыя суткі эшалоны паспеюць прайсці Ліхую.

У канцы дня адтуль пачаў крычаць у тэлефон голас Колі Руднёва:

„... Казакі ўзарвалі мост ля Белай Калітвы... Становішча ўскладняецца... Акрамя таго, сапсавана каляя па ўсяму перагону да Белай Калітвы... У Ліхой каша... Не можам больш прымаць паяздоў... Прыкладаю ўсе намаганні, каб справіць каляю да Белай Калітвы... Акрамя таго...“

— Хопіць і гэтага, дзякуй,—прабурчэў Пархоменка, які прымаў тэлефанаграму.

„... Акрамя таго... Немцы вось-вось займуць Зверава... У нас на вышынях, дзе млыны, ужо былі нямецкія раз'езды, мы адагналі...“

Пархоменка выцягнуў галаву з-пад футравай бекешы,—ёю ён прыкраваўся разам з тэлефонным апаратам ад назольнага шуму гарматнай страляніны... З прыкрасцю насунуў на вушы папаху і палез з штабнога вагона—шукаць Варашылава.

З поля, дзе зноў разгараўся бой, гнала пыл і парахавы смурод. Цягнуліся параненыя,—хто, моршчачыся, падтрымліваў прастрэленую руку, хто кульгаў, трымаючыся за плячо таварыша, іншых цягнулі на насілках. Шалёны знарад ірвануў зямлю, валячы ішоўшых. Валяліся разбітыя калёсы. Ля кола, падагнуўшы калені, сціснуўшы ў руцэ вырваную з травой зямлю, ляжала жанчына ў пыльнай спадніцы, на касынцы яе з чырвоным крыжам расплылася чорная пляма... Пархоменка ўбачыў гнядога каня камандарма. Веставы, што трымаў яго за повад, стаяў—закінуўшы галаву. Шырокаскулы, безвусы твар хлапца быў да сінявы бледны, вочы поўзаплюшчаныя.

— Дзе камандарм?—крыкнуў Пархоменка.

Хлапец разняў губы, адказаў:

— У баю...

Толькі адышоўшы, Пархоменка здагадаўся, што хлапец смяротна паранены. Наперадзе, у хмарах пылу, раўлі галасы, ірваліся гранаты. Пархоменка, прыгнуўшыся, з наганам пабег у гэтую калатнечу. Але бразгат, выбухі, надрыўныя крыкі аддаляліся. Немцы зноў не вытрымалі...

З бегу ён кульнуўся ў акоп, ударыўся каленкамі так, што пацямнела ўваччу. Ускочыў. Адтуль з пыльнай імглы да яго ішоў, хістаючыся чалавек,—нахаду намагаўся засунуць у ножны шашку, канец яе заела ў ножнах. Мокрыя валасы яго падалі на лоб у пацёках поту.

— Э!—крыкнуў Пархоменка.—Клім? Слухай... Чорт! Нельга-ж так... Што-ж ты лезеш у самую бойку...

Варашылаў спыніўся, цёмнымі, яшчэ дзікімі вачыма ўтаропіўся ў Александра Якаўлевіча...

— А што?—сказаў.—Такая была каша... Ледзь не прарвалі...

Ён зноў пачаў соваць шаблю. Пархоменка ўтаропіўся на лязо. Яно было ў крыві.

— Вельмі добра... А па-мойму, не маеш права... Слухай. Справы вельмі сур'ёзныя... Зараз званіў Руднёў...

Варашылаў таксама са здзіўленнем пагледзеў на акрываўленую шаблю. З сілай кінуў яе ў ножны. Пайшлі да вагона, Пархоменка

расказаў аб руднёўскай тэлефанаграме з Ліхой. Варашылаў толькі быстра глянуў скосу на сябра.

— Значыць, трэба біцца, другога выйсця няма... Пакуль не паправяць каляю—будзем біцца... Вагоны немцам не аддадзім усё адно...

5

Мінулі першы і другі дзень мая. Варашылаў усё яшчэ стрымліваў ворага ля Каменскай. Усе эшалоны падцягнуліся ўжо да Ліхой. Бахвалаў, мабілізаваўшы некалькі соцень бежанцаў, пад аховай кулямётаў аднаўляў разбураную казакамі каляю па царыцынскаму адгаліненню да Белай Калітвы. На ўзгорках, што акружалі з поўдня і паўднёвага захаду Ліхую, размяшчаліся па акопах і канавах атрады 5-й арміі.

Іван Гара і Агрыпіна далучыліся да шахцёраў. Настрой у большасці быў чакальны. Усе ведалі аб цвёрдым рашэнні камандарма—не аддаваць ні аднаго вагона. А іх—гэтых вагонаў, пляцформ, дымлівых паравозаў—унізе ля ўзгоркаў была незлічоная колькасць. Ніякіх чалавечых сіл не хопіць—разабрацца ў гэтай кашы. Байцы бурчэлі: „Добра загадваць камандарму: сеў на гнядога каня і паехаў, куды душа захоча! А ты жывымі грудзямі засланяй праклятую маемасць...“

Аб нядобрым настроі Іван Гара адразу-ж здагадаўся, сустрэўшы ў полі ля ветрака Емельяна Жука—таго хмурнага шахцёра, што здабыў сабе адзежу з забітага немца. Жук не ўзрадаваўся з таго, што Іван Гара з Валодзькам і Федзькам вярнуліся жывыя ў атрад, не сказаў яму—„здарова“,—панура адвярнуўся, не стаў глядзець у вочы.

Сутула, нерухома, як каменныя сядзелі ля недакапаных акопаў і другія шахцёры—панурыя, счарнелыя ад гразі, абадраныя, босыя. Не было відаць запаленых кастроў, не гатавалі ежы, нібы ніхто тут не думаў заставацца. Людзі думалі. Узняўшы галовы, глядзелі на бліскаўшы ў блакіце адкінутымі назад крыллямі германскі самалёт.

Відавочна, што з такім настроем атрад біцца не можа. Трэба было ўжываць тэрміновыя меры. Скончыўшы капаць акопчык, папляскаўшы рыдлёўкай па выкінутай зямлі, Іван Гара сказаў Агрыпіне, якая капала шанцавым інструментам за два крокі ад яго:

— Асабовы інтарэс прыходзіцца адсунуць на другі план, ці ўжо ты не бярыся за гуж... Так вось, Гапа.

— Зразумела,—адказала Агрыпіна, выпраставаючы смылеўшую спіну. Сонца, што падала за край стэпу, заліло яе гарачы твар. Яна падцягнула рукаў і голай часткай рукі выцерла мокры лоб. Усё гэта здалося Івану вельмі прыемным, і Агрыпіна, якая жмурылася на сонцы,—вельмі прыгожай.

— Я павінен адважыцца на вялікую рызыку. Не тое мне страшна, а тое, што ці правільна раблю? Але думаю і прыходжу да вываду: трэба... Што з гэтага выйдзе? Невядома. Параіцца са старэйшым таварышам—няма тут такога. Глядзець склаўшы рукі—нельга. Значыць—трэба ўзяць ініцыятыву.

Агрыпіна не зусім разабрала—аб чым ён гудзіць, утаропіўшыся, як певень на зерне, на яе мурзатыя рукі, пакладзеныя на дзяржальна лапаты. Але зразумела, што гаворыць сумленна. У адказ яна важна кіўнула ў бок сонца. Іван вылез з акопа і пайшоў да ветрака, дзе знаходзіўся назіральны пункт і штаб палка.

Ля варот млына на расколатых жорнах, росшых у зямлю, сядзелі два штабных: адзін у студэнцкай куртцы, бледны, з дробнымі зубамі, з агніста-рыжымі клоччамі бародкі, другі—падобны да манаха, з бруднымі валасамі да плеч, у пенснэ, у падпяразаным вяроўкай паліто, надзетым на голае цела. Штабныя з нуды гулялі пашарпанымі картамі ў дваццаць адно.

Іван Гара спытаў дзе камандзір? Рыжы штабны, не гледзячы, адказаў суха, што камандзір заняты.

— Спіць, ці што?—спытаў Іван Гара, прысаджваючыся на кукаркі ля жорнаў.

— Ну—спіць, табе што да таго!—картуючы карты, адказаў другі, падобны на манаха.

— Не ў пару камандзір спіць. Ідзіце—пабудзіце яго.

— А што такое?

— Значыць трэба.

Штабныя пераглянуліся. Рыжы спытаў:

— Вы з нашага атрада, таварыш?

— Ага...

— Камандзір ні аб чым не загадаў дакладваць. Можаце гэта зразумець?

— Вось вы яго і разбудзіце...

Яны зноў пераглянуліся. Стала ясна, што гэты чалавек усё адно не адчэпіцца. Але млыновыя вароты, завішчаўшы, прыадчыніліся,—камандзір Пятроў выйшаў сам. Быў ён прысадзісты, круглатвары, сонны, злосны, увесь упэцканы ў муку.

— Ну? У чым справа?—спытаў ён, непрыязна аглядаючы Івана Гару.—А! Таварыш піцерскі комуніст... З дырэктывамі, ці што?— Ён коса расцягнуў рот. Сеў на жорны, выцягнуў бляшаную каробку з махоркай. Круціў, соп.—Нічога, таварышы, не выйдзе з вашай выдумкі. Чарговае дзівацтва... А мы справу маем з жывымі людзьмі, не з адцягненымі ідэямі... Так вось...

Іван Гара стаяў перад ім, ссунуўшы ногі, апусціўшы рукі так, як трэба стаяць перад камандзірам. Пятроў густа выпусціў дым з ноздраў.

— Ну, дык у чым-жа справа?

— Настрой атрада нікуды не варты, таварыш камандзір. Атрад не здолее выканаць баявога задання...

— А хто даў баявое заданне?—раптам барвавеючы бычынай шыяй, закрычаў камандзір Пятроў.—Штаб 5-й арміі? Не ведаю такой арміі. У фармаванні не ўдзельнічаў. Мой атрад звязаны з 5-й арміяй толькі чыгуначнай каляёй. Мой атрад падначальваецца толькі волі народа... Мой атрад не хоча выконваць дыктатарскіх загадаў... Каму гэта трэба: цягнуць на плячах шэсцьдзесят эшалонаў старых манаткаў?! Воля атрада—вось баявы загад...

Здрада камандзіра была яўнай. Злуючыся і барвавеючы, ён

з галавой выдаваў сябе... Пэўней за ўсё вясковы настаўнік, з меціўшых поўгады назад у эсэраўскія трыбуны ва Устаноўчы збор, а цяпер працуе па тайных дырэктывах Цэнтральнай рады... Моцненькі чалавек і дурань да таго-ж... Іван Гара, стоячы перад ім, таропка думаў—як пэўней дзейнічаць.

„Бегчы ўніз на станцыю ў Галоўны штаб, паведаміць Руднёву аб здрадзе камандзіра? Ясна, што ў гэтай сумяціцы Руднёў яго-ж Івана, і пашле ліквідаваць мяцеж. Ды страціш час, бегаючы. Ды і не пойдзеш адсюль...“ (Іван зірнуў скосу). Абодвы штабных, рыжы і доўгавалосы, кінуўшы карты, насцярожана,—правая рука ў кішэні—пазіралі на Івана. Зразумела: пры першым неасцярожным слове, руху—яго застрэляць... На млыну, акрамя іх, нікога не было, і навокал на сотні крокаў поле было пустое.

— Зверава занята немцамі, таварыш камандзір,—сказаў Іван Гара, сам не ведаючы—чаму раптам прыдумаў гэта.—Бронепоезд таварыша Арцёма стаіць ужо ля Ліхой.

— Хлусіш,—сярдзіта, але без упэўненасці прабурчэў Пятроў.

— Не хлушу, таварыш камандзір, узлезце на млын, бронепоезд адсюль відаць... Немцаў трэба чакаць штогадзіны. Бой прыдзецца прымаць...

Пятроў зірнуў на яго вачыма. Штабныя пераглянуліся. Рыжы пайшоў на млын, і было чутна, як зарыпала лесвіца пад яго нагамі. Цяпер засталося двое перад Іванам. І ён націснуў суровей, басам:

— Мітынгаваць вам, таварыш камандзір, усё адно прыдзецца... Атрад дэзарганізаваны—пераб'юць нас, як бараноў, гэта факт. Ды і вам няма сэнсу пападаць пад кулю...

У камандзіра зноў у момант налілася крывёю тоўстая шыя. Засоп, але змаўчаў, разбіраючыся—дзе-ж тут правакацыя?

— Або атраду цяпер ісці з пазіцыі, або трымацца моцна... Давайце мітынг, таварыш камандзір...

— Добра.—Пятроў цяжка падняўся з жорнаў.—Добра. Ідзі...

„Дурняў мала, брат, хочаш мне кулю вагнаць у лапаткі“,— падумаў Іван Гара і толькі адступіў крокаў на пяць. Наверсе млына ў акенца высунулася рыжая галава. У Івана ёкнула сэрца.

— Фёдар Фёдаравіч,—крыкнуў рыжы з акенца.—Вёрст за пяць дыміць нейкі чорт... Бадай бронепоезд.

— Эге!—здзіўлена сказаў камандзір.

„Эге!“, яшчэ больш дзівячыся, сам сабе сказаў Іван Гара.

І нібы, каб пацвердзіць—здалёк па стэпу разлёгся гарматны ўдар. Тады камандзір вырашыў. Кіўнуўшы доўгавалосаму, загадаў яму ўпоўголаса, каб грошы і дакументы завязаць у мех, падрыхтаваць коней. Не гледзячы на Івана, нахмурыўшыся, рашуча пакрочыў па полю да акопаў. Іван ішоў за ім—на поўкрока ззаду.

Голас у камандзіра быў зычны. Падняўшы руку, ён гаркнуў на ўсё поле:

— Байцы 3-га Варварапольскага атрада! Абвяшчаю лятучы палявы мітынг...

Шахцёры пачалі вылазіць з акопаў, падымацца з зямлі. Акружалі камандзіра Пятрова—хмурыя і нездаволеныя. Іван Гара, утупіўшыся, стаяў ля яго.

— „Настаў момант, калі трэба вырашыць асноўнае пытанне: за што мы ўрэшце б'емся?—загаварыў камандзір, абводзячы зіркам суровыя твары шахцёраў.—Для чаго пакінулі родныя комуны? За што нас, як бараноў, гоняць на чужыну...

— На чужыну,—басам паўтарыў следам за ім Іван Гара, узнімаючы галаву і ўсміхаючыся.—На рабоча-сялянскую чужыну ад сваіх гайдамацкіх бізуноў і нямецкіх шампалоў...

— Таварыш!—камандзір шалёна аглядзеў яго.—Не перапыняйце прамоўцу... Кіньце большэвіцкія замашкі... Вы не ў Маскве... Таварышы!—закрычаў ён, трасучы кулакамі.—Мы пайшлі біцца за родную зямлю і волю...

— За кулацкую зямлю, за эсэраўскую волю,—прагудзеў Іван.

— Таварышы!—камандзір зрабіўся чырвоны, як аблуплены.— У нашай барацьбе з германскай навалай маскоўскія комуністы нам здрадзілі! З Масквы загадана здаць немцам Данбас... І нас возяць з родных вёсак, каб зрабіць з нас большэвіцкіх халуёў... Нас прывялі на гэтыя пазіцыі—на забой... Каб мы тут біліся, а комуністы гналі вагоны ў Царыцын...

— Хопіць! Не пашырайце вашы думкі!—на ўсю глотку закрычаў Іван Гара.—Таварышы! Я піцерскі металіст. Вось мае дакументы. Глядзі. Вось мае рукі. Глядзі... А гэты чалавек вам вядомы?

— Не! Не, невядомы,—адказалі з натоўпу шахцёраў галасы Валодзькі і Федзькі і потым голас Емельяна Жука.

— Хай ён раскажа, хто ён такі... А я карацей скажу. Камандзір Пятроў—эсэр. Усяму свету вядома, што эсэры прадалі немцам Украіну за тлустыя кавалкі, за сінія світкі... Хто яго выбіраў камандзірам?.. Паслалі яго з Кіева, з Цэнтральнай рады. Ён правакатар...

Малоцячы паветра, Іван глянуў скоса на камандзіра. І ў пару... Пятроў ірвануў з кабуры наган і стрэліў у галаву Івана Гары. Адначасова Іван Гара, нырнуўшы галавой так, што куля толькі чыркнула па валасах—схапіў Пятрова за пясць рукі і з усяго маху ўдарыў яго між вачэй. Камандзір задыхнуўся крыкам, паваліўся. Нехта—Валодзька ці Федзька—выхапілі ў яго наган. Шахцёры моўчкі глядзелі на нерухома ляжаўшага камандзіра.

Іван Гара, выціраючы рукавом лоб, сказаў:

— Хлопцы... Я зрабіў няправільна, парушыў ваенную дысцыпліну, ударыў камандзіра... Вырашайце: каго расстраляць—мяне ці яго?.. Рабочага, адданага рабочаму класу, ці форменнага правакатара... А што ён эсэр і правакатар—адказваю галавой... Вырашайце. Кожную хвіліну вораг можа пачаць наступленне. Вораг не можа заспець нас знянацку...

Шахцёры ўсё яшчэ маўчалі. Тады Емельян Жук прагаварыў:

— Задаў загадку, комуніст... Ну як, верым гэтаму чалавеку?

— Верым, верым,—адказала некалькі шахцёраў. Астатнія кіўнулі галовамі.

— Верым,—тады, Іван, бяры каманду...

6

Станцыя Зверава (на поўдзень ад Ліхой), сапраўды, была ўжо занята немцамі. Трэцяга мая на краю стэпу замільгалі іхныя раз'езды. Яны не схаваліся ад першых стрэлаў, як тры дні назад,—коннікі групкамі збіраліся на далёкіх узгорках, спешваліся, назіралі. Было зразумела, што за імі памалу ідзе запыленая пяхота, яшчэ нябачная за гарызонтам.

Ад млыноў да размяшчэння атрадаў прамчаўся велізарны памяты фіат. Тарахкаючы, дымячы газай,—спыніўся ля акопаў. У машыне сядзелі Коля Руднёў і абгарэлы на сонцы Арцём.

Выкідваючы тоўстую пясць рукі, выпінаючы запёклыя губы Арцём гаварыў байцам:

— Каляя да Белай Калітвы папраўлена. Першыя паязды пайшлі. За ноч мы разгрузім усю станцыю... Таварышы, мы павінны выканаць заданне: дваццаць пяць тысяч дзяцей, жанчын, старых будуць дастаўлены ў Царыцын... Наш камандарм з кучкай герояў тры дні і тры ночы б'ецца халоднай зброяй ля Каменскай... Інтэрвенты баяцца пролетарскіх штыкоў... Няўжо мы тут возьмем на сябе ганьбу?

Арцём быў вопытным масавіком, умеў збіваць тысячы адчуванняў у тысячы людзей у адну волю аднае істоты. Баязнь смерці пераважае ўсё толькі тады, калі ўсе іншыя пачуцці прыніжаны, дэзарганізаваны. Бываюць хвіліны, калі адчуванне ганьбы нясцерпна вастрэй за баязнь смерці, калі абуджана самае палючае, магутнае, дзейснае пачуццё класавай нянавісці, і ўсё асабістае, будзённае тоне ў ім і глохне...

Фіат імчаўся далей па расцягнутаму фронту. Арцём гаварыў байцам, што вось-вось падыйдуць падмацаванні—атрад Лукаша з-пад Каменскай, і заўтра трэба чакаць Варашылава з усімі сіламі... Настрой узнімаўся. У даль, у стэп, пайшлі конныя групы разведчыкаў. Завязвалася перастрэлка.

Фіат, пакідаючы хвост чаду, праімчаўся ўніз, на станцыю Ліхую. Не гледзячы на ўсе намаганні—бязладдзе там было страшэннае. Насельніцтва кожнага эшалона імкнулася як мага хутчэй выйсці з гэтага запёртага ў пастцы збоішча вагонаў. У першую чаргу накіроўвалі эшалоны з бежанцамі—дзецьмі, жанчынамі... Але каб прапхнуць поезд на стрэлкі царыцынскага адгалінення, трэба было другому поезду падацца назад, і тут пачыналася сварка—дзікі крык з вагонных вокнаў, з адсунутых дзвярэй цяплушак, пагрозы самасудам, размахванне ручнымі гранатамі...

Руднёў склаў асобую брыгаду пад камандай Чугая,—у ёй былі асілак Бакун, і злы Іван Прахвацілаў, і ўпарты Мікалай Чабрэц, абодвы Крываносы. Брыгада выводзіла вызначаныя паязды на стрэлкі. Угаворы і растлумачэнні былі ні да чаго. Чугай дзейнічаў адной рэволюцыйнай рашучасцю.

Ён не кідаўся, хадзіў валюхаючыся—у расшпіленым бушлаце, на грудзях—татуіраваны кітайскі дракон.

— А ну—падайся, браток,—гаварыў ён машыністу і ішоў удоўж вагонаў, дзе надрываліся людзі...—А ну—закрыць дзверы,

а ну—спакойна... Маю прамову можаце слухаць, браточкі? З кароткім рэволюцыйным лікам—зараз аблію свінцом... А ну—давай кулямёт!..

Бакун, схапіўшы аберуч, валок кулямёт. Іван Прахвацілаў падаў на жывот ля замка. Крываносы падавалі ленту. Чугай,—спакойна адняўшы ад роту папяроску:

— А ну—давай чаргу.

Дзверы цяплушак захлопваліся. У вагонах ад вокнаў шарахаліся людзі... Машыніст, адцягнуўшы ручку свістка, аблягчаў душу аглушальным выццем, штурхаў поезд так, што трашчалі вагоны.

— Галоўнае—спакойнасць,—гаварыў Чугай,—рэволюцыя патрабуе вялікай вытрымкі... А ну—цяпер—давай эшалон з дзецьмі...

Усёткі за дзень трэцяга мая ўдалося прасунуць на Белую Калітву толькі трэцюю частку саставаў. Усю ноч не змаўкала на ўзгорках у стэпе вінтовачная і кулямётная страляніна. З баладзістай роўнядзі павявала вільгаццю, заваллакло зоркі. Было цёмна і страшна. На станцыі і ў вагонах забаронена было запальваць святло,—нават па запаленай запалцы стралялі. Толькі на шляхах паміж саставамі поўзалі, хісталіся, узмахвалі цмяныя агеньчыкі ліхтароў. У вагонах ніхто не спаў, выходзіць баяліся. Сярод грукату буфяроў раптам разлягаўся ў змроку дзікі крык, сухі стрэл, цяжкі тупат ног. І яшчэ здавалася людзям, якія не спалі, што далёкі грукат бою за гарамі робіцца выразнейшым, набліжаецца...

Шмат клопату даставіў эшалон з трыма бліндзіраванымі вагонамі атрада „Бура". Анархісты, якія з самага пачатку трапілі на запасны шлях і былі гэтым надзвычай усхваляваны, атрымалі загад (чарнільным алоўкам на шматку газетнай паперы за подпісамі Руднёва і Арцёма)—зараз-жа выступіць са зброяй на фронт.

Атрад „Бура" пачаў мітынгаваць каля вагонаў. Думкі падзяліліся. Тыя, хто быў маладзейшы, пачалі схіляцца да таго, каб выканаць загад, хоць бы у палавінным складзе. Мацёрыя атрадчыкі, якія былі ў перапалках цяжэйшых за гэтую, катэгарычна патрабавалі аставацца пры эшалоне ўсім і хоць-бы з боем прабівацца на царыцынскія стрэлкі. Сухотны гімназіст з вялікімі вачыма, незгінаны ідэаліст, закрычаў тонкім галаском:

— Таварышы! прышоў момант,—забудзьцеся пра залатыя партсігары, мы-ж не бандыты, мы-ж анархісты!..

Сапляку так грукнулі па патыліцы рэвальвернай ручкай—паваліўся пад колы. Але ўсёткі атрад хістаўся, пакуль стары Якаў Злы не знайшоў формулы. З ступенек пляцоўкі, папраўляючы пенснэ на пляскатым насу, трымаючы ў сухенькай руцэ лісток,—прапанаваў рэзалюцыю.

—„Прыняўшы да ведама",—пачаў чытаць ён з падвываннем і раптам усміхнуўся...

— Го-го-го,—заіржалі, затупалі найбольш мацёрыя з атрадчыкаў.—Крый, Якаў!..

—„Прыняўшы да ведама загад за нумарам такім-та, атрад „Бура" вымушан адхіліць самую форму звароту да яго, бо загад ад каго-б ён ні выходзіў, супярэчыць прынцыпу свабоднага выяўлення волі ўсякай анархічнай асацыяцыі..."

Заляскалі далонямі. Паляцелі шапкі. „Ай ды стары! Вось—розум, дык розум... Каб не былі мы анархісты—узялі-б яго за бацьку“.

Вынесшы рэзалюцыю, атрад „Бура“ пачаў прабівацца на царыцынскія стрэлкі. У адказ на кулямёт Чугая з бліндзіраваных вакенцаў высунуўся дзесятак кулямётных дулаў. Тады Чугай сказаў Бакуну, Івану Прахвацілаву і абодвым Крываносам:

— Адставіць!..—і звярнуўся да анархістаў:—Як разглядаць ваша нахабства? Шкурніцтва ці контррэволюцыя? У гэтым выпадку будзеце мець справу з ваенным трыбуналам 5-й арміі... Кулямётаў у нас хопіць—расправіцца з сволаччу...—Ён расхінуў бушлат, пазногцямі ірвануў цельнік на грудзях, агаляючы сіняга дракана.— Ну? (З хвіліну або нават больш лаяўся на аўральнай марскай мове). Бі ў мае грудзі... Гэта будзе апошняй вашай гадзінай...

Анархісты пачалі хістацца. Чугаю важна было захаваць прэстыж. Уначы ён усётакі прапусціў эшалон з гэтай сволаччу...

Чырвонымі палосамі вызначалася ў тумане ранішняя зара над балоцістай далінай. Забухалі гарматы на ўзгорках,—усё бліжэй, грозней чуліся гукі бою... Набліжалася пагрозлівае гудзенне аэрапланаў. З вагонаў пачалі сыпацца людзі. Жанчыны цягнулі дзяцей пад платформы. У туманным зараве світання абрысы аэрапланаў падобныя на бязлітасных казюлек здаваліся велізарнымі. Чорныя мячыкі, якія ўпалі з іхных крыллаў, быццам ударылі адзін за адным у велізарны жалезны барабан. Задыміліся станцыйныя будынкі.

Паязды манеўравалі сярод бежанцаў, якія мітусіліся. Хутка віднела. Туман адносіла ветрам. Былі ўжо відаць на адхонах апусцелыя хаты—і ўгары—абрысы млыноў. Прасвісталі знарады. Пачаўся артылерыйскі абстрэл станцыі: узляталі клубы бурага дыму. Дрогалася зямля. Пачуўся велізарны выбух вагонаў з агняпрыпасамі.

Тысячы бежанцаў, ратуючыся, пабеглі ад сваіх эшалонаў уніз на балацістую нізіну.

На вакзальным пероне з'явіўся верхаконны, спыніў мокрага гнядога каня і круціў галавой, гледзячы пашыранымі вачыма, што тут робіцца... Ён быў з непакрытай галавой, увесь шэры ад пылу. Міма, не пазнаўшы яго, прабег Арцём—кінуўся да манеўрыруючага паравоза, узабраўся... Некалькі чалавек, зрываючыся падэшвамі па шпалах, штурхалі вагон... Цяжкой разваліцай рыссю праз шлях ішоў Чугай, за ім—высокі Бакун, ссутулены пад цяжарам кулямёта. Людзей і вагоны засціла дымам... Круцячы галавой, нібы надыхаўшыся гэтай гадасці, цягнуўся начальнік станцыі,—на ім усё вісела— і брудны шынель і шчокі, якія ад самых воч зараслі шчацінай. Паспрабаваў узлезці з шляхоў на пляцоўку перона, у знямозе сеў на край яе, узяўся за абвіслыя краі старaражымнай фуражкі, ківаючыся—паўтараў:

— О, божа-ж ты мой!

— Клім, Клім!—закрычалі з вакзальнага вакна. Коля Руднёў пералез на перон, пабег да коннага, на хвіліну прытуліўся ілбом да яго калена.

— А я табе званю па ўсёй лініі... Паслаў коннікаў шукаць...

— Каменскую мы здалі,—сказаў Варашылаў.—Усе часці выведзены з сутыкнення. А ў цябе што добрае?

— Асталася шаснаццаць эшалонаў... Мы к ночы скончым. (На шляхах ізноў ірванула). Ну, як немцам не сорамна, я ўсё думаю... Добра паскуднікі ведаюць, знарок лупяць па мірнаму насельніцтву... (Зноў выбух). Бежанцы! Вось яшчэ—публіка панічная. Разумееш, Клімент Ефрэмавіч, тысяч пяць драпанула на балота...

— Нікога нельга пакідаць. Грузі ўсіх...

— Кулямётаў, разумееш, няма. Я хачу з балота іх кулямётамі папалохаць.

— Парачку я табе дам...

— Вось—дзякую...

Руднёў раптам зморшчыў завостраны нос—прыслухоўваючыся пабег, палез у вакно да тэлефона...

Варашылаў павярнуў каня, пераскочыў праз агарожу станцыйнага палісадніка і спыніўся на дварэ каля студні. Злез, размінаючы ногі. Конь таўхануў яго ў спіну галавой. Варашылаў выцягнуў на рыплівым калаўроце вядро, прытрымліваючы яго знізу каленам, пачаў паіць каня,—той піў, качаючы клубок па горлу. Варашылаў ускочыў у сядло і рыссю пагнаў павесялеўшага гнядога на гару—на ўзгоркі да млыноў...

## 7

Пятрова пад канвоем адвялі на станцыю ў Асобы аддзел. Штабныя яго—руды і доўгавалосы—зніклі ў невядомым кірунку. Атрад пастанавіў: пазіцыі не пакідаць і да прызначэння новага камандзіра быць камандзірам Івану Гарэ.

— Ладна, таварышы,—адказаў на такое рашэнне Іван Гара. (Адбывалася гэта там-жа—на лятучым мітынгу)—Я не ваенны, вы ведаеце. Але комуніст павінен умець камандаваць. І я буду вамі камандаваць у гэтым баю...

Іван Гара паправіў прасоленую рубашку, падцягнуў папругу на пустым жываце, пяцю пальцамі ўлез у пыльныя валасы, адкінуў і крыху прыгладзіў іх і мелькам пакасіўся на Агрыпіну. Яна стаяла тут-жа, сярод шахцёраў, трымаючыся абодвымі рукамі за штык вінтоўкі, і пахмура, нерухомая і бледная ад стрыманага хвалявання за Івана, уважліва пазірала на яго.

— Аддаю першы загад... У баявых абставінах, я—галава, вымае рукі... Значыць: падпарадкаванне смяротна бяссрэчнае... (Нехта на гэта кракнуў. Ён, не дапускаючы да размовы, павысіў голас). Мітынг скончаны, таварышы... Усе пярэчанні прымаю пасля сканчэння боя... Слухаць загад: першае—заняць акопы, у кучы не збівацца, лякацца на дыстанцыі пяці крокаў... Другое—панічна не траціць патроны і наогул не паддавацца ніякай паніцы... трэцяе—цвёрда памятаць, што наступаючы вораг—наш і ўсяго сусветнага пралетарыята класавы гнусны вораг... Свінец і штык—адзіны метад барацьбы з класавым ворагам. Хістанні і трусасць тут не маюць месца.

За гэтыя дні Іван Гара крыху прыгледзіўся да ваеннай справы.

Аддаўшы загад—зараз жа пайшоў выстаўляць старажавое ахраненне. Шахцёрам яго прамова і цвёрдасць спадабаліся. З акопаў паляцела зямля,—капалі хто рыдлёўкай, хто корпаў штыхом і выкідваў рукамі. Іван Гара, расставіўшы сакрэты, вярнуўся і крокаў за трыццаць ззаду лініі на ўзгорку сам выкапаў сабе камандзірскі акопчык. Агрыпіне ён загадаў быць пры сабе для сувязі.

— Вось накачаў справаў, Гапа,—няголасна сказаў ей Іван.—Як я раблю? Усёроўна — як бягу з крутой гары... Раблю, як авантурыст...

Агрыпіна не зразумела гэтага слова, але кіўнула сцвярджальна.

— Мяне, вядома, пацягнуць за гэтыя справы ў Асобы аддзел. Што я адкажу? Я адкажу: таварышы, я зарваўся, але я зрабіў паводле рэволюцыйнага сумлення...

— Спякотна,—сказала Агрыпіна.—Байцы піць хочуць, а вады няма.

— Правільна. Папраўляй першую памылку камандзіра...

Іван Гара седзячы на ўзгорку, на кучцы выкінутай зямлі, размаўляў нібы сам з сабою і нібы сам над сабой пасмейваўся, але вялікія рукі яго, якія ляжалі на каленях дрыжэлі.

— Пакладзі вінтоўку, бяжы ў сяло, Гапа... Знайдзі адкуль хочаш бочку-вадавозку, каня або валоў, — вязі сюды ваду. На, вазьмі наган...

Агрыпіна паклала вінтоўку, узяла ў яго наган і лятучым крокам— у развейваючыхся на ветры казацкіх шараварах—пабегла ў кірунку да млыноў. Іван Гара не разумеў—што яму цяпер, як камандзіру рабіць... А што калі вораг праваландае іх без бою да самае начы? Паўзучы гад Пятроў назнарок не падрыхтаваў ні кухань, ні харчоў. Настрой у байцоў спадзе. Байцы прагаладаюцца. Каб ні дрыжэлі рукі—Іван пастукваў пальцамі па каленях. У гэты якраз час і паказаліся нямецкія раз'езды на ўзгорках. У Івана нібы камень адваліўся ад грудзей. Ён ўсхапіўся, гледзячы з-пад далоні ў далеч стэпу, які бруіўся, празрыстымі хвалямі спёкі... Пабег да акопаў:

— Байцы! Вораг паказаўся. Спакойна падпускайце яго на пяцьсот крокаў... Спакойна ляжыце каля заражаных вінтовак.

Пасля з-за млыноў выляцеў фіат з Арцёмам і Руднёвым.

Крыху пазней з поўначы да Ліхой падыходзіў атрад Лукаша. Дзесяткі вазоў з цяжка параненымі цягнуліся за ім па стэпавай дарозе. Атрад пакінуў фронт пад Каменскай толькі ўчора ўвечары, яго змяніў полк адчайнага Гасцемілава. Ішлі без адпачынку—худыя, аброслыя, з запёклай на тварах сваёй і чужой крывёю. Многія — басанож, іншыя — па пояс голыя, таму што рубашкі былі парваны на бінты. Аблізваючы чорныя губы, байцы ўзіраліся ў хвалі стэпавай спёкі, якія здаваліся прахладнай ракой на гарызонце.

Усе чакалі апошняга боя і нарэшце адпачынку ў сваім эшалоне, пакінутым шэсць дзён таму назад. Камандзір Лукаш ішоў побач з сцяганосцам. Калі ўжо і яму пачынаў мірсціцца чырванаваты міраж скрозь гарачы пыл, Лукаш гаварыў сцяганосцу:

— А ну! Весялей!..

І, павярнуўшыся да нястройнага натоўпу байцоў, запяваў хрыплым тэнарком украінскую вясёлую, каб ногі самі ішлі...

Ад Ліхой усё больш выразна даносіліся грымотныя раскаты, а ў хуткім часе стаў відаць дым, які ўзнімаўся як хмары. Была неадпаведнасць паміж памерамі гэтай баявой навальніцы і кучкай змучаных людзей, якія ішлі туды, каб ударамі штыкоў пралажыць сабе дарогу. Але байцы ўжо ацерпеліся і падцягнуліся, і павесялелі, калі ў далечыні пачалі адрозніваццa ахопленым агнём млыны на крэйдавых узгорках над Ліхой.

Пакінуўшы частку атрада для аховы вазоў, Лукаш павёў рэшту ўсцяж палатна да станцыі. Эшалоны, якія не дайшлі туды, стаялі пустымі. На станцыі гарэла ў некалькіх мясцох. Справа, з узгоркаў набліжалася вялікае воблака пылу. Лукаш пачаў махаць на байцоў: „Чакайце, не страляйце“. Поўсотні коннікаў праімчаліся міма, абдзімаючы пылам і конскім жарам. „Сволачы!“ закрычалі ім услед. Справа паварачвалася відаць зусім дрэнна: фронт уцякаў.

Пад націскам немцаў чырвоныя атрады, трацячы сувязь, адступалі па шырокаму плато. З'яўленне Варашылава аднавіла некаторы парадак. Пазналі яго гнядога каня, калі ён спыніўся на ўзгорку, аглядаючы памеры няшчасця. Ён паімчаўся да прыгнутых постацей, якія ўцякалі ад кулямётнага агня.

— Штаны згубіш! Спыніся!

Заскочыўшы наперад, нацягнуўшы цуглі, абапіраючыся рукой на крыж каня, крычаў:

— А ну! Наперад! Давай!

Імчаўся далей, гняды яго конь хроп—і з сядла зваліўся ў акоп да шахцёраў.

— Хлопцы, бруха пралежалі! Давай наперад!

Цяжкія, як мядзведзі, шахцёры ўсхопліваліся і беглі за камандзірам, пакуль ён, задыхнуўшыся, не прысаджваўся на кортачкі...

— Акапвайся! Хто ў вас камандзір?

Да яго падышоў Іван Гара. Кулі раз-па-разу прасвіствалі каля вушэй. Варашылаў крыкнуў яму: „Не рызыкаваць!“ Іван Гара сеў на каленкі, гледзячы яму ў вочы.

— Гэта зноў ты? А дзе камандзір Пятроў?

— Ліквідавалі.

— Правільна. Твой атрад флангавы. Ты цяпер трымаеш увесь фронт. Зразумела табе? (У Івана Гары ў пачырванелых вачах прамільгнуў жах). Трымацца да апошняга...

— Дазвольце пытанне, таварыш камандарм...

— Ну?

— Наконт абдзірання трупаў...

— Што?

— Нямецкіх.

— Што?

— Лічыць гэта марадзерствам? Ці як? Рэбята мае голыя, босыя...

— Цябе—што—у галаву кантузіла?

— Кантузіла, таварыш камандарм... Хлопцы мае суткі не еўшы...

Азвярэлі... Адно ім—давай штыкавы... Давай ім бацінкі, штаны, курткі з інтэрвентаў...

Казаў ён нібы брахаў, прысунуўшы да твару камандарма,—вялікі нос і рот у яго былі перакошаны ад болю. Варашылаў зразумеў, што калі цяпер засмяецца (а быў ён уражлівы і смяшлівы)—дзівак пакрыўдзіцца на ўсё жыццё.

— Думаць яшчэ можаш?

— Магу, таварыш камандарм.

Тады Варашылаў паказаў яму на ўзгоркі—наперадзе: іх трэба было заняць ва што-б там ні было і трымацца на іх да начы.

Варашылаву бегам падвялі каня, вёў яго за ўздэчку,—як здавалася,—чорнабровы юнак-хлапчук, з асунутым, разгубленым бязлітасным тварам...

— Ён гадзіну без памяці ляжаў, ён табе не гаворыць гэтага,—сказаў хлапчук жаночым дрыглівым голасам... (Каня закранула куляй па вуху, трасянуў галавой).—У яго і морду ўсю перакрывіла...

— Ну?—Варашылаў нецярпліва ірвануў повад.

— Ты прышлі знізу каго-небудзь дапамагчы...

Варашылаў кіўнуў, ускочыў у сядло, паімчаўся ў кірунку да палаючых млыноў.

Канец гэтага дня быў жахлівы. Конныя і пешыя немцы напіралі, здавалася, з усіх бакоў. Іх гарматы раўлі па ўсім гарызонце. Нізка праносіліся аэрапланы. Увесь стэп кіпеў выбухамі, нібы сама зямля лопалася, выкідаючы ўраганы пылу. Пылам і дымам засцілала лядзянае сонца.

На станцыі гарэлі вагоны, узрываліся платформы з знарадамі. Шляхі былі засыпаны дымнымі асколкамі, валяліся скалечаныя трупы, паўзлі, крычалі параненыя. Валіла пара з бакоў параненых паравозаў, некаторыя заваліліся ўгару коламі. Артылерыйскі агонь, які ўзмацняўся, раскідаў усё, што яшчэ аставалася некранутым.

У гэтай неймавернай абстаноўцы эшалоны ўсёткі прадаўжалі адыходзіць, збіраючы людзей, якіх зганялі з станцыі і з балота. Варашылаў, Арцём, Коля Руднёў, Чугай з сваёй брыгадай,—аглушаныя, ачмурэлыя ад напружання і стомы, якія за гэтыя дні пераступілі за мяжу жыцця,—адной мужнасцю, рашучасцю змагаліся з панікай, рабілі тое, што яшчэ было магчыма ў гэтым пекле: сабраць людзей у апошнія эшалоны і вывесці іх на царыцынскія стрэлкі. Разбітыя вагоны і параненыя паравозы ўзрывалі гранатамі.

З узгоркаў, дзе дагаралі млыны, па ўсіх дарогах да Ліхой імчалася групамі і па адным адступаючая кавалерыя. Імчаліся гарматныя запражкі без гармат... Страляючы ў паветра, адступалі нястройнымі кучкамі атрады. Яны сустракалі Арцёма, які спрабаваў спыніць іх,—верхам, увесь у копаці, мокры, страшэнны, у разадранай гімнасцёрцы,—ён пагражаў, хрыпеў з каня, налітыя крывёю вочы яго здаваліся страшней за кулямёты. Людзі спыняліся, і ўдавалася пасылаць іх назад. Але ўжо ўвесь фронт спяшаючыся адступаў, цягнучы за сабой тых, хто варочаўся ў бой...

Атраду Лукаша, які падаспеў, таксама нямнога ўдалося зрабіць.

Думалі аб адным—каб толькі вораг не ўварваўся ў Ліхую на плячах адступаючых. Чакалі падыхода Гасцемілава з ар'ергардам, за якім быў пасланы эшалон. На станцыі аставаліся толькі палаючыя вагоны. Дагаралі пакгаузы. Атрады пакінуўшыя фронт, накіроўваліся—конныя і пешыя—па царыцынскай ветцы.

Не гледзячы на разгром і ўцекі—задача ўсеткі была выканана: амаль усе шэсцьдзесят эшалонаў (за выключэннем невялікай колькасці ўзарваных і разбітых) прарваліся з мяшка на Белую Калітву.

— Гапка, патроны яшчэ ёсць?

— Ды не, няма...

— Што-ж рабіць, га? Ты прыгледзься. Вунь, яны ідуць...

Гаварыў Валодзька, хлапец прасты, але надзейны, спакойны. Ён падпоўз да камандзірскага месца па патроны. Дзве апошнія жасцянкі валяліся пустыя. Каля іх—ніцма—ляжаў Іван Гара.

Агрыпіна прыўзнялася, абапіраючыся на рукі, углядаючыся. Стэп быў пусты, цёмны. У пацямнелае зарава закату валіў павольны дым. Ззаду дыхала пажарышча Ліхой. Чырванаваты цень ад гапкінай галавы пацягнуўся праз кусцікі палыну.

І закат і зарава нібы ўзляталі ў неба, калі на чорным гарызонце асляпляючымі языкамі ўспыхвалі агні з гарматных жэрлаў. Тады Агрыпіна выразна адрознівала чалавечыя фігуркі. Яны ішлі сюды да ўзгорка, дзе яшчэ трымаліся рэшткі шахцёрскага атрада.

— Камандзір кончыўся, Гапка?

— Не!—каротка адказала яна.

— Як—не... Не дыхае...

Валодзька пачаў мацаць каля Івана, і ў кішэнях яго, і ў сумцы,—знайшоў некалькі абойм.

— Гапка... Ну сем, ну восем чалавек нас і засталося ўсяго... Чаго-ж мы без патронаў стаім.. Ісці трэба...

— Ідзіце...

Валодзька, сеў задам на голыя пяткі, сапучы—уклаў абойму. Зноў выразна выступіў са змроку ўвесь стэп, вызначыліся на ім вугальна-чорныя згорбленыя фігуркі. Валодзька выпусціў па іх абойму,—пры кожным стрэле аддаючыся назад усім корпусам...

— Ідзі, Гапка...

Ён пацягнуў яе. Яна з сілай вырвала руку. Валодзька, нізка нагінаючыся, пабег пад пасвістваючымі кулямі—у змрок. Агрыпіна асталася каля Івана. Ён ляжаў доўгі, нерухомы, нібы зросся з зямлёй. Ці быў ён мёртвы, ці толькі без памяці, аглушаны ранейшай кантузіяй? Агрыпіна не разумела ды і не думала пра гэта. Усёроўна—жывы ён ці мёртвы,—яна пакінуць яго не магла. Цяпер яны былі адны на ўзгорку. Хлопцы папаўзлі, пашлі—і добра зрабілі: чаго-ж з голымі рукамі...

Агрыпіна сядзела, выставіўшы калена, паклаўшы на яго цяжкую вінтоўку, даючы адпачыць рукам. Сціснуўшы галаву, глядзела з-пад ілба ў стэп... У вінтоўцы было пяць куль,—што будзе далей? Думка яе не працавала. Думак і наогул не было,—толькі страшэнная нерухомасць...

Яна пазірала якраз на тое месца ў стэпу, куды ей паказаў Валодзька... Зноў вызначыліся пераўвялічанымі ценямі ўсе рыцвіны зямлі, кусцікі... Агрыпіна здрыганулася, задыхнулася страхам: чорныя здаравенныя людзі беглі за трыццаць, за дваццаць крокаў... Яна стрэліла... Пачуўся шалёны крык... Успышка... Траскатня... Тупат... Людзі беглі да яе і другія людзі ззаду яе—да гэтых чорных... Ірвануліся гранаты... Нехта наляцеў на яе з-за спіны, мацерна лаючыся, Агрыпіна рукамі, грудзямі, тварам упала на Івана.

Гэта быў пасланы Варашылавым атрад Лукаша—апошняе намаганне адкінуць ворага ад Ліхой... Немцы або спешаныя казакі—чорт іх разбярэ ў змроку,—адкаціліся і больш у гэтую ноч да раніцы не аднаўлялі наступу...

Па грунтавой дарозе збоку палатна стомлена ішлі шэсць чалавек. Пяцера цягнулі кулямёты, якія дрынкалі каткамі. Шосты—Аляксандр Якаўлевіч Пархоменка—цягнуўся ззаду, сагнуўшыся пад цяжарам кулямётных лент.

Гэтыя шасцёра былі апошнімі ў ар'ергардзе пятай арміі. Пархоменка на бронепоездзе прыкрываў адступленне, якое ператварылася пад канец ва ўцекі. Да змроку ён адстрэльваўся з зеніткі ад аэрапланаў, кулямётамі разганяў конную казачую сволач, біў з цяжкой гарматы ўсцяж палатна ў кірунку Каменскай.

У змроку падышлі да Ліхой. Там усё палала. Усе шляхі былі паразвернуты. Усе эшалоны, усе атрады былі ўжо далёка наперадзе на шляху ў Белую Калітву.

Пархоменка і пяць чалавек, што асталіся ў бронепоездзе—зенітчык, тры артылерысты, кулямётчык і машыніст,—знялі кулямёты, папсавалі ўсе гарматы і, развёўшы пару ў паравозным катле да выбуху, пусцілі бронепоезд назад да Каменскай—насустрач нямецкаму. Самі-ж пайшлі пехатою, збіраючы па дарозе каштоўную зброю.

Прашоўшы Ліхую, яны павярнулі па царыцынскай ветцы. За спіной у іх дымным заравам гарэла Ліхая, асвятляючы апусцелы стэп. Яны ўбачылі чалавека, які сядзеў на адхоне чыгуначнага палатна. Спыніліся перадыхнуць, Пархоменка скінуў з плеч цяжкія ленты і запытаўся:

— Ты чаго там?

— Нагу прабіў,—памаўчаўшы адказаў чалавек.

— З фронта?

— Вядома...

— Што ў вас там?

— Пайшлі ўсе...

— Камандарма не бачыў?

Чалавек зноў памаўчаў і—ўпэўнена:

— Каня ўкралі ў яго...

— У Варашылава каня? А сам ён дзе?

— Хто яго ведае? Загінуў, мабыць... Тут яго шукалі нейкія конныя.

Пархоменка, павярнуўшыся, доўга глядзеў ў кірунку Ліхой, дзе пад непрагляднай хмарай дыму скакала полымя і ад дахаў, якія абвальваліся, узляталі хвасты іскраў. Падняўшы ленты, зноў узваліў іх на сябе. Павольна пайшлі далей. Пархоменка, як брата любіў Варашылава. Былі яны землякі—луганцы. У абодвых была цяжкая маладосць. Разам працавалі ў большэвіцкім падполлі. Няўжо сябра загінуў? Дрэнная гэта вестка, што ў яго ўкралі каня, не дарэмна яго шукаюць. Камандарм не іголка. Наляцеў мабыць на шальную кулю і конь паімчаўся без сядака...

Александр Якаўлевіч ішоў, сагнуўшыся, адчуваў,—ліха на іх,— што вусы ў яго мокрыя...

Ён так задумаўся, што адстаў. І доўга не чуў, як таварышы клікалі яго. Яны паказвалі ў кірунку зарава: адтуль па дарозе, гонячы перад сабой доўгі чырванаваты цень, ехаў нейкі чалавек крокам на невясёлым кані.

— Александр Якаўлевіч, зірні-ка, ці не той гэта чалавек, што каня ўкраў у Клімента Ефрэмавіча. Конь, як быццам, той самы...

— Дай вінтоўку!—прахрыпеў Пархоменка, рэзкім рухам вызваляючыся ад аблытваючых яго лент.—Эй, кавалерыст,—на ўсё горла закрычаў ён, ідучы насустрач konніку.—Кавалерыст, едзь ка мне... Чуеш, так тваю гэтак... Зсаджу!

Ён падбег да конніка, бразгаючы затворам. Праўда! Гэта быў конь камандарма—па ўсіх ухватках яго конь... Кавалерыст, быццам, не чуючы, што яму крычаць, сядзеў апусціўшы непакрытую галаву, апусціўшы рукі з павадамі. Пархоменка ашалела схапіў каня за цуглі. Кавалерыст зірнуў на яго...

— Клімент Ефрэмавіч!—крыкнуў Пархоменка.—Клім, а мы...

Пазнаўшы Александра Якаўлевіча, камандарм крыху павесялеў. Павярнуўся ў сядле і доўга глядзеў на пажарышча.

— Бачыў?—запытаў ён, зноў спахмурнеўшы.—Бачыў нашу ганьбу?

Рука яго, апусціўшы павады паднялася, як быццам яшчэ не ведаючы што ёй рабіць... Ён апусціў руку і зноў схіліў галаву.

— Пачакай, Клім...

Пархоменка так наваліўся на плячо гнядога,—той хістануўся, пераступіў мацней...

— Я цябе разумею... Ганьба, вядома, ёсць.

— Ганьба!—упэўнена паўтарыў Варашылаў.

— Пачакай-жа, давай пагаворым... Увесь план быў выпрацаваны правільна... І ўвогуле план выкананы... Армія ўскладзенага задання не выканала... (Варашылаў скрыгануў зубамі). Публіка-ж маладая, неўраўнаважаная... Адна справа наступаць... А што,—не білі мы нямецкіх генералаў? А іншая справа адступаць... Тут патрэбна вытрымка. Ну, гарматы пакідалі, кулямёты... А страты ў нас роўным лікам глупства... У царскую вайну карпусы гінулі... А мы армію усёткі вывелі з агня... Усёткі перамога не ў немцаў, а ў нас...

Варашылаў раптам, нібы адлягло ад душы, няголасна засмяяўся.

— Дзівак ты неймаверны, Саша...

Саскочыў з гнядога і павёў яго да пяцярых таварышоў,— якія стаялі на дарозе,—каб дапамагчы цягнуць кулямёты.

## Раздзел дзевяты

### 1

Контррэвалюцыя шырока раскінула чорныя крыллі па ўсіх неабдымных прасторах савецкай дзяржавы.

Японцы занялі Уладзівасток, пачынаючы гэтым заваёву ў Сібіры, якая павінна была ўвайсці па самы Урал у „Вялікую Японію“.

Немцы ў парту Гангу высадзілі дэсант у дапамогу фінскай буржуазіі, якая залівала крывёю савецкую Фінляндыю.

У Кіеве генерал Эйхгорн разагнаў Цэнтральную раду—усіх эсэраў, меншавікоў, ліберальных адвакатаў і вясковых настаўнікаў, якія гулялі ў Запарожскую Січ, і паставіў гетманам усёй Украіны паслужлівага, добра выхаванага, на погляд немцаў, свіцкага генерала Скарападскага.

У Новачаркаску на Дану, пад абаронай немцаў, сабраўся „Круг выратавання Дону“ на якім казачае афіцэрства і заможныя станічнікі выбралі паказанага немцамі маладога гаваркога генерала Краснова ў атаманы Усевялікага войска Данскога, і Красноў пакланіўся кругу на тым, што к восені ачысціць данскія акругі разам з прыволжскім Царыцынам ад чырвоных.

Немцы, адхіліўшы заляцанні аўстрыйцаў, занялі войскамі ўвесь Крымскі поўвостраў і расійскім „лібералам“, якія там ратаваліся і не станавілі сабой ніякай небяспекі, прапанавалі стварыць крымскую дзяржаву.

Так германскі імперскі ўрад прыступіў да рэальнага ажыццяўлення шырока задуманага плану „Вялікай Германіі“.

У стэпах, на стыку Дону і Кубані, Дабраахвотніцкая армія разбітая ў сакавіку месяцы большэвікамі пад Екацерынадарам і страціўшая свайго арганізатара і кіраўніка Карнілава,—пад гасціннай абаронай атамана Краснова ператваралася ў грозную сілу. Турцыя, Германія і Англія прабіраліся сілай і хітрасцю на Каўказ. Яшчэ слаба з'ядналая федэрацыя закаўказскіх рэспублік распалася,— усе варожыя большэвікам сілы разадралі яе на зданнёва-незалежныя рэспублікі—меншавіцкай Грузіі, Арменіі і Азербайджана, прымушаных ураз-жа шукаць сабе багатых гаспадароў.

Але самы адчувальны ўдар па ледзь пачынаўшай жыць савецкай дзяржаве нанесены быў у Сібіры. Там савецкая ўлада трымалася на неймаверным напружанні ўсіх сіл: Сібір павінна была карміць хлебам рэволюцыю. Масква хвастала камісараў тэлеграмамі: „Хлеба, хлеба...“ Харчовыя атрады з прышлых з Расіі або сібірскіх рабочых узнімалі канцовыя вёскі, якія захоўвалі звычаі авакумаўскага раскола, заможных хутаран, якія сядзелі на тысячах дзесяцін пахаці і водных угоддзяў. Барадатае сібірскае купецтва ледзь стрымлівала ярасць. Раскіданае па гарадах кадравае афіцэрства, не хаваючыся, збіралася ў белыя саюзы. Эсэры, выгнаныя з Масквы і Піцера, меншавікі, члены Устаноўчага сходу рыхтаваліся адарваць ад савецкай Расіі такі кавалак, як Сібір.

Дваццаць пятага мая ад Пензы да Іркутска ўзбунтаваліся

эшалоны чэхаславацкага корпуса, якія павольна прасоўваліся па аднакалейнай магістралі ва Владзівасток.

Чэхаславацкія войскі былі добра ўзброены і ў абставінах разагрэтай да чырвонага класавай барацьбы станавілі сабой грозную сілу. Іх эшалоны, якія расцягнуліся на тысячы вёрст, прыбраныя хваёвымі веткамі, прыцягвалі ўвагу тых, хто шукаў зброю для звяржэння советаў.

Консулы дзяржаў Згоды, члены разагнанага Устаноўчага сходу, афіцэры з розных ліг ратавання, эсэры—па дырэктывах свайго цэнтральнага камітэта—вялі шалёную прапаганду за тое, каб чэхаславакі ўмяшаліся, нарэшце, у расійскія справы.

Чэхаславацкія эшалоны па ўказцы французскага штаба ўзбунтаваліся амаль аднычасова па ўсіх станцыях і гарадах сібірскай магістралі, узнімаючы за сабой буржуазныя белагвардзейскія і кулацкія паўстанні.

Сібір адразу аказалася адрэзанай. Перш за ўсё гэта значыла неймаверны скачок голада. Знікла яшчэ адна харчавальная артэрыя. Пролетарскія цэнтры, якія забяспечваліся васьмушкай хлеба, асталіся з запасамі толькі на некалькі дзён. Контррэволюцыя радавалася: здавалася, яшчэ адно намаганне—якіх небудзь два-тры тыдні,—і насельніцтва абодвых сталіц, пакінуўшы дамы, пакінуўшы напіта адчыненыя вароты заводаў і фабрык, распаўзецца па дарогах, паміраючы ў канавах, і Совету Народных Камісараў на каленях прыдзецца прасіць літасці.

## 2

Суадносіны ўзброеных сіл былі такія, што контррэволюцыя, здавалася, няўхільна, як у шахматнай партыі, перамагала. Цудаў няма. У Маскве сабралася ўсерасійская нарада партыі меншавікоў (якія яшчэ ўваходзілі ва Усерасійскі цэнтральны выканаўчы камітэт). Яны вынеслі рэзалюцыю: „Расію можа выратаваць толькі саюз з Антантай“ і цвёрды лозунг: „Назад—да капіталізма“.

„Левыя комуністы“ шалёна вялі фракцыйную барацьбу супроць лініі Леніна.

Цвёрда, наўпярок усяму, стаялі Ленін, Сталін, Свердлоў. Трэба было, не трацячы дня і гадзіны, змяніць узаемаадносіны сіл.

Полчышчам і бандам контррэволюцыі, японскім дрэдноутам, германскім гарматам і антантаўскаму золату, невычарпальным запасам харчоў і вопраткі, вугалю, нафты і жалеза—на тым баку—Кастрычніцкая рэволюцыя супроцьпаставіла канкрэтныя задачы сусветна-гістарычнай цяжкасці і значэння.

Даклад Леніна „Чарговыя задачы совецкай улады“, рэзалюцыя Усерасійскага цэнтральнага выканаўчага камітэта ад 20 мая, адозва Совета народных камісараў і дэкрэт *11 чэрвеня* аб арганізацыі вясковых камітэтаў беднаты прагрымелі меднымі трубамі над усім ускалмачаным, усхваляваным, бяскрайным вясковым светам. Дэкрэты абвяшчалі жыццёвыя асновы соцыялізма. Арганізоўваліся вясковыя камбеды. Творчасць нікім ніколі не спрабаванага, нікім ніколі не бачанага соцыялізма, творчасць ад самых нізоў жыцця да плані-

руючых праблем Совета народнай гаспадаркі рабілася з гэтага часу рэальнай формай жыцця.

У галоднай Маскве быў скліканы першы з'езд советаў народнай гаспадаркі, і на ім Ленін развіваў асновы соцыялістычнай перабудовы краіны.

Члены з'езда, атрымаўшыя ў перапынку паседжанняў па кавалачку чорнага, сырога, асцістага хлеба, слухалі, спрачаліся і прымалі рашэнні з спакойнасцю людзей, якія ўсведамляюць параўнаўчыя памеры паміж часовай цяжкасцю і велічынёй гістарычнай задачы. У гэтым не было нічога незвычайнага: у гэтым выяўляўся творчы дух Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі,—калі пакутлівы голад падвёў яе не да смерці, як спадзяваліся інтэрвенты і контррэволюцыянеры,—але да творчасці новых, ніколі нікім не спрабаваных, форм гаспадарчага жыцця.

Палітычная і эканамічная ўлада у краіне адыйшла да класа, які вёў за сабою ўпершыню ў гісторыі чалавецтва большасць насельніцтва—усю масу працоўных і эксплаатаваных. Пастаўлены найвялікшай важнасці і найвялікшай цяжкасці задачы. „Нам трэба зусім па-новаму арганізаваць самыя глыбокія асновы жыцця соценъ мільёнаў людзей“.

Так гаварыў Ленін на гэтым з'ездзе. Дэлегаты слухалі яго,—худыя твары былі сур'ёзныя, ілбы наморшчаныя. Ён адпіваў некалькі кропель з шклянкі і, падшукваючы дакладныя фармуліроўкі ідэй, злёгку картавячы,—казаў зале:

— У нас няма папярэдняга вопыту. Усё што мы ведалі, што нам дакладна ўказвалі лепшыя знаўцы капіталістычнага грамадства, найбольш буйныя розумы, якія прадбачылі яго развіццё,—гэта тое, што пераўтварэнне павінна гістарычна няўхільна адбыцца па такой та буйнай лініі, што прыватная ўласнасць на сродкі вытворчасці асуджана гісторыяй, што яна лопне, што эксплаататары няўхільна будуць экспрапрыяваны...

Гэта мы ведалі, калі бралі ўладу для таго, каб прыступіць да соцыялістычнай рэарганізацыі, але ні форм пераўтварэння, ні тэмпа шпаркасці развіцця канкрэтнай рэарганізацыі мы ведаць не маглі. Толькі калектыўны вопыт, толькі вопыт мільёнаў можа даць у гэтых адносінах рашаючыя ўказанні... Нам трэба ў самым разгортванні работ, выпрабоўваючы тыя альбо іншыя ўстановы, назіраючы іх на вопыце, правяраючы іх калектыўным агульным вопытам працоўных і галоўнае, вопытам вынікаў работы,—нам трэба тут-жа, у самым разгортванні работы, і прытым у стане жорсткай барацьбы і шалёнага супраціўлення эксплаататараў будаваць наш эканамічны будынак. Зразумела, што пры такіх умовах няма ні ценю падставы для песімізма...

Совет народных камісараў не падаў на калені, не прасіў літасці. Партыя большэвікоў крута паварачвала Кастрычніцкую рэволюцыю насустрач цяжкасцям, дзе яна павінна была чэрпаць сілы і творчасць. Цяжкасці былі ў тым, каб перамагчы голад і разарваць вузеўшы круг контррэволюцыі, і ў той, яшчэ больш грандыёзнай задачы—перад рабочым класам—аддаць увесь накоплены капіта-

лізмам запас культуры, ведаў і тэхнікі на патрэбу пабудовы новага жыцця.

Замест хлеба, дроў для печкі і цёплай вопраткі, патрэбных цяпер, зараз-жа, рэволюцыя прапаноўвала сусветныя скарбы, рэволюцыя патрабавала ад пролетарыята, які ўзяў увесь цяжар улады, усю адказнасць дыктатуры,—намаганняў, здавалася, звышчалавечых. І гэта, і толькі гэта выратавала рэволюцыю: велічнасць яе задач і суровасць яе маральных паводзін.

Тры лозунгі былі абвешчаны ў гэты страшны час: першае—цэнтралізацыя харчовай справы з цвёрдымі цэнамі на хлеб, які павінен быць узяты ў кулацтва крыжовым паходам харчовых атрадаў, другое—аб'яднанне пролетарыята, самых шырокіх, яшчэ цёмных і забітых пластоў працоўных, і трэцяе—арганізацыі вясковай беднаты ўсіх мільёнаў, раскіданых па неабсяжных вясковых гаспадарках батракоў, беднякоў, незаможнікаў.

## 3

Владзімір Ільіч шчоўкнуў выключацелем, гасячы лямпачку на рабочым стале (электрычнасць патрэбна было эканоміць). Пацёр стомленыя вочы. За незанавешаным раскрытым вакном яшчэ сінеў ціхі вечар. Засынаючы, абзываліся галкі на крэмлёўскай вежы...

— Я толькі што атрымаў весткі, праўда, яшчэ неправераныя,— сказаў Сталін.—У Царыцыне, Саратаве і Астрахані советы адмянілі хлебную манаполію і цвёрдыя цэны...

— Галавацяпы!—Владзімір Ільіч пацягнуўся па аловак, але не ўзяў яго.—Слухайце,—гэта-ж чорт ведае што такое!

— Не думаю, каб—проста галавацяпства... На Ніжнім Паваложжы з хлебанарыхтоўкамі сапраўдная вакханалія... Яшчэ горш на Паўночным Каўказе і ў Стаўропальскай губерніі. Не сёння—заўтра Красноў перарэжа дарогу на Тіхарэцкую, мы страцім і Каўказ, і Стаўропаль... Так далей нікуды не варта...

Галак на вежы штосьці ўстрывожыла, яны ўзняліся і зноў селі.

— Канкрэтна—што вы прапануеце, таварыш Сталін?

Сталін цярнуў запалку аб карабок, галоўка зашыпеўшы адскочыла, ён чыркнуў другую,—агеньчык асвяціў яго прыжмураныя, нібы ўсмешкай, бліскучыя вочы з прыўзнятымі ніжнімі павекамі.

— Мы недаацэньваем значэнне Царыцына. На сёнешні дзень Царыцын—асноўны фарпост рэволюцыі,—сказаў ён, як заўсёды, быццам углядаючыся ў кожнае слова.—Магістраль Тіхарэцкая—Царыцын—Паворына—Масква—адзіная, якая асталася ў нас, харчавальная артэрыя. Страціць Царыцын—значыць даць з'яднацца Данской контррэволюцыі з казацкімі вярхамі астраханскага і ўральскага войскаў. Страта Царыцына адразу створыць адзіны фронт контррэволюцыі ад Дону да чэхаславакаў. Мы страчваем Каспій, мы пакідаем у бездапаможным стане совецкія войскі Паўночнага Каўказу.

Владзімір Ільіч уключыў лямпачку. Белае святло лягло на паперы і кнігі, на вялікія з рыжаватымі валаскамі яго рукі, якія спяшаючыся шукалі нейкі лісток. Сталін гаварыў напоўголаса:

— Уся наша ўвага павінна быць цяпер накіравана на Царыцын. Абараняць яго можна,—там трыццаць пяць, сорок тысяч рабочых і ў акрузе—найбагацейшыя запасы хлеба. За Царыцын трэба біцца.

Владзімір Ільіч знайшоў, што яму было патрэбна, хутка ўзлакаціўся, паклаўшы далонь на лоб, прабег вачыма спісаны лісток.

— Крыжовы паход па хлеб трэба ўзначаліць,—сказаў ён.— Памылка, што гэта не было зроблена раней. Слаўна! Слаўна!— ён адкінуўся ў крэсле і твар яго зрабіўся ажыўленым, хітраватым.—Вызначаецца цэнтр барацьбы—Царыцын. Слаўна! І вось тут мы і пераможам...

Сталін усміхнуўся пад вусамі. З стрыманым захапленнем ён глядзеў на гэтага чалавека—найвялікшага аптыміста гісторыі, які бачыў у самыя цяжкія хвіліны цяжкасцей тое новае, што нараджалася гэтымі цяжкасцямі, што можна было ўзяць, як зброю для барацьбы і перамогі...

Трыццаць першага мая ў маскоўскай „Правде“ быў апублікаваны мандат:

„Член Совета народных камісараў, народны камісар Іосіф Вісарыёнавіч Сталін, назначаецца Советам народных камісараў агульным кіраўнікам харчовай справы на поўдні Расіі, з наданнем яму надзвычайных правоў.

Мясцовыя і абласныя соўнаркомы, соўдэпы, рэўкомы, штабы і начальнікі атрадаў, чыгуначныя арганізацыі і начальнікі станцый, арганізацыі гандлёвага флота, рачнога і марскога, паштова-тэлеграфныя і харчовыя арганізацыі, усе камісары абавязваюцца выконваць распараджэнні таварыша Сталіна.

Старшыня Совета народных Камісараў:

*В. Ульянаў (Ленін)*

## Раздзел дзесяты

### 1

Царыцын стаіць на голых, спаленых сонцам узгорках на правым беразе Волгі. За горадам пачынаюцца бурыя стэпы, пераразаныя высыхаючымі рэчкамі і гліністымі ярамі. На поўнач—усцяж ракі—цягнуцца лесапільныя заводы і слабоды, дзе жывуць тысяч дваццаць рабочых лясной і сплаўнай справы і ўсякія людзі, якія бадзяюцца летам па Волзе ў пошуках заработкаў. На поўдні за горадам буйныя заводы: гарматны і французскі металургічны.

Царыцын быў прамысловым і гандлёвым цэнтрам усяго паўднёвага ўсходу. Праз яго ішоў хлеб і скаціна, і нафта, і рыба з Каспія. Выабражэнне адмаўлялася ўявіць сабе месца менш падобнае на цэнтр. Горад—дрэнны, драўляны, голы, пыльны. Драўляныя домікі яго слабод павернуты задам—адхожымі месцамі—на раскошны прастор Волгі, а пузырчатымі вакенцамі—на незамошчаныя вуліцы, якія спускаліся з узгоркаў у яры. Толькі з цэнтра некалькі вуліц, сяк-так забрукаваных булыжнікам, размываемых патокамі, прапя-

каемых сонцам, вядуць да засмечанага берага Волгі, да параходных прыстаняў, складаў, дашчаных балаганаў і крамак з квасам і крэндзелямі, сушаным тараном, махоркай і семечкамі.

У цэнтры горада, як належыць, на вялікай плошчы, дзе крузяцца пыльныя смярчы, высіўся, каб быць відным за поўсотні вёрст кафедральны сабор. У царкоўнай агарожы, пад абламанымі кустамі акацыі блішчэла бітае шкло вінных бутэлек, ды спалі абшарпанцы. Плошчу абкружалі непрыгожыя каменныя дамы яшчэ нядаўна славутага купецтва. Ва ўсе бакі цягнуліся вуліцы з тэлеграфнымі слупамі замест дрэваў. Іх пэрспектывы,—дзе чалавечая радасць таксама павінна была высахнуць, як гэтыя алеі з сасновых слупоў,—нізіліся і галелі ад цэнтра да ўскраін.

Толькі адно месца было адведзена для скупых увесяленняў па вечарах, якія не ведаюць прахлады,—бульвар з абламанай запыленай акацыяй і гэткі-ж чэзлы гарадскі сад. Абывателі, расшпіліўшы каўняры рускіх рубашак, гулялі там, паплёўваючы семечкамі, пылячы нагамі ў чорных штанах, жартавалі з абывательніцамі.

У цэнтры сада ў ракавіне іграў струнны аркестр,—дзесятак яўрэяў, якія ўцяклі ад украінскіх пагромаў. Некалькі высока падвешаных газавых ліхтароў, ахутаных воблачкамі начных матылькоў, асвятлялі непакрытыя столікі, дзе можна было атрымаць піва, шашлыкі і чабурэкі... Тут трымалася публіка чысцейшая,—„дамачкі“ ў халсцінкавых зграбных плаццях, якія панаехалі з поўначы, барадатыя інтэлігенты, якія нудзіліся, афіцэры, якія скрывалі сваю прафесію, нізенькія тоўстыя спекулянты ў рубашках фасона „апаш“, прасмярдзелыя потам журналісты з прыхлопнутых большэвікамі газет і шмат розных людзей, гнаных, як сарваныя ветрам лісты, з горада ў горад у пошуках параўнаўчага парадку, мінімальнага спакою і белых булак.

Белых булак і іншых харчоў тут было досыць у крамках у прыватнікаў, якія гандлявалі да поўначы. Праўда, каштавала гэта надзвычай дорага, але і на тым дзякуй. Большэвіцкія ўлады не ў прыклад Маскве і Піцеру ўладарылі тут цярпіма, нават з некатарым дабрадушшам. І многія прыезджыя лічылі за лепшае панудзіцца яшчэ нейкую колькасць тыдняў да перавароту, да поўнага вызвалення ад большэвіцкага жаху, чым падвяргаць сябе выпадковасцям прывабнага, але надзвычай небяспечнага цяпер, прасоўвання далей на поўдзень у вызвалены атаманскі Навачэркаск, які гудзе пераможнымі званамі, або—„за мяжу“: у дзівосны Крым, у прыгажун Кіеў, супакоены чыста падмеценымі немцамі.

Зусім іншае адбывалася на абодвых ускраінах горада. На гарматным і металургічным заводах, сярод успыхваючых, як пажар, мітынгаў, дзе невялікая колькасць комуністаў адбівалі беспартыйную масу ў меншавікоў і эсэраў,—таропка рамантавалася ўсякая зброя, рыхтавалася абсталяванне для бронепаяздоў і бранявых параходаў.

На лясных прыстанях, на сарака шасці лесапільных заводах на бендэжках (дзе раздаюцца нарады) фармаваліся „берагавыя баявыя атрады“.

Казачыя паўстанні падступілі цяпер да самага рубяжа—да Дону

і перакідваліся на левы яго бераг. Пала Пяціізбянская, наўскасяк да яе паў Калач—велізарная левабярэжная станіца.

Царыцынскія рэдзенькія атрады, якія трымалі фронт пад станцыяй Чыр, адступілі праз чыгуначны мост на левы, лугавы бок Дону. Дваццаць другога мая белыя ўзарвалі мост, заходняя ферма яго рухнула з трыццацісажнёвай вышыні на пясчаную отмель. Шлях на Белую Калітву, адкуль павольна ішлі на дапамогу Царыцыну эшалоны Варашылава, быў адрэзаны.

Паўстанні палыхалі далёка на поўначы Дону, і чуваць было, што казакі ідуць на Паворына, каб адрэзаўшы Маскву ад Царыцына, ахапіць яго мёртвай падковай. Ледзь трымалася, як гнілая нітачка, дарога на поўдзень—у хлебную жытніцу,—на Паўночны Каўказ, Кубань і Терак: там пасля мартаўскай няўдачы Добраахвотніцкая армія, адпачыўшая і папоўненая, зноў пачынала ваенныя аперацыі.

2

— Даруйце за містыфікацыю, таварыш, пасяджэнне ў нас асаблівае, такі загад па лініі вышэйшага начальства,—з усмешкай гаварыў генерал Насовіч кожнаму, хто ўваходзіў у пакой, дзе за сталом, накрытым замест сарвэткі газетамі, застаўленым пірагамі і смажаным мясам, сядзела расшпіліўшы каўняры, выціраючы пот, чалавек дзесяць. У канцы стала Маскалёў у парусінавай талстоўцы кожнага разу перабіваў Насовіча:

— Правільна, правільна, кінь прасіць прабачэння, імяніннік. Мы брат, не меншавікі, не вегетарыянцы... Ведаеш, як у станіцах кажуць: У нас у сярэдзіне і вожык перапрэе...

Ён рагатаў, паклаўшы вялікія кулакі на стол. Гэта і было вышэйшае начальства: царыцынскі гарадскі галава і старшыня совета Сяргей Канстанцінавіч Маскалёў. Учора ён пазваніў Насовічу: „Ты што-ж, генерал, імяніны марынуеш? Гэта, брат, сабатаж. Заўтра да цябе награнем, чакай“.

Імяніны былі ім прыдуманы, вядома, не проста, каб выпіць гарэлкі. Ён сам па тэлефону выклікаў быццам бы на сакрэтную нараду да Насовіча ваеннага кіраўніка Паўночна-Каўказскай ваеннай акругі былога генерала Снесарава, ваенспеца мабілізацыйнага аддзела былога палкоўніка Кавалеўскага, інспектара артылерыі былога палкоўніка Чэбышава, штабнога камісара Селіванава,—словам, усю галоўку акруговага і заблытанага ваеннага кіраўніцтва.

Сяргею Канстантынавічу, лічыўшаму сябе вельмі хітрым чалавекам, хацелася на сяброўскай пірушцы выпрабаваць гэтых спецаў. У совеце, у выканкоме паўзлі няпэўныя чуткі аб ваенных няўдачах, аб неразуменні камандзірамі атрадаў загадаў, аб няспыннай склоцы паміж чатырма царыцынскімі штабамі: штабам ваенкіраўніка мясцовых фарміраванняў, штабам губваенкома царыцынскага фронта, штабам абароны поўдня Расіі і штабам Паўночнакаўказскай ваеннай акругі.

Чуткі гэтыя,—праўдзівей за ўсё, недарэчныя,—паўзлі з заводаў, ад нізавых партыйцаў. Тым больш гэта была бязглудзіца, што Снесараў, Насовіч, Чэбышаў і Кавалеўскі прыехалі сюды з мандатам

ад Троцкага. Усё-ж не перашкаджала, вядома, і самому складні ўражанне...

За сталом, акрамя іх, сядзелі: спец па нафтаваму транспарту, гэтымі днямі камандзіраваны сюды з Масквы, інжынер Аляксееў—выпешчаны сіваваты чалавек, з малажавым, рашучым тварам, і два яго сыны—дваццацігадовы штабс-капітан і дваццацідвухгадовы падпалкоўнік. Яны прыехалі з бацькам і ўжо былі залічаны Насовічам у штаб. Сядзелі поруч, стрымана, не выціраючы буйных кропляў поту, праступіўшых на іх шыза-выбрытых галовах.

Насовіч,—ды не ён адзін,—добра разумелі выдумку Маскалёва. Гутарка за сталом не наладжвалася. У такую спякоту нікому не хацелася жаваць мяса. Гарэлка была цёплая. Толькі камісар Селіванаў—данскі казак—праважаў кожную чарку жартамі, паказваючы казацкія звычаі, з хрустам грыз храшчы, хітра вадзіў празрыстымі вачыма па хмурых тварах штабных. Ён, відаць, адчуваў сябе пакрыўджаным і гатовы быў задзірацца, але яму не давалі поваду.

Насовіч, карэктны, абыходлівы,—увесь унутрана насцярожаны,—шмат разоў пачынаў адзін і той-жа сказ: „Ужо-ж сапраўды, Сяргей Канстантынавіч, вы прыдумалі з гэтымі імянінамі...“

— Я, брат, паповіч,—перабіваючы, крычаў яму Маскалёў з другога канца стала.—Мне і кнігі ў рукі... (Пяцярнёй адкідаў валасы, выставіўшы губы—запяваў.) „О долголетии дома сего господу помолимся“...—І раскацiста смяяўся. Налівалі, чокаліся, але натуральнасць не наладжвалася, Чэбышаў сядзеў, гледзячы ў талерку, з такім тварам—быццам на піру ў разбойнікаў. Ваенспец Кавалеўскі,—вялікі і доўгі, з маленькай галавой, з круглай бародкай, з непрыемна напружаным тварам і карымі бегаючымі вачыма,—да таго недарэчы фальшывіў,—лепш бы маўчаў. (Але Маскалёў, захоплены самім сабой, не заўважаў гэтай скрабучай вуха фальшы ваенспеца).

Самы старшы за сталом—ваенны кіраўнік сіламі Паўночнага Каўказа Снесараў невялікі, поўны, у акулярах, з мясістым носам, з кароткімі—вожыкам—сіваватымі валасамі—адпаведна свайму былому чыну і цяперашняму становішчу строга паглядаў з-за шкла.

Ён быў з той ужо выраджаўшайся пароды рускіх людзей, якая сфарміравалася ў змрочныя часы заціша царствавання Аляксандра Трэцяга. Ён па-свойму любіў радзіму, ніколі не задумваючыся, што іменна ў ёй яму дорага, і калі-б яго запыталі аб гэтым, ён—некалькі падумаўшы, напэўна адказаў-бы, што любіць радзіму, як павінен любіць салдат.

Ганьба японскай вайны (ён пачаў яе з чына падпалкоўніка) пахіснула яго душэўную роўнавагу і бяздумную веру ў непахіснасць дзяржаўнага ладу. Ён прачытаў некалькі „чырвоных“ брашурак і прыйшоў да вываду, што—так ці інакш—сутычка паміж зганьбіўшай сябе царскай уладай і народам няўхільна. Гэты вывад спакойна ўлёгся ў яго розуме.

У час сусветнай вайны ён не праявіў—ужо ў чыне генерала ні жывасці розуму, ні таленту. Гэтая вайна была вышэй яго разумення. Страта Польшчы, разгром у Галіцыі, здрада Сухамлінава і Рэненкампфа, бяздарнасць вышэйшага камандвання, брудны скандал з Распуціным—вярнулі яго з ваяўнічага патрыятызма да ранейшай думкі

аб няўхільнай рэволюцыі. Ён чакаў яе, і нават у кастрычніцкі пераварот, калі яго абывательскае выбражэнне адмаўлялася што-небудзь зразумець, ён застаўся на баку чырвоных. Ён меркаваў, што рэволюцыйныя страсці, мітынгі, чырвоныя сцягі, увесь вадаварот зрушаных з месца чалавечых мас уляжацца і ўсё прыдзе ў парадак.

Паход Карнілава з часткай афіцэраў і хлопчыкаў-кадэтаў на заваяванне Паўночнага Каўказу ён палічыў шалёнай авантурай. Але калі Дабраахвотніцкая армія, якая ўзмацнела ў стэпавых станіцах Егорлыцкай і Мечэцінскай, пачала біць галоўкома Сарокіна, палічыўшага сябе Напалеонам, калі атаман Красноў у пышных універсалах загаварыў аб „праваслаўнай матушцы Расіі“,—на Снесарава патыхнула даўно страчаным, родным, адвечным... І думкі і пачуцці яго пахіснуліся.

Насовіч, які пільна за ім сачыў, папрасіў дазволу пагутарыць „па душах“. Насовіч расказаў яму, быццам бы ў выглядзе сваіх сумненняў і хістанняў, яго сумненні і хістанні. Снесараў, сурова выслухаўшы Насовіча, нічога не адказаў і адаслаў яго. Але гэты начны разгавор стаў для яго рашаючым. Большэвікі, камісары, соцыялізм, абшарпаныя рабочыя—усё гэта было, сапраўды, чужым генералу Снесараву.

— Дзіўныя вы людзі, таварышы. Паехалі-б хоць разок на заводскі мітынг,—гаварыў Сяргей Канстантынавіч, страціўшы надзею жартамі прабіць ледзяную стрыманасць.—Вось там людзі! Вылезе які-небудзь грузчык, на самім—дзірка на дзірцы, духі падвяло, галава калматая, і—што-ж вы думаеце,—менш чым на сусветную рэволюцыю не замахваецца. Хіба тут насы вешаць, таварышы! Мне асабіста трох жыццяў мала, чэснае слова! Маю нябожчыцу мамашу, якая дагадзіла нарадзіўшы мяне, цюцелька і цюцельку ў нашу эпоху, штодзённа ўспамінаю.

Ён зноў раскаціўся. Снесараў прагаварыў, аддзіраючы кавалачак сушанага тарана:

— Эпоха, што і казаць, знамянітая... Ды нам-то, ваенным, мала даводзіцца ўдумвацца ў такія штукі... Наша справа празаічная: бей ворага ў хвост і ў грыву... А ўжо эпоху вам прадастаўляем, Сяргей Канстантынавіч.

Насовіч адразу аценіў непрыемнае ўражанне ад гэтых слоў—пасцяшаўся іх крыху паправіць:

— Ваенныя—гэта людзі трывалай устаноўкі, Сяргей Канстантынавіч... Прыцэл устаноўлены,—страляй... Але, божа бараці, пры гэтым—аналіз. Гэта справа штацкая. Наш прыцэл—шчырэе прыняцце рэволюцыі... Вось што хоча сказаць таварыш ваенкіраўнік...

Маскалёў строга, неўхвальна пакачаў галавой:

— Дарэмна, дарэмна, таварышы... Пачытаць кніжачкі нікому не шкодзіць... яно, бач, прыцэл то падалей трэба будзе перанесці... (і зноў з дабрадушшам). Нічога, дайце тэрмін,—я вас усіх параблю большэвікамі... Бо ў чым-жа наша задача? Краіна наша дзікая, варварская. Мужык—звяр'ё. А яго-ж сто мільёнаў—дробнага ўласніка. Лапатніка... Ясна—соцыялізма з гэткімі магчымасцямі, з гэткім народам нам не пабудаваць. У гэтым я разыходжуся—і гэта ў мвар скажу Леніну,—не, не выцягнем! Кішка тонкая! Я вось—рускі

чалавек, з самай расейскай гушчы. Лепш мяне ніхто яе не ведае. Мужычок наш—звер. Але ёсць у Чэхава адна выдатная фразачка: „Калі зайца біць па галаве—ён можа запалкі запальваць". Вось! Вось наша задача! Зразумела? Выкарыстаць народную лютасць народа. І гэта—магчыма і трэба.

Чэбышаў, адкрыўшы дробныя, ахайныя зубы, быццам збіраючыся ўкусіць, запытаўся:

— Сяргей Канстантынавіч, сусветны пажар—гэта зразумела. А вось якая канечная мэта, далёкі прыцэл. Растлумачце нам.

— Рэволюцыя, таварышы,—гэта ўзлёт, хваля. (Маскалёў зрабіў шырокі жэст). Мы ўзнімаемся на грэбень. Але кожная хваля, урэшце, спадае. Нам важна ў час аўладаць уладай, захапіць камандныя вышыні...

Насовіч устаў, вузкі твар яго быў значны. Падняўшы чарку з цёплай гарэлкай, адчаканіў па ваеннаму:

— Панове... (без замяшання паправіўся гэтак-жа чотка). Таварышы... Я п'ю за нашага правадыра Маскалёва, вядучага нас да камандных вышынь. Ура!

Усе адказалі —„ура!" Маскалёў быў вельмі задаволены. Удалося добра пагутарыць. Апаска яго адносна ваенных спецаў рассеялася: урэшце, гэта былі прамадушныя салдаты. Шырынёй розуму не вызначаліся, але затое ў сэнсе сумленнасці, вернасці, баявой хваткі былі—крэмень. У пакой увайшоў спазніўшыйся госць—невысокі, хударлявы, загарэлы да лілёвага колеру малады чалавек, з вялікімі чорнымі вачыма—старшыня Царыцынскага выканкома Якаў Зіноўевіч Ерман.

Хутка кланяючыся сядзячым за сталом, падышоў да Маскалёва і зашаптаў яму на вуха:

— Хто?—громка запытаў Маскалёў.

— Сталін.

— Калі?

— Відаць—заўтра.

— Ну, што-ж, сустрэнем... Сядай... Гарэлку п'еш?

— Даруйце, таварышы,—абводзячы стол чорнымі, не ўмеючымі ўсміхацца, вачыма, сказаў Ерман.—На „Грузалесе" зараз мітынг, настрой няважны...

Не развітваючыся, ён гэтак-жа хутка вышаў.

## 3

Вялікі мітынг сабраўся сярод бунтоў бярвення на ўсеянай трэскамі тэрыторыі „Грузалеса" (лесапільных заводаў былых братоў Максімавых). Сонца паліла скрозь вісеўшы ў бязветранасці пыл. Тысячны натоўп быў узрушаны. З раніцы ў ларках і крамках у прыватнікаў не аказалася хлеба. „Дарагія мае,—растлумачвалі крамнікі,—самі нічога не разумеем, муку трэці дзень не падвозяць, відаць—хутка канец, ці што..." У ларках харчовай управы хлеб быў такі, што і свінні не будуць жэрці, і таго адразу-ж не хапіла.

Галодны натоўп слухаў розных прамоўцаў, узлазіўшых замест

трыбуны на расхістаны столік. Комуністаў тут было мала: большасць пайшла на фронт. Заставшыяся з апошніх сіл змагаліся за тое, каб захаваць перавагу на гэтым мітынгу.

Але сёння нечакана загаварылі такія, хто раней маўчаў, і такія—каго ў першы раз бачылі ў твар. Натоўп быў настроены так, што—вось-вось—насунецца, самне. Натоўп жадаў слухаць усіх, зразумець, разабрацца...

Вядомы „сукін кот"—меншавік Марусін, вялікароты, нізенькі, з тоўстымі нагамі,—зморшчыўшы твар не то смехам, не то плачам,—гаварыў са стала:

— Паклонімся, дзякуй скажам таварышам комуністам за сёнешні пачастунак. Дагаспадарыліся да ручкі... Хлеб з вёсак ужо нам не вязуць і не павязуць... Соцыялізм ажыццёўлены на справе, што і патрабавалася даказаць... Усюды, дзе комуністы бяруць уладу,—хлеба няма... Больш я нічога не маю дадаць...

Натоўп панура маўчаў. На месца Марусіна ўзлез нізавы комуніст, лесапільны рабочы, з сухотнымі шчокамі, з няміргаючымі расшыранымі вачыма. Пад распаясанай кашуляй адчувалася галоднае ломанае цела, валасы стаялі капой.

Ён з перакананнем сціснуў кулакі і ўпёрся расшыранымі зрэнкамі не ў твары таварышоў, якія стаялі вакол, а вышэй кудысьці—у карэнную праўду:

— Не зразумелі, ці што, вы? Ды што вы яго са стала не сцягнулі... Марусін—гэта-ж вораг працоўных... Куды ён вас кліча? Ён у братоў Максімавых быў канторшчыкам... Вось чаму ён супроць комунізма... А вы яго слухаеце... Ён хоча зноў, каб вам гаспадары косці ламалі... Што ён сказаў? Хлеба няма... Гэткая штука—хлеб... Будзе ён, будзе ў нас хлеб!.. Я, як сябе памятаю—на пыстанях гадзінамі глядзеў на белыя калачы... Я цану ведаю хлебу... Я лепш не паем хлеба, а рэволюцыі не прадам за яго хлеб...

— Верна, верна,—загаварылі галасы, заківалі галовы. Да стала прадзіраўся трэці прамоўца,—не зразумець—стары ці сярэдніх год лысы, з шырокай барадой. Узлез на стол, нізка пакланіўся, надзеў жалезныя акуляры, выняў з кішэні пыльнай чорнай паддзёўкі складзены лісточак, беражліва разгарнуў яго і нараспеў загаварыў, паглядаючы на напісанае:

— Чалавек ёсць цар прыроды... О, божа мой, у што ператварыўся чалавек! У дыму фабрычным і ў вугольным пылу пад зямлёй ён працуе, як вел-блюд, праліваючы пот і псуючы сабе лёгкія... А кучка багачоў піруе і аддаецца перанасычэнню... Не трэба нам кучкі багачоў... Не трэба нам фабрык, заводаў і шахт... Яны толькі лёгкія псуюць і расшатваюць нашы нэрвы Няўжо нам яшчэ і кроў праліваць за гэтыя закопчаныя трубы?.. Давайце падзелім заводы—кожны возьме, што яму трэба, і разыйдземся па сёлах і вёсках, на прыроду... Зоймемся хлебаробствам, жывёлаводствам і садаводствам. Станем царамі прыроды. І будзе панаваць спакой, і крывавая вайна сама сабой спыніцца.

Дзіўны прамоўца зняў акуляры; разам з паперкай паклаў іх у кішэню паддзёўкі, з цяжкасцю злез са стала, і важна праціскаўся скрозь натоўп. Яму давалі дарогу. Словы яго і тое, як ён гаварыў

здзівілі слухачоў. Сабраліся яны сёння стыхійна, як на веча, склікаемыя цёмнымі чуткамі.

Было вядома, што на фронце—няўдачы, вораг няўхільна набліжаецца да Царыцына. З хлебам—перабоі. І самае трывожнае было ў тым, што ніхто не адчуваў цвёрдай рукі ў абароне горада ад навісаючай пагрозы.

А тут яшчэ розныя прамоўцы распалялі выабражэнне. Чорт іх ведае—каму верыць, цяпер! Іншыя ўзлазілі на стол адразу патрое і, лаючыся, спіхвалі адзін аднаго.

Спякота стаяла нясцерпная над заваленым штабелямі берагам, убягаючым да светлай, шырокай Волгі, зіхацеўшай, як гарачае масла. Адзін прамоўца крычаў, што нельга браць хлеб у мужыка сілай, мужык сам ведае цану хлебу, а манаполія—галодная смерць... Другі, трасучы кулакамі, надрываўся дзікім голасам: „Чаго нам чакаць? Рэбяты, перавыбярэм советы, не пусцім у іх ні аднаго комуніста... І вайне канец, і хлеб будзе!“

Каля стала з'явіўся Ерман, твар яго торгаўся. З ім падыйшла шырокая кастлявая старая ў зялёных штанах, у салдацкай рубашцы,—з-пад чырвонаармейскага картуза віселі яе сяк-так падабраныя шэрыя валасы. Гэта была вядомая ўсяму „Грузалесу“ Саша Трубка, чорнарабочая—адкатчыца, член Царыцынскага совета выканкома. Ей закрычалі:

— Саша, чаго штаны апранула?

Яна адказвала нізкім голасам:

— Раскажу, пацярпі...

Але дабрадушных было мала: натоўп, распалены прамовамі захваляваўся і цясней пачаў прасоўвацца да стала, на якім паказаўся Ерман. Чуліся галасы:

— Дагаспадарыліся...

— Зноў угаварваць прышоў?.. Мы сытыя?

— Ты кінь паглыбляць... Хлеба давай!..

Ерман толькі абводзіў матавымі гнеўнымі вачыма грузчыкаў, адкатчыкаў, пільшчыкаў, чырвоных ад спякоты, з дзіка ўзлахмачанымі валасамі, бачыў пад парванымі кашулямі раскрытыя грудзі з налітымі цяглiцамі. Ён любіў гэтую прыволжскую вольніцу з размахам пачуццяў на ўсё плячо, і дружную, і свавольную, якая смяялася над дастаткам, і грозную, калі яе ахапляў гнеў супроць несправядлівасці. Ад жыцця яны патрабавалі і мала і вельмі многа. Басыя і абшарпаныя, таму што на іх аставалася толькі тое, што ўжо нельга было пад гарачую руку прапіць,—яны са страсцю перажывалі ўсё грандыёзнае. Ім усюды было цесна. На мітынгах яны абмяркоўвалі планы грамадскіх работ: пабудову волжскай набярэжнай на дванаццаць пяць вёрст, пабудову дамоў адпачынку для ўсіх працоўных, пракопванне Волга-Данскога канала. Іх лёгка ахапляў энтузіязм, і таксама лёгка недавер'е і злаба.

Ерман адразу зразумеў, што сёння над гэтай вольніцай папрацавалі ворагі. Сціснуўшы маленькія кулакі, ён загаварыў высокім, рэзкім голасам:

— Адкрычаліся? Ці яшчэ будзеце крычаць? Хлеба няма, і пакуль вы самі яго не возьмеце—хлеба не будзе. Рабочыя атрады

ганебна адступаюць, адкрываючы дарогу ворагу на Царыцын. Вясковае кулаччо адкрыта паўстае супроць харчатрадаў. Усякая контррэвалюцыйная сволач, меншавікі і эсэры, рыхтуюцца з царкоўным звонам сустрэць красноўскіх генералаў. Слухаеце ворагаў совецкай улады!.. Чаму з дваццаці тысяч партовых рабочых сфарміраваны толькі адзін атрад у восемсот штыхоў? Хто будзе вас абараняць? Хто дасць вам хлеб? Ніхто! Калі вы самі гэтага не жадаеце!

Ерман дапусціў памылку: ён раззлаваўся, усё, што накіпела ў ім за гэтыя трывожныя дні і бяссонныя ночы, вылілася ў незразумелай для натоўпу нянавісці. Ён фальцэтам выкрыкваў словы, дрэнна вымаўляючы іх, і быццам нечаканая трэшчына прабегла паміж ім і натоўпам,—ён аказаўся па гэты, слухачы па той бок... Узрушаныя людзі кінуліся да яго... Зрабі ён мізэрны рух абароны,—яго-б сцягнулі і разарвалі...

На стол разам з ім узлезла Саша Трубка. Замахала рукамі на натоўп:

— Цішэй, цішэй, мужыкі, не напірайце... (І Ерману). Злазь,— я сама з імі пагутару... Пацясніцеся, мужыкі, дайце чалавеку дарогу.

Ерман застаўся стаяць ля трыбуны, апусціўшы галаву, цяжка дыхаючы. Саша Трубка выцерла маршчыністы лоб, разявіла круглыя бледныя маленькія вочы. Яе дублены, зморшчаны твар быў прастадушны і праставаты, але ўсе ведалі, што яна хітрая, разумная і зубастая.

— Мужыкі, бабы, я з вамі па-берагавому буду гаварыць. Інтэлігентна вы не разумееце... Чаго накінуліся на таварыша Ермана? Ён габінетны работнік. А я масавы работнік,—вы са мной гаварыце...

З натоўпа голас:

— Адна шація...

І—другі:

— Не чапай яе, а то мацярком пужне...

— І пужну, нічога з мяне не возьмеш, сынок,—адказала Саша Трубка, зморшчыўшы вока і рассунуўшы ногі, каб ямчэй стаяць на хісткім стале.—Мужык—іголка, а баба—нітка, раней то гаварылі... А зараз—баба іголка, а ты за мной цягніся, не злуй...

У натоўпу засмяяліся. Адзін сярдзіты голас:

— Камандзір,—штаны надзела... Прайдоха...

Саша Трубка падхапіла: „Ага!“,—і прадаўжала балакаць:

— Чаму я штаны надзела? А добра-ж! (Галасы: „Павярніся!“ „Прысядзь!“ „Цесныя!“, „Лопнуць“!“ І яшчэ дадалі пад рогат зусім ужо нецэнзурнае). Я і да гэтага коса на спадніцу глядзела. Узлезеш на трыбуну—адразу табе гавораць: няма чаго табе, бабе, совацца... Прыходжу ў штаб: не пушчаюць у спадніцы... Я запэўняю: я не баба... (Зноў галасы пусцілі нецэнзурнае). Я таварыш баявы, я на хутарах сама ліквідавала дзве белых банды... І надакучыла мне спадніца, хоць плач... Сёння прыбягаю дамоў, сына, Мішкі, на сцяне вісіць франтавы касцюм, адзела, узяла наган, і я—тут...

З дабрадушных маршчынак на слухачоў зірнулі раптам разумныя, выцвілыя, зусім не старэчыя вочкі Сашы Трубкі:

— Пагаманілі,—давайце справу... Я ўжо з маімі бабамі сёння гаварыла. На лясных прыстанях у нас шэсць тысяч баб... Працуюць яны лепш за вас і атрымліваюць больш за вас, мужыкі...

— Но, но, Саша...

— Хлусі, але не забывайся...

— Лепш, лепш... Бабы мае ўсе арганізаваныя. І прагулаў меней, і гарэлкі не п'юць...

— Хлусіш, д'ябал, сама жлукціш...

— Сама—іншая справа... (Зноў засмяяліся, паківалі галовамі. „Ну і зубастая, на ўсё—адказ".) Шэсць тысяч баб ды вас тут палавіна старых барадачоў астанецца на рабоце... Астатнім мужыкам трэба ратаваць рэволюцыю...

Сказала яна да таго звычайна і ўпэўнена,—адразу стала ціха. Цяпер яе пачалі слухаць спачувальна—напружана глядзелі ў яе мужыкаваты, маршчыністы твар, не хацелі прапусціць ні слова. І хто-б уздумаў зараз пажартаваць, моцна-б пагладзілі такога па патыліцы.

Саша Трубка, якая самавучкай навучылася грамаце, за свае пяцьдзесят восем год выхадзіла Расію і парабчанкай, і скотніцай, і кухаркай і чорнарабочай на мясных прыстанях, якая страціла ў пятым годзе трох родных братоў і ў вялікую вайну—двух сыноў і мужа,—не растраціла ні свежасці душы, ні сілы, і зараз перад тысячным натоўпам гаварыла, як у сардэчны час са сваімі сынамі. Словы яе былі простыя і кароткія, ад хвалявання ў яе моршчыўся па-старэчаму рот.

— Як ні кракчы—ніхто не міне гэтага запалу. Давайце ўжо лепш паміраць за справу, мужыкі... Не дадзімся, каб нам, як гусям, казачышкі галовы паадкручвалі. На дапамогу нам ідзе вялікая армія з-пад Ліхой. Заўтра прыязджае з Масквы вярхоўны камісар Сталін. А мы ўсё яшчэ ў мазгаўні кіпцюрамі дзярэм! Арганізуйце полк „Грузалесу". Вунь і грузавікі з вінтоўкамі стаяць. Разбірай—і заўтра на фронт...

Павольна, ахутаныя пылам, праплылі да трыбуны два грузавікі са зброяй. „Даёш!" закрычалі грубыя галасы. У натоўпе пачалася даўка, да матроса, які сядзеў на кучы вінтовак на першым грузавіку, пачалі праціскацца дабраахвотнікі—усё болей, усё гарачэй...

4

Зранку абудзіў грукат вазоў па каменнях. Ранішняе, але ўжо бязлітаснае, сонца рэзала вочы. Маскалёў адмахнуўся ад мух, якія хадзілі пехатою па мокрым твары. „Піць сівуху ў такую чартоўскую гарачыню—гэта-ж проста самабічаванне!..." З хвіліну, седзячы на ложку, глядзеў пад ногі на акурак. Рашуча падняўся, нацягнуў сінія галіфэ, цесныя боты, парусінавую талстоўку. Выпіў некалькі шклянак нясмачнай жоўтай вады з графіна. Закурыўшы, пачаў капацца ў газетах, якія ляжалі кучаю на начным століку. І газеты,

і рукі і, здавалася, усё на свеце было пакрыта найтанчэйшым сухім пылам.

Ён знайшоў нумар маскоўскай „Праўды“ ад трыццаць першага мая. Некалькі разоў, нахмурыўшыся, перачытаў мандат—народнаму камісару Сталіну, якому нададзены надзвычайныя правы... Паскроб кіпцямі поўны нябрыты падбародак. Нецярпліва закруціў ручку тэлефона, выклікаючы асабістага сакратара.

— Пётр Пятровіч, калі маскоўскі поезд? Хвілін праз сорак?.. Ага!.. Пазваніце там усім,—трэба сустрэць... Пазванілі ўжо? Добра, я зараз пад'еду...

Вакзал быў дрэнны, драўляны, нізенькі, з выбітымі вокнамі. На нягладкім пероне—смецце, на іржавых рэйках—смецце. Пады-мецца вецер—усё гэта паляціць у твар...

— Хоць-бы падмялі, усё такі, ай-ай, таварышы,—сказаў Сяргей Канстантынавіч падышоўшаму да яго члену чыгуначнай калегіі. Той таксама нібы ўпершыню ўбачыў усё гэта запусценне.

— Так, забруджана грунтоўна... Пытанне гэтае трэба ўзняць...

На пероне з'явіліся: доўгі, з маленькаю галавою Кавалеўскі, Насовіч, Чэбышэў; адсопваючыся—прышоў плотны, чырвоны, увесь круглы Тулак,—камандуючы царыцынскім рэзервам. Прышоў Ерман з членамі выканкома... Старшыні профсаюзаў... Сабралася чалавек дваццаць пяць. Насовіч, падышоўшы са спіны да Маскалёва, запытаў асцярожна:

— А не выклікаць нам аркестр усё-такі?

— Ці варта? Неяк ужо вельмі-ж атрымаецца па-правінцыяльнаму...

— Слухаюся...

Падышоў маскоўскі поезд. На паравозе—спераду—куляміёты. На пляцоўках—два бранявікі. У хвасце—платформы са шпаламі і рэйкамі. Першым саскочыў на перон камендант—жылісты, чарнаваты чалавек, увесь у чорнай скуры, з драўляным футлярам маўзера пры баку. Ні на кога не гледзячы, рэзкім голасам паклікаў начальніка станцыі...

Потым пачалі сыходзіць узброеныя вінтоўкамі маскоўскія рабочыя, апранутыя як папала,—у рубашках, пінжаках, скураных куртках, кепках,—усе перапаясаныя новымі патранташамі. Ва ўсіх нявеглыя, худыя, суровыя твары. Без гаворкі, без жартаў—сталі ўздоўж вагонаў, апусціўшы вінтоўкі прыкладамі на асфальт.

На пляцоўку класнага вагона вышаў чалавек у чорнай—да каўняра зашпіленай гімнасцёрцы, у чорных штанах, запраўленых у мяккія боты. Хударлявы смуглы твар яго быў сур'ёзны і спакойны, вусы прыкрывалі рот. Ён узяўся за парэнчу пляцоўкі і несляшаючыся сышоў.

Першым, шнарачы вачыма па вокнах вагонаў, убачыў яго Маскалёў. Шырока ўсміхаючыся, памахваючы працягнутай рукою—паспяшаўся насустрач. Усхвалявана падышоў Ерман. Асцярожна,—не даходзячы трох крокаў і выцягнуўшыся,—Насовіч.

— Добры дзень, таварышы,—выразна сказаў ім Сталін, і не то вясёлыя, не то насмешлівыя маршчынкі пайшлі ад куткоў яго вачэй. Ён прывітаўся, не вылучаючы нікога, з усімі не вельмі

горача і не вельмі суха. Хуткім рухам зрэнак аглядзеў усіх, хто быў на пероне.—Таварышы, папрашу да мяне ў вагон.

Павярнуўся спіною, падняўся на пляцоўку і схаваўся ў вагоне, не аглядаючыся і не паўтараючы запрашэння. Калі ўсе размясціліся ў салоне, Сталін, закурыўшы люльку і пахаджваючы каля стала, пачаў задаваць пытанні: аб запасах хлеба ў краі, аб рабоце продатрадаў, аб мяркуемым ураджаі, аб колькасці штыкоў на фронце, аб рэзервах, аб прасоўванні праціўніка, аб яго сілах,—дзесяткі кароткіх і дакладных пытанняў—Маскалёву, Ерману, Тулаку, Насовічу... Калі той, каго ён пытаўся, пачынаў падрабязна разжоўваць,— Сталін перапыняў:

— Мне патрэбны цыфры, тлумачэнняў не трэба...

Субяседнікі яго патроху пераконваліся, што яму, напэўна, усё ўжо вядома—і становішча на франтах, і цыфры хлебных лішкаў,— і ўсе непарадкі і непаладкі, і нават тое, чаго не ведаюць яны, царыцынскія правадыры...

Гутарка цягнулася доўга. Маскалёву вельмі хацелася-б перайсці да агульнарэволюцыйных тэм: з жарам, вялікімі словамі, як ён умеў, пагаварыць так, каб паказаць масквічу, што тут таксама не лапцем шчы сёрбаюць. Але ён ніяк не мог разарваць кола акружаючых яго дакладных, аналізуючых пытанняў. Было незразумела—куды хіліць Сталін.

Насовіч сядзеў насцярожана, не курыў прапанаваных маскоўскіх папярос, адказваў суха і дакладна, і некалькі разоў,—здалося яму,—злавіў на сабе быстры, з-пад прыўзнятых ніжніх павек, востры позірк Сталіна. На пытанне—чым ён тлумачыць поспех праціўніка за апошнія дні—Насовіч адказаў асцярожна:

— Яшчэ месяц таму назад казакі стралялі самаробнымі знарадамі. Я буду мець задаваленне паказаць вам знарад, зроблены з банкі ад кансерваў,—музейны кур'ёз... Цяпер яны атрымалі добрае ўзбраенне і выдатныя гарматы. Пытанне вырашаецца перавагай агнявых точак на фронце...

— А не тлумачыце вы наш няпоспех недастатковай палітычнай падрыхтоўкай?—запытаў Сталін.—За агнявой точкай сядзіць чалавек. Колькі-б не было ў палкаводца агнявых точак, калі яго салдаты не падрыхтаваны правільнай агітацыяй, ён нічога не можа зрабіць супроць рэволюцыйна натхнёных байцоў,—нават з куды меншай колькасцю агнявых точак.

Каб абдумаць адказ, Насовіч узяў папяроску і адчуваў цяпер, што Сталін ужо не мелькам—уважліва разглядае яго.

— Я згодзен, што гэта новая тактыка рэволюцыі.—Ён стараўся цвёрда адказаць на позірк Сталіна.—Але пад агнём праціўніка цяжка перарабляць псіхіку байца. Пад агнём праціўніка ён болей верыць гарматам, чым кніжкам. У тылу, пры фарміраванні, разумеецца, выхаванне—гэта ўсё...

У Сталіна зноў пабеглі маршчынкі ад павек на скроні, ён адвярнуўся ад Насовіча, каб выбіць люльку і—нібы—мімаходзь:

— Дзе і перарабляць псіхіку, як не пад агнём праціўніка, там вось і перарабляць... Цяпер, таварыш, я папрашу астацца таварышаў Маскалёва і Ермана.

І ён стаў развітвацца за руку з усімі. Калі ў салоне асталіся толькі Маскалёў і Ерман, ён сеў да стала, далонню змахнуў попел з цыраты.

— Тут, на рэйках,—маршрутны састаў з зярном. Даўно ён стаіць?

Ерман успыхнуў, нібы яго ўдарылі па твары. Маскалёў адказаў жмурачыся на акно:

— Дні два, тры...

— Болей,—сказаў Сталін.—Адзінаццаць дзён. Чаму ён не быў адпраўлены?

Маскалёў нахмурыўся, пальцы яго застукалі па цыраце.

— Па-першае, у нас былі весткі, што дарога каля Паворына перарэзана казакамі... Па-другое, пры стварыўшыхся ваенных абставінах, калі мы можам аказацца літаральна ў асаджаным горадзе, я не мог рызыкаваць—астацца без хлебных запасаў... Учора рабочыя наладзілі такую бузу...

Ён засоп носам, чакаючы, што Сталін пачне спрачацца. Але Сталін не стаў спрачацца. Ён запытаўся яшчэ:

— У горадзе вольны продаж хлеба?

— Ну так...

— Чым гэта тлумачыцца?

Маскалёў гусцей засоп, але зразумеў, што сварыцца не трэба.

— Тым тлумачыцца, таварыш Сталін, што вы мала ведаеце нашы асаблівыя ўмовы. У горадзе тысяч сто розных абываталяў, мяшчан, словам... Хто там у агародзе капаецца, курэй шчупае, гандлюе дробязямі... Ды тысяч дзесяць бежанцаў... Пасадзі я іх усіх на паёк—ну і назаўтра разнясуць совет... Горш таго—атрады павернуць з фронта: у кожнага тут бацька, маці...

Сталін павярнуў галаву да маўчаўшага, апусціўшы галаву, Ермана.

— Вы таксама так думаеце?

— Не, я не так думаю,—рэзка адказаў Ерман. — Лічу становішча ў горадзе ненармальным...

— Вось бачыце—ужо дзве розныя думкі...—Сталін дастаў з папкі лісток.—Гэта атрымана сёння ў дарозе.—Ён паклаў на стол перад Маскалёвым тэлеграму, падпісаную Леніным:

„Аб чаргах павінен сказаць, што сёння зусім не выдаюць ні ў Піцеры, ні ў Маскве. Становішча зусім дрэннае. Паведаміце, ці можаце прыняць экстраныя меры, бо апроч як ад вас здабыць няма адкуль".

— Мая прапанова,—сказаў Сталін (пакуль Маскалёў чытаў тэлеграму і потым моўчкі падсунуў яе па стале—Ерману),—паставіць у выканкоме пытанне аб спыненні агіднага разбазарвання хлеба. Пралетарыят у Маскве, у Іванаве, у Піцеры атрымлівае васьмушку. Уладзімір Ільіч тэлеграфуе, што і гэтай васьмушкі ўжо не выдаюць. Гэта азначае, што ў небяспецы не толькі гэтыя гарады, але ў небяспецы рэволюцыя. Дзеля выгоды дзесяці тысяч бежанцаў у Царыцыне мы не можам пазбаўляць рэволюцыю хлеба...

— Пасадзіць Царыцын на паёк!—Маскалёў паспрабаваў штурхнуць ад сябе стол, ён не кранаўся. Ён цяжка вылез, прайшоўся,

падцягнуў галіфэ:—Мы тым і ганарымся, што ў кашмарных умовах, калі ўся контррэволюцыйная сволач крычыць:—„большэвіцкая гаспадарка—гэта голад і разруха!“, ператварылі Царыцын у квітнеючы горад... Заводы выпрацоўваюць амаль пяцьдзесят процантаў даваеннага,—гэта пры наяўнасці фронта. Павялічана сетка школ... Профсаюзнымі арганізацыямі ахоплены амаль усе масы працоўных... Каласальна ўзняты жаночы рух... Праводзяцца мерапрыемствы па стварэнню грамадскіх работ.

— Ты забыўся яшчэ пра музыку на бульварах,—перапыніў яго Ерман дрыжачым голасам,—афіцэрскія шынкі з танцамі... І што соль спекулянты ўзнялі ўжо да ста рублёў пуд.

— Накіп! Гэта накіп!—крыкнуў Маскалёў.—Раздушым!—Ён пакасіўся на Сталіна,—той бестурботна пыхкаў люлькай.—Пытанне куды глыбей... Царыцынскі пролетарый сам, сваімі рукамі, будуе сваю будучыню... Царыцынскі пролетарый верыць мне, Маскалёву, што я давяду яго да канчатковай перамогі. А я пасаджу яго на галодны паёк, я кіну яго ў агульнарасійскі кацёл... Таму што івана вазнясенскія рабочыя атрымліваюць васьмушку... Ён гэтага не зразумее.

Гаворачы ўсё гэта, Маскалёў „улічваў“ уражанне, і яно складвалася не ў яго карысць. У Ермана рот скрыўляўся гідлівай грымасай. Сталін спакойна даваў выказвацца, але нешта непадобна было, каб гэтага чалавека можна пахіснуць. З вясёлымі вачыма, асвядомлены, непранікальны—хоць і не націскае на надзвычайныя паўнамоцтвы, але яны ў яго ў кішэні. І бадай, не трапіць з ім у нагу—пакіне ззаду.

Бакавыя думкі не мелі ўплыву, разумеецца, на гарачыню слоў Сяргея Канстантынавіча, але, заўважаючы, што ўражанне зусім ужо становіцца няважным, ён асцярожна пачаў „спускацца“.

— Кажу ўсё гэта, таварыш Сталін, к таму, каб вы улічылі ўсю складанасць сітуацыі, якая стаіць перад намі... Мы з вамі тут у асаблівых умовах. Тутэйшы пролетарыят карэннямі звязаны з вёскай, з дастаткам хлеба,—гэта Волга, усерасейская жытніца... Ці зразумеюць? Баюся, баюся...

— Ваўкоў баяцца—у лес не хадзіць... Не падзяляю вашых трывог, Сяргей Канстантынавіч,—весела сказаў Сталін, нібы задаволены, што пэўны этап ужо пройдзены.—Рабочыя зразумеюць калі ім растлумачыць. Рабочыя добра зразумеюць, што хлебная манаполія і картачная сістэма цяжэй, бадай, чым біцца ў акопах, але яны зразумеюць, што гэта і ёсць зараз галоўны фронт рэволюцыі... І яны прынясуць гэтую ахвяру, калі ім добра і талкова растлумачыць...

Маскалёў, усміхаючыся, паматаў галавою. Сеў да стала...

— Задачку вы нам загнулі, таварыш Сталін... З чаго-ж рэальна з якіх мерапрыемстваў, думаеце, нам пачаць.

— Мая прапанова—пачаць са склікання агульнагарадской партыйнай канферэнцыі.

— Калі?

— Заўтра. Навошта адкладваць...

— Павестку дня паспеем скласці?

— Раніцой—гадзін у сем—прыязджайце абодвы...

— У сем раніцы? (Маскалёў залез пяцярнёй у валасы). Тады я зараз-жа паеду... Трэба прадумаць, падрыхтаваць матэрыялы...— Ён запнуўся і запытальна зірнуў.

Канцом люлечнага цыбука Сталін пачаў праводзіць па цыраце рысачкі, нібы радкі.

— Пытанне аб ажыццяўленні манаполіі і картачнай сістэмы; барацьба за транспарт; узмацненне ваеннага камандвання; барацьба з контррэволюцыяй; умацаванне партыйнай арганізацыі і разгортванне масава-палітычнай работы; барацьба супроць распушчанасці, перапалоху і хаосу. Павестка будзе вялікая...

Сталін устаў і зноў—па-таварыску проста—пацісnуў рукі Маскалёву і Ерману. Выходзячы, Маскалёў затрымаўся ў дзвярах на секунду, але не адвярнуўся,—хоць ён на хвост сабе наступаць нікому не дазваляў, кашлянуў густа, цяжка апусціўся з вагоннай пляцоўкі і толькі ўжо — разваліўшыся ў машыне — праказаў: „Та-а-ак“.

К гэтаму часу вагон Сталіна, адведзены на запасны шлях, быў уключаны ў гарадскую тэлефонную сетку. Сталін пачаў работу. Два яго сакратары, маўклівыя і бясшумныя, выклікалі па тэлефонах старшынь і сакратароў партыйных і совецкіх арганізацый, устаноў, падрыхтоўвалі матэрыялы, стэнаграфіравалі, упускалі і выпускалі выкліканых... Старшыня Чэка ўлез у вагон вясёлы, як ранішняе сонца, вышаў з другой пляцоўкі—бледны і заклапочаны... Старшыня чыгуначнай санітарнай калегіі, не чакаючы выкліку ў вагон, аддаў распараджэнне падмесці вакзал і перон, дзеля чаго быў пасланы грузавік у слабаду па мяшчанак. У парадку грамадскай нагрузкі іх прывезлі разам з мётламі, ад страху і дасады яны ўзнялі такі пыл, што прышлося адмовіцца ад гэтай формы барацьбы з антысанітарным становішчам.

Увесь дзень ішлі розныя людзі па іржавых рэечных шляхах, пытаючыся пра вагон Сталіна. Складаўся поўны малюнак усяго, што адбывалася ў горадзе, у краі і на франтах. К ночы пачалі прыходзіць рабочыя: прадстаўнікі фабрычных камітэтаў і некаторыя адзіночныя нізавыя работнікі.

І толькі, калі за паламанымі вакзальнымі кратамі, за рашотчатым віадукам, за ўбогімі стрэхамі, за цёмнай Волгай разлілося зялёнае святло і разгарэлася бясхмарная зара,—у сталінскім вагоне патухла святло—адразу ва ўсіх вокнах.

Раніцай была паслана тэлеграма—уне чаргі—Масква, Крэмль, Леніну:

„Шостага прыбыў у Царыцын. Не гледзячы на неразбярыху ва ўсіх сферах гаспадарчага жыцця, усё-ж магчыма навесці парадак. У Царыцыне, Астрахані, у Саратаве манаполія і цвёрдыя цэны адменены советамі, ідзе вакханалія і спекуляцыя.

Дабіўся ўвядзення картачнай сістэмы і цвёрдых цэн у Царыцыне. Таго-ж трэба дабіцца ў Астрахані і Саратаве, іначай цераз гэтыя клапаны спекуляцыі ўцячэ ўвесь хлеб. Няхай Цэнтральны выканаўчы камітэт і Соўнарком у сваю чаргу патрабуюць ад гэтых советаў адмаўлення ад спекуляцыі.

Чыгуначны транспарт зусім разбураны стараннямі мноства калегій і рэўкомаў. Я вымушаны паставіць спецыяльных камісараў, якія ўжо наводзяць парадак, не гледзячы на пратэсты калегій. Камісары адкрываюць кучу паравозаў у месцах, аб існаванні якіх калегіі не маюць уяўлення. Доследы паказалі, што ў дзень можна пусціць па лініі Царыцын—Паворына—Балашоў—Казлоў—Разань—Масква восем і болей маршрутных паяздоў.

Зараз заняты назапашваннем паяздоў у Царыцыне. Праз тыдзень абвесцім „хлебны тыдзень“ і пусцім адразу каля мільёна пудоў...

... Паслаў нарачнага ў Баку, на днях выязджаю на поўдзень. Упоўнаважаны па тавараабмену... сёння будзе арыштаваны за машэнніцтва і спекуляцыю казённым таварам...“

## Глава адзінаццатая

### 1

— Стой!.. Хто ідзе?

— Баец.

— Імення.

— Агрыпіна Чабрэц...

Засмяяліся груба. З цемені высунуліся двое ўзброеных.

— Ідзеш куды?

— Ну, на возера.

— Гэта што ў цябе?

— Ну, бялізна...

Яны разглядвалі Агрыпіну...

— Чаму—не на пасту?

— Атрад у рэзерве.

— Пакажы...

Адзін працягнуў руку, памацаў туга скручаны пад пахай у яе вузялок. Другі запытаў, кіўнуўшы невыразным тварам на яе вінтоўку.

— Нумар аружжа?

Агрыпіна хутка адступілася, скрозь зубы адказала. Ёй пачалі ўжо не падабацца гэтыя двое. Намацала шыйку вінтовачнага прыклада. Той, хто запытаў пра нумар, сказаў з пагрозаю:

— Ідзі за намі.

Толькі зараз Агрыпіна скеміла: гэтыя двое—мабыць з атрада „Бура.“ Іх эшалон ішоў спераду шахцёрскага. Пра іх апавядаюць дрэннае, нібы ўначы яны зацягваюць да сябе дзяўчат і нібы некалькі дзяўчат так прапала.

— Па якой прычыне я павінна ісці за вамі?

Зноў той-жа,—не расшчамляючы зубоў, многазначна:

— Аб прычыне даведаешся...

Іх было двое, яна адна,—далёка ад чыгуначнага палатна зайшла ў пусты стэп, шукаючы азярцо... Учора на захадзе яно чырванела скрозь сітнік дзесьці ў гэтым баку. Было позна... Агні кастроў, дзе эшалонныя жыхары варылі вячэру, даўно патухлі. У стэпу

толькі патрэсквалі конікі. Агрыпіна ішла мыць Іванавы рубашкі. Удзень ёй як байцу было-б сорамна займацца мужыцкай бялізнай. Мыла ўначы, калі ніхто не бачыць. Ішла па ціхай лагчыне, шэрай ад святла зорак, думала пра сябе, пра Івана. Усё-такі была-ж яна дзяўчынаю і было ёй дзевятнаццаць год, і цёплая зорная ноч, якая звінела конікамі, пахла палыном, здавалася ёй—пасля дзённай перастрэлкі з казакамі, цэлага дня сярдзітых крыкаў і мацяршчыны здавалася ёй прыгожай: Агрыпіна ішла і напявала... І раптам—гэтыя двое—бандыты!..

Агрыпіна зразумела, нарэшце, што ім патрэбна ад яе,—да таго абурылася, пачала іх лаяць. Яны стаялі ў дзесяці кроках. Адзін ціха сказаў штосьці другому. Агрыпіна не паспела сарваць з пляча вінтоўку,—яны кінуліся на яе—галовамі ўперад...

Добра, што на ёй па начному часу была толькі адна перапаясаная сарочка—ні штаноў, ні цяжкіх ботаў. Як кошка, яна ўвільнула, адскочыла, кінулася бегчы, ляцела, уцягваючы ноздрамі стэповы вецер... За спіной, як быццам, аддаляўся тупат. Чакала—стрэліць... Раптам скеміла—ды гэта-ж тупоча за ёю толькі адзін... А другі? І тады пачула зусім блізка за спіной паспешнае сапенне, лёгкае імклівае адтопванне босымі ступнямі...

Яна вільнула ў бок, мелькам зірнула цераз плячо: за ёй не адстаючы, бег чалавек, зусім задраўшы галаву, працуючы плячыма... Бег, не гледзячы на яе, нібы па струменю гарачага паху,—жылісты, настойлівы, бег, як бывае ў сне... Страх, які бывае толькі ў сне, ірвануў яе ўправа, улева... Чалавек лёгка паўтарыў гэта—павярнуўся ўправа, улева... Адчувала зараз страціць развагу... Прыціскала цяжкую, перашкаджаючую бегчы, вінтоўку... Дыхала на ўвесь раскрыты рот...

Раптам сухі палыновы вецер павільгатнеў, павеяла балотам. Адбіткі зорак паплылі з-за чорнай сцяны сітніку. Агрыпіна скокнула ў вязкую твань, разрываючы голымі каленямі асаку, распырскваючы ваду, убегла па пояс, па грудзі, па шыю,—падняўшы над галавою вінтоўку, грабучы праваю рукою—паплыла...

Чалавек—усё так-жа—за ёю... Але ў вадзе яна далёка выперадзіла яго. Валочачы за сабою слізкае лісце збаночкаў, вылезла на круты беражок, чалавек—на сярэдзіне азярца—перастаў барахтацца, глядзеў на яе, вада вакол яго сцішылася, зноў адбіваючы зоры. Над вадою тырчала яго невялікая галава, хрыплым голасам прагаварыў...

— Не трэба, не страляй, я-ж з дабром... Сволач, не страляй!

Зажмурыўшыся, Агрыпіна стрэліла, ведаючы, што міма... Не азварачваючыся—зноў пабегла... Цяпер было зусім ціха, і ёй стала прыкра: бегаць па стэпу ад мужыкоў! Да таго прыкра, што спатыкнулася. Асцярожна палажыла вінтоўку, сцягнула цераз галаву сарочку, выкруціла, зноў адзела. І пайшла паважна, як і трэба байцу.

А вузялок? Згубіла! Вось табе і вымыла! Матка родная, ды як-жа цяпер! Іван лёг спаць у вагоне, сказала яму зняць рубаш-

ку,—да раніцы,- думала, высахне. Бацечкі,—яму цяпер голаму хадзіць!

Агрыпіна так разнервавалася—зноў палажыла вінтоўку, села на зямлю, грызла сцебялёк.

„Трэба-б адразу, як спынілі, у абодвых і пужануць... Вёрст пяць прабегла са страху... Маці родная,—у атрадзе ўсе ўведаюць, праходу не дадуць!“

Агрыпіна сядзела, засмуціўшыся. Усё цела яе гуло ад бегатні. Над попельным стэпам з-за невыразнага гарызонта ўзыходзіла вялікая жоўтая зара. Да сёнешняй начы Агрыпіна нічога такога не зрабіла, каб з яе смяяліся. Несла службу нароўні з другімі, а ў сэнсе дысцыпліны яе нават успамянулі, як прыклад, перад фронтам.

Два тыдні мінула з таго часу, як варашылаўскія эшалоны прарваліся цераз Ліхую. Эшалоны павольна—вярсты тры, пяць, іншы раз і дзесяць вёрст у суткі—паўзлі на ўсход. Атрады, раскінутыя фронтам, вакол эшалонаў, вялі няспынныя баі, адбіваючы насядаючых казакоў. Звычайна казакі пачыналі трывожыць чырвоных на золаку, калі ў байцоў зліпаліся ад сну вочы і калі было яшчэ настолькі цёмна, што казаку можна ўцячы на кані ад кулямётнага агню.

Эшалоны ўжо мінулі Белую Калітву,—дзе затрымаліся з тыдзень з папраўкаю маста цераз Данец,—і набліжаліся да станіцы Марозаўскай. Тут не толькі на золаку, але і ўдзень завязваліся бai. У казакоў з'явілася артылерыя, і ўсе большыя масы іх збіраліся ў стэпавых ярах.

Агрыпіна несла падвойную службу—і як баец і як сядзелка. Тады ўначы пад Ліхою яна з таварышамі вынесла з акопа вялізнае цяжкое цела Івана Гары. Ніхто не верыў, што ён жывы. Прачнуўся ён толькі ў вагоне.

Іван быў кантужаны і ў некалькіх мясцох паранены асколкамі снарада. Агрыпіна адхаіла яго, а яшчэ, правільней, што яму вельмі хацелася жыць і сілы ў яго хапіла-б на двух людзей. Раны яго цяпер зарубцоўваліся, ад кантузіі асталася толькі сударга: зварачваўся нос і торгалася шчака. Гэта сударга перадварачвала ў Агрыпіны сэрца: вышаў ён з гэтай пячаткай са смерці ў тую ноч, калі гарэлі млыны. Тады ёй як быццам і не было страшна: чырванаваты стэп, нерухомае цела Івана, спераду—немцы, якія бягуць са штыкамі. Але ва ўспамінах астаўся сумны жах.

Узняўшы галаву, Агрыпіна глядзела на жоўтую зорку,—ад яе стала ясней у стэпе. Агрыпіна па гэтай зорцы меркавала—у якім баку чыгуначнае палатно... Хутка, мабыць, пачне развідняцца. Павярнулася ўсім целам на ўсход,—край зямлі ў тым баку ясна ўжо адлучаўся ад начнога неба. „Трохі пасвятлее—трэба знайсці вузялок... не знойдзеш—лепш у возера галавой...“

Ад сырой рубашкі было добра—павявала халадком. Агрыпіна прылягла шчакою на сагнуты локаць і, не адрываючыся, глядзела на ўскод. Пад кусцікам палыну, як наняты на вяселле, патрэскваў

конік: дзеўкі ўсе песні адспявалі, усе ужо спаць паляглі, а ён усё пілікае...

Агрыпіна ачмурэла ўсхапілася. Вялікае сонца глядзела ў яе раскрытыя вочы, прыўзнімаючыся над краем стэпу, зрытага ценямі. Здалёк стукаў кулямет. Агрыпіна падняла вінтоўку, падолам сарочкі выцерла ад расы ствол і затвор... „Бацюхна, ды як-жа ў сарочцы вярнуся?

Яна паспешна пайшла да цёмназялёнага сітніку. Абагнула азярцо. Адшукала свае сляды, дзе ўчора кінулася з берагу. Пайшла, углядаючыся, дзе-небудзь тут павінен валяцца вузялок.

Паязды стаялі адгэтуль вярстах у двух, расцянуўшыся да гарызонта. Былі відаць дымкі кастроў: там пачыналася дзённае жыццё,—варылі кулеш і бульбу, адвязвалі жывёлу ад вагонаў, гналі на вадапой, развешвалі пялёнкі на вагонных пляцоўках... Байцы вылазілі, крякталі, падцягвалі штаны. Чысцілі зброю. Крычалі камандзіры, збіраючы аддзяленні—на змену тым хто правёў ноч на фронце...

„Маці родная, Іван не еўшы, раздзеўшыся,—мармытала Агрыпіна,—ну, салгу што-небудзь, толькі вузялок знайсці..."

Атрады—па аддзяленнях —кучкамі ішлі ў бок азярца (дзе ўначы барахталася Агрыпіна). У гэтым баку—за бурым узгоркам—чуліся кулямёты. Казакі зноў насядалі. Прыжмурыўшыся, Агрыпіна пазнала свой эшалон,—у хвасце тры платформы, на сярэдняй блішчэла люстэрка. Каля эшалона збіралася шмат народа... Нібы абручом сціснула яе стрыжаную галаву: „І на пераклічку спазнілася, цяпер—дзізенцір, не апраўдаешся..."

Рашуча кіўнуўшы, Агрыпіна пайшла проста да эшалона. Народ адтуль поўз у стэп, расцягваючыся ў ланцужок. „Ой, мама родная!" У Агрыпіны адлягло: народ, гэта значыць увесь іхні шахцёрскі атрад, і жанчыны і дзеці станавіліся ланцужком ад эшалона да азярца, каб наліваць ваду ў паравоз. Значыцца, можна паспець дабегчы да вагона, адзець штаны, сунуць Івану чаго-небудзь пажаваць, папіць, з'явіцца да камандзіра і адрапартаваць, што праспала... „І атрымаю нарад—трое сутак—і вельмі слаўна..."

З берагу Агрыпіна спатыкнулася,—на зямлі валяўся добры пінжак...

„Гэта ён скінуў, д'ябал, калі даганяў..." Успомніла, як задраўшы галаву, бег за ёю чалавек, і халадком пацягнула па спіне...

„Спатрэбіцца Івану," падумала, падымаючы пінжак, і недалёка ўбачыла і свой вузялок...

У вагон Агрыпіна ўлезла, не ведаючы яшчэ, як яе Іван пачне лаяць. Парашыла адразу-ж аддаць яму знахадку—бандыцкі пінжак,—там у кішэнях штосьці брынчэла. Іван ляжаў на цвёрдай койцы, падняўшы калені, па пояс голы. Пакуль Агрыпіна ішла да яго па жоўтаму апусцеламу вагону, ён прыўстаў на локцях, асунуты твар яго нібы заліўся сонцам...

— Ну, што-ж ты, галубка,—толькі і сказаў, узяўшы яе шурпатую невялікую ручку. Адвярнуўся—з таго, галоўнае, каб не бачыла, як у яго звярнула нос, заторгалася шчака...

У Агрыпіны таксама засвярбела ў носе, але барані божа— зараўсці... Сказала грубым голасам:

— Ну, чаго, чаго,—згубіла ў стэпу вузялок з тваімі рубашкамі, усю ноч—дурніца—і прашукала, ды вось чаго знайшла...

Палажыла бандыцкі пінжак на койку. З верхняй палічкі дастала дзве халодныя бульбіны.

— Ты з'еш, падрамлі, а мне—ваду наліваць у паравоз...

З-пад галавы ў Івана выцягнула свае штаны, жыва адзелася, пабегла шукаць камандзіра...

Ланцужок людзей расцягнуўся вярсты на дзве. Па ім—з рук у рукі—хадзілі вёдры, вялікія бляшанкі з-пад саланіны, гліняныя гаршкі, усялякія пасудзіны—аж да грамафоннага рупара, заткнутага знізу анучкай. Пярэднія зачэрпвалі ваду ў азярцы і пускалі па руках, заднія падавалі ваду качагару, і ён ліў у пасопваючы паравоз.

Такія-ж ланцужкі пацягнуліся і ад другіх эшалонаў. За бурым узгоркам, як дзятлы, з перадышкамі—стукалі кулямёты. Калі зрэдку пракочваўся ўдар гарматы—людзі толькі падымалі галовы. Звычайнае жыццё эшалонаў ішло сваёй чарадою. На насілках сталі падносіць параненых. Адна жанчына, убачыўшы на насілках мужа, закрычала, бедная, да таго страшна—заплакалі дзеці. Уздоўж эшалонаў па пыльнай дарозе пацягнуліся на ўсход вазы са шпаламі і рэйкамі. Белыя казачышкі зноў гэтай ноччу спераду разабралі чыгуначны шлях. Яны разшрубоўвалі з аднаго канца рэйкі, прывязвалі да іх сталёвы трос і на валах цягнулі, згіналі і, выварачвалі разам са шпаламі. Бронепоезд „Чарапаха", які ішоў у галаве эшалонаў, трымаў шлях пад абстрэлам, але далёка адыходзіць не асмельваўся, баючыся такім спосабам быць адрэзаным.

Паравозы былі наліты, ланцужкі людзей разышліся. Азярцо цяпер было поўна купаючыхся стрыжаных, карычневых дзяцей,— віск, плескат, рогат... Жанчыны мылі бялізну. Уздоўж палатна пачалі дыміць блакітнымі дымкамі кастры з сухога гною. Варылі абед. Мужчыны ляніва сядзелі на насыпу пад вагонамі ў халадку. Быў поўдзень, спёка, калі ў цішыні праносяцца ашалелыя вялікія мухі...

І раптам, разрываючы спёку, пачаліся трывожныя свісткі паравозаў. Яны склікалі ўвесь народ па вагонах. Жанчыны каля кіпячых кацялкоў замахалі лыжкамі:

— Пачакайце вы, д'ябалы! Куды-ж абед нам кідаць... Машыніст, пачакай крыху...

Голыя дзеці беглі з возера, махаючы кашулькамі. Рыссю зганялі жывёлу з стэпу. Паязды торгаліся, краналіся, паўзлі вярсты са дзве ці болей. І зноў, скрыгочучы, спыняліся надоўга.

Кожную вярсту дарогі прыходзілася браць з бою: то разабраны рэйкі, то ў блізкіх ярах заселі казакі з гарматай. Пра багацці, якія везла 5-я армія, ляцелі па станіцах пераўвялічаныя чуткі: цукру, нібы, у эшалонах было сто тысяч пудоў, солі цэлыя вагоны і незлічона—рознага адзення, скабянога тавару, золата ў бочках.

Такая здабыча распякала казачую зайздрасць. Генералы Мамантаў і Фіцхелаураў гаварылі па станіцах, што нельга партызаніць, разбіваць сілы, па-сабачаму ўгрызацца 5-й арміі ў зад,— трэба знішчыць яе ўсю ў рашучым баю, а здабычы хопіць на цэлую акругу. Мамантаў сцягваў сілы да Дону,—туды, дзе быў узарваны чыгуначны мост. Там 5-я армія—з адрэзанай дарогай адступлення—павінна быць запёрта сярод вакольных вышыняў і знішчана...

Пад вечар, калі эшалоны зноў спыніліся, Агрыпіна забегла ў вагон да Івана, прынесла есці. Ён зноў узяў яе руку ў свае вялікія рукі, якія ляжалі на жываце.

— Ну, расказвай,—што робіцца на белым?

— Схлусіла камандзіру,—нібы праспала, дзве суткі нараду.

— Ай, ай,—хлусіць! Баец павінен мужна прызнацца.

— Ды я-ж для таго, каб рэбяты не смяяліся... Не ўжо,—скончым вайну—у арміі не астануся... Маладая я вельмі для гэтага.

— Не тое, што ты маладая, а што вельмі прыгожая,—сказаў Іван сур'ёзна. (Яна дасадліва матнула стрыжанаю галавою).— Мы-ж таксама людзі... Адно мяне цешыць, Гапа,—стаў я цябе паважаць. Канешне, я і тады цябе любіў... Цяпер—асабліва... (Не моцна сціснуў яе руку). Бой, смерць, кроў—гэта нітуе чалавека з чалавекам. Праўда, кажу?

— Канешне,—разгублена паўтарыла за ім Агрыпіна, і зноў ёй успомнілася ноч пад Ліхой... Уздыхнула:

— Іван, мне трэба ў нарад...

Ён ціха засмяяўся, выпусціў яе руку.

— Ідзі... Ды, Гапа... Ты мне чый пінжак прынесла? (Яна заморгала, не адказала). У кішэнях глядзі, што знайшоў... (З пад галавы выцягнуў залаты партсігар, гадзіннік, клубок залатых ланцужкоў). Ты сапраўды знайшла гэта?

— Што я—аграбіла?

— І яшчэ адну рэч знайшоў у кішэні—паважней. Ты пайдзі да камандзіра, скажы, каб ён да мяне зайшоў—зараз жа...

У станіцы Марозаўскай стаяла да пяці тысяч распрэжаных вазоў. Табуны коней пасвіліся на выгане. Ва ўсіх хатах—гоман. Каля ўсіх варот—кучкі мужыкоў і казакаў,—пакурванне, размовы, хлопанне фортак. Ашалелая дзеўка ідзе з карамыслам, косячыся на незнаёмых людзей,—яе зараз-жа абступаюць барадатыя, вусатыя, рослыя, і яна ўжо бяжыць назад, смяючыся і грукочучы пустымі вёдрамі. Рыпяць жураўлі на студнях. Рыссю на рыжым велізарным коніку—на адной папоне, без страмён—праязджае камандзір якога-небудзь атрада—грудасты, пыхаючы здароўем і сілаю, у нагольным кажуху, накінутым на адно плячо, у падшытых валёнках, але позіркам бязлітасных вачэй і рашучай размовай—прыродны камандзір... Пылячы нагамі, штурхаючыся зброяй, крочыць кучка стомленых байцоў.

У станіцу Марозаўскую ўвайшоў трохтысячны атрад данскіх сялян—іншагародніх. Сабраў іх Яхім Шчадэнка, калі адступаў ад Каменскай, грунтам прабіваючыся на ўсход цераз паўстаўшыя станіцы. Па дарозе вербаваў беднату і аднаконнікаў, іншагародніх ка-

закаў, і яны ішлі да яго з коньмі і вазамі, ратуючыся ад мамантаўскай мабілізацыі. У Марозаўскай яны павінны былі злучыцца з арміяй Варашылава і атрымаць зброю. Сёння на золаку падышлі бронепоезд „Чарапаха" са штабнымі вагонамі, і адзін за другім сталі падцягвацца — упрытык—шумныя эшалоны і гружаныя саставы...

У вагоне Варашылава сабраўся ваенны совет. Весткі паступалі самыя несуцешныя. У дваццатых чыслах мая Варашылаў паслаў Арцёма з таварышамі ў Царыцын, каб звязаць у адну задачу царыцынскі фронт і сваё адступленне. Шмат разоў абстраляны ў дарозе, трохвагонны састаў Арцёма прабіўся да Дона і шчасліва пераехаў мост. На другі дзень белыя напалі на станцыю Чыр, адкінулі атрады царыцынскіх рабочых на левы бераг і ўзарвалі мост цераз Дон. Што рабілася ў Царыцыне—цяпер было невядома, правільней за ўсё—рабілася дрэннае. Марозаўцы апавядалі аб гуртаванні вялікіх мамантаўскіх сіл у станіцы Ніжнечырскай і ў станіцах—вышэй узарванага маста—Калачы і Пяціізбянскай. Начальнік станцыі запэўняў, што царыцынцы адышлі ад Дону і аддалі хутар Лагоўскі (каля самага маста) і левабярэжныя хутары Ермохін, Нямкоўскі і Ільменскі—і нават, нібы, адышлі за станцыю Крывая Музга, так што белыя цяпер пад самым Царыцыным.

У Варашылава сабраліся камандзіры атрадаў 5-й арміі і наркомы неіснуючай болей Данецка-Крыварожскай рэспублікі. Настрой быў сумны. Гаварылі, што атрады выматаліся ў штодзённых баях, а самае цяжкае аказваецца наперадзе: разбіць мацнейшага, добра ўзброенага немцамі, праціўніка і ўткнуцца ва ўзарваны мост. Каб дапамога царыцынскіх заводаў... Але Царыцын, правільней за ўсё, ужо—Міцькай звалі. Папраўляць жалезны мост голымі рукамі можна толькі дурням... А хаця-б і пачалі папраўляць—патрэбна поўгода на гэта, поўгода карміць у голым стэпу плойму бежанцаў, поўгода адбівацца ад казакаў. Прадпрыемства неажыццявімае.

Ва ўсіх амаль адна была прапанова: эшалоны з маёмасцю і бежанцаў пакінуць у Марозаўскай. Атрадам, кожнаму на сваю рызыку, прабівацца кружнымі шляхамі на левы бераг. Калі Царыцын яшчэ цэлы, збірацца ў Царыцыне, а ў горшым выпадку—ісці на Паўночны Каўказ, дзе чырвоных сіл шмат і можна ваяваць.

Гаварылі рэзка і катэгарычна.

Варашылаў маўчаў, апусціўшы вочы, твар яго быў у чырвоных плямах. Поплеч з ім, палажыўшы шырокія рукі на эфес шашкі, сядзеў Яхім Шчадэнка--невысокі, каранасты, пабрыты, падобны абветраным, моцным тварам на крэчата.

Выказваліся ўсе, апрача пазяхаўшага Пархоменкі, апрача Колі Руднёва, занятага якімсьці неразборчывым пісьмом, і Лукаша,—гэты правёў дзесяць дзён у ар'ергардных баях, увесь быў абарваны, брудны,—падпёршы шчаку, прылегшы ў куток—спаў.

— Таварышы,—сказаў Варашылаў, падымаючы галаву,—зараз мы ўсе пойдзем на сход з марозаўцамі... Там у асноўным будуць узняты тыя-ж пытанні. Там я вам і адкажу... Але вось што зараз не церпіць адкладу... (Руднёў, як хлапчук, усміхнуўся, працягнуў яму пісьмо). Пакуль у нас няма адзінай базы забеспячэння—няма

і дысцыпліны... Мы павінны цяпер-жа правесці ўлік усёй маёмасці эшалонаў. Тут, у Марозаўскай, мы павінны стварыць адзіную базу забеспячэння арміі. Створана асобая камісія ўліку, у яе ўваходзяць таварышы Руднёў і Межын. Гэтым таварышам вы давяраеце? („Давяраем, давяраем“). У штаб арміі перададзена вось гэтае пісьмо... Ён разгладзіў на стале запэцканы лісток, спісаны чарнільным алоўкам.—Гэта пісьмо—знайшлі ў пінджаку аднаго з анархістаў з атрада „Бура“. Між іншым, яно падпісана...

Руднёў,—блізарука нахіліўшыся:—Прозвішча няма, Клім, падпісана проста „рыжы“...

— Гэта справы не мяняе... Пісьмо адрасавана нейкай Жэні, у Одэсу...

Руднёў зноў:

— Дазволь, я ўжо разабраў.

Варашылаў падсунуў яму пісьмо і Руднёў, моршчачы нос, пачаў чытаць:

„Жэнька, дарагая... Мы каторы месяц цягнемся ў сваіх бліндзіраваных вагонах. Я ўжо не рад, што звязаўся з анархістамі,—палавіна заядлыя бандыты і ўсё такое, словам—сіфілітыкі. Шасцярых мы па дарозе ўжо прыкончылі. Для цябе хаваю скунсавую шубу, купіў яе ў Харкаве, у буржуазнай кватэры. І яшчэ цябе чакае штосьці... Так па табе сумую—усё-б кінуў к чорту. Шкада, з сабою шмат не возьмеш. У нас золата ў манетах і плаўленага—дванаццаць бочак, футравае барахло і сукно дыяганаль—восемсот аршын,—купілі ў Елісаветградзе. Вярнуся ў Одэсу—мы з табой пагуляем, толькі, сука, не гуляй з другімі,—я аб гэтым падумаю—уся кроў згортваецца... Нашаму атраду надакучыла гэта пятрушка: учора на канферэнцыі аднагалосна прышлі: ліквідаваць Варашылава і ўвесь штаб. Тады армія адразу разбяжыцца, наш бліндзіраваны эшалон будзе прабівацца, куды хоча“.

— Вось усё важнае з пісьма,—сказаў Руднёў і пакасіўся на Клімента Ефрэмавіча. Варашылаў слухаў прыкрыўшы вочы рукою,—па сціснутым роце было відаць, што ледзь стрымліваецца: штосьці яго ў гэтым пісьме насмяшыла. Правёўшы па вачах, сказаў:

— Таварышы, дакумент красамоўны... Я прапаную камісіі пачаць работу зараз-жа.

Некалькі тысяч сялян—іншагародніх, старых франтавікоў, казакаў акружыла станічны совет, дзе дэлегаты і восемнаццаць камандзіраў восемнаццаці атрадаў з восемнаццаці воласцей, якія адклікнуліся на заклік Яхіма Шчадэнка, засядалі разам з камандзірамі 5-й арміі.

Вокны былі расчынены, і натоўп, падымаючы пыл пад спякотным сонцам, размахваючы вінтоўкамі, а то і косамі, сякерамі, каламі,—падтрымліваў выступленне сваіх. Адразу-ж выявілася разыходжанне: марозаўцы і слухаць не хацелі—ісці з эшалонамі ў Царыцын.

— Чаго мы там не бачылі?—казалі некаторыя камандзіры.—

Тут у нас свая зямля, свая гаспадарка... Не для таго падняліся, каб пакідаць станічнікам нашы хаты... Будзем ваяваць за сваё.

— Даёш зброю!—роў натоўп за вокнамі...

Шчадэнка, які сядзеў насуплены і пахмурны—з боку стала стукнуў шашкаю аб падлогу:

— Залупіць у бога, у веру, у маць—гэта і я магу, хлопцы. Не ў крыку справа. Давайце гаварыць спакойна... Зброя будзе дадзена, калі наш атрад увойдзе ў склад 5-й арміі...

Камандзір—у кажуху на адно плячо—шалёна закрычаў яму з месца:

— Хто яна такая 5-я армія, каб нам загадваць?!

У вокны прасоўваліся барадатыя дзядзькі:

— Хлопцы, не ідзіце пад чырвоных генералаў!

Шчадэнка,—стукаючы шашкаю, наліваючыся крывёю:

— А такая яна 5-я армія, што ў іх восем тысяч штыкоў, а ў нас—тры, у іх—кулямёты, а ў нас—вілкі ды косы.

Больш разумныя адказвалі яму:

— Мы табе верым, Яхім... Ды ты—хіцёр, а мы не працэй за цябе. Што-ж, фарміруй з нас дывізію. Але так, каб пры кожнай часці было-б два камандзіры—адзін ад Варашылава, другі ад нас...

У вокны—дзядзькі:

— Станічнікі нам і зараз прапануюць міравую—хочуць з намі зямлю дзяліць... Нам толькі зброю дайце!

Чым далей размаўлялі—тым больш упартымі рабіліся марозаўцы. Але вось да стала падышоў чалавек з падвязанай рукою,—на маленькім, аброслым шчаціннем, твары яго відаць былі адны вочы: пільныя і нерухомыя. Ціхім голасам і дрэнна па-руску ён загаварыў, прытрымліваючыся за край стала:

— Я сербскі комуніст... Я працаваў на Украіне і пабег. Я бег два месяцы, і я хачу гаварыць аб дрэнных справах, якія я бачыў на Украіне. Немцы сказалі памешчыкам: вярніцеся. І памешчыкі вярнуліся. І ўзялі назад усю зямлю і ўвесь ураджай... Але гэтага мала. Сялян трэба караць. Я бачыў гэтыя дрэнныя справы. На цукраварным заводзе прышоў памешчык і прышоў нямецкі лейтэнант. І там стаяла шмат бочак. Лейтэнант сказаў, каб прывялі сялян, якія павінны быць пакараны... Іх прывязалі да бочак, і гайдамакі знімалі з іх штаны і лупцавалі іх шампаламі. Яны наматвалі на штых валасы і вырывалі. Былі страшэнныя крыкі і раўня. Адзін селянін узяў у памешчыцы Пятроўскай люстра. Яно не ўлазіла ў хату, ён паставіў яго ў кароўнік, карова ўбачыла сябе ў люстры і разбіла рагамі. Калі памешчыца Пятроўская вярнулася, яна загадала гэтага мужыка павесіць каля яго хаты, і яму на шыю прывязалі раму ад разбітага люстра. Другі селянін узяў жарабца. Потым ён прывёў яго памешчыку і прасіў даравать яго, памешчык загадаў прывязаць селяніна да хваста, сеў у аўтамабіль і пагнаў жарабца ў стэп. Гэта я бачыў, як мужык бег за жарабцом, а потым упаў... Я бачыў, як у вёсцы хавалі забітага гайдамака. Памешчык загадаў усім сялянам і сялянкам ісці за труною і моцна плакаць, і каб яны моцна плакалі, гайдамакі іх білі нагайкамі... Я магу шмат расказаць, што я бачыў, але я думаю, што і гэтага будзе

досыць... Вось што прынеслі немцы на Украіну. І яны прынясуць гэта вам, калі вы не захочаце арганізавацца... Ленін кажа: „Наш спосаб барацьбы—арганізацыя і арганізацыя“...

У памяшканні і за вокнамі ў цішыні—слухалі слабы голас серба. Ён усміхнуўся, неспадзявана адкрыўшы на аброслым чорным твары зубы, як цукар, адарваў руку ад стала і пайшоў на месца.

Тады устаў Варашылаў. Асунуўшы тугую папругу, павярнуўся да вокан, каб яго маглі добра чуць:

— Немцы захапілі на Украіне ваенныя склады царскай арміі. Цяпер яны пасылаюць цэлыя эшалоны вінтовак, гармат і агняпрыпасаў у Новачаркаск атаману Краснову. А ён забяспечвае гэтай зброяй паўстаўшае казацтва. Красноўскія генералы яшчэ год назад стралялі з гэтых гармат па немцах, цяпер страляюць па вас, мужыкі, з тых-жа гармат... Яны выконваюць волю немцаў—акупантаў... Мы вывезлі з Харкава і Луганска ўсю зброю, каб яна не абярнулася супроць вас... Дзіця зразумее, што калі мы кінем нашы эшалоны—іх падбяруць казакі і з нашых вінтовак і гармат будуць расстрэльваць усю працоўную грамаду і на Украіне, і на Дану, і ў Велікаросіі. Значыць, наша першая задача: вывезці зброю і перадаць яе рэвалюцыйнаму рабоча-сялянскаму ураду... Зразумела? А гэта магчыма, калі мы праб'емся да Царыцына і злучым нашы сілы з царыцынскім гарнізонам... Тут кажуць—Царыцын ужо здадзены... Скажам—мы паверылі гэтай паніцы... Ну—што-ж... Перабярэмся на той бок Дона і будзем прабівацца на Паворына і далей—на Маскву... (заўважыўшы неадкладны пасля гэтых слоў рух—павысіў голас). Мы паступім у распараджэнне цэнтральнага камандвання рэволюцыяй і гэтым давядзем, што мы не якая-небудзь асобная дурная федэрацыя, што баіцца расстацца са сваім хатамі... Мы—частка нашай створанай адзінай Чырвонай Арміі, якая змагаецца за зямлю і мір усіх працоўных! Цяпер не тое, што было ў лютым ці сакавіку. Чырвонагвардзейскія і партызанскія атрады зводзяцца ў палкі, батальёны, роты, ствараюць дывізіі і карпусы. У гэтым наша задача, і вы павінны на гэта пайсці свядома... А ў нас з вамі ідзе спрэчка. За што? Вы адстойваеце самастойнае камандванне ці ўжо—ў крайнасці згодны на падвойнае. Вы абараняеце эсэраўскія прынцыпы камандвання... Хочаце кружыцца каля станіцы Марозаўскай, каля сваёй хаты... Адны—як вы ёсць—васемнаццаць валасцей—марыце распраўіцца з усёй арміяй Вільгельма і красноўскімі генераламі... Я рэволюцыянер, я большэвік... І я проста стаўлю перад вамі: вас правацыруюць, эсэры і кулакі нашэптваюць вам такія паводзіны, якія хутка прывядуць вас да гібелі. Гэтага я як комуніст і камандзір арміі дапусціць не магу. І калі вы не прыдзеце з намі ні да якой згоды—я вам не толькі не дам зброі—я вас раззброю...

Ён спыніўся. У цішыні за вокнамі—голас:

— Вось гэта дык адпароў...

— Яшчэ павінен даць адказ юнкерам і капітулянтам. Так, атрады нашы здорава наматаны. Так, наперадзе найболей цяжкая задача: прабіцца да Дона і паправіць мост... Хаваць няма чаго—становішча цяжкае. Я бачу толькі адзін выхад: ад беспарадачнага скаплення

атрадаў перайсці да цвёрдай арганізацыі арміі... Ад абароны перайсці ў наступленне.

Як лівень, што пасылае спачатку асобныя буйныя кроплі і сыпле ўслед шумным патокам,—так захлопаў і ўхвальна зашумеў натоўп...

Не паспеў чарговы аратар адкашляцца і, упёршы падбародак у каўнер, пачаць даваць адказ,—пачуліся з боку вакзала частыя стрэлы. Шчадэнка высунуўся ў акенца.

— А ну—гляньце—шо там таке?

Па натоўпу прабегла гамонка, і заднія паведамілі:

— Ды там на вакзале хлопцы камісію нейкую б'юць.

Паседжанне было перапынена. Варашылаў, Пархоменка, Шчадэнка, Лукаш, Бахвалаў селі на коней, паімчаліся на вакзал. Яшчэ здалёк чуваць быў гул натоўпу, асобныя стрэлы. Беглі нейкія людзі. Другія лезлі на стрэхі вагонаў...

На чыгуначных шляхах перад перагонам людзі кішэлі, як мурашкі, крычалі ў некалькі сот горлаў. Размахваючы рукамі, яны цесным гарачым кругам абступілі кучу, дзе адбывалася самае галоўнае: трое матросаў з бронепоезда „Чарапаха" і дзесятак анархістаў з атрада „Бура" білі і валаклі, відаць, расстрэльваць бледнага, з чырвонымі вачыма, з ускудлачанай асірыйскай барадой Межына і Колю Руднёва—у яго наўскасяк ілба выступіла кроў з трох драпін кіпцюрамі, гімнасцёрка шырока—ад каўняра—разадрана, твар страшна пакрыўлены,—ён адбіваўся і таксама шалёна крычаў.

У гэтую кучу ўрэзаўся плячамі Варашылаў, Пархоменка, Лукаш, Шчадэнка і тыя з камандзіраў, што паспелі за імі.

— У чым справа?—моцна ўскрыкнуў Варашылаў...

І ў грудзі матросаў і анархістаў уперліся дулы наганаў.

— У чым справа?—зароў Лукаш, шукаючы вачамі ў абступіўшым натоўпе каго-небудзь з свайго атрада...

Усё гэта адбылося раптоўна, рэзка, рашуча. Матросы адпусцілі Руднёва і Межына. Адзін з анархістаў—маленькі, жылісты, вогненна-рыжы—кінуўся ў натоўп, але там яго ўзяў разам з доўгімі валасамі за каўнер велізарны Бакун—скалануў і пхнуў зноў у круг...

Межын, глытаючы горкую сліну, гаварыў Варашылаву:

— Мы пачалі з „Чарапахі", парашылі праверыць сейф з каштоўнасцямі арміі... Адразу выявіўся варожы настрой сярод часткі каманды. Гэтыя трое нам прыгразілі рэвальверамі, не дазваляючы адкрываць сейф... Справа ў тым: каля „Чарапахі" і ў самым вагоне знаходзіліся вось гэтыя, гэтыя...—Ён тыкаў на анархістаў.— Яны яўна агітавалі... Настрой рос... Мы настойвалі на тым, каб ускрыць... Нас пацягнулі з вагона, пагражаючы расстрэлам.

— Брэшаш, сука!—Адзін з трох матросаў—ружавата-рабы, з пляскатым носам—раскінуў локцямі тых, хто трымаў яго,—зялёнымі поўнымі злосці вачыма ўпёрся ў Межына.—Дзе ты быў, жаба, калі мы, флотцы, за рэвалюцыю ў крыві ўмываліся?

Другія двое, адсоўваючы дулы наганаў, падтрымалі яго:

— Не пагражайце нам гэтымі цацкамі, нам вядома рэволюцыйная законнасць...

Зноў—кароткая тузаніна. Паспешная мацяршчына. Бахвалаў, дрыжучы цяжкімі шчокамі, крычыць, каб расступіліся, далі вывесці арыштаванага... Варашылаў напружаны, знешне спакойны, працягвае руку да Бакуна, кажа хутка: „Бяжы ў батальён,—трывога, са зброяй сюды“... Сярод растучага гаму ў яшчэ цясней абступіўшым натоўпе пачаліся надрыўныя галасы:

— Раманаўскія парадкі завялі...

— Прадалі нас...

— Хто ён такі загадваць?.. Давай сюды Варашылава!

— Хай адкажа... Варашылаў, выходзь...

І—некалькі горлаў:

— Няхай жыве анархія!

Напружанасць расла. Ужо нельга было разабраць асобных галасоў. Мацней за ўсіх крычаў рабы матрос... Здавалася—вось-вось—пачуецца стрэл—і закруцяцца целы, равучыя раты... З натоўпу прабіраўся Чугай,—пук валасоў—на ілбу з-пад шапачкі з істужкамі, шырокі твар, круглыя вочы, закручаныя вусікі—як фаянсавыя—без выразу. Марскою пераваламю падышоў да рабога матроса і моўчкі, з усяго пляча не тое што ударыў—кулаком цяжка ахнуў яму ў вісок. Рабы паваліўся. З натоўпу крыкнулі: „За справу!“ Двое яго таварышоў адразу аціхлі, падаючыся назад ад Чугая. Лукаш выцягнуў жылістую шыю.

— Таварышы, вядома: у маім батальёне тысяча дзвесце штыкоў і ўся наша артылерыя... цацкацца са свалачамі я не буду...

Па чыгуначных шляхах ужо беглі, бразгаючы затворамі вінтовак, байцы Комуністычнага і Луганскага батальёнаў. Рэбяты ўсе былі загартаваныя, не баяліся ні чорта... Тады з натоўпу кінуліся з паўсотні чалавек,—нізка прыгінаючыся,—пад вагоны... Байцы Лукаша ачаплялі шляхі і перон. Натоўп прымірліва заціх. Варашылаў сказаў:

— Таварышы, таварышы, давайце па эшалонах, спакойна... (І—Лукашу). Атрад—асобна з кулямётамі — да анархістаў... Ачапі і пастарайся іх расколоць...

Чугай,—адвярнуўшыся фаянсавым тварам да Варашылава, да Лукаша:

— Правільна, Клімент Ефрэмавіч, я іх раскалю... Там перш за ўсё старога трэба ўзяць. З бандытамі справімся адною размовою...

І Чугай пайшоў, памахваючы байцам, клічучы іх па імёнах: „Іван, Мікалай, Салох, Іван Прахвацілаў“!..

Не трацячы часу, трэба было праводзіць далей рэвізію і вопісь павагоннай маёмасці, каб у мітусні не расцягвалі каштоўную. Трох матросаў і двух анархістаў (астатнія паспелі схавацца)—арыштавалі. Перон і шляхі апусцелі. Межын, прыгладжваючы ўскудлачаную бараду, аглядваўся: дзе-ж другі член камісіі—Коля Руднёў?

Коля Руднёў сядзеў пад станцыйным звонам, апусціўшы твар у далоні,—плечы яго ўздрыгвалі. Не то ікаючы, не то ўсхліпваючы—ён гаварыў нахіленаму да яго Варашылаву:

— Ніколі не мог, разумееш, не мог падумаць... У нашай арміі

могуць знайсціся такія бессараматнікі... Такія хуліганы... Суб'екты без усялякага рэвалюцыйнага сумлення... У нашай арміі,—ты зразумей...

Чугай адзін, уразвалку, падышоў да бліндзіраванага вагона, на якім было напісана сурыкам: „Смерць сусветнай буржуазіі“. Узняўшы на ўзровень грудзей шырокія далоні з растапыранымі пальцамі, улез па трох ступеньках на пляцоўку.

— Прымі пушку,—спакойна сказаў ён, локцем адпіхаючы наган у гімназіста, які глядзеў на яго ў змрочным жаху, і ўвайшоў у вагон, дзе стаяў доўгі стол. У другім баку вагона згрудзіліся ўсхваляваныя падзеямі анархісты. Дзесяткі два рэвальвераў накіраваліся на Чугая.

Варушачы растапыранымі перад сабою пальцамі, ён падышоў да стала, нагой падсунуў табурэтку, сеў.

— Давай, давай,—садзіся,—сказаў ён анархістам.—Давай сюды вашага Крапоткіна.

Фаянсавыя, без выразу, вочы яго заварожвалі. Анархісты наглядзеліся на Чугая яшчэ ў Ліхой. Ясна, ён штосьці ім падрыхтаваў. Не гледзячы на варожасць і насцярожанасць—ім стала нават цікава: якую ён падрыхтаваў кулю? Рэбяты, мармычучы, пачалі прысаджвацца да стала. Кожны клаў перад сабою рэвальвер або гранату і пры малейшым руху Чугая хапаўся за зброю. Якаў Злы, выпіхнуты наперад, прысеў насупраць яго, задраўшы мутнае пенснэ на плоскім носе. Свежы чырвоны рот яго рассоўваўся ад усмешкі: што бо гэты матрос можа сказаць, яму, Якаву Злому?

— Крапоткін, Крапоткін,—сказаў яму Чугай,—самая ты што ні ёсць буржуазная стыхія... Навошта ты палез у нашу кашу? Навошта табе патрэбна нашых рэбят ашукваць? (Якаў Злы яшчэ круцей задраў пенснэ. Чугай не даў яму слова). Паглядзі, якія тут рэбяты. З такімі рэбятамі сусветную рэволюцыю можна рабіць. А ты іх цягнеш у бандытызм...

Чугай зараз-жа ўдарыў па стале далонню, таму што пры гэтых словах узнялося пагражальнае мармытанне.

— Ціха, я гавару! Я рэдка гавару, рэбяты, вы мяне ведаеце... Значыць, выклікана гэта неабходнасцю... Хаваць няма чаго,—сярод вас ёсць бандыцкі элемент. Дваіх вашых мы сёння прыкончым. І вось гэтага... (Ён паказаў далонню на маленькага жылістага Рыжага). Гэтага вы мне зараз выдадзіце, мы яго таксама шлёпнем...

Рыжы ўсхапіўся, пагражаючы—палез быў з-за стала, яго сілаю пасадзілі. Дошкі стала трашчалі. Некалькі рэвальвераў скакала перад Чугаем. Але ён сядзеў, як і раней, нават не падымаючы вачэй, як кітайскі святы. Ён ведаў, як абыходзіцца з гэтай публікай. Цікавасць слухачоў зноў узяла верх. Трохі супакоіліся. Тады Чугай выцягнуў з кішэні пісямцо Рыжага. (Ідучы сюды—ён узяў яго з папкі спраў, у Пархоменкі). Аднесшы лісток далёка ад вачэй—слова за словам—прачытаў... Уражанне атрымалася тое самае, як ён і чакаў—публіка адразу раскалолася: анархісты закрычалі, што гэта абраза, здрадніцтва, данос... Бандыты ўступіліся за Рыжага, але іх было меней. Рыжы зноў палез з-за стала... Чугай даў ім трохі адкрычацца...

— Я не скончыў, брацішачкі,—стаўлю пытанне: як павінен наступіць камандуючы арміяй, азнаёміўшыся з такім дакументам? Па ваеннаму часу павінен загнаць усіх вас у вагон і падчыстую кончыць артылерыйскім агнём. Зразумела я гавару? Але, прымаючы пад увагу, што сярод вас знаходзіцца рэволюцыйная праслойка, камандуючы пашкадаваў—губіць такі матэрыял. Вам дадзена права самім разабрацца па сваім рэволюцыйным сумленні. Разбярыцеся і бандытаў выдадзіце нам. Гэта адзіны ваш ратунак. А каб вам лягчэй разбірацца, я бяру з сабою вашага Крапоткіна. Старога мы не кранем, яго адпусцім у стэп. Паседжанне, рэбяты, закрываю і ніякіх спрэчак не даю... А даю вам на ўсё—пятнаццаць мінут—па закону ваеннага часу.

Чугай устаў, павярнуўся да сходу спіною, пайшоў да дзвярэй. Калі да яго з рэвам кінуліся,—павольна адвярнуўся:

— Пакіньце вашы рукі,—сказаў,—не бярыце мяне... Вагон акружаны, вагон пад прыцэлам Комуністычнай брыгады.

Тут толькі спалоханы атрад „Бура“ ўбачыў, што за час размовы, сапраўды, увесь іхны эшалон быў акружаны кулямётамі. Асталася прыняць умовы або памерці.

— Хадзем, хадзем, старэнькі,—сказаў Чугай, падштурхоўваючы Якава Злога да дзвярэй.—Цябе не зачэпім, нам цябе толькі ізаляваць... А там—чытай сабе Крапоткіна на здароўе.

3

Армія затрымалася ў Марозаўскай, фарміруючыся, падлічваючы і прыводзячы ў парадак вапасы. З Марозаўскага атрада была створана дывізія. Камандзірамі часцей прызначаны марозаўцы-ж. На ваеннай нарадзе арміі, якая папоўнілася і набыла больш выразныя формы, быў прыняты план наступлення: усе пяхотныя часці і артылерыя Куліка ідуць грунтам, справа ад палатна ў абход станіцы Ніжнечырскай. Конныя часці Марозаўскай дывізіі ідуць злева ад палатна, прыкрываючы чыгуначны шлях з поўначы. Эшалоны на чале з „Чарапахаю“ прасоўваюцца да станцыі Чыр.

Для прыкрыцця тыла пяхотныя палкі Марозаўскай дывізіі астаюцца ў станіцы,—гэтага дамагліся марозаўцы, колькі ім не даводзілі, што нельга раздрабняць сіл. Прышлося згадзіцца. Армія выступіла. Быў пачатак чэрвеня.

У першыя дні армія ішла недалёка ўздоўж палатна. Абед варылі ў паяздах: паравоз свістаў, з вагона махалі шапкаю на палцы,—атрады спыняліся і ішлі абедаць.

Эшалон шахцёрскага атрада знаходзіўся ў хвасце—часамі апярэджваў пехацінцаў, часамі адставаў.

Аднойчы ў абедзенны час, калі байцы размясціліся па вагонах і кашавары і жанчыны разносілі катлы і манеркі, поезд спыніўся на поўстанку. У задні вагон улезлі Лукаш і Коля Руднёў. Абодва—зморaныя, шэрыя ад пылу, галодныя і вясёлыя. Яны аб'язджалі фронт у брычцы, заганялі каня, кінулі яго на хутары і дагналі эшалон пехатою.

Яны селі на агрыпініну койку—насупроць Івана Гары. Запы-

талі пра здароўе. Ён адказаў, што праз тыдзень які вернецца ў строй.

— Праз тыдзень пачнем граміць Мамантава, шэрсць з яго палясціць,—сказаў Лукаш, сплёўваючы пад ногі. Коля Руднёў, як засёды падумаўшы, сказаў сумленна, без пераўвелічэння.

— Ва ўсякім разе да Дона мы праб'емся.

Агрыпіна, румяная ад задавальнення, што такія, усяму свету вядомыя, таварышы гэтак ласкава гавораць з Іванам Гарой, прынесла бляшаную манерку з бульбай, якая яшчэ дымілася, з кішэні дастала сваю дзявоцкую паркалёвую хустку, зубамі развязала на канцы яе вузел і замыліўшы губы, прапанавала гасцям дробку солі... Сталі лупіць бульбу, мачаць у соль, есці.

— А а цябе помню,—сказаў Лукаш,—як ты вінтоўку ў мяне прасіла... Я тады проста да чорта здзівіўся: бой, ведаеце, гарачка... Ідзе гэтая красуня: вінтоўку дай!.. Усёроўна, як на сенажаці ёй граблі патрэбны.

Ён шырока адкрыў рот, паказваючы моцныя, як у сабакі, зубы і ў гарачым роце чырвоны маленькі язычок, потым ужо гучна заліўся рогатам.

— Нічога, яна спраўляецца—нароўні,—прагаварыў Іван Гара, з некаторым неспакоем заўважаючы, што Лукаш ужо некалькі раз,—праўда, мелькам, але вельмі ўважліва,—зазіраўся на Агрыпіну.—Канешне, цяжка ёй бывае цераз тое, што яна дзіця яшчэ.— І паўтарыў, нахмурыўшыся.—Яна яшчэ дзіця. (Уважліва стаў круціць папяросу). Прыглядваюся вось да яе, да нашых рэбят: вялікая школа—рэволюцыя. Ведаеш—у вёсцы—прывесяць на вяроўцы ў свіранку вялікае сіта і кідаюць у яго пшаніцу або жыта. І вось гэтак вось мужык сіта круціць і падтрэсвае: лепшае зерне сеецца, смецце ўсё наверсе,—ён яго прэч... Так і ў нашым атрадзе адсейваюцца людзі, і ў кожным—адсейваецца зерне, а смецце— прэч...

Коля Руднёў,—таксама скручваючы:

— Владзімір Ільіч гэта лепш за цябе гаворыць.

— А што гаворыць Владзімір Ільіч?

— А ён гаворыць вельмі выдатна... Пролетарыят, жывучы побач з буржуазным класам, заражаецца яго парокамі, бясспрэчна...

— Ну гэта пустое,—сказаў Лукаш,—пролетарыят нічым, брат, не заразіш...

— Пастой ты,—Іван Гара махнуў на яго пальцам.—Гэта правільна... Хіба я не бачыў: у нас на Пуцілаўскім у нядзелю некаторыя рабяты чуць развідняецца, як лебедзі, плывуць у шынок па гарэлку... Гэта не буржуазная зараза?

Коля Руднёў працягваў:

— Меншавікі скажаюць Маркса, што нібы можна ціханька, лёганька, без рэволюцыі дарасці да соцыялізма. Владзімір Ільіч гаворыць: толькі ў працэсе рэволюцыі—толькі!—пролетарыят можа пазбавіцца ад старых парокаў, вырасці маральна і стаць здольным стварыць новае грамадства...

— Гэта—так, гэта так,—сказаў Лукаш.

Іван Гара, падумаўшы, адказаў:

— Правільна... Ён паўней гэта гаворыць,—правільна...

Так яны сядзелі і разважалі. У вагон, чапляючыся вінтоўкай у вузкіх дзвярах ускочыў Валодзька-шахцёр,—штаны і рубашка на ім былі адны дзіркі, няма куды класці лат...

— Казакі!—крыкнуў ён спалохана-радасна,—сотні тры ідуць лавай...

Лукаша падкінула, як спрунжынай.

— Стой! Чаго зарадваўся! Каб усе аставаліся на мясцох!.. Коля, у хвасце на пляцоўцы—кулямёты, я—зараз...

І ён спераду Валодзькі пабег па вагонах, загадваючы байцам: „Да зброі! З вагонаў не выходзіць! У вокны не высоўвацца! Без каманды не страляць! Няхай казакі, не бачачы каля яго людзей, падумаюць, што гэта штабны поезд, альбо санітарны, і падыдуць бліжэй, не баючыся...“

Праз хвіліну Лукаш прабег назад, выскачыў на заднюю пляцоўку. Там Коля Руднёў, Іван Гара (як быў у кальсонах) і Агрыпіна прыладжвалі кулямёт. Другі кулямёт ляжаў тут-жа. Лукаш—Агрыпіне:

— Бяры ленты, лезь пад колы.

З другім кулямётам ён саскочыў з пляцоўкі і ўстанавіў яго між заднімі коламі. Сеў, сагнуўшыся, пад вагонам. Агрыпіна ляжала на жываце поплеч з ім. Лукаш—шэптам:

— Ну, калі сволачы не паслухаюць майго загаду: не адкрываць агню, падпусціць на дзвесце крокаў...

— Нашы даўно гэтага выпадка чакаюць,—сказала Агрыпіна, таксама шэптам.—Падпусцяць.

— Бачыш, Агрыпіна? вунь яны! Арлы.

Направа ад палатна мясцовасць была няроўная. Калі некалькі часу таму назад Валодзька (у вартавой ахове) заўважыў казакаў,—яны тады спускаліся з палыннага касагора. Зараз усёй лавай, падганяючы коней і размахваючы пабліскваючымі шашкамі, тры ці чатыры сотні іх імчаліся з лагчыны да поезда. Ужо чуваць быў цяжкі тупат коней...

— Коля, Коля, вытрымай іх, міленькі, вытрымай,—енчыў Лукаш з-пад вагона...

Ясна былі відаць напружаныя, расчырванелыя, барадатыя твары... Чорныя добрыя мундзіры, лампасы, заломленыя бесказыркі... Разяўленыя раты. Раздзьмутыя ноздры коней...

— Ур-ра,—далятала,—ур-ра!

— Давай!—дзіка крыкнуў Лукаш. І абодвы кулямёты—з пляцоўкі і з-пад вагона паспешна застукалі. Зараз-жа коні з поўнага скоку пачалі падаць, спатыкацца, узвіваліся дубка, перакульваліся...

Разгон усёй лавы быў такі вялікі, што заднія не паспелі ні павярнуць, ні затрымацца—урэзаліся ў кучу конскіх, чалавечых цел і, збіваемыя, валіліся, і ўсё-ж асобныя коннікі прадаўжалі імчацца да вагонаў. Шахцёры саскоквалі з пляцовак, беглі насустрач, выставіўшы штыхі. Некалькі казакаў, ратуючыся, прыгнуўшыся да грываў, ускочылі на насып, але і там іх дастаў кулямёт... Шахцёры наляталі на спешаных казакаў, гарачыліся, схватваліся го-

лымі рукамі. Спераду, плячыстыя Валодзька і Федзька, ухапіўшы вінтоўкі за дулы, ішлі бураломам, збіваючы з ног людзей.

Усё пачалося і скончылася за некалькі хвілін. Крычалі параненыя. Хрыпелі паміраючыя. Біліся ногі. Лукаш вылез з-пад вагона. Выціраючы тылам далоні апаленыя налітыя крывёю, вочы,—паклікаў:

— Коля... Жывы?

— Нічога, абодва цэлыя,—у Руднёва дрыжэлі і губы і чорная ад копаці рука, якая папраўляла ўпаўшыя мокрыя валасы. Іван Гара, адсопваючыся, цяжка сеў на ступеньку.

— Што-ж цяпер рэбяты адзенуцца, абуюцца па крайняй меры... А то ідуць—матаюць анучамі... Гапа,—паклікаў ён,—Аграпіна...

Не адразу і нягучна з-пад вагона адказалі:

— Ды зараз я... Ленты-ж трэба сабраць...

## 4

Ад хутара Рычкова да маста—тры вярсты. Чыгуначны шлях перад самым Донам загінаецца і ідзе па высокай дамбе, дзе справа і злева—глыбока ўнізе—ляжаць азёры, зацененыя лазою, арэшнікам, харавымі ясакарамі. На захадзе сонца па дамбе павольна рухаўся паравоз без вагонаў. Некалькі чалавек з яго пляцоўкі глядзелі на поўнач,—туды, дзе ўдоўж Дону цягнулася крутое узвышша—„Рачкова Гара“.

Там зноў мільганула доўгая ўспышка, якая лізнула нізкія воблакі,—цераз шмат секунд у адно з цмяна чырванаватых азёр упаў знарад, разарваўся, высока ўзняўшы ваду.

Машыніст, выскаляючы зубы, сказаў:

— Ракаў, мабыць, набіла—мільён.

Паравоз прадаўжаў павольна заварачвацца па дабме. Направа—на поўдзень—на ўзгорку на-над Донам знаходзіўся вялікі скураны завод. Там з сёнешняга дня ішла гарачая работа—разбіралі будынкі, дошкі і бярвенне зносілі на бераг, вязалі плыты. На гэту работу былі кінуты ўсе вольныя рукі.

Шэсцьдзесят эшалонаў стаялі ўжо між станіцай Чыр і хутарам Рычковым. План пераходу ад Марозаўскай да Дону ажыццявіўся хутчэй, чым чакалі. Казакі, баючыся конніцы Шчадэнка, якая ішла злева ад палатна, і пяхотных атрадаў, што ішлі справа, не адважваліся падыходзіць блізка да эшалонаў. Быў толькі адзін крывавы налёт на станцыю Суравікіна, дзе стаяў у той дзень санітарны поезд з хворымі і раненымі. За разгром яго, за забойства некалькіх сот чалавек казакі тут-жа былі разгромлены падаспеўшым бронепоездам. Гэта адбіла ў іх ахвоту набліжацца да палатна.

Перад Донам 5-я армія, ахоўваючы эшалоны, размясцілася выгнутай крутою дугою—з радыусам да пятнаццаці вёрст: на захадзе цэнтр яе займаў акопы на Лісінскіх вышынях *), левы фланг цягнуўся па рэчцы Чыр і па няроўнай лагчыне перад станцыяй

*) Там і цяпер мне паказвалі „акоп Варашылава“. Мясцовыя жыхары яго ахоўваюць, не заворваюць, кажуць, што трэба на гэтым месцы паставіць помнік чырвоным байцам, загінуўшым пры вялікім варашылаўскім паходзе.

Ніжнечырскай, правы ўпіраўся каля самага Дона ў падножжа Рачковай гары.

Акружэнне Ніжнечырскай не ўдалося. У гарачых баях казакі націснілі фланг 5-й, пакуль яна не заняла гэтыя пазіцыі. Пачаліся штодзённыя зацяжныя баі. Праціўнік запасіў сілы, страляючы „скучнымі“ знарадамі, разумеючы, што эшалоны тут заселі моцна перад узарваным мастом.

Паравоз цяпер ледзь рухаўся. Паказаўся Дон—яшчэ ў разліве поўнаводны азароны закатам. Спераду відаць былі пралёты чыгуначнага маста. Паравоз спыніўся. З яго саскочыў Варашылаў, Бахвалаў і Пархоменка з падвязанай рукою (паранена ў час атакі вакзала ў Суравікіне). Яны прайшлі па палатну яшчэ крокаў з поўсотні. Павявала вільгаццю. Роспачна звінелі камары. Тут палатно крута абрывалася, і тырчалі загнутыя канцы рэек.

Варашылаў прысеў на кортачкі. Унізе, на страшнай глыбіні, павялічанай прыцемкамі, на ледзь аголенай пяшчанай мелі, ляжалі рэшткі ўзарванай фермы.

— Цішыня тут ад узроўню вады—пяцьдзесят чатыры метры,— сказаў Бахвалаў.—Наша шчасце, што ўзарваны першы пралёт, калі-б яны ўзарвалі мост пасярэдзіне, над ракою, тады ўжо нічога не зробіш...

— Сволачы, а!..—прагаварыў Варашылаў.—Прыдзецца нам тут папацець.

— Апрача дрэва, матэрыялаў у нас няма. Прыдзецца на ўвесь пралёт ставіць рад драўляных быкоў... Пяцьдзесят чатыры метры для драўляных пабудоў—вышыня бадай што немагчымая.

— Ну, вось табе—немагчымая!.. Інжынер!

— Дык-жа матэрыял, скажам—драўляны брус, мае сваю мяжу супраціўлення...

— Матэрыял мусіць падпарадкавацца рэволюцыі... Тут ты мяне не пераканаеш...

Бахвалаў весела, не гледзячы на звычайную пахмурасць, рассмяяўся. Варашылаў глядзеў на дальні бераг, дзе ў хутка гусцеючых прыцемках яшчэ відаць былі абрысы таполяў і саламяных стрэх. Бліжэй да ракі чырванелі агеньчыкі кастроў. Пархоменка сказаў:

— Гэта хутар Лагоўскі. Там—нашы. Хутары—ніжэй па рацэ—Ермохін, Нямкоўскі, Ільменскі—захоплены мамантаўцамі. А Лагоўскі трымаецца ўпарта.

— Там царыцынскія рабочыя?—запытаўся Варашылаў.

— Не, якісьці партызанскі атрад. Надоечы іхны камандзір выходзіў на мост, крычаў, але было ветрана, я толькі разабраў, што перадаваў табе паклон і прасіў патронаў і махоркі.

— Значыць—рэбяты баявыя. Можна адсюль прабрацца на мост?

Бахвалаў павёў усіх да адкосу. Чапляючыся за сухія карэнні, спусціліся на рэчны пясок. Тут іх абляпілі хмары камароў. Гучна ўсплёсквала рыба недзе за вербалозамі. Адмахваючыся, пайшлі міма поўразбуранай, да палавіны ўвайшоўшай у пясок фермы.

Частка яе яшчэ была заліта разлівам. Па пояс у вадзе дабраліся да каменнага быка, з якога пачыналіся ўцалеўшыя пралёты маста. Па жалезных скабах пачалі ўзбірацца на бык, на вышыню пяцідзесяці чатырох метраў. Цяжэй за ўсё прышлося Пархоменку з надбітаю рукою. Узлезлі. Скрозь шчыліны маставога насцілу страшна было глядзець—на якой глыбіні пад імі цячэ Дон.

— Колькі ты думаеш правазіцца?—запытаў Варашылаў.

— Калі-б ты мяне запытаў да рэволюцыі, то—сумленна кажучы—паўгода,—адказаў Бахвалаў.—Гэтыя меркі, канешне, непрыемлемы... Тыдняў за чатыры пабудуем, бадай...

— Не хвалішся?

— Не.

— А па-большэвіцку—за два тыдні?

— Кінь, гэта ўжо не сур'ёзна.

— Што табе патрэбна?

— Перш за ўсё мне патрэбна тры тысячы вазоў—вазіць камень, цэглу. Думаю, ўсе цагляныя будынкі ў ваколіцах махнем. Нічога?

— Зараз трох тысяч вазоў у мяне няма.

— Трэба дастаць.

— Не гарачыся, дастанем,—сказаў Варашылаў.

І яны пайшлі па мосце да таго берагу, гутарачы аб тым, як лягчэй будзе арганізаваць работу. Галоўнай надзеяй на поспех ім уяўлялася тое, што будаваць мост будзе не ранейшая—па ведамасцях—„рабочая сіла“, але баявы пролетарыят, разумеючы, што гэтая работа азначае—выратаванне эшалоннай маёмасці, выратаванне тысяч людзей—выратаванне Царыцына, выратаванне ў гэтыя страшныя месяцы пролетарскай рэволюцыі...

Толькі перайшлі мост, як з канавы недзе ў трох кроках—пагражальна аклікнулі: „Стой! Хто ідзе?“ У прыцемку вырасла сажнёвая фігура з галавою, абматанаю хусткаю ад камароў. Пачуўшы, хто ідзе, высокі чалавек падышоў, трымаючы вінтоўку напагатове. Убачыў зоркі на шапках.

— Здарова,—сказаў, рабром кідаючы руку спачатку Варашылаву, пасля другім.—Добра—я вас раней заўважыў, а то-б страляў.

— А ну—вядзі ў штаб,—сказаў Варашылаў.

— А вунь штаб,—чалавек паказаў на касцёр недалёка.—Не пападзіце ў канаву, там у нас калы натыканы, пераходзьце па дошчачцы, і будзе табе гумно Філіпа Грыгоравіча Рабухіна.

Штаб чырвонага казачага атрада, які другі месяц адбіваўся на хутары ад мамантаўцаў (не гледзячы на ўсе іхныя хітрасці), змяшчаўся проста на гумне. Зараз там варылі кашу ў калмыцкай тачанцы. Чалавек трыццаць сядзела пад дымам, адпачываючы ад камара. Агонь асвятляў твары—у большасці безбародыя, бязвусыя,—некалькі парусінавых палатак, скірты леташняга хлеба, драўляны вугал свіран :а пад саламянаю страхою.

Калі Варашылаў, Пархоменка і Бахвалаў пералезлі канаву, людзі павярнуліся да іх. Варашылаў весела крыкнуў:

— Здарова, таварышы!

— Здарова, у добры час,—адказала некалькі спакойных галасоў.

— Хто ў вас тут начальнік?

Чалавек, які прабаваў з таганка кашу, палажыў лыжку з доўгім дзяржаннем, праводзячы пальцамі па вусах, падышоў,— быў ён невысокага росту, каранасты,—барада расла ў яго амаль ад самых вачэй шырокім венікам. (Ватовы пінжак, накінуты на плечы, маленькая ледашчанькая шапка).

— Я начальнік.

— Здарова, камандзір.

— Здарова, таварыш камандуючы.

— А ты мяне ведаеш?

— А хто-ж цябе не ведае, Клімент Ефрэмавіч.

— А я цябе не ведаю.

— А я Парамон Самсонавіч Кудроў, ніжнечырскі казак, набеламу лаюць Парамошкай-шаўцом.

— І другія ў цябе казакі?

— І другія—казакі. Ёсць і іншагароднія. Не ўсе казакі пайшлі за Мамантавым, Клімент Ефрэмавіч. Нас такіх дзівакоў—шмат.

— Што-ж вы тут робіце?

— Нясем рэволюцыйную службу за свой уласны кошт. Хадзем да агеньчыка, паеш з намі казацкай кашы.

Падышлі да кастра. Кудроў сказаў двум рэбятам, што сядзелі на бервяне, каб сышлі ў бок—далі месца камандуючаму—пад дымам. Госці паселі, працягнуўшы мокрыя ногі да вуголляў. Варашылаў, аглядаючы маладыя, налітыя здароўем прыгожыя казачыя твары, запытаў: „Ну, як жывіцё?“ Кудроў бойка адказаў:

— Нічога, Клімент Ефрэмавіч, жывем па-божаму—хто каго падманіць...

Усе засмяяліся—не вельмі моцна, каб не пакрыўдзіць гасцей. Кудроў прысеў каля агню, падняўшы адно калена. Дачарна абгарэлы твар яго—з шырокай барадою, з доўгім носам і разумнымі, маленькімі хітрымі вачыма—так і гарэў жаданнем пагутарыць...

— Добра, што ты да нас прышоў, Клімент Ефрэмавіч. Мы з раніцы ўсё чакаем: прыедзе ці не? У нядзелю бегаў я ў Царыцын—прасіць агнеprыпасаў. Выходзіць да мяне начальнік штаба Носовіч. Як ён загрыміць на мяне: „Не веру,—кажа,— вам—якія вы к чорту чырвоныя казакі! Усе вы адным дзярмом мазаны!“ Я яму тлумачу: хутар Лагоўскі трымае ўвесь фронт. Пяціізбянскія і калачаеўскія казакі даўно-б стыкнуліся з ніжнечырскімі, калі-б не трымалі мы гэты хутар. І—не слухае. Агнеприпасаў я, словам, не дабіўся. Казакі, Клімент Ефрэмавіч, народ злопамятлівы. Бачыш—у мяне нос крышку на бок—у шаснаццатым годзе да мяне акруговы атаман прылажыўся... Гэта я памятаю... Не, казакі не адным дзярмом мазаны... Нам, казацкай галоце, таксама на Дану цесна... Учора мае рэбяты сустрэлі ў

полі аднаго казачышку, з'ехаліся, ён і кажа: „Ідзіце лепш да нас, камандзір—есаул, а ў вас—Пармошка-шавец“. А ў іх есаул—Пашка Палухін, ён два разы ўначы прывозіў смалу і паліў мост, дзе драўляны насціл, і ў трэці раз ён-жа мост і ўзарваў... Гэта вы Пашку дзякуйце... Калі, значыць, палкоўнік Макараў заняў Калач, Пашка паляцеў на Ермохін хутар і ўзяў там трыццаць шэсць казакаў,—чаму яны ў мабілізацыю не пайшлі. Кінуў іх у воз, павёў у Ільменскі і там іх расстраляў за хутарам у яры. Там яны і ляжалі, бедныя, абняўшыся... А гэта вось іхныя браты сядзяць, сваякі... Мы зло памятаем... Анікея Барысавіча ведаў?

— Чуў пра такога,—адказаў Варашылаў, уважліва прыглядаючыся да сядзячых байцоў.

— Анікея Барысавіча білі ў Пяціізбянскай на рынку старыя станічнікі-манархісты. Выратаваў яго Яхім і адправіў у больніцу ў Царыцын. Ён у больніцы паправіўся, як след. Казак—дужы...

— Ты раскажы, як ён сена на хутары купіў,—стрымліваючы смех, сказаў адзін з байцоў.

— Памаўчы. Вяртаецца Анікей Барысавіч у Калач, у яго там жонка і сын Ванька—пацан гадоў пятнаццаці—здаровы, у бацьку. А час араць. Паехалі яны з сынам навач у поле. У гэтую ноч якраз наляцеў на Калач Макараў, і—давай, і давай... Чырвонай казачай гвардыі—сонных—пасеклі па дварах, па агародах—да тысячы чалавек. І першай справай яны, канешне, да Анікея Барысавіча—у хату. А яго з сынам няма. Яны вывалаклі старую, —Дзе твой гаспадар? Дзе тваё шчане?... Яна кажа ім...

Зноў той-жа голас:

— Не, старая нічога ім не сказала.

— Памаўчы... Яны яе замучылі, жывот ёй распаролі... Каня забралі, цялушку зарэзалі... Анікей Барысавіч з гэтай ночы пайшоў партызаніць. А Ваньку ён загадаў схавацца на хутары—таму што трэба араць... У Ванькі быў другі конь, на якім яны ў поле тады паехалі. Вось Ванька паціхеньку арэ, і едуць з Калача тры казакі. На Дону ў нас усё вядома, у нас свая пошта. Ванька бачыць: тыя самыя казакі, што яго матку забівалі. Кінуў плуг, падыходзіць да іх, пытаецца прыкурыць...

— Ён не прыкурыць запытаўся...

— Памаўчы... Значыць, як руку-то на каня палажыў, дык адразу і сарваў казака на зямлю, выхапіў у яго шашку... А тыя двое—пакуль апамяталіся,—ён і іх абодвых таксама пасек. Ды—ведаеш—такі здаровы,—аднаго папалам рассек, усіх траіх паклаў на дарозе, каня выпраг і сышоў да бацькі. У бацькі ўжо атрад быў з поўсотні.

— Меней...

— Памаўчы... Так яны і шныраць па белых тылах. Колькі разоў я зваў Анікея Барысавіча на хутар Лагоўскі—кажа, сумна мне ў асадзе... А да чаго здаровы—я табе раскажу... Прыбягаюць яны з атрадам на адзін хутар, а ведаюць, што хутар белы. Сена ім не даюць. Уваходзяць яны на двор да казака прадай сена... Той вочы адводзіць... Анікей Барысавіч: лезь кажа, ка мне ў кішэню, колькі выхапіш керанак—твае шчасце, а я колькі забяру

сена ў ахапак. Казак—прагны: згадзіўся. Прайшлі ў гумно. Анікей Барысавіч ногі тут расставіў...

Слухачоў разбіраў смех—душыліся. Кудроў павёў на іх барадою...

— ... Нагнуўся ён і давай набіраць сена ў ахапак, усё хочацца яму болей. Ухапіў з поўвоза і глядзіць—штосьці вельмі цяжка. Але панёс. А яго байцы кажуць: „Анікей Барысавіч, у цябе з сена нечыя ногі матаюцца...“

(Тут усе слухачы адразу грымнулі рогатам,—хоць слухалі сто разоў гэта апавяданне. Гучней за ўсіх смяяўся Клімент Ефрэмавіч).

— Ну, так... Ён, значыць, кінуў гэты ахапак, адтуль—стогне—вылазіць дзізенцір... Хто такі? А гэта быў хахол з Ніжнечырскай, мабілізаваны—Сцяпан Гара... Ціхі такі мужык. Вунь ён у баку сядзіць. Ён у нас цяпер кашаварам...

Парамон Самсонавіч папрасіў у Варашылава папяросу і расказаў яшчэ шмат чаго, падрабязна і цікава, пра ўпартыя бaі за хутар Лагоўскі. Сцяпан Гара тым часам падышоў да кастра, зняў з агню таганец, зліў жыжку ў міскі, не спяшаючыся,—як усё рабіў,—нарэзаў хлеб і стаў у таганку расціраць сала з кашай. Гасцей папрасілі вячэраць. Усе пачалі садзіцца групкамі. Варашылаў адклікаў Кудрова.

— Трэба таварыша Пархоменка ўначы пераправіць у Царыцын, але каб дайшоў цэлым, справы важныя.

— Можна. Пашлю з ім рэбят, яны ўсе канаўкі ведаюць, так махнуць міма белых—к раніцы твой таварыш будзе ў Царыцыне.

— Дзякуй вашаму атраду за рэвалюцыйную вернасць,—сказаў Варашылаў.—Прышлю вам агнепрыпасаў і тутуну. Хутка мы вас зменім. Цябе і тваіх рэбят я прызначу атрадам сувязі пры штабе арміі...

— Так,—сказаў Кудроў, з хвіліну раздумваючы, як гэтае прызначэнне зразумець і прыняць.—Гэта правільна: вы тутэйшых мясцін не ведаеце. А нашы рэбяты ў стэпе, як кошкі ўначы бачаць...

## 5

Усходні гарачы вецер з сухім шалясцяннем мяў прыбярэжныя кусты. Бакун з двума вёдрамі спусціўся да рэчкі Чыр і ўбачыў голых рэбят: адзін зусім маленькі, сядзеў на кортачках па шчыкалатку ў вадзе, заліваючыся—смяяўся. Другі, старэйшы, светлавалосы, смяшыў яго, ныраючы з вады і пырскаючыся. На беразе валялася іх адзенне і бляшанка з патронамі. Цераз рэчку Чыр даволі часта прасвіствалі кулі.

— Вы чаго тут, пацаны!—закрычаў на іх Бакун страшным чыгунным голасам.

Маленькі астаўся на кортачках, толькі павярнуў, як спалоханае савянё, галаву. Старэйшы вылез з вады, узяўся за рубашку.

— Дзядзечка, мы ўчадзелі, горача, мы зараз...

— Чаго вы тут не бачылі, бой ідзе— яны забаўляюцца.

— Дзядзечка, мы патроны байцам носім... Мы ўжо каторы дзень носім...

Маленькі, нарэшце, заплакаў, палажыўшы на жывот забруджаныя рукі. Бакун пакасіўся на яго, стаў зачэрпваць вёдры. Старэйшы—шэптам малодшаму:

— Паплач, паплач, надаедны...

— Вось я вас абодвых вазьму ў ахапак,—сказаў Бакун, зачэрпаўшы вёдры,—і занясу, куды трэба... Ідзіце дахаты...

— Куды-ж?—адказаў старэйшы.—Мы ў стэпу жывем, кормімся пры атрадзе.

— Вы чые?

— Мы Карасіхіны...

— Вось—да маткі і бяжыце.

Маленькі зараз-жа перастаў плакаць, круглымі вачыма з дакорам паглядзеў на Бакуна. У старэйшага задрыжалі губы....

— Дзядзечка,—ён сказаў,—не лай нас...

— Я вас не лаю, пацаны, а ў стэпу небяспечна—страляюць вунь як!

— Мы паўзком носім.

— Усёроўна—паўзком... Пры стральбе трэба хавацца.

— Добра, дзядзечка, мы будзем хавацца.

— Сядзіце тут у рэчцы, пакуль бой не скончыцца, а то я вас.

— Добра, дзядзечка.

Бакун пайшоў з вёдрамі. Увечары страляніна заціхла. Байцы вячэралі сухамяцiцай. Збіраліся пад прыкрыццём кургана—курылі. Бакун расказаў таварышам, як сёння бачыў двух маленькіх пацаноў на рэчцы. Была тут Агрыпіна,—яна ўся зморшчылася, слухаючы.

— Бакун, я-ж іх ведаю, гэта Мар'іны дзеці. Чаму яны ў стэпу жывуць? А дзе-ж Мар'я?

— Пра Мар'ю яны нічога не сказалі.

Агрыпіна пайшла і прашукала дзяцей усю ноч, абшнырала ўсе кусты на рэчным беразе. Назаўтра раніцай зноў пачалася звычайная страляніна: здалёк паказваліся невялікія групы коннікаў, іх адганялі. Агрыпіна, як і другія байцы, седзячы—сагнуўшыся—у мелкім акопе, гнала кулю за куляю па гэтых конніках. Калі ў стэпу станавілася чыста, уздыхнуўшы, аглядала вінтовачны затвор, запас патронаў, усаджвалася зручней, пачынала драмаць, прыплюшчыўшы вочы. Скрозь дрымоту ўспамінала дзе-ж ёй шукаць Алёшку і Мішку?

— Дзядзечка,—пачула яна скрозь дрымоту (гэта было ўжо ў канцы дня),—дзядзечка, патронаў прынеслі...

Адвярнулася—яны! У Алёшкі ўвесь твар абцягнуты, нават выступілі дзясны і зубы. У Мішкі твар круглы, але ўвесь расцарапаны. Агрыпіна моўчкі сцягнула абодвых у акоп.

Мішка сунуўся ёй у калені, як матцы. Алёшка маршчыніста ўсміхаўся. Агрыпіна пакасілася—ці не смяюцца таварышы. Але справа і злева байцы дрымалі абыякава.

— Дзе Мар'я?

— Маму забілі,—адказаў Алёшка.

Агрыпіна зараз-жа палажыла вінтоўку на бруствер, зручней пасадзіла Мішку на каленях.

— Хто забіў?

— Тады—памятаеш—ты пайшла. Сцяпана ўзялі, ух, як яго білі. Яны даведаліся, як я тады верхам ганяў на станцыю. Па мяне прышоў Грамячоў з двума казакамі, п'яныя. А мама мяне схавала ў саломе. Яны маму сталі лаяць,—Мішка ўсё чуў, ён пад ложкам сядзеў. Ты-ж ведаеш маму—яна ўзлуецца—такая смелая... Яна ім таксама—адказваць. Яны яе пацягнулі на двор. Я тут усё чуў... „Давай, яны кажуць, сваё шчаня". Яны крычаць, мама крычыць... Мама як плюне Грамячаву ў рыла: „Вось табе,—кажа,—царская сволач..." Ён схапіў кол...

У Алёшкі заторгаліся губы, адвярнуўся. Зноў здалёк між узгоркамі паказаліся коннікі. Агрыпіна ўзяла вінтоўку.

— Лажыцеся, ляжыце спакойна, нічога не бойцеся...

Ї пайшла гнаць кулю за куляю, уважліва цэлячыся.

6

Плывучы мост (з матэрыялаў разабранага скуранога завода) быў зроблены. На золаку стралковыя часці комуністычнага атрада выбілі казачыя заставы з вербалозавых кустоў левага берагу, конніца Шчадэнка перайшла Дон і кінулася на хутары. Разведкай кіраваў Парамон Самсонавіч, паказваючы з якога боку лепш зайсці і адкуль зручней ударыць. Чырвоная конніца бязлітасна праносілася па вуліцах, знішчаючы белых казакаў. Хутка быў заняты Нямкоўскі хутар, Ермохін і Ільменскі. Адтуль Шчадэнка павярнуў на ўсход—на вялікую станіцу Грамаслаўскую.

Без страт ён увайшоў туды, арыштаваў сельскага пісара і старасту, адноўленых мамантаўцамі старшыню і сакратара сельсовета, якія здалі мамантаўцам уладу, і на выгане расстраляў іх. Ён сабраў агульны сельскі сход і шэсць дзён мітынгаваў з грамаслаўскімі „хахламі", пераконваючы іх біцца за рэволюцыю, а не сядзець, які такі бесчалавечыя вырадкі, чакаючы хто пераможа.

Шэсць дзён марозаўскія эскадронныя камандзіры—Мухаперац, Затулывітар, Непійпіва,—заламаўшы свае папахі, гаварылі з перавернутай вадавознай бочкі на пляцы перад народам, шумеўшым, як неабсяжны лес,—напіралі на тое, каб агульны сход згадзіўся на агульную мабілізацыю з семнаццацігадовага ўзросту. На шосты дзень была вынесена пастанова: стварыць Грамаслаўскі полк і ўключыць яго ў Марозаўскую дывізію.

З ачышчэннем левабярэжных хутароў і занядцем Грамаслаўскай націск белых на Царыцын адразу аслаб,—ім прышлося пакінуць Крывую Музгу. Але затое з кожным днём павялічвалася іхная актыўнасць з боку Ніжнечырскай.

У Варашылава ўсе сілы цяпер былі кінуты на аднаўленне чыгуначнага маста. Луганскія і харкаўскія металісты разбіралі ўзарваную ферму. Шахцёры капалі катлаван на мелі між першым і другім каменнымі быкамі. Пад Рачковай гарой рвалі камень. На станцыі Чыр і на бліжэйшых хутарах разбіралі цагляныя і драў-

ляныя пабудовы. На платформы грузілі камень, цэглу, бярвенні, шпалы, рэйкі, усялякае жалеза, што траплялася пад руку. Усё гэта ў паяздах звозілася да Дону. Работа ішла ўдзень і ўначы.

Усе—ад Варашылава да байцоў, якія атрымлівалі ўсё больш нецярплівыя націскі мамантаўцаў, з трывогай сачылі за маставымі работамі. Мінуў тыдзень, канчаўся другі тыдзень, а на мель між двума гіганцкімі бакамі толькі яшчэ валілі камень. Нехапала рабочых, нехапала коней, нехапала вазоў...

У адзін з спякотных бязветраных дзён, у абед, пачалася трывога. На захадзе, у баку Лісінскіх вышынь, уставала велізарная хмара пылу. Яшчэ не было чуваць стрэлаў, але адтуль імчаліся нейкія верхаконныя. Праляцела страшэнная вестка, што фронт прарваны. У той бок, дзе быў пыл, пратарахцеў аўтамабіль Бахвалава, прамчаўся на фіяце Варашылаў з Коляй Руднёвым. Жанчыны забегалі, збіраючы дзяцей. Адны беглі ў вагоны, другія—у стэп.

Потым убачылі як пачалі спускацца з Лісінскіх вышыняў неабсяжныя абозы і чароды скаціны. Выявілася, што ішлі марозаўцы—усёй станіцай,—выбітыя адтуль казакамі. Белыя віселі ў іх на хвасце. Па гарызонце пакаціўся грукат гармат 5-й арміі, сустрэўшых насядаўшага праціўніка. Абозы, людзі, каровы, авечкі імчаліся з Лісінскіх вышыняў да станіцы Чыр.

Цяпер было хоць адбаўляй—і рабочых рук, і вазоў, і коней. Бахвалаў павесялеў. Партыі рабочых пацягнуліся да Дону. Мост пачаў расці на вачах. На забучаны катлаван укладвалі клеткі з бярвенняў і шпал, змацоўваючы іх жалезам, запаўняючы ўнутры каменем. Уся небяспека хавалася ў вышыні гэтых драўляных устояў—пры самым нязначным адхіленні ад вертыкалі яны рухнулі-б пад цяжарам паяздоў. Але недарэмна гаварыў Варашылаў, што матэрыял падпарадкуецца рэволюцыі,—гэты мост быў яе творчым будаўніцтвам, гэта быў мост у будучыню. У канцы трэцяга тыдня ўстоі падняліся на ўсю вышыню пяцідзесяці чатырох метраў.

Моцна патрапаныя стралковыя часці Марозаўскай дывізіі, якія не паслухалі разумных пераконанняў,—што нельга перамагчы, круцячыся каля адной сваёй хаты,—выпраўлялі памылку, змяняючы стомленыя ў штодзённых сутычках часці 5-й. Белыя, цяпер бесперапынку, білі гарматным агнём па маставых работах. Іхняя батарэя стаяла ў Рубежным яру каля хутара Самадураўкі—блізка ад Пяцііззбянскай станіцы. Знарады клаліся блізка каля маста, на мелі, у азёры, у зарасніку. Было нямала забіта і паранена рабочых, усё-ж у самы мост ім папасці не ўдавалася. Выбіць гэтыя батарэі з Рубежнага яру можна было толькі глыбокім наступленнем.

З Царыцына вярнуліся Пархоменка і Арцём з паведамленнем, што ў Царыцыне—Сталін, што там ідзе рашучая падрыхтоўка да абароны і Сталін прапануе 5-й арміі, не трацячы ні дня, заканчваць паход: пераправуляць усе эшалоны і вайсковыя часці на левы бераг.

Ад наступлення па правым беразе прыходзілася адмаўляцца, хоць гэта і пагражала тым, што ініцыятыва пяройдзе да белых. Так яно і здарылася. Казакі, якія прышлі ў хвасце ў марозаўцаў,

узнялі сярод мамантаўцаў спалох: „Што вы, чырскія, сувораўскія казачкі, на сонейку грэецеся! То-та пра вас слава ідзе. Напужаліся хахлацкага зброду... Мы гэтых чырвоных білі, як суслікаў, ад самай Марозаўскай, разаб'ем і тут, пакуль мост не навялі,—тады трымай вераб'я..."

Семнаццатага чэрвеня ў распалажэнне комуністычнага батальёна неспадзявана прымчаліся вярхамі Варашылаў, Пархоменка і Коля Руднёў. Варашылаў спыніўся на ўзгорку, адкуль былі відаць сады Ніжнечырскай станіцы. Ён сказаў пад'ехаўшаму Лукашу:

— У праціўніка ажыўленне?

— Так, як быццам...

— Чакай генеральнага бою.

Неўзабаве паказаліся казачыя конныя ланцугі: ішлі рыссю па хвалістай лагчыне, сям-там прыкрытай хутарскімі садамі. З узгорка можна было налічыць па крайняй меры сем радоў коннікаў. Лукаш пасылаў ардынарцаў з загадам: „падпускаць ланцугі як мага бліжэй". Ён хваляваўся і паўтараў: „Падпусцяць, убачыш, Клім, на чатырыста крокаў падпусцяць, рэбяты цяпер вытрыманыя..."

Загрымела артылерыя Куліка, застукалі кулямёты, засвісталі вінтовачныя стрэлы. Казачыя коні сталі падаць... Але ніводзін не павярнуў,—усё новыя і новыя хвалі коннікаў імчаліся з узгоркаў, з-за вішнёвых зараснікаў.

— П'яныя, чэснае слова, п'яныя!—крыкнуў Варашылаў, не адрываючыся ад бінокля.

Вось ужо пярэднія пераскокваюць цераз акопы, сякучы і коцячыся на зямлю разам з конямі... Некалькі коннікаў імчацца да ўзгорка. Пярэдні, на выдатным рыжым жарабцы, тоўсты, у шапцы, ссунутай на вуха, у залатых палкоўніцкіх пагонах, крычучы і душачыся сівымі вусамі, накіраваўся на Варашылава, круцячы клінком. Лукаш стрэліў—міма! Варашылаў тауханў гнедага насустрач і з усяго конскага маху з сілаю ўдарыў шашкай палкоўніка. Праляцеўшы, асадзіў,—палкоўнік ляжаў на зямлі, распрасцёршы рукі.

Такіх, што прарваліся скрозь фронт, было мала, адных збілі, другія ўцяклі на ўзмыленых конях. Рэшткі казачых ланцугоў адхлынулі. Гэты кароткі, але крывавы бой дорага абышоўся казакам. У белых станіцах стала хмура. Аб аднаўленні ўдара ў бліжэйшы час не магло быць і гутаркі.

## Раздзел дванаццаты

### 1

У салон-вагоне ўсюды—на крэ́слах, на стале, на падлозе—ляжалі кавалкі матэрый, узоры жалеза, скабяных вырабаў, папкі з паперамі, кучкі зярнят, газеты, рукапісы. Каля апушчанага акна за нізенькім столікам сядзела машыністка, тоненькія пальцы яе ляжалі на шрыфце. За акном было чыста вымеценае вакзальнае поле, дзе здалёк сходзіліся палосы рэек. Спакойны роўны голас за яе спіною, здавалася, напаўняў гэтую залітую чорным мазутам, спаласаваную сталлю прастору асаблівым і важным значэннем.

Сталін дыктаваў:

„На неадкладную загатоўку і адпраўку ў Маскву дзесяці мільёнаў пудоў хлеба і тысяч дзесяці галоў жывёлы неабходна прысланць... 75 мільёнаў грашыма, па магчымасці дробнымі купюрамі, і розных тавараў мільёнаў на трыццаць шэсць: вілкі, тапары, цвікі, балты, шрубы, шкло аконнае, чайная і сталовая пасуда, касілкі і часткі да іх, заклёпкі, жалеза шыннае круглае, лабагрэйкі, каткі, запалкі, часткі конскай вупражы, абутак, паркаль, трыко, календкор, бязь, мадэпалам, нансук, грысбон, ласцік, сацін, шэв'ет, марын, сукно дамскае і гвардзейскае, розныя скураныя вырабы, загатоўкі, чай, косы, сеялкі, даёнкі, плугі, мяшкі, брызенты, галошы, фарбы, лакі, кавальскія, сталярныя струманты, напілкі, карболавая кіслата, шкіпідар, сода...“

Дыктуючы, ён пералістваў стэнаграмы. За гэтыя некалькі дзён у Царыцыне ўсё было паднята на ногі. Партыйная канферэнцыя, з'езд прафесіянальных саюзаў, канферэнцыя заводскіх камітэтаў, надзвычайныя сходы з удзелам масавых арганізацый, мітынгі— ішлі бесперапынку. Абарона Царыцына, якая здавалася да гэтага справай аднаго Царыцына, узнімалася на вышыню абароны ўсёй совецкай рэспублікі.

Цераз Сталінскі вагон—на шляхах паўднёва-усходняга вакзала— праходзілі тысячы людзей, успрымаючы гэтую асноўную тэму. Сотні партыйных і совецкіх устаноў, якія танулі ў міжведамственай путаніцы і неразбярысе, пачалі намацваць лагічную сувязь адзін з другім. Сотні партыйцаў, якія займалі канцылярскія сталы, лік якіх ад пяці да дзесяці разоў перавышаў патрэбны лік сталоў у гэтых установах, наскрозь пракураных махоркаю, былі адарваны ад папяровых валакіт і кінуты на агітацыйную работу па заводах і ў вёску.

Суроваю яснасцю гучэла новая тэма: абарона Царыцына павінна быць наступленнем па ўсім фронце—ад поўначы Воранежскай губерні да Сальскіх стэпаў. Павінна быць жорсткім правядзеннем хлебнай манаполіі. Павінна за чэрвень месяц даць два мільёны пудоў хлеба Маскве і Піцеру.

Усхваляваныя мітынгі пракаціліся па заводах і ўскраінах. Рабочыя зразумелі ўскладзеную на іх адказнасць за лёс усёй краіны— усюды былі вынесены рэзолюцыі, якія падтрымлівалі агульна рэспубліканскую задачу. І калі гэта адказнасць была на самай справе выражана ў неадкладным спыненні вольнага продажу хлеба і ў пераходзе на хлебную картачку з поўфунтам на пай, рабочыя адказалі: згодны...

За некалькі дзён горад змяніўся,—нібы цвярозай раніцай пасля разгулу. Па вуліцах пайшлі патрулі. Апусцела аркестравая ракавіна ў гарадскім садзе, насупроць яе дзверы шашлычнага і чабурэчнага прадпрыемства аказаліся забітымі крыж-на-крыж дошкамі. Ва ўсіх прыватных крамках на вітрынах асталіся толькі гуталін, павідла, сарэптская гарчыца ў каравых слоіках і мухі, якія густа поўзалі па пыльных шыбах. Хлеб як прадмет гандлю знік.

„Дамачкі“, якія ўцяклі з паўночных сталіц, разгублена разглядалі новыя хлебныя картачкі, што давалі права на атрыманне

чвэрці фунта тым, хто служыць у совецкіх установах... „Непрацоўнаму элементу“ картачак не давалася... „Божа мой, божа мой! Хто-ж да гэтай рэволюцыі сур'ёзна думаў аб хлебе!“ Кухарка ішла ў булачную і купляла, і дактары нават раілі мала есці хлеба... Як быццам у хлебе з'явіўся нейкі асаблівы, суровы сэнс... Але як-жа, усё-такі быць без хлеба? Адны выращалі ўцякаць з гэтага кашмару, другія—з помстаю чакаць прыходу красноўскіх войск.

Былі і такія, у каго гукі вальса з ракавіны ў садзе (не гледзячы на ўбоства пыльнай алеі пад двума газавымі ліхтарамі) выклікалі пранізлівыя ўспаміны маладосці, махаючай з назаўсёды адляцеўшага часу белым шлейфам першага бальнага плацця. Гэтыя не знаходзячы ў сваіх дробненькіх душах ні нянавісці помсціць, ні рашучасці—уцякаць,—толькі горка плакалі аб тым, што большэвікі пазбаўляюць іх апошняй бязвіннай радасці...

Пераапранутыя афіцэры, якія чакалі канца рэволюцыі ў шынках ці на брудным ложку пад трынканне мандаліны, пачалі цяпер лазіць праз плот ва ўмоўленую кватэру—радзіцца: што лепш—ці падавацца ў перанасялёны Новачаркаск, не ў вельмі прыязную абстаноўку Ўсевялікага данскога войска, ці напінаць вашывую гімнасцёрку—ісці да Дзянікіна на Кубань—або арганізоўваць тут, на месцы, паўстанне.

Спекулянты схавалі да лепшых часоў рубашкі „апаш“ і дзяўблі абцасы ў сваіх чаравіках, хаваючы туды брыльянты і плаціну. „Ліберальныя“ дзеячы, царскія чыноўнікі, дробнапамесныя памешчыкі, што ратаваліся тут з сваімі сямействамі ад мужыцкай стыхіі, усёроўна, як у семнаццатым стагоддзі баяры і служылыя людзі садзіліся ад набегаў крымскіх ханаў у асаду за сцены Серпухова ці Каломны,—усё гэтае насельніцтва цэнтра горада пачало падумваць, ці не пайсці часова на службу ў якія-небудзь ціхія совецкія ўстановы.

Але новы дзень прыносіў новыя нечаканасці. На хваёвых тэлеграфных слупах, на ўсіх парканах, створаных, здавалася, векавой расійскай гісторыяй. каб пад імі нядбайна спалі п'яныя абадранцы, забялелі лісткі новага дэкрэта выканкома: „Усяму непрацоўнаму насельніцтву неадкладна з'явіцца ў размеркавальныя пункты, атрымаць шанцавы інструмент, ісці арганізаванымі групамі ў стэп і капаць пад горадам акопы, а за гэтую працу будуць выдавацца хлебныя карткі“.

У вагоне на шляхах прадаўжала стукаць машынка.

— Тэлеграма,—напаўголаса гаварыў Сталін,—„Масква, Вышэйшы ваенны совет... Тэрмінова выслаць некалькі батарэй шасцідзюймовых і знарадаў да іх. Дзесяць мільёнаў трохлінейных рускіх патронаў. Восем браніраваных аўтамабіляў. Асабліва важна прыслаць дзве групы вопытных і адданых лётчыкаў з апаратамі і з знарадамі...“

Гэтай ноччу ў вагон былі выкліканы Насовіч і Кавалеўскі для даклада. Па ведамасцях і зводках на ўсім фронце Паўночнакаўказскай ваеннай акругі (ад паўднёвай граніцы Варонежскай губерніі да Каспійскага мора) знаходзілася сто тысяч штыхоў і шабляў. Кавалеўскі, трымаючы аловак за самы кончык і паказваючы на карту,

вісеўшую над сталом у салоне, напамяць пералічваў імёны атрадаў, колькасць байцоў, размяшчэнне іх на фронце. Насовіч насуплена падбіраў ведамасці.

Сталін, як бы размінаючы ногі, хадзіў уздоўж вокан са спушчанымі шторамі. Калі дакладчык прыпыняўся,—Сталін пацвярджаў кіўком, што ўважліва слухае. На самай справе яму даўно ўсё стала ясна з гэтага даклада (з матэрыяламі ён азнаёміўся напярэдадні): Кавалеўскі досыць няўмела „втирал очки“, стотысячная армія існавала толькі на паперы. За выключэннем значнай групы Калніна на самым поўдні фронта ў Кубаначарнамор'і, астатнія дывізіі, брыгады, палкі, чотка і рашуча пералічваемыя Кавалеўскім, былі ні што іншае, як дрэнна звязаныя адзін з другім партызанскія атрады і атрадзікі, якія змагаліся каля сваіх станіц. Чатыры царыцынскіх штабы прабавалі кіраваць імі, засыпаючы фронт супярэчлівымі і склочнымі паперкамі.

Кавалеўскі бачучы, што ў маўклівага Сталіна складаецца непажаданае ўражанне, паспяшаўся падкрэсліць:

— Усе гэтыя даныя я пасылаў у Вышэйшы ваенны совет, і Троцкі зацвердзіў дыслакацыю войск, таксама як і агульны план абароны.

Насовіч зараз-жа працягнуў загад за подпісам Троцкага—утрымліваць фронт і ў магчымым выпадку—прасоўваць яго. Сталін, прачытаўшы, усміхнуўся, кінуў паперку на стол.

— Утрымаць, адсоўваць, не дапушчаць... Красамоўна...

Найбольш падазронае ў дакладзе Кавалеўскага заключалася ў спакойных адносінах штаба да сапраўды катастрафічнага становішча самога царыцынскага фронта: каля Царыцына знаходзілася ўсяго шэсць тысяч штыхоў і тры тысячы ў гарнізоне.

— Якімі сіламі распалагае Мамантаў?—запытаў Сталін.

Кавалеўскі хутка паглядзеў на Насовіча, той, не ўзнімаючы вачэй, спакойна:

— Сорак—пяцьдзесят тысяч шабель і штыхоў...

Сталін узяў ведамасць зброі—усяго на фронце Царыцына лічылася: 8 гармат, 92 кулямёты, 9800 вінтовак, 600 шабляў, 962 тысячы патронаў і 1200 знарадаў для гармат...

— Гэта ўсё?

— Ёсць што-небудзь у арсенале,—пахмура адказаў Насовіч.

На світанні Сталін паехаў у арсенал. Спусціўся ў сутарэнні і ўважліва хадзіў па праходах паміж хваёвых скрынак і пірамід з ручных гранат. Строгі стары, захоўвальнік арсенала, не мог даць дасканалых звестак—колькі тут зброі: яна звозілася з розных месц без уліку і, па ўсім відаць, была ламаная, іржавая, нягодная...

З арсенала Сталін паехаў на гарматны і машынабудаўнічы завод. Абыйшоў усе цэхі і, калі рабочыя, пазнаўшы яго, сабраліся на заводскім двары, узняўся на грузавік і сказаў:

— Таварышы, рэспубліка ў небяспецы... Мы павінны пераходзіць у рашучы наступ. Доўг кожнага з нас—удзесяцярыць свае сілы і перамагчы. Ні адзін чалавек не павінен заставацца абыякавым... Спачування мала. Патрэбна паслядоўна, ад малога да вялікага, узяцца за зброю. Трэба працаваць так, каб каля твайго

станка стаяла зараджаная вінтоўка. Пролетарыят павінен быць увесь мабілізаваны і ўзброены. Але, каб мы былі ўзброены, патрэбна гэтую зброю нарыхтаваць. Нам патрэбны бронецягнікі, бранявікі і гарматы. Толькі што я бачыў у арсенале тысячы паламаных і паржавелых вінтовак, іх трэба як мага хутчэй паправіць...

— Даёш наступ, таварыш Сталін,—адказалі яму рабочыя.

Сонца без літасці паліла чорную прастору, прачырчаную сталёвымі лініямі. Худыя пальцы машыністкі ляцелі па клавіятуры. Сталін прадаўжаў дыктаваць:

„...Трэба з усёй вастрынёй паставіць пытанне аб змене ўсяго ваеннага кіраўніцтва... Мноства штабаў (чатыры штабы) ператвараюць фронт у кашу. Агульнае становішча фронта—атрадная неразбярыха. Назначаныя сюды ваенныя спецыялісты (шаўцы) працуюць з незразумелай вяласцю і нядбайнасцю. Без экстраных і рашучых мер няма чаго і думаць аб ахове чыгуначнай лініі і пра бесперабойную адпраўку харчовых грузаў...“

Увайшоў камендант, быццам высушаны на агні чалавек, маўкліва палажыў на стол тэлеграму. Яна была ад чарговага маршрутнага поезда, які вёз у Маскву дваццаць пяць вагонаў хлеба і тры вагоны сушанай рыбы.

„...У дзве гадзіны ўначы на раз‘ездзе ля станцыі Філонава наш поезд сышоў з рэек з прычыны таго, што казакамі былі падкладзены піраксілінавыя шашкі. Тут жа была адкрыта стральба з боку казакаў па поезду. Але дзякуючы нашым кулямётам казакі былі адагнаны і часткова пабіты. Тут мы прастаялі цэлы дзень і ўначы адправіліся далей. На трынаццатай вярсце за станцыяй былі затрыманы, таму што казакі зноў наступалі. Бой цягнуўся да сямі вечара. Пасля гэтага адправіліся далей. На раз‘ездзе, не даязджаючы Паворына, аказаўся разабраным шлях на працягу трох вёрст. Казакі з усіх бакоў акружылі раз‘езд і наш поезд. Бой ішоў з гадзіны ночы да адзінаццаці раніцы. Тут мы прастаялі чацвёра сутак і паправілі шлях. Пасля чаго накіраваліся далей. У нас двое забітых і сем лёгка параненых. Спадзяемся ўдала давезці груз да Масквы...“

Сталін па тэлефону выклікаў каменданта. Камендант маўкліва з‘явіўся ў дзвярах.

— Колькі вы адправілі сёння маршрутных?

— Тры поезды са збожжам.

— Колькі яшчэ можаце адправіць?

— Да поўначы яшчэ тры.

— Трэба ўзмацніць ахову. Прычэпліваць да кожнага поезда платформу з шпаламі і рэйкамі.

— Есць.

Камендант нячутна вышаў.

Сталін адпусціў машыністку і сеў пісаць пісьмы. Яго клапацілі справы на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі. Ён пісаў Сцяпану Шаўмяну:

„...Агульная наша палітыка ў пытанні аб Закаўказзі састаіць у тым, каб прымусіць немцаў афіцыйна прызнаць грузінскае, армянскае і азербайджанскае пытанні пытаннямі ўнутранымі для Расіі, у вырашэнні якіх немцы не павінны ўдзельнічаць. Іменна

пагэтаму мы не прызнаем незалежнасці Грузіі, прызнанай Нямеччынай...

...Вельмі просім усіх вас усяляк дапамагчы (зброяй, людзьмі) Туркестану, з якім англічане, якія дзейнічаюць праз Бухару і Афганістан, стараюцца сыграць злы жарт"...

2

Дваццатага чэрвеня загрукатала і задымілася ўся дуга фронта ад Рачковай гары да Ніжнечырскай станіцы. Казакі шалёнымі ўдарамі конніцы спрабавалі прарвацца да станцыі Чыр (якая знаходзілася ў цэнтры гэтай дугі), адкуль бясконцай чарадой поўзлі да Дону паязды. Здабыча ўцякала з-пад носу. Генерал Мамантаў у новенькай нямецкай машыне кідаўся па гарах і ўзгорках. Паднімаючыся з біноклем ва ўвесь вялізны рост, у шаўковай рубашцы, якая выбівалася з-пад малінавага пояса кавалерыйскіх штаноў,— углядаўся скрозь пыл ва ўсе фазы бою. Усё было дарэмна: чырвоныя трымаліся і пад артылерыйскім і пад кулямётным агнём, адкідвалі гранатамі і штыхамі страшэнныя націскі кавалерыі. Паязды і абозы прадаўжалі рухацца да Дону.

Першы эшалон, гружаны жалезам і рознымі матэрыяламі, асцярожна, услед за крочачым наперадзе паравоза Бахвалавым, праходзіў адноўлены пралёт моста. Драўляныя ўстоі—дванаццаць трыццацісажнёвых клетчастых вежаў, што расшыраліся кнізу—скрыпучы і спружынячы, выдатна вытрымлівалі цяжар паравоза і поезда. Унізе, на шырока аголенай пясчанай мелі стаялі рабочыя, некалькі тысяч—будаўнікі першага савецкага цуда. Яны крычалі, шмат хто махаў галінкамі. Адсюль яны здаваліся цацачнымі, іх крыкі ледзь даносіліся.

Па мосце, па якому рухаўся эшалон, па тысячах людзей на мелі ўпарта і часта білі гарматы з боку Пяціізбянскай. Але сёння іх знарады клаліся з вялікім недалётам: адборны царыцынскі атрад, пасланы Сталіным у дапамогу Варашылаву, выбіў казацкую батарэю з Рубежнага яру.

Бахвалаў перайшоў папраўленую частку моста, паравоз, як ручны, пасопваючы цыліндрамі, упоўз услед за ім на жалезную ферму.

Тут стаяў Варашылаў з штабам. Ва ўсіх былі радасныя, спалоханыя твары.

— Вытрымала!—крыкнуў Варашылаў.

— Усё-такі яна ў цябе трашчыць,—сказаў Руднёў.

— Трашчыць, аж дух захоплівае,—сказаў Пархоменка,—аж глядзець страшна.

Бахвалаў зняў картуз, рукавом выцер лоб.

-- А няхай трашчыць,—сказаў спакойна.—Клімент Ефрэмавіч заявіў, што матэрыял падпарадкаваўся рэвалюцыі. Вось ён і падпарадкоўваецца. Не толькі шэсцьдзесяць эшалонаў вытрымае,—па гэтым мосце кур'ерскія паязды будзем ганяць...

Калі яны, перагаварваючыся, перайшлі на левы бераг, з боку Лугоўскага хутара да насыпу пад'ехаў шэра зялёны бранявік з нізенькім купалам. З яго вылез чалавек у чорнай скуры.

— Камандуючаму арміяй, асабісты,—сказаў ён, вымаючы пакет. Калі Варашылаў шпарка спусціўся да яго па пяшчанаму адкосу, ён суха, чотка ўзяў пад казырок:

— Ад таварыша Сталіна. Таварыш Сталін пасылае вам бранявік у асабістае распараджэнне...

3

Патрэбна было разгортваць новы фронт на левым беразе. Эшалоны, перайшоўшы Дон, рухаліся на Крывую Музгу. Туды быў перанесены штаб. Туды перакідваліся вызваленыя з правага берагу часці, дзе стары фронт звужваўся, адступаючы да станцыі Чыр і да маста.

Казакі таксама пачалі перапраўляць на паромах і лодках конныя і пяхотныя сотні на левы бераг, згрупоўваючы іх ля Калача, адкуль яны мелі намер нанесці ўдар на Крывую Музгу. Тут, вёрст за пяцьдзесят ад Царыцына, на шырокіх заліўных паплавох і ў роўным, як стол, палынным стэпу, казацкай конніцы было раздольней, а чырвонай пяхоце—цяжэй.

Атрады 5-й хутка займалі ў стэпу хутары, разгортваючыся перад Калачом. Варашылаў паехаў аглядаць новы фронт. Калі ён, Лукаш і Кісель—камандзір Марозаўскага палка—садзіліся ў бранявік, падбег Коля Руднеў.

— Клім, я пасылаю з табой ахову.

— Глупства. Не трэба.

— Прашу цябе. Аўтамабіль—справа цёмная. Каб быў добры бензін, а то—сумесь,—справа цёмная... Канвой паедзе казацкі, хлопцы тутэйшыя, яны табе ўсе паплаўкі пакажуць. Асабіста цябе прашу.

Варашылаў пацiснуў плячом і захлопнуў сталёвыя дзверцы. Бранявік зачхаў, пусціў густое воблака, якое смярдзела спіртам і газай, пакаціў у стэп. За ім, прыгнуўшыся на высокіх сёдлах, паскакалі васемнаццаць чырвоных казакаў,—маладыя, дужыя, смелыя хлопцы.

Толькі што прайшоў дождж. Паветра было парнае. З-пад колаў і капытоў ляцелі галушкі гразі. У баку, куды ішоў бранявік, з навальнічнай хмары звешваліся касыя шызыя палосы ліўня. Лукаш у адчыненую адтуліну броні ўказваў размяшчэнне атрадаў. Праехалі акопы Марозаўскага палка і збочылі ўздоўж фронта. Хмара, валочачы па стэпу лівень, спаўзала за Дон. У вільготнай далечыні відаць былі стагі.

Бранявік, суцішаючы ход, пад'ехаў да аднаго з хутароў—на беразе зарослай сітняком гаці. Тут толькі што прайшоў моцны лівень. За платамі стаялі яшчэ цяжкія ад дажджу вішнёвыя сады. На вуліцы—лужыны. Вароты ва ўсіх дварах і акяніцы ў хатах—зачынены. Хутар, як відаць, быў пакінуты. Праехалі мосцік і за паваротам убачылі зваленыя ўпоперак усёй вуліцы вазы, бярвенні, мяшкі з зямлёй. Камандзір Кісель сказаў:

— Д'яблы, гэта яны за ноч нагарадзілі!.. Учора разведка ўстанавіла хутар пакінутым, і мы так і лічым...

Варашылаў спыніў машыну:

— Загадай канвою адстаць.

Лукаш, прыадчыніўшы дзверцы, сказаў падскачыўшаму казаку:

— Камандуючы загадаў трымацца ў поўвярсце.

— Пайшоў напрасцяк,—сказаў Варашылаў.

Бранявік падскочыў праз барыкаду, але і яна была апусцелая, толькі дзве ашалелыя курыцы кінуліся з-пад колаў. Адсюль дарога пачала круціцца між плытамі. Лукаш хмурыўся, кусаў ногаць. Кісель усё яшчэ паўтараў: „Мае хлопцы не стануць маніць...“ Вадзіцель Цыбачэнка, луганскі металіст неадабраюча пакручваў галавой, круцячы ўправа і ўлева баранку руля,—дарога станавілася ўсё горш, машына па самыя восі вязла ў каляіны, поўныя чорнай вады.

— Давай, давай,—паўтараў Варашылаў.

Наперадзе паказалася вялікая лужа. Бранявік ірвануўся і засеў. Матор заглух.

— Селі,—сказаў Цыбачэнка, адчыняючы дзверцы. Варашылаў з сілай націснуў яму на плячо.

— Сядзі ціха.

— Таварыш Варашылаў, ды тут-жа нікога няма.—Кісель, моршчачыся, з намаганнем адчыняў дзверцы. Няўжо-ж яны ў дзень стануць у садах сядзець. Яны ўсе зараз у ярах, у стэпу.

Варашылаў—сурова:

— Не выходзь...

Але Кісель ужо адчыніў і высунуўся да паясніцы. З-за плоту сцебанулі стрэлы. Ён, нават не ахнуў, галавой уперад, паваліўся з бранявіка. Лукаш хутка захлопнуў дзверцы. Па броні рэзануў другі залп. Варашылаў:

— Давай кулямёт...

Лукаш адказаў:

— Нічога не выйдзе, яны ў мёртвым прасторы...

Стрэлы білі, не сціхаючы, было добра чуваць, як бразгалі ружэйныя затворы, саплі людзі. Кулі не прабівалі брані, але ад іх удараў—амаль ва ўпор—знутры ад броні ляцела акаліна. „Беражы вочы!“—крыкнуў Варашылаў,—шчака яго была ў крыві.

Нападаючыя, бачачы, што бранявік не адказвае і засеў грузна, пачалі высоўваць з-за плоту барадатыя, гарланячыя мацяршчыну, твары, выскаляючы зубы, прыцэльваліся ў вузкую шчыліну ў пярэдняй броні. Пасмялеўшы, узнялі гармідар, павалілі плянень і акружылі машыну,—станічнікаў было не менш поўсотні. Шалёна застукалі прыкладамі ў браню:

— Антыхрысты! Большэвікі! Вылазь, хамы!

Наваліўшыся, раскачвалі машыну. Лезлі на купал. Намагаліся прасунуць вінтоўкі ў шчыліну. Але, апасаючыся рэвальверных стрэлаў, знутры, кінулі гэты занятак. Пачалі раіцца.

— Нанясем ламачча, зажарым іх жыўцом...

— Чаго там—ламачча! Давай гранату.

Лукаш сказаў:

— Справы дрэнныя.

— Глупства,—сказаў Варашылаў,—мужыкі гаспадарлівыя, на

што ім ірваць добры бранявік. Няхай спрачаюцца. Наш канвой іх зараз атакуе, або паведаміць у полк...

Сапраўды, казакам у хуткім часе шкада стала такой добрай баявой машыны. Некалькі чалавек пабеглі па валоў. Другія зноў пачалі лаяцца і страляць. Лукаш крыкнуў у шчыліну:

— Эй, станічнікі, кіньце дурыць! Усёроўна вы нам нічога не зробіце. За намі ідзе канвой—дзве сотні, бяжыце хутчэй у сады, пакуль вас не пачалі сячы!

Тады казакі, разявіўшы губастыя, зубастыя раты, зарагаталі, прысядаючы, білі сябе па ляжках...

— Га-га-га!.. Ха-ха-ха!.. Мы вам зараз пакажам, дзе ляжыць ваш канвой, усіх васемнаццаць побач паклалі...

— Прывязем вас у Калач да атамана, ён знойдзе сродак— выйсці вам з бранявіка.

Прывялі шэсць пар валоў. Прынеслі здаровую вяроўку. Прывязалі яе да пярэдняй восі, другі канец да цабана. Ззаду бранявік падхапілі жэрдкамі: „Ну, бярыся, ну—яшчэ!..“ Бранявік цяжка палез з гразі.

Варашылаў сказаў:

— Да апошняй хвіліны—трымайся.

— Ладна,—сказаў Лукаш.

— Патроны ёсць у цябе?

— Ёсць!

Панукваючы валоў, крычучы, гагочучы, казакі пацягнулі бранявік праз лужыну на сухую дарогу.

Вадзіцель Цыбачэнка спакойна сядзеў, трохі правячы. Пасля лужы ішоў круты ўздым. Казакі забеглі наперад машыны, дапамагаючы валам. Цыбачэнка глядзеў у шчыліну перад сабой і правіў. Уздым скончыўся, казакі засапліся, валы сталі. Цыбачэнка—не абарачваючыся:

— Давай кулямёт.

Ён уключыў матор. Застралялі цыліндры, матор зароў. Спужаныя валы шарахнуліся, вяроўка абарвалася. Лукаш з-пад купала загрукатаў кулямётам. Казакі кінуліся ў канавы. Бранявік пранесся між іх, абдаючы дымам і кулямі.

Абагнуўшы хутар, звярнулі па стэпу на зыходную дарогу. Каля ўскраінных садоў убачылі асядланага каня,—ён стаяў, быццам здзіўлены, прыўзняўшы пярэднюю, перабітую ў бабцы, нагу. Другі і трэці коні валяліся па дарозе. А далей на палынным полі ляжалі—хто ўткнуўшыся, хто дагары, назаўсёды заснуўшы,—васемнаццаць маладых рэбят—канвойцаў, папаўшых у засаду каля гэтых плятнёў.

4

У вагон Сталіна нікога не прапушчалі. На пуцях стаялі вартавыя. Па пярону хадзіў камендант, адказваючы ўсім, хто-б ні імкнуўся бачыць надзвычайнага камісара.

— Нічога не ведаю...

У вагоне сядзелі Варашылаў, Коля Руднёў і Пархоменка. На стале—бляшаны чайнік, шклянкі і крошкі хлеба. Усе трое курылі

маскоўскія папяросы. Была доўгая гутарка,—Варашылаў расказваў аб паходзе ад Харкава да Луганска. Руднёў і Пархоменка раўніва ўспаміналі ўпушчаныя падрабязнасці.

Сталін, абапіраючыся каленам аб банкетку,—пад картай на сцяне,—круцячы ў пальцах маленькі цыркуль, гаварыў:

— Спраўны мужык у кастрычніку біўся за совецкую ўладу. Цяпер ён павярнуў супроць нас. Спраўны мужык павярнуў супроць нас таму, што ён ненавідзіць хлебную манаполію, цвёрдыя цэны, рэквізіцыю і барацьбу з мяшочніцтвам...

І вось—вынікі... (Ен паказаў цыркулем на карту каля Паворына). На паўночным участку ў нас у часцях Міронава—развал,—некалькі яго конных палкоў перабегла да Краснова. Станічнікі і кулакі з'агітавалі спраўнага мужыка. Міронава тры разы акружалі каля Паворына і ля Філонава і нарэшце разбілі нагалаву. Красноў зараз мацней за нас,—гэта трэба прызнаць,—і колькасна і ўзбраеннем. Ён вядзе сваю агітацыю. А нашы чатыры штабы ніякай агітацыі не вядуць і даюць магчымасць Краснову адрываць ад нас хісткія масы. У Краснова добра забяспечаная армія. У нас арміі няма.

Па звестках гэтых дзён, Дабраахвотніцкая армія Дзянікіна, аб якой упарта нічога не ведаюць нашы ваенныя спецыялісты, пакінула Мячэцінскую і Егарлыцкую станіцы і развівае паспяховыя аперацыі на стыку Дону і Кубані. Бясспрэчна, Дзянікін накіруе ўдары на чыгуначныя вузлы—Тарговую і Ціхарэцкую—і будзе спрабаваць адрэзаць ад нас групу Калніна і прыморскую групу Сарокіна.

Акрамя Краснова, мы атрымоўваем новага ворага: афіцэрская Дабрахвотніцкая армія снабжаецца Антантай, добра абучана і прасякнута класавай нянавісцю. Гэта небяспечны вораг. Яна пагражае нашаму паўднёваму—важнейшаму ўчастку,—хлебу і нафце. У нас усё яшчэ не могуць зжыць атрадны спосаб вядзення вайны, і не зжываюць наўмысля. Глядзець скрозь пальцы на атрадную неразбярыху, цярпець гэта галавацяпства,—калі гэта не простае здрадніцтва,—значыць, капітуляраваць. З усёй рашучасцю, у найкарацейшы тэрмін мы павінны сфарміраваць з атрадаў буйныя злучэнні, падпарадкаваць іх адзінаму камандаванню, адданаму рэволюцыі,—павінны стварыць рэгулярную армію...

Нашы магчымасці такія: першае,—рабочыя, шахцёрскія і сялянскія атрады, прыведзеныя вамі, Клімент Ефрэмавіч,—яны атрымалі добрую закалку. Данецка-марозаўскія атрады Шчадэнка, Царыцынскія рабочыя,—яны могуць, хочуць і будуць змагацца не на жыццё, а на смерць, калі мы здолеем ізаляваць іх ад контррэволюцыйнай прапаганды эсэраў і меншавікоў. Казацкія часці Міронава—да яго пасланы прапагандысты, у яго павінна адсеяцца моцнае бядняцкае ядро. Група Кіквідзе, што знаходзіцца там-жа, на поўначы. У сягоняшніх умовах яна не боездольная: гэта тыповае атраднае злучэнне з адсутнасцю каардынацыі дзеянняў,—але група Кіквідзе—выдатны матэрыял. Затым—пяць тысяч военнапалонных у Царыцыне, большасць мад'яр, з імі ўжо працуе агітпроп. Сербскі атрад, які прыбыў да нас з Украіны. І, нарэшце,—у Сальскіх стэпах—шматлікія атрады іншагародніх і беднейшага казац-

тва: атрады Шэўкаплясава, Круглякова, Васільева—у Кацельнікаве (якраз з чыгуначных рабочых), атрад Кавалёва—у Мартынаўцы і конны атрад Думенка. Умовы барацьбы там асабліва суровыя, з гэтых атрадаў можна выкаваць жалезную дывізію.

Вось з чаго мы можам стварацьь касцяк арміі. Давядзецца ламаць супраціўленне ваенных чыноўнікаў, яны будуць скардзіцца ў Маскву, і будуць грунтоўна паскудзіць нам. Давядзецца, магчыма, уступіць у канфлікт з Вышэйшым ваенным советам. Але і там мы зломім,—нам дапаможа Владзімір Ільіч.

Фарміраванне новай Чырвонай арміі,—гэта будзе 10-я армія,— ці ж не так?—Вы возьмеце на сябе, Клімент Ефрэмавіч.

У Варашылава зардзеліся скулы. Зняў рукі з стала, строга падабраўся. Пархоменка прабасіў праз вусы:

— Правільнае рашэнне.

Дваццаць пятага чэрвеня на фронце—у акопах, па эшалонах, па ўсіх абозах, на вялікім армейскім мітынгу, у полі перад станцыяй Крывая Музга—быў прачытаны загад „Усе, што засталіся, часці былых 3-й і 5-й армій, часці былой арміі царыцынскага фронта і часці, сфарміраваныя з насельніцтва Марозаўскай і Данецкай акруг, аб'яднаць у адну групу, камандуючым якой назначаецца былы камандуючы 5-й арміяй таварыш Клімент Ефрэмавіч Варашылаў. Усім названым вышэй вайсковым часцям надалей іменавацца „групай таварыша Варашылава". Дывізіі займалі царыцынскі фронт. Загад быў падпісаны народным камісарам Сталіным.

5

— Не, не, не, панове,—ляжаць... Раскіньцеся, натуральна... Я ўпэўнены,—за намі наглядаюць з таго берага...

— Ну, ужо ты, здаецца, ваша правасхадзіцельства, таго... Ужо і купацца мы не можам...

— Так, так, так... Ім на падазрэнне ўзяты ўсе... Учарашняя размова вельмі мне не спадабалася...

На мелі—насупроць Царыцына—ляжалі голыя: Насовіч, даўгі, няскладны Кавалеўскі, з залатым ланцужком крыжа на запалых грудзях, Чэбышаў—з гладкімі плячыма і тазам, як у жанчыны. У двух кроках ад іх сядзелі, падставіўшы спіны сонцу, ад'ютанты Крэмнёў і Садкоўскі, капітан другога ранга Лахматаў і палкоўнік Сухоцін. Тут быў увесь штаб акругі.

Але апасенні Насовіча, што за імі наглядаюць з таго берага, былі, бадай што, беспадстаўныя. Уся мель насупроць Царыцына кішэла людзьмі. Шмат лодак на сярэдзіне Волгі вісела нібы ў паветры, на жаўтаватаблакітнай роўнядзі ракі. Была нядзеля, спякота, безветранасць.

Штаб абраў для купання ціхую касу. Чакалі інжынера Аляксеева,—ён павінен быў зрабіць важнае паведамленне.

— Аб чым-жа цябе пытаў надзвычайны камісар?—спытаў Кавалеўскі.

— А ён цікавіўся вельмі тонкімі рэчамі... Выклікаў мяне ў

вагон па аператыўных пытаннях... Частаваў чаем, быў вельмі мілы і не верыў ніводнаму майму слову...

Паклаўшы рукі пад патыліцу, Насовіч стаў падрабязна расказваць пра ўчарашнюю гутарку з надзвычайным камісарам, які цікавіўся кожнай штабной паперкай. Прагдядваючы прынесеныя Насовічам загады, запытанні другім штабам, пярэчанні і адпіскі і ўсе здымкі загадаў, запытанняў, пярэчанняў і адпісак другіх царыцынскіх штабаў, Сталін указваў на грамоздкасць такой канцылярскай сістэмы вядзення вайны. Ён браў з папкі які-небудзь загад камандзіру атрада і сачыў яго звілісты шлях праз канцылярскія сталы да месца назначэння калі загад ужо губляў усякі сэнс або выклікаў шалёную адпіску камандзіра атрада. Ён браў другую паперку і расшыфроўваў яе сэнс, хіліўшыйся адзіна толькі да раздування склокі між штабамі.

Ен прасіў Насовіча даць яму талковае тлумачэнне пра такую мала мэтазгодную дзейнасць.

— Я, натуральна, пярэчыў, што штабы самім госпадам богам пастаўлены быць штабамі і што тут я працую па асабістай даверанасці Троцкага—па меры маіх сіл і разуменняў. Але спасылка на Троцкага яго мала пераканала... Ён пачаў ставіць такія тонкія пытанні,—адну хвіліну здалося: вось чорт, ці не разгадаў ён маю гульню? З Маскалёвым працаваць было прасцей...

Чэбышаў, перасыпаючы ў жменях сухі пясок сказаў непрыязна:

— Я лічу, што ваша гульня надта тонкая для большэвікоў. Я-б дзейнічаў і смялей і грубей...

Насовіч пацягнуў па пяску нагу, другую, узняў апухлыя ад рэўматызма калені. Таксама, як тады вясной на вагоннай пляцоўцы, ён адчуў вострую непрыязнасць да гэтага фата-гвардзейца, невядома чаму цэдзячага словы з такой выразнай фанабэрыяй. Падумаў: „Пагдядзеў бы, я як ты збляднееш, калі паставяць каля плоту перад узводам..."

Насовіч не адказаў яму, таму што ў такую гарачыню не хацелася расказваць пра складаную сістэму папяровай цяганіны і склокі, якую ён праводзіў у штабах і на фронце. Часам спрытна прыдуманая фраза ў адсыльнай паперцы натраўлівала адзін штаб на другі, выклікала буру абурэння, паралізавала работу ці, як ён любіў паўтараць: „удалае слова можа нарабіць больш шкоды, чымся добры абстрэл з шасцідзюймовых гаубіц..." Ён не адказаў яшчэ таму, што Чэбышаў быў часткова правы. Дырэктывы, атрыманыя Насовічам у Маскве ад Савінкава і на другі дзень—ад саветніка пасольства адной з вялікіх дзяржаў, „якая праяўляла, не гледзячы на ўсе іспыты, сардэчныя пачуцці да рускага народа",—дырэктывы гэтыя не былі ім выкананы цалкам. Магчыма, ён вельмі стаміўся ад барацьбы, магчыма, проста збаяўся?

Да мелі падплыла старая двухвясёльная лодка. З яе выскачылі два маладых чалавекі з пабрытымі галавамі і, не спяшаючыся, выйшаў інжынер Алексееў. Не гледзячы на гарачыню, ён быў у пінжаку і камізэльцы. Сыны яго шпарка распрануліся, кінуліся ў ваду, ён падышоў да ляжачых на пяску штабных. Сеў. Твар яго быў сур'ёзны, амаль урачысты.

— Панове,—сказаў ён павольным шэптам,—панове,—дабраахвотніцкая армія на галаву разбіла ўсю групу Калніна і заняла Тіхарэцкую, днямі трэба чакаць узяцце Тарговай. Дзянікін ідзе па Расіі трыумфальным маршам...

Штабныя маўчалі, але па тым, як яны быццам-бы застыглі на пяску, было зразумела, што паведамленне ўзрушыла ўсіх. Нарэшце Насовіч хрыпла запытаў:

— Адкуль у вас гэта? Штаб яшчэ нічога не ведае...

— Я атрымаў шыфраваную тэлеграму кружным шляхам праз Баку,—сказаў Аляксееў.—Баку таксама—з дня на дзень павінна пасці. Ужо самы факт, што Баку будзе ў англічан, непамерна матэрыяльна і маральна паслабіць большэвікоў...

— Так, чорт вазьмі, здорава,—прагаварыў Кавалеўскі,—пераварачваючыся на жывот.

— Панове, трэба пачынаць дзейнічаць... Трэба дзейнічаць, панове,—паўтарыў Аляксееў амаль гістэрычна.—Якія ў вас рэальныя сілы?

Насовіч адказаў:

— Афіцэрская арганізацыя „Саюз франтавікоў“ — лічыце дзвесце пяцьдзесят штыкоў... Сербскі полк—тысяча штыкоў. Але сербы яшчэ не зусім падрыхтаваны. З імі працуюць мясцовыя эсэры, але чорт іх ведае, як яны працуюць,—справаздачы мне не даюць... „Саюз гандлёва-прамысловых служачых“,—там таксама корпаюцца эсэры і меншавікі... Колькі мы навярбуем гэтых ваякаў—прыказчыкаў,—сказаць цяжка... Вось пакуль і ўсё... Можна было-б разлічваць на некаторы процант рабочых „Грузалесу“, але Сталін абвясціў эсэраў і меншавікоў ворагамі народа, яны моцна паслабілі працу на „Грузалесе“... Ва ўсякім выпадку можна разлічваць на паўтары тысячы штыкоў...

— Грошы?—запытаўся Чэбышаў.

Аляксееў—жвава.

— Камісарыят шляхоў зносін, накіроўваючы мяне па нафту ў Баку, забяспечыў наступным: чатыры кулямёты, сорак вінтовак, трыста ручных гранат і дзесяць мільёнаў рублёў грашыма. Усё гэта ў нашым распараджэнні...

— Ну што-ж,—праказаў Насовіч,—і добра, давай бог. Чакаць прыдзецца нядоўга. Наш фронт...

— Чый—„наш“?—рэзка запытаў Чэбышаў.

— Чырвоны, не чапляйся, палкоўнік... Чырвоны фронт дэзарганізаваны так, што і дзесяці надзвычайным камісарам не зрабіць яго боездольным... Красноў пачне генеральны наступ з сярэдзіны ліпеня. Дабраахвотная армія да таго часу таксама будзе ўжо пад Царыцынам...

— Значыць, узброенае паўстанне вы прыурочваеце?

— На канец ліпеня...

Адзін з ад'ютантаў, павярнуўшыся, праказаў выразна:

— Таварыш начальнік штаба, сюды плыве лодка з народам.

Тады ўсе зноў разлягліся на пяску—у вольных позах. З лодкі, якая праплыла міма, крыкнулі:

— Гэй, грамадзяне, прыкрыйце сорам хоць...

6

Тое, што казаў Сталін у вагоне Варашылаву, спраўдзілася: у канцы ліпеня армія Дзянікіна нанесла рад моцных udaраў па магістралі Царыцын-Ціхарэцкая і адрэзала пяцідзесяцітысячную армію Калніна. Паўднёвы фронт тым самым прыцягнуў усю ўвагу.

Сталін пісаў Уладзіміру Ільічу:

„... Калі-б нашы ваенныя „спецыялісты“ (шаўцы!) не спалі і не бяздзейнічалі, лінія не была-б перарвана; і калі лінія будзе аднаўлена, дык не дзякуючы ваенным, а наперакор ім... Справа ўскладняецца тым, што штаб Паўночнакаўказскай акругі аказаўся зусім непрыстасаваным да ўмоў барацьбы з контррэвалюцыяй. Справа не толькі ў тым, што нашы „спецыялісты“ псіхалагічна не здольны да рашучай вайны з контррэвалюцыяй, але таксама ў тым, што яны як „штабныя“ работнікі, якія ўмеюць толькі „чарціць чарцяжы“ і даваць планы перафарміроўкі, абсалютна абыякавыя да аператыўных дзеянняў.,. І наогул адчуваюць сябе як пабочныя людзі...

... Глядзець на гэта спакойна, калі фронт Калніна адарваны ад пункта снабжэння, а поўнач ад хлебнага раёна, лічу сябе не ўправе.

Я буду выпраўляць і многія другія недахопы на мясцох, я прымаю рад мер і буду прымаць аж да змяшчэння губячых справу чыноў і камандзіраў, не гледзячы на фармальныя цяжкасці, якія пры неабходнасці буду ламаць, пры гэтым зразумела, што бяру на сябе ўсю адказнасць перад усімі вышэйшымі ўстановамі.

Спяшаюся на фронт, пішу толькі па справе“.

Бронецягнік спыніўся у глыбокай выемцы,—тут зноў быў узарваны шлях і, як відаць, нядаўна,—адна з шпал яшчэ тлела. Каманда разведчыкаў узабралася па адхону. Выпалены стэп быў пустынны. Уперадзе, вярсты за дзве, тырчала вадакачка, блішчэлі на сонцы стрэхі станцыйных пабудоў.

Разведчыкі дайшлі да станцыі. Яна была пакінута. На вакзале выбіты вокны, паламаны тэлеграфныя і тэлефонныя апараты. На станцыйным двары ля дзвярэй пограба ляжаў якісьці разуты чалавек з пасечанай галавой.

Станцыя—пустынная, маленькая, рабаваць там, па сутнасці, не было чаго, і такі налёт здаваўся дзіўным,—тым больш дзіўным, што на шляху бронепоезда, які сакрэтна пакінуў Царыцын, сустракалася ўжо трэцяя разгромленная станцыя,—і быццам гэта прыстасоўвалася да прыходу бронецягніка.

— Па лініі паведамлена, зусім відавочна,—сказаў Варашылаў, падыходзячы разам са Сталіным да паравоза. Рамонтныя рабочыя развінчвалі рэльсы, знімалі пашкоджаныя шпалы, сцягвалі з платформы запасныя. Работы тут было гадзіны на дзве. Распытаўшы, вярнуўшыхся разведчыкаў, Варашылаў прапанаваў пайсці да станцыі пехатою,—у выемцы было невыносна горача.

Ён перакінуў праз плячо карабін. Сталін узяў арэхавы кій. Пайшлі ўдвух па палатну. Выемка завярнула направа, і бронецягніка не стала відаць. У адкрытым стэпу падуў гарачы, усё-ж

прыемны вецер. Далягляд быў хвалісты. Вельмі далёка на меласвым узвышшы відзён быў млын. Варашылаў паказаў на яго: „Адкуль і быў налёт“... У бледным небе лёталі драпежнікі.

Сталін сачыў, як адзін з каршуноў—зусім блізка ад іх, так што чуцён быў свіст яго цвёрда раскінутых крылляў,—пранёсся да зямлі, і амаль закрануў сусліка, які стойма тырчаў ля сваёй нары на невысокім курганку—старажытнай магіле якога-небудзь гуна—конніка. Суслік паспеў, вільнуўшы кістачкай хваста, нырнуць пад зямлю, каршун важна, нібы яму зусім не хацелася мяса, узняўся па гарачаму току паветра.

Сталін рассмяяўся, пахлопваючы сябе кійком па халяве.

— Калі-небудзь навучымся будаваць такія самалёты,—сказаў ён.—Дасканалы палёт, дасканальнае валоданне сіламі. А людзі могуць лятаць лепш, калі вызваліць іх сілы... Мы будзем лятаць лепш.

Ніжнія павекі яго ўзняліся. Ён крочыў, не гледячы цяпер ні на каршуноў, ні на суслікаў паміж кусцікамі палыну. Варашылаў загаварыў аб тым плане наступу, які неабходна было развіваць не чакаючы перафармавання арміі, каб папярэдзіць перабоі ў адпраўцы маршрутных паяздоў на Маскву.

Дабраахвотная армія, меркаваў ён, дабіўшыся сур'ёзных поспехаў па Тіхарэцкай магістралі, немінуча павінна не ісці да Царыцына, але павярнуць на поўдзень, таму што ў тылу яе застаюцца: гарнізон Екацерынадара, (які разбіў у сакавіку месяцы дабраахвотную армію Карнілава), чарнаморскія маракі ў Новарасійску і на флангу—ля Азоўскага мора—армія Сарокіна.

Дзянікін павінен будзе раней за ўсё ўвайсці ў сутычку з Сарокінам і адыйсці ад магістралі, пакінуўшы на ёй толькі заслоны і тады нам з аднымі, застаўшыміся ў нас на паўднёвым участку сіламі можна прачысціць і аднавіць лінію ля Тіхарэцкай і прасунуць адтуль хлебныя паязды.

Сталін сказаў:

— Калі мы перафарміруем армію і прызавем сем узростаў, дык і тады вораг лічбова будзе мацней за нас. Мы павінны стварыць новую тактыку. Нашы дывізіі не павінны быць абцяжанымі, але гнуткімі і рухомымі, узмоцнена снабжонымі кулямётамі і артылерыяй. Конніца—будучае гэтай вайны. Пяхотныя дывізіі трэба камплектаваць буйнымі коннымі часцямі, якія маглі-б разгортваць самастойныя аперацыі. Мы павінны мець перавагу ў тэхніцы, стварыць франтавую завесу з бронепаяздоў і бронемашын. Нам патрэбен паветраны флот. Мы павінны стварыць паветраны флот...

Яны дайшлі да пакінутай станцыі. Ваданапорная вежа, на шчасце, уцалела. Адкрылі кран,—з асалодай вымыліся да пояса і напіліся. Варашылаў прынёс лесвіцу, прыставіў яе да сцяны аднапавярховага вакзала і палез на страху, каб адтуль добра у бінокль агледзець мясцовасць. Сталін застаўся ўнізе.

Ледзь толькі Варашылаў, узлезшы узняў рукі з біноклем,—па жалезнай страсе быццам ударыла гарохам.

—Уніз! Хутчэй!—крыкнуў Сталін.

Данесліся стрэлы. Куля ўрэзалася ў драўляную сцяну вакзала. Варашылаў саскочыў са страхі. Усё-ж ён паспеў разглядзець, што

стралялі за вярсту адсюль, з-за кургана. Ён сказаў, калі адышлі пад прыкрыццё:

— Выбачайце, Іосіф Вісарыёнавіч, сапраўды... (У яго быў зусім збянтэжаны твар. Сталін засмяяўся: „Бывае...“) Можна тут пачакаць бронепоезд... Але баюся, як бы казачкі не ўздумалі нас атакаваць кавалерыяй... Лепш будзе вярнуцца...

— Хадзем...

Варашылаў зняў з пляча карабін. І яны, абагнуўшы станцыю, пайшлі, трымаючыся ў баку ад палатна. Кулямі тут дастаць іх было цяжка, усё-ж не адна куля прасвістала над галавою. Сталін ішоў усё-так-жа, спакойна, пастукваючы кійком. Варашылаў з трывогай паглядваў то на яго, то ў бок далёкага кургана. Раптам там над грэбянем узвіўся жоўты дымок, прашыпеў знарад пачуўся гарматны стрэл.

— Ідыёты!—крыкнуў Варашылаў.—З гарматы—па асобных кропках,—ідыёты!..

Яны ішлі не паскараючы кроку, праз хвіліну знарад падняў віхор зямлі ззаду ў іх. Выемка, дзе стаяў нябачны адсюль бронепоезд была яшчэ далёка. Наступны знарад разарваўся ўперадзе іх.

— Для казакаў—страляніна не вельмі дрэнная,—сказаў Варашылаў.

Нарэшце з выемкі адказала цяжкая гармата бронепоезда,—раўнула яна так грозна, што казачая гарматка за курганам яшчэ раз цяўкнула і змоўкла. На грэбень выемкі выскаквалі разведчыкі,—яны беглі ланцугом у бок кургана.

Сталін спыніўся і, прыкрываючы ад ветру агеньчык запалкі раскурваў трубку.

З дарогі Сталін тэлеграфаваў Уладзіміру Ільічу:

„Ваенкіраўнік Снесараў па-мойму вельмі ўмела сабатуе справу ачышчэння лініі Кацельнікава-Тіхарэцкая. З прычыны гэтага я парашыў асабіста выехаць на фронт і пазнаёміцца з становішчам. Узяў з сабой... камандуючага Варашылава, бранявы поезд, тэхнічны атрад і паехаў. Паўдня перастрэлкі з казакамі далі нам магчымасць прачысціць дарогу, выправіць шлях у чатырох мясцінах на адлегласці пятнаццаці вёрст. Усё гэта ўдалося нам зрабіць насупраць Снесараву, які супроць чакання таксама паехаў на фронт, але трымаўся ад поезда на адлегласці двух станцый і досыць далікатна імкнуўся сапсаваць справу. Такім чынам, ад станцыі Гашун нам удалося дабрацца да станцыі Зімоўнікі, паўднёвей Кацельнікава.

У выніку двухтыднёвага прабывання на фронце пераканаўся, што лінію безумоўна можна прачысціць у кароткі тэрмін, калі за бранявым поездам рушыць дванаццацітысячную армію, якая стаіць пад Гашуном і звязаную па руках і нагах распараджэннямі Снесарава.

З прычыны гэтага я з Варашылавым парашылі прадпрыняць некаторыя крокі ў разрэз з распараджэннямі Снесарава. Наша рашэнне праводзіцца ўжо ў жыццё і дарога ў хуткім часе будзе ачышчана, бо знарады і патроны маюцца, а войска хоча біцца.

Цяпер дзве просьбы да вас, таварыш Ленін: першая—забраць Снесарава, які не ў сілах, не можа, няздольны, альбо не хоча весці вайну з контрэволюцыяй, з сваімі землякамі—казакамі. Можа быць, ён і добры ў вайне з немцамі, але ў вайне з контррэволюцыяй ён—сур'ёзны тормаз і калі лінія да гэтага часу не прачышчана,— між іншым таму, і нават галоўным чынам таму, што Снесараў тармазіў справу.

Другая просьба—дайце нам тэрмінова штук восем бранявых аўтамабіляў. Яны змаглі-б—узмясціць, кампенсіраваць, паўтараю— кампенсіраваць лічбовы недахоп і слабую арганізаванасць нашай пяхоты".

7

Тачанка імчалася да бялеючых палатак,—хлопец у падранай на плячы рубашцы, у добрай кубанскай бараняй шапцы, раскінуўшы рукі з лейцамі і быццам падаючы з аблучка,—паганяў чацвёрку паджарых коней. Тут былі Сальскія стэпы, роўныя, як мора, зацягнутыя сівізною хвалюючагася кавыля.

Тачанка прагрукала па новаму масту праз канаву, дзе скрозь камышы сінела вада. На тым баку стаялі палаткі вядомага на ўсе гэтыя стэпы чырвонага коннага атрада. Дарога адсюль у лагер была абсажана невысокімі дрэўцамі, каб даваць байцам цень і прахладу, але нядаўна пасаджаныя дрэўцы засохлі.

Лагер быў абнесены валам. Ля ваколіцы, аздобленай кавылём, стаялі дзве гарматы. Вартавы штыхом загарадзіў дарогу.

— Камандуючы!—сказаў Пархоменка, кіўнуўшы на Варашылава. Тачанка ўскач пранеслася па лагеру, міма коней, што стаялі ля конавязей, міма палатак і зямлянак, перад якімі курыліся вогнішчы сухога гною. Адсюль да прыехаўшых беглі байцы. Пархоменка, устаўшы ў тачанцы, крыкнуў страшэнным голасам:

— Таварышы! Камандуючы прыбыў! Давай мітынг!

Натоўп ухвальна загуў,—паваліў на плац, што быў расчышчаны для страявых заняткаў, гімнастыкі і мітынгаў. На пытанне Варашылава, дзе камандзір—некалькі галасоў адказала весела:

— Камандзір у палатцы...

— Ён нездаровы...

— У яго чырэй, ці што...

— За памочнікам хлопцы паскакалі,—ён у стэпу каня аб'язджае...

Варашылаў і Пархоменка ўвайшлі ў палатку. Камандзір спаў на зямлі, на папоне. На ім быў пярэсты татарскі халат. Па адным баку камандзіра ляжала ўсялякая вупраж—сёдлы і аброці, на стаяку, на сучку вісела крывая шабля ў серабры, па другі бок да яго на дошках, пакладзеных на чурбачкі—адна на другой, стаяла некалькі сот—калі не больш—закаркаваных пузыркоў, узятых, як відаць, дзесьці ў аптэцы. У палатцы было душна.

— Таварыш Думенка!—паклікаў яго Варашылаў. Спячы моцна пацягнуў носам, узняў брытую галаву і пачырванелымі вачыма з хвіліну бессэнсоўна глядзеў на ўвайшоўшых.

— Таварыш Думенка, з табой гаворыць камандуючы фронтам, уставай...

— Не магу ўстаць,—павольна моцным сіплым голасам прагаварыў Думенка і падабраў пад халат босыя ногі. Ад натугі дагала пабрыты, успалены твар яго зморшчыўся.—Выбачай, таварыш камандуючы, я нездаровы... Гэй, хлопцы, дайце-ка сядзельныя падушкі камандуючаму і ад'ютанту...

Ён штосьці яшчэ хацеў дадаць, але ў яго падвярнуўся локаць, на які ён успіраўся, і Думенка лёг зноў на папону, мармычучы нешта:

— Усё зразумела,—сказаў Варашылаў.—Гэта ў яго спірт у пузырках, хадзем...

Па плацу—у круг—сабраліся байцы,—некалькі сот маладых хлопцаў, прапахнуўшых стэповым дымам. Пярэднія сядзелі на зямлі, заднія стаялі цесна. Тут былі казакі і сяляне з станіц і вёсак, дзе з лютага месяца казачы генерал Папоў, які збег пасля ўзяцця чырвонымі Растова, крывёю і бізуном аднаўляў у стэпах уладу станічных атаманаў.

Дрэнная вопратка на байцах не перашкаджала іх маладцаватай, гультаявата-дзёрзкай асанцы. Яны ўмелі і скакаць на кані з пікай і сячы направа і налева шабляй. А хто не ўмеў—тут навучылі.

Калі ў кола ўвайшлі Варашылаў і Пархоменка, ім крыкнулі:

— Пачакай, не пачынай!

Пачуўся шалёны конскі тупат. Падскакаў коннік, саскочыў, натоўп байцоў раздаўся... Ён падышоў лёгкай, злёгка развалістай, паходкай. Усё на ім—і перацягнутая папругай гімнасцёрка, і галіфе з скурай на шэнкелях, і брынкаючая аб халявы шабля, калі ён спыніўся, і змятая—глыбока і на вуха надзетая шапка,—усё было прыгнана па-кавалерыйску—спрытна. Быў ён хударлявы, смуглявы, з пышнымі вялікімі вусамі.

Падышоўшы да Варашылава, чотка падкінуў руку, не данёсшы далонь да скулы, і зараз-жа адняў яе:

— Памочнік камандзіра атрада Сямён Будзённы,—сказаў ён, гледзячы ва ўпор халоднымі вачыма.

Варашылаў паціснуў руку, папрасіў, каб даваў мітынг. Будзённы, адкінуўшыся:

— Хлопцы, з вамі будзе гаварыць камандуючы фронтам, таварыш Клімент Ефрэмавіч Варашылаў, той самы, хто праз нямецкія і казачыя банды прывёў у Царыцын слаўную армію, выкаваную ў крывавых бойках. Ён будзе з вамі гаварыць...

— Даёш!—гаркнулі байцы.

Варашылаў пачаў гаварыць аб тым, што тут, у Сальскіх стэпах, і вышэй, на Дану, і па ўсёй Расіі ідзе адна і тая-ж барацьба працоўных супроць капіталістаў і памешчыкаў, за тое, каб працаваць і жыць для сябе, а не карміць паразітаў.

Фронт капіталістаў і памешчыкаў—ад Петраграда да Баку. Сумна будзе тым, хто захоча біць іх каля адной сваёй хаты... Біць іх трэба ўсім разам, у тых мясцох, дзе будзе для іх найбольш адчувальна. Пагэтаму неабходна сфарміраваць з усіх працоўных адзіную чырвоную армію і падначаліць яе адзінаму рэвалюцыйнаму камандванню.

— За гэтым я прыехаў сюды—сфарміраваць з вашых слаўных чырвоных атрадаў жалезную дывізію... (Ён пералічыў гэтыя атрады, і лік байцоў у іх, і іх баявыя сродкі.) З чаго нам пачаць? Пачнем з геройскага подвіга, хлопцы... Сяло Мартынаўка ўжо трыццаць пяць дзён асаджаецца азвярэлымі белымі бандамі генерала Красільнікава. Мартынаўцаў—тры тысячы байцоў, яны не хочуць здавацца і згодны лепш памерці да апошняга чалавека... Калі мы не прыдзем да іх на дапамогу—яны памруць. Калі выручым іх—у нашай дывізіі будзе гартаваны Мартынаўскі полк...

Гаварыў ён пераканаўча і зразумела. Хлопцы, сядзеўшыя ў коле на зямлі, паўставалі. Тыя, хто стаяў, цясней насунуліся. Па нахмураных тварах, па вачах, што загарэліся, відаць было, што іх закранула прамова камандуючага.

— Вядзі!—сказалі хлопцы.—Мы згодны. Вядзі нас на Мартынаўку.

Будзённы ўзняў руку, аднавіў цішыню і падрабязна расказаў, як трэба аглядзець коняй, падкаваць дрэнна каваных, і напаіць, і як іх сядлаць, і што з сабою ўзяць у паход.

Хлопцы пабеглі да канявязяў, і ў стэп, і да паходнай кузні, і да зямлянак. Не прайшло і поўгадзіны—Будзённы загадаў трубачу:

— Па конях!

Атрад пакінуўшы ў лагеры абоз і ахову, выступіў. Байцы—па двое—далёка расцягнуліся па стэпавай дарозе. Побач са сцягам—наперадзе—на рыжым данскім кані, гарбаносым, сухім і жылістым, як яго гаспадар,—ішоў Сямён Будзённы, уліты ў сядло, нахмураны і спакойны. Конь ля каня з ім—Варашылаў і Пархоменка, перасеўшыя з тачанкі ў сёдлы. За імі—у галаве калоны—трубачы, літаўршчыкі і запявалы,—стэпавыя тэнары.

Калі атрад, даючы адпачынак коням, пераходзіў на крок, тэнары зацягвалі працяглую звонкую казачую, і ўвесь атрад падхопліваў моцнымі галасамі,—тэнары заносіліся, і, падгалоскі цягнулі так доўга, здавалася, каб слухаў увесь стэп... Але слухалі толькі каршуны ў вышыні ды суслікі ў сваіх норах... Варашылаў пад'ехаў да строю і спяваў з захапленнем.

Будзённы датыкаўся шпорамі каня,—данец, злосна ўзмахнуўшы расчасаным хвастом, пераходзіў на размашыстую рысь. Змаўкала песня,—над імчаўшайся калонай узнімаўся пыл.

Начавалі, не рассядлаўшы коняй, не запальваючы кастроў. Яшчэ не занялася зара—атрад, перабудаваўшыся ў баявы парадак, рушыў на Мартынаўку. Высланыя ўначы разведчыкі данеслі аб размяшчэнні ворага, навакол абклаўшага вёску. На нараду з'ехаліся—Варашылаў, Будзённы і камандзіры сотняў. Вырашана было ўдарыць па штабу белых, прарвацца ў вёску, і адтуль ужо разам з мартынаўцамі ірваць і граміць акружэнне...

Да світання заставалася нядоўга, і зорак стала менш. Атрад, разгарнуўшыся ў чатыры ланцугі, ішоў буйнай рыссю. Будзённы сказаў камандуючаму, каб ён трымаўся ў другім ланцугу і не выскакваў у першы. Вёскі яшчэ не было відаць, але вецер ужо даносіў адтуль жылы пах дыму, кізяка і хлеба. Зелянеў усход. Шы-

рылася, яснела святло бязвоблачнай зары,—з трывогай на яе паглядваў Будзённы.

— Наддай!

Наперадзе паказаліся чырванаватыя агеньчыкі кастроў. Разведчык, скачучы побач, указаў Будзённаму на чорныя ў світальным змроку, абрысы двух дрэваў,—там быў штаб і лагер коннага палка Красільнікава. Казакі, вядома, спяць, як кабаны, не чакаючы нападу з стэпу... Разведчык памыліўся. Будзённы разлічыў рух,—у баку ад групы дрэваў з'язджаліся коннікі. Белыя таксама, пэўна, думалі, што мартынаўцы ў гэты час, вядома, моцна спяць у акопах.

Асадзіўшы данца, так што той церабіў нагамі, імкнучыся узвіцца, Будзённы выняў з ножнаў шашку: „За мной!“—і штурхануў каня. За ім,—крычучы, равучы, візжучы па-стэповаму, размахваючы шашкамі—ірвануўся пярэдні ланцуг. З цяжкім тупатам чырвоныя лавы панесліся наперад—туды, дзе крыху справа за чорнымі дрэвамі адлюстроўвалася ў лужыне вады святлеючая паласа зары...

Там блізнула і забілася ўспышка кулямёта, свіснулі кулі, загрукатаў стэп... Насустрач імчаліся яшчэ невыразныя масы ворага...

Пархоменка імкнуўся схапіць за вуздэчку каня Клімента Ефрэмавіча, але той вырваў у яго повад, пагнаў разгарачанага каня наперад. Імкліва набліжалася чорная сцяна ворагаў. Варашылаў ведаў, што гэтыя секунды вырашаюць лёс коннага боя: хто першы паверне?.. Ён убачыў Будзённага,—наперадзе, прыўстаўшы ў страмёнах, узняўшы клінок,—ён шукаў сустрэчы. Ворагі—цяпер іх добра было відаць—выраслі ланцуг за ланцугом: увесь полк імчаўся на збліжэнне. Будзённы, на сцелючымся данцы, увесь выцягнуўшыся, дастаў шашкай заскочыўшага наперад барадатага казака,—той схапіўся за галаў... І ў той час наляцеў на двух, рубячы з пляча і навотмаш,—адзін казак лёг на грыву, у другога з рассечанай шыі хлынула чорная кроў. Ворагі асаджвалі, паварачвалі. Толькі некалькі коннікаў схапіліся, але, апракінутыя, змятыя, зніклі ў нястрыманай лаве.

Казакі павярнулі, і гналі і гналі за імі, рубячы навотмаш, маладыя чырвоныя казачаты. Варашылаў, якога нясло патокам равучых коннікаў і ўзмыленых, пахнучых потам, коней, зноў убачыў аскаленую, лысую башку данца і маленькую, жылістую постаць, і вадзяны бляск яго клінка... Усё пранеслася, як гураган...

Варашылаў стаў асаджваць. Крычалі параненыя. Направа, за сажалкай, разгаралася вінтовачная страляніна. Ён спыніўся пад вярбой,—конь пацягнуўся да аранжавай вады. Падскакаў Пархоменка...

— Увесь полк пасечаны к чорту... Перамога!

— Як бы нашы не зарваліся...

— Не зарвуцца, Будзённы справу разумее.

— Ты паслаў да мартынаўцаў?

— Паслаў двух хлопцаў...

— Неадкладна агульны наступ...

8

Так пачалася абарона Царыцына.

Вагон Сталіна на шляхах паўднёва-усходняга вакзала быў тым сэрцам, якое гнала арганізаваную волю па ўсіх звілінах горада, з установамі, заводамі і прыстанямі, па ўсім фронце, дзе фарміраваліся палкі, брыгады і дывізіі, і на мітынгах ваенныя камісары растлумачвалі задачы рэволюцыі, па ўсёй аграмаднай акрузе, дзе агітатары і харчаатрады мітынгавалі па сёлах, станіцах і хутарах, мабілізуючы бяднейшае і сярэдняе сялянства і ломячы кулацкае супраціўленне. Тысячы фурманак з хлебам цягнуліся к Царыцыну, статкі жывёлы цягнуліся па дарогах да волжскіх прыстаняў...

Штодзённа накіроўваліся маршрутныя паязды на Маскву. На прыстанях Царыцына, Чорнага яра, Камыша, Балашова грузілі на баржы скаціну, рыбу, хлеб і гналі ўверх—на Ніжні-Ноўгарад. Паўночныя сталіцы маглі цяпер бесперабойна атрымоўваць паёк. Пагроза смяротнага голаду мінула.

Але ўся небяспека была наперадзе. Контррэволюцыя не давала нават кароткай перадышкі. З канца ліпеня пачаўся генеральны наступ на Царыцын красноўскіх генералаў. Аэрапланы—германскага тыпу Таўбе—скінулі ў Царыцын лістоўкі—адозву Мамантава:

„Грамадзяне горада Царыцына і вы, заблудзіўшыя сыны расійскай арміі. Да вас звяртаюся з апошняй прапановай мірнага і спакойнага жыцця ў адзінай і вялікай Расіі, Расіі праваслаўнай, Расіі ў бога веруючай. Блізка ваша гадзіна і блізка адплата божая за ўсе вашы злачынствы.

Скажыце, за што загінеце вы, за што загінуць вашы жонкі і дзеці, і багаты горад ператварыцца ў пустэчу і руіны? За што вы паміраеце? За тыя трыста рублёў фальшывых, нічога не каштуючых, керанак? Але што вы ясцё? У вас нават хлеба не хапае...

Імем бога жывога заклінаю вас: прыгадайце, што вы рускія людзі, і пакіньце праліваць братэрскую кроў. Я прапаную вам не пазней пятнаццатага жніўня здацца і здаць ваш горад нашым данскім войскам. Калі вы здасцёся без крывапраліцця і аддасцё мне вашу зброю і ваенныя прыпасы—я абяцаю захаваць вам жыццё. У іншым выпадку—смерць вам ганебная. Чакаю да пятнаццатага жніўня. Пасля—літасці не будзе“.

Саша Трубка склікала мітынг на „Грузалесе“ і прачытала гэтую лістоўку.

— Хто жадае пярэчыць генералу Мамантаву?—скончыўшы чытанне, спытала яна і хлопнула сябе па кабуры.—Пярэчанні лічу лішнімі. Усё ясна. У гэтай кабуры мой адказ генералам. Прапаную вам, мужыкі, вынесці рэзалюцыю: усім без выключэння ісці на фронт. Усяму „Грузалесу“. Бярвенні качаць і пілаваць будзем потым—калі перапілуем Мамантава.

Рабочыя „Грузалесу“ пастанавілі—ісці на фронт усім. Рабочыя французскага механічнага завода пастанавілі—ісці на фронт усім. Рабочыя гарматнага завода пастанавілі—мабілізавацца на фронт усім і сумясціць гэта з пракатам у дзень і ўначы—у тры змены—сталёвай брані і тэрміновай пабудовай бронепаяздоў.

За атрадамі рабочых ішлі на фронт маці, жонкі, сёстры, дзеці, нясучы клункі і кашолкі з ядою, гаршкі з кіслым малаком... Праваджаючых не дапушчалі да пазіцый, і жанчыны і дзеці падоўгу стаялі дзе-небудзь на ўзгорку, гледзячы, як іх няўмелыя мужыкі і браты строяцца ў полі ў два рады, і трымаюць вінтоўкі, і паўтараюць „першы—другі, першы—другі“, і крочаць і паварачваюцца, расстройваючы рады, і кладуцца і прыкладна страляюць, і потым, трохі навучыўшыся, ідуць далёка ў стэп—абараняць сваім жыццём рабочую свабоду.

Пакінуўшы на ўзгорку клункі з хлебам, агуркамі і цыбуляй пад аховай якога-небудзь служывага, жанчыны і дзеці, усхваляваныя і маўклівыя, варочаліся ў горад, каб замяніць мужчын на абароннай рабоце.

Не мала маладых жанчын ішло на фронт—санітаркамі, байцамі, іншыя—пісьменныя—у агітпроп—чытаць у акопах выдаваемую цяпер Межыным у Царыцыне вялікую газету—„Салдат рэволюцыі“.

Да адной з такіх дзяўчат позна ўвечары аднойчы ў Яры, дзе змяшчаўся штаб нанава сфармаванага Варварапольскага шахцёрскага палка, да агня кастра падышла Агрыпіна. Была яна апранута добра—у зялёнай, туга падпяразанай папружкай, рубашцы, у новай шапцы з чырвонаармейскай зоркай.

Твар у яе быў такі хмурны, быццам яна збіралася перакусіць горла гэтай дзяўчыне, разлажыўшай на траве ля кастра ўвесь свой „струмент“: некалькі газет і брашур, чарнільніцу і лісточкі паперы... Бровы ў Агрыпіны былі ссунуты, ноздры прыгожага носа ўздрыгвалі, расніцы спушчаны.

— Таварыш, мне з вамі пагаварыць патрэбна,—сказала яна гэтай дзяўчыне.—Можаце вы мяне навучыць грамаце за два тыдні ці не? Я таму, што гэта для мяне не жарты... (Адвярнула твар і—ціха). Я магу шчасце свае загубіць... Гарачыя бaі раней двух тыдняў не пачнуцца, час будзе... Трэба зразумець,—на маім гарбу двое дзяцей. Ім трэба расці, трэба вучыцца, а я непісьменная... Акрамя іх—адзін чалавек, ён партыйны, Леніна добра ведае, Варашылава ведае... І я бачу—яму мая цемната хутка стане ўпоперак горла... Ён ротны камандзір,—гэта трэба зразумець... Два тыдні, таварыш, даю вам тэрміну...

Агрыпіна так зірнула на гарадскую дзяўчыну,—тая зараз-жа згадзілася, і, не губляючы часу, ля кастра пачалі першы ўрок.

За ліпень месяц група Варашылава, забяспечаная ваеннымі запасамі, прывезенымі ў эшалонах, пашырыла фронт, узяла Калач і на правым беразе—станіцу Ніжнячырскую, дзе былі велізарныя запасы збожжа.

Усе разумелі, што гэта прасоўванне ненадзейнае, што яно можа стаць трывалым, толькі калі будуць разбіты галоўныя сілы Мамантава. Уся армія і тыл рыхтаваліся да гарачых дзён.

Ваенкіраўнік Снесараў, нарэшце, быў адклікаpast ў Маскву,—па патрабаванню Леніна ў вышэйшым ваенным совеце, дзе Троцкі злосна абараняў генерала. Гэта было буйнай перамогай. Атрымаўшы аб гэтым паведамленне, Сталін склікаў у сябе ваенную нараду. Трэба было зрабіць яшчэ крок у бок арганізацыі арміі;

знішчыць чатыры царыцынскіх штабы і замест іх паставіць адзіны Ваенны совет. Аб такім рашэнні Сталін тэлеграфаваў у Маскву, вызначыўшы пяцярых членаў Ваеннага совета: сябе, Маскалёва, Варашылава, палітычнага камісара штаба і Трытоўскага, ваеннага спецыяліста,—разумнага, ведаючага і скромнага чалавека з былых армейцаў.

Вышэйшы ваенны совет упёрся і пасля некалькіх дзён маўчання адказаў, што згодзен на стварэнне ў Царыцыне Ваеннага совета, але лічыць, што ён павінен складацца толькі з трох членаў: Сталіна, Маскалёва і ваеннага спецыяліста Кавалеўскага.

Такое рашэнне было прамой здрадай з боку Троцкага. Тады Сталін не спрачаючыся і не абвяргаючы, зрабіў яшчэ адзін арганізацыйны крок: загадаў начальніку Надзвычайнай камісіі арыштаваць і дапытаць Насовіча, Кавалеўскага, Чэбышава і ўвесь іх штаб. Гэта было ўжо ў дні, калі Мамантаўскія батарэі апаясвалі фронт гураганным агнём, і казачыя палкі, надзвычай добра апранутыя ў берлінскае чорнае сукно, хмарамі навіслі над акопамі.

Кавалеўскі, Чэбышаў, Сухоцін, Лахматаў і Крэмнеў,—а некалькімі гадзінамі пазней—інжынер Аляксееў з абодвымі сынамі—былі арыштаваны, дапытаны і пасля іх прызнанняў расстраляны.

Генерала Насовіча выратаваў Троцкі, вызваліўшы яго з-пад арышту і накіраваўшы яго ў Балашоў. Там Насовіч шкодзіў яшчэ месяцы два. Неўзабаве, апасаючыся новага арышту ён перайшоў фронт дабраахвотніцкай арміі і прадставіў Дзянікіну свае тлумачэнні.

Трэцім членам Ваеннага Совета замест Кавалеўскага быў прызначаны Варашылаў.

Мамантаў згрупаваў галоўныя сілы непасрэдна супроць Царыцына і наносіў скразны ўдар па магістралі, па якой месяц таму назад прабіваліся эшалоны Варашылава.

К канцу другога тыдня баёў Комуністычная і Марозаўска-Данецкая дывізіі пачалі выматвацца,—рэзерваў не хапала. Знарады і патроны, прывезеныя эшалонамі Варашылава падыходзілі к канцу. Вышэйшы ваенны совет у адказ на самыя тэрміновыя патрабаванні дасласць зброю і агнявое снаражэнне адказаў нарэшце, што зброя і агняпрыпасы могуць быць дасланы з Масквы толькі пры ўмове, калі ў заяўках будуць паказаны дасканала лічбы колькасці байцоў, якім трэба зброя, наяўнасць ваеннай маемасці ў Царыцыне і сумы, у рублях, раней зробленых выдаткаў.

Сталін паслаў у Маскву Пархоменка, каб вырваць у Вышэйшага Ваеннага совета зброю і агнепрыпасы, тэрмінова прывезці ў Царыцын.

Станіцу Ніжнячырскую прышлося пакінуць. Чырвоныя адступілі на левы бераг Дону. Мост быў здан ворагу. Калач пакінуты. У Царыцыне дзень і ноч падыходзілі паязды, набітыя раненымі. Пад Крывой Музгой лепшыя палкі Камдывізіі страцілі больш паловы складу. Лукаш быў цяжка паранены. Змучаная Чырвоная армія, абліваючыся крывёю абапіралася цяпер толькі на бронепаязды,—гураганным агнём яны адкідвалі насядаючыя аграмадныя

рэзервы мамантаўцаў. Але не хапала знарадаў. Шалёнымі коннымі атакамі вораг нестрымана ірваўся к гораду.

Ад грукату гармат у Царыцыне брынчэла шкло. Усё насельніцтва паспешна капала на ўскраінах апошнюю лінію ўмацавання. Сталін быў у акопах. Туды яму прынеслі тэлеграмы з патрабаваннем неадкладна стварыць Рэволюцыйны Совет Паўднёвага фронту на падставе поўнага няўмяшальніцтва камісараў у аператыўныя справы, штаб змясціць у Казлове[1].

У той-жа час у доміку на ўскраіне горада сабраўся Военны Совет, і Леніну і ў цэнтральны камітэт была паслана тэлеграма:

„Ці вядомы Вышэйшаму ваеннаму совету вышэйпаказаны загад Троцкага? Тэлеграфны загад Троцкага пагражае развалам усяму фронту і пагібеллю ўсёй рэволюцыйнай справе на поўдні і не можа быць выканан Ваенным Советам паўднёвага фронта“.

Сталін не выходзіў з акопаў, кіруючы адтуль пасылкай рэзерваў, падвозам агнеприпасаў, адпраўкай новага бронепоезда, узброенага толькі што адлітымі цяжкімі гарматамі. У акоп скочыў Варашылаў,—ён вярнуўся на бранявіку з перадавой лініі, быў увесь у гразі, у машынным масле. Ён моўчкі глядзеў на Сталіна,—губы ў яго трасліся.

— Забіты Коля Руднёў,—сказаў ён і хвіліну стаяў моўчкі.— Патронаў няма... Адбіваемся аднымі штыкамі... страты вялікія... Ну, іду ў ланцуг...

Вылез з акопа, сеў у бранявік, які прыехаў па новыя кулямётныя дыскі, паімчаўся.

Калі мамантаўцам ужо здавалася, што яны яшчэ адным апошнім намаганнем уварвуцца ў горад,—супроць іх выступіў сфарміраваны на рабочых ускраінах свежы, нованікольскі полк. Сталін сказаў ім некалькі слоў, яны пайшлі без стрэла. Бронепоезд, які рухаўся наперадзе іх, агнявым шквалам расчышчаў дарогу. Нованікольцы дайшлі да акопаў ворага і кінуліся ў штыкі. Мамантаўская пяхота, не чакаўшая ўдара свежых часцей, не вытрымала і пабегла. Яе сустрэлі свае-ж казачыя сотні, якія кінуліся секчы бягучых. Але і гэтыя сотні былі змецены агнём бронепоезда і батарэі, якія сталі пад горадам. Намаганне, з якім белыя ірваліся да горада, было зломлена, як гэта часта бывае, аб нечакана ўведзеную супроць іх новую сілу. Белыя, як абпаленыя, адскочылі ад Царыцына, Мамантаў паслаў рэзервы, на іх з флангу шалёна ўдарыў Грамаслаўскі полк. Белыя пачалі адкачвацца за Крывую Музгу. Тады на іх напусцілася марозаўская кавалерыя і скінула ў Дон усё ядро яшчэ раніцай, здавалася,—неперамoжнай, к вечару—разгромленай мамантаўскай арміі.

„Наступленне совецкіх войск царыцынскага раёна ўвянчалася поспехам... Вораг разбіты наголаву і адкінуты за Дон. Становішча Царыцына моцнае. Наступ прадаўжаецца. Нарком Сталін“.

*Канец.*

[1] Казлоў—чатырыста вёрст паўночней Царыцына.

*Міхась Калачынскі*

# СТАЛІН

Хадзіў я па хаце да яснага рання,
Хадзілі таксама за брамаю ветры,
Шукаў я табе, правадыр, параўнанняў,
Як золата людзі ў нязведаных нетрах;

Скрозь ноч вандраваў па пустыні Сахары,
Дзе кружаць пяскамі у шале самумы,
Імчаўся на зоры дрыжачыя ў марах,
Пра Сталіна думаў бясконцыя думы...

Вялікі, праўдзівы, ласкавейшы ў свеце!
У хату ён прыдзе, часамі бывае,—
На рукі к яму самі просяцца дзеці,
Як роднага бацьку яго абнімаюць.

Ён шыр абвядзе гаспадарскай рукою,—
Густыя сады, што лясы вырастаюць,
Хлябы налiўныя схіляюцца ў пояс
І сейбіта роднага шчыра вітаюць.

А кіне ён сонечны позірк навокал,
Дзе поўна цяпла, чалавечае ласкі,—
Снягі растаюць на гарах, на высокіх
І поўняцца водамі рэкі, бы ў казках.

Ледзь слова сваё ён паважнае скажа,—
Адно толькі простае слова, як песня,—
І крылля арлы распластаюць у сажань
І смела лятуць у бяскрай паднябесся.

Вышэй ён усіх на зямлі веліканаў
Вышэй найвышэйшай гары Чамолунгма.
Праплыў лятуценна я ўсе акіяны,
Пра Сталіна думаў бясконцыя думы...

Нідзе не знайду я такіх параўнанняў,
Каб выказаць мары і думы у песнях;
Пайду па жывыя легенды-паданні
У наша багатае праўдай Палессе.

У вёсцы Пшанічча, былых Караедах,
Спаткаў знатака я і песень і казак—
Сівога, як лунь, стогадовага дзеда,
Што ездзіў на цёплыя воды Каўказа.

Паслухай, дзядуля.
Ты знаеш паданні
Пра папараць-кветку, к ёй сцежкі-дарогі,
Параду сваю ты дзядоўскую дай мне,
Каб вобраз падаць чалавека такога.

І дзед прыгадаў параўнанне адразу.
Ён бачыў магутнае дрэва такое,
Каторае высіцца ў долах Каўказа,
Зялёнае вечна, заўжды маладое.

Дзе стане яно, як тытан, над зямлёю,—
Балоты адвечныя, багны знікаюць,
Хлябы наліўныя схіляюцца ў пояс,
Лясамі густымі сады вырастаюць.

Паважны дзядуля казаў свае слова,
Што славіцца дрэва яшчэ і лістамі,
Квітнеючы ён эўкаліпт параўноўваў
З табою, ні з чым незраўняемы—
Сталін.

Менск, 21/II—38 г.

*Пімен Панчанка*

## Я УСМЕШКУ ТВАЮ ПАЗНАЮ...

Я усмешку тваю пазнаю
Па маленькім знаёмым прыкметам.
Я усмешку тваю пазнаю
На старонцы маскоўскай газеты...

Твой партрэт мне прыпомніў той дзень:
Май. Вішнёвы пажар. Сіні ранак.
Па ваду да крыніцы ты йдзеш
Цераз луг, што у кветкі убраны.

А з-за бору ляціць самалёт...
Праляцеў над табой невысока.
Цябе, пэўна, заўважыў пілот
Малады і адважны, як сокал.

Доўга, доўга глядзела ты ўслед
І махала хусцінкаю белай.
І зрабіўся заманлівым свет...
Ты пра лётніка песню запела.

Ты крынічнай набрала вады,
І ў напоўненых вёдрах панесла
Два іскрыстыя сонцы... Тады
Нарадзілася мара, як песня,

Каб ляцець у нязведаны шлях,
За далёкія горы, за моры,
Каб круцілася ўнізе зямля,
Каб уверсе іскрыліся зоры...

Я гляджу на партрэт. Ты пілот.
Я пагутарыць хочу з табою...
Дзе ты сёння вядзеш самалёт,
Над пустыняй? Над цёмнай тайгою?

1937 г. в. Качэрычы, Кіраўскі раён.

*Е. Садоўскі*

# БАЧУ

Апавяданне сляпога

„Вельмі цікава было-б расказаць аб тым, як атрымліваюць у нашы дні ў нашай краіне сляпыя—зрок, глухія—слых, голыя—футры, забытыя—коней, мёрзнучыя—сонца, старыя—маладосць.

*(З пісьма С. Стальскага М. Горкаму.)*

Сёння страшны юбілей у маім жыцці. Роўна дваццаць пяць гадоў назад я аслеп. Ужо дваццаць пяць гадоў мае размяклыя павекі бездапаможна падымаюцца, але ні адзінага светлага праменю не могуць злавіць мае вочы. Дваццаць пяць гадоў я хаджу навобмацак, асцярожна робячы кожны крок і доўга прыслухоўваючыся, ці не пагражае мне раптоўным наскокам аўтамабіль, ці не расціснe мяне пад цяжарам сваіх вострых колаў трамвай. Як дзіўна, я да гэтага часу не магу сабе ўявіць трамвайны вагон. Але чаму мяне так зацікавіў трамвай? Ці мала чаго я не бачыў і ведаю толькі па назве і навобмацак...

Мне было шэсць гадоў, калі кор, якую я перанёс у цяжкай форме, з ускладненнем асляпіла мяне... Ці памятаю я сонца? Дзіцячыя ўспаміны жывуць, але ўспамінаючы дзяцінства, мне болей за ўсё хочацца ўявіць навакольнае... У маёй памяці астаўся адзін гарачы летні дзень... Мы жылі ў невялічкім драўляным доміку прыгараду... Бацька працаваў шклодувам. Я памятаю яго стомлены твар, які рана састарыўся, доўгія чорныя вусы і вочы светлыя, ветлівыя... Стоячы ля распаленай ванны, задыхаючыся ад гарачыні ён сваімі лёгкімі выдуваў тонкагорлыя графіны, бутэлькі, банкі... Аднойчы ён узяў мяне з сабой. Гарачынёй палыхнула мне ў твар. Я закрычаў ад болю і спалоханы выскачыў на свежае паветра... Бацька выйшаў за мной і, ласкава патрапаўшы агрубелай рукой, сказаў:

— Глядзі, Колька, добра вучыся, тады не будзеш гібець у такім пекле.

Я нямеў ад жаху, калі бацька пачынаў кашляць. Кашляў ён доўга, з хрыпам, адплёўваючы і лаючыся, а пасля, прысланіўшыся да сцяны і набіраючы паветра, пераводзіў дыханне. Па нядзелях мы хадзілі за горад... Адзін з такіх дзён астаўся ў маёй памяці. За тры вярсты ад нашага дому цякла рака. Сонца,—калі-б мне

вярнулі зрок, я гадзінамі не адрываючыся глядзеў бы на яго,— купалася ў яе вадзе. На беразе шумела зялёнае лісце. Закінуўшы доўгую вудачку і замёршы на месцы, бацька сачыў за паплаўкамі. Я не зводзіў вачэй з яго. І калі паплавок пачынаў ныраць, па выразу бацькавага твару ўгадваў, будзе ўлоў ці не. Пасля я часта ўспамінаў гэты дзень, іменна гэты, заліты сонцам і святлом... Пасля хваробы, калі дактары катэгарычна адмовіліся лячыць мой зрок, страчаны за час цяжкай хваробы, пачаліся змрочныя дні майго жыцця. Цяпер я цмяна памятаю тыя дні, але доўга я не мог забыць сударгавага плачу маткі і той разгубленасці, з якой суцяшаў яе бацька... У школу мяне не прынялі... Бацька хадзіў прасіць да самога дырэктара, матка хадзіла да яго на кватэру, яны малілі, прыніжаліся, але нішто не дапамагло.

— Пашліце ў Піцер, там для такіх, як ён, ёсць прыют імператрыцы Марыі,—сказаў дырэктар і злосна стукнуў дзвярыма.

Вучыў мяне грамаце бацька. Ён браў за маю руку і, асцярожна водзячы ёю па паперы, навучыў пісаць так, як пішуць усе відушчыя. Потым праз год, калі бацьку, не лічачыся з яго здароўем, адправілі на румынскі фронт, я суцяшаў матку тым, што на чыстым кавалку паперы з найвялікшай стараннасцю друкаванымі літарамі пісаў яму доўгія пісьмы. Але пра што было пісаць? З ад'ездам бацькі прапалі ўсякія надзеі на вучэнне... Матка пачала хадзіць на падзённую работу—мыць бялізну, падлогі, часам я дапамагаў ёй. Аднойчы на кухні нейкіх паноў, шукаючы рукамі дзверы, я наткнуўся на крэсла, на якім стаяла дарагая ваза. Ад штуршка ваза з крэсла ўпала і разбілася... Раззлаваная гаспадыня выспеткам нагі выштурхнула мяне на вуліцу, а ў маткі вылічыла кошт разбітай вазы...

— Хай гэтае сляпое шчанё не паказваецца на парозе,—крыкнула ўслед злосная пані.

Гэтыя словы мяне ўразілі больш як штуршок нагой. Значыць я не такі як усе... Я сляпы... З гэтага дня я пачаў прападаць на вуліцах, бадзяцца па акраінах, дварах, перапорваючы палкай памыйныя ямы. Мне было толькі дванаццаць гадоў, але я ўжо ведаў холад, голад, нястачы і боль... Знясіленая цяжкой працай маці злегла і неяк, пасля чатырох дзён бадзяння вярнуўшыся дамоў, я застаў наглуха зачыненыя акяніцы і забітыя дошкамі дзверы.

— Матку павезлі ў больніцу, а сясцёр забралі ў прыют. Вы цяпер сіроты. Прышло пісьмо з фронта. Бацька забіты.

Гэтыя, перададзеныя суседкай, весткі былі такія страшныя, што ў першую хвіліну я не мог расчыніць рота і, зваліўшыся на парог нашай кватэры, некалькі гадзін праляжаў, як непрытомны.

Дамоў я ішоў каб перадаць матцы, што нарэшце знайшоў работу, ужо ўяўляў як яна, прытуліўшы мяне да сябе, абніме і абліваючыся гарачымі слязамі, пачне цалаваць:

— Коленька, кармілец мой,—скажа яна, і гэтыя некалькі слоў мяне ашчаслівяць.

Бацька забіты... Маці ў больніцы... Дом пусты. І падвечар, панура схіліўшы галаву, змучаны і галодны, я паклыпаў на ўскраіну ў старэнькую хібарку дзеда Мухара, жабрака, які жыў падачкамі.

Ён вось і парашыў узяць мяне да сябе, каб лягчэй было выпрашваць міласціню на сляпога ўнука...

Намацаўшы фанерныя дзверы, я штурхнуў іх і ўвайшоў у сярэдзіну. Застаялае, смярдзючае паветра затрымлівала дыханне і ў мяне закружылася галава, я хацеў выскачыць, але дзед Мухар, пачуўшы стук, крыкнуў:

— Хто там бадзяецца?

— Дзед Мухар, гэта я, Колька прышоў. Мамка ў больніцы, а татку забілі,—паспяшаўся я расказаць старому сваё гора.

Мухар быў п'яны, ён нешта прамармытаў у адказ і захроп. Я зашыўся ў куток. Толькі цяпер сваім дзіцячым сэрцам я адчуў увесь жах свайго становішча. Сударгава ўсхліпваючы, я прысланіўся галавой да цвёрдай табурэткі і задрамаў. Мухар разбудзіў мяне штуршком у плечы:

— Чаго разлёгся, свіння, збегай па гарэлку.

Потым пазяхнуўшы і мацерна вылаяўшыся невядома на чый адрас, ён пачаў павучаць:

— У мяне кулак во, ты не бачыш,—і ён, грукнуўшы кулаком па стале, даў мне адчуць яго сілу. Сказана—зроблена! Кажу прынясі гарэлку, значыць прынясі, хоць і грошай не дам, а гарэлка каб была.

Маё шчасце, што недапітая раней шклянка гарэлкі зноў зваліла яго з ног і ён захроп. Гэта пазбавіла мяне ад нялёгкай справы дастаць яму без грошай гарэлку. Але пасля не раз і не два мне даводзілася пад страхам пабояў здабываць яму гарэлку. Мухар меў кваліфікацыю. Ён быў надзвычайны шавец. Але з таго часу, як на адным тыдні памерлі яго жонка і дачка, кінуў шавецкую справу, спіўся і пастунова дайшоў да самага дна. Ён не сароміўся і ўкрасці, але гэта ўжо ў крайнім выпадку, пад п'яную руку, а ў другі час сродкі для пражыцця, або вярней п'янства, здабываў жабрацтвам. Пастарэлы, брудны, абшарпаны, адзін дзень ён кульгаў, другі хадзіў з перавязанай, нібы паламанай рукой, патрабуючы спачування. Ён прыкідваўся сляпым, глухім, нямым, юрадзівым, і таму, што горад наш быў вялікі, ён вандраваў з раёна ў раён, з вуліцы на вуліцу, па-рознаму прыкідваючыся і прытвараючыся. Хлапчукі пачалі бегаць за ім гуртам і крычаць:

— Мухар, ты-ж учора быў сляпы!

— Сляпы, крывы, кульгавы,—крычалі яны хорам, даводзячы Мухара да шаленства. Першы час ён цярпеў, а пасля пачаў ганяцца за дурасліўцамі з палкай, але гэта не дапамагала, яны 'шчэ болей з ім дражніліся. Тады ён пачаў хадзіць на станцыю, у суседнія вёскі, ад гэтага зменшыліся яго заработкі і ён пачаў шукаць сабе ў памагатыя сапраўды сляпога. Для гэтага я і патрэбен быў яму.

Мухар прачнуўся злосны і прыдзірлівы. Я ўжо быў на нагах. Голад даваў сябе адчуваць і, натыкаючыся на нейкія дошкі, я пачаў шукаць на падаконніку і стале хлебных скарынак. Намацаў перавернутую шклянку, пустую бутэльку, есці нічога не было...

Мухар крыкнуў:

— Чаго грыміш?

— Есці хочацца...

— Пайдзі зарабі, а потым еж, гарэлкі прынясі.

І ён пачаў мяне навучаць:

— Сёння базарны дзень, надзень торбу ды пахадзі між вазоў, ды глядзі пажаласней прычытай—памажыце, цётачкі, памажыце, дзядзечкі, памажыце, браточкі, памажыце, сястрыцы—татку немцы забілі, мамку ў больніцу завезлі... Трэці дзень не еўшы, памажыце, дзядзечкі, памажыце, цётачкі...

Ён не адпусціў мяне да таго часу, пакуль не пераканаўся ў тым, што я запомніў гэта прычытанне і магу са слязой у голасе гаварыць яго... Я без цяжкасці, пакладаючыся на сваю памяць, хадзіў па горадзе. Ад хібаркі дзеда Мухара было далёка да базара, але і гэты шлях я прайшоў хутка і лёгка. Але на самым базары мяне ахапіла нейкае аняменне і я доўга хадзіў, не адважваючыся прасіць міласціню, як вучыў мяне дзед. Голад-жа даваў сябе адчуваць усё больш і апрача таго, я ведаў, што Мухар без жаласці паб'е мяне, калі я прыду з пустымі рукамі. Выбраўшы найбольш люднае месца, я пачаў жаласна прычытаць:

— Цёцечкі, дзядзечкі, памажыце, родненькія, памажыце сіротку, татку на вайне забілі, мамка ў больніцы ляжыць...

Мяне самога забірала жаласць, і я гаварыў гэтыя словы, плачучы...

Нехта з суседзяў пазнаў мяне...

— Колька, што ў цябе за торба, як ты трапіў на базар?..

Не адказаўшы, я паспяшаўся схавацца між людзей. Ужо некалькі гадзін я хадзіў па базары, між вазоў і сталоў, заваленых усякімі прадуктамі, а апрача пучка горкай зялёнай цыбулі ніхто нічога не падаў мне.

Мухар быў не ў настроі. Ён сустрэў мяне злосным крыкам:

— Дзе цягаўся, шчанюк?

— Дзедачка, не хочуць падаваць...

— Не хочуць падаваць,—перадражніў ён мяне.—Асталоп, прасіць не ўмееш...

Мухар загрымеў адборнай лаянкай і, вырваўшы з маіх рук пучок цыбулі, прагна пачаў яго ўпісваць.

Я астаўся галодны.

Пайшлі цяжкія дні, а за імі тыдні, месяцы. Некалькі разоў спрабаваў я ўцячы ад Мухара, пакінуць яго, гэта было зусім не цяжка, але кожны раз я задумваўся над тым, а куды-ж, уласна ісці, што рабіць—і аставаўся...

Аднойчы мяне пацягнула ў дом, дзе мы жылі... Вось гэта вуліца, я яе пазнаю. Жаласна заскрыпела брама, што адчынялася на двор. Яе скрып адазваўся ў маім сэрцы і я з заміраннем пайшоў да дзвярэй. Недзе ўнутры ў мяне гарэла нявыказаная надзея, можа вярнулася маці і сёстры... Адчыніўшы дзверы, я пераступіў знаёмы парог:

— Мама,—хацелася крыкнуць мне... Але ў гэты час пачуўся злосны мужчынскі голас:

— Ідзі, ідзі, ты чаго тут—бог падасць...

І я пайшоў назаўсёды, стараючыся за вярсту абыходзіць гэты дом, раней такі родны і блізкі, а цяпер чужы і далёкі.

Мухар добра іграў на баяне. Яму абрыдла бадзяцца па вуліцах, ён наважыў мяне навучыць іграць, каб пасля ўдвох выступаць у карчме... Яму ўдалося недзе знайсці на пракат інструмент і неўзабаве ў п'яным чадзе карчмы мы ігралі вальсы, „каробачку“, „дубінушку“. Цяпер Мухар папаў у сваё асяроддзе. Ён быў вечна п'яны і часта траціў здольнасць трымаць інструмент у руках. Тады я аставаўся адзін і, каб замяніць свайго старога, станавіўся на крэсла і тоненькім дзіцячым галаском, пад свой-жа акампанімент спяваў далёка не дзіцячыя песні. П'яны чад карчмы кружыў маю галаву... Праўда, я не бачыў оргій, якія тварыліся ў карчме, асабліва апоўначы, але па адных крыках і мацернай лаянцы, якія без канца сыпаліся з усіх куткоў, няцяжка было ўявіць нябачанае. П'яны чад падзейнічаў і на мяне. Не гледзячы на свае 13 гадоў, я ўжо цягнуўся к чарцы і дзед Мухар, знайшоўшы кампаньёна, ахвотна спайваў мяне да страты прытомнасці.

Але нядоўга цягнулася гэтае разгульнае жыццё. Дзед Мухар з нейкім з сваіх п'яных сяброў задумалі абакрасці аднаго багатага наведвальніка карчмы, падсыпалі яму соннага ў шклянку з гарэлкай, зацягнулі ў цёмны завулак і там да гала раздзелі, забраўшы ўсё каштоўнае... У тую-ж ноч Мухара, які пасля „удалага заработку“ напіўся да страты прытомнасці, арыштавалі, і я зноў апынуўся на вуліцы... У каморцы Мухара, халоднай і страшнай, хутаючыся ў падраныя і брудныя лахманы, прадумаў я цэлую ноч—што рабіць далей. „У Пецербурзе,—разважаў я сам сабе,—ёсць прыют для такіх сляпых і абяздоленых як я. Кажуць, сама царыца начальніцай там. Паеду...“

Пяць дзён, як галодны воўк ля жылога месца, хадзіў я вакол станцыі, спадзяючыся выпадкам устроіцца ў цяплушку. Жыў аб'едкамі з сталовай, зноў, як вучыў мяне дзед Мухар, прасіў падачкі... Не ведаю, можа таму, што я ніколі не ездзіў, мяне адзін шум поезда палохаў да смерці, нават, калі я быў непадалёк ад станцыі, мне здавалася, што нейкая грозная, нябачная пачвара зараз наскочыць на мяне і разатрэ ў парашок. На шосты дзень бадзяння з трыццацю капейкамі ў кішэні мне ўдалося ўстроіцца ў цяплушку эшалона з раненымі. Я хадзіў ад аднаго вагона да другога, жаласна просячы ўзяць да Пскова, да мамкі... Нейкі добры салдат-украінец, я яшчэ цяпер памятаю яго імя—Апанас, пасадзіў мяне левай рукой (правая ў яго была ранена) у вагон і да адпраўлення піхнуў пад нары, каб не пападаўся на „вочы бісавым афіцырам“... Шэсць гадзін, як скаваны, ляжаў я пад нарамі не варушачыся, і, нарэшце, Апанас успомніў пра мяне:

— Вылазь, мышанё, адзін біс...

Пачалі распытваць.

Усе пасмяяліся з майго намеру, у якім я хутка прызнаўся, адзін Апанас паставіўся па-бацькоўску сур'ёзна...

— Бацьку вбылы, вбылы... Матку замарылы, замарылы, сліпога дзіцятку па світу пустылы, пустылы... Нехай-жа зараз сама царыца расхлёбвае кашу...

Эшалон з раненымі ішоў да Царскага сяла, дзе для іх былі адчынены шпіталі. Апанас хацеў быў і мяне прыстроіць з імі, але ў сумятні я адбіўся, а пасля мяне нават не падпусцілі да дзвярэй шпіталя. Я зноў пайшоў на станцыю і, тужліва ўспамінаючы ира добра пражытыя дні ў цяплушцы, паехаў у Піцер... Сталічная станцыя аглушыла мяне і, баючыся зварухнуцца з месца, я некалькі гадзін прастаяў нерухома на каменных сходцах...

— Чаго, кішэннік, пільнуеш,—нехта спытаў у мяне злосным голасам і паклікаў гарадавога...

— Я сляпы, я не бачу куды ісці,—са слязамі ў голасе сказаў я гарадавому, калі ён, груба схапіўшы рукамі за плечы, пацягнуў мяне са сходцаў...

— Кішэнніка затрымаў,—з такімі словамі гарадавы ўпіхнуў мяне ў паліцэйскі ўчастак.

Спалохана прытуліўшыся да сцяны, я замёр.

— Хадзі сюды, чорт,—пачуўся здалёку грубы голас...

— Ваша высокаблагароддзе, ён сляпы.

— Сляпы? Гм. А ты глядзеў, не прыкідваецца?

Гарадавы рэзка павярнуў мяне да сябе і, узяўшыся рукой за твар, другой падняў павекі.

— Так, быццам сляпы. Гм...

Мяне выпіхнулі за дзверы.

Ледзь не падаючы з ног ад страху і хвалявання, я з вялікай цяжкасцю знайшоў дарогу на вуліцу і, як укопаны, спыніўся ля знойдзеных навобмацак дзвярэй.

Што рабіць? Куды ісці? Слёзы градам сыпаліся з маіх амярцвелых вачэй.

Не мала дзён прайшло з таго часу, не мала я гора перажыў, слёз нямала праліў, не раз маё сэрца крывёю абліваласяэ. Я і цяпер не магу забыць першыя сіратлівыя дні ў вялікім горадзе... Адзін, зусім адзін! Сляпы, баязлівы, галодны. Я ўспомніў Апанаса, і цёплую салдацкую дружбу, і кпіны з царыцы Марыі, апякуншы сляпых...

„Ну, яе то трэба забыць“,—мільганула ў маёй дзіцячай галаве, калі прайшлі першыя хвіліны роспачы.

Хлапчукі з суседніх двароў, убачыўшы, аднойчы, мае слёзы, пачалі наперабой мяне распытваць, чаго я плачу... Калі-ж я сказаў, што я першы дзень у Пецербурзе, што ў мяне тут няма ні родных, ні блізкіх, што я сляпы і баюся ступіць адсюль хаця-б адзін крок, іх спачуванню не было граніц. Неўзабаве ў маіх руках апынулася булка, кавалак тарана, кіслы гурок, цукеркі і абаранак. Мяне засыпалі пытаннямі.

— Як ты даехаў?

— Што ты еў па дарозе?

— Ці ведае мама дзе ты?

— Праўда, татку забілі?

Упісваючы і мяшаючы булку з тараном, я спяшаўся задаволіць дзіцячую цікаўнасць. Мне самаму рабілася лягчэй ад адкрыта выказанага спачування.

Гэтую ноч я праспаў у сутарэнні піцерскага кацельшчыка

Самарцава. Дванаццацігадовы сын Самарцавых Генька паклікаў да мяне сваю маці. Добрая жанчына ўспляснула рукамі, калі Генька, хвалюючыся ад перажыванняў, расказаў ёй пра мой лёс.

Надвечар прышоў з работы кацельшчык. Я не бачыў твараў гэтых цудоўных людзей, але ў іх словах была вялікая клапатлівасць, і я, дзікун, які вырас на вуліцы, адразу адчуў сябе як сярод сваіх. Але знясіленаму катаржнай работай кацельшчыку было не пад сілу задавальняць лішні рот, і праз некалькі дзён, вярнуўшыся з работы, ён яшчэ на парозе радасна абвясціў.

— Ну, Колька, твая справа зроблена, з заўтрашняга дня ты манах..

Спачатку я нават не зразумеў, што азначае гэта слова. Ды калі-б нават і зразумеў, усероўна не мог-бы ўявіць свайго будучага лёсу. Не выкідаць-жа мяне на вуліцу. Ні вялікае гора, якое я пасля перажываў, ні горкія слёзы, якія я праліваў, не маглі зацямніць мне светлыя ўспаміны пра дні, пражытыя ў кацельшчыка. Як хацеў-бы я цяпер пацісну́ць яму руку за тыя чатыры дні, яны былі самыя светлыя з усіх маіх юнацкіх дзён.

Даўшы дзесятку на дарогу, кацельшчык адправіў мяне ў прыют для сляпых, што быў пры жаночым манастыры ў адным маленькім гарадку за Піцерам...

На невялікім паўстанку кандуктар памог мне злезці з вагона, а нейкая жанчына ўсю дарогу мармычучы адно слова, „свят, свят, свят", давяла мяне да майго новага прыстанішча... Прыют быў у самым двары манастыра. Але перш чым мяне пусціць, паклікалі начальніцу... Гадзіна пакутнага чакання. Я рыхтаваўся расказаць ёй пра свой лес. У мяне ў галаве кружыліся словы, якія, здавалася, у цвёрдых каменняў маглі выклікаць слёзы, але начальніца азадачыла мяне сваім першым пытаннем, якое яна сказала сухім, чэрствым голасам:

— Што можаш рабіць?

Я замяўся.

-- Здаровы, рукі не вялыя,—працягвала яна.—Шапку, шапку здымі, тут абразы божыя. Адчуваць павінен, калі бог зрок адняў. Хадзем,—груба загадала начальніца і я асцярожна намацваючы кожны крок, апіраючыся рукой на халодную мураваную сцяну, пайшоў услед за ёю... Мы доўга ішлі мураваным калідорам, мяне абдаваў холад і едкі, працівны пах ладану, якога я і раней трываць не мог, у час сваіх рэдкіх наведванняў царквы. Я спатыкаўся, мой кожны крок быў баязлівы, але начальніца і не падумала прапанаваць мне руку... Я ледзь угадваў дарогу. Ці не ўцячы,— падумаў я ў гэтую хвіліну, устрывожаны такой сустрэчай,—але ці знайду цяпер адзін дарогу? І панура апусціўшы галаву ішоў услед за начальніцай. Мой страх атрымаў сваё апраўданне. Катарга пачалася на наступную раніцу. Прыют для сляпых у манастыры цярпелі толькі таму, што гэта лепшы сродак атрымаць танныя рабочыя рукі. Гультаяватыя манахіні самі то не вельмі кідаліся на чорную работу, лепей імкнуліся праводзіць свае „бренное житие", нічога не робячы і марачы пра каханне... Прыют для сляпых раней быў у адным прыфрантавым горадзе, але

пасля, калі ваенныя дзеянні пачалі набліжацца, яго перавялі сюды. Старыя выхаванцы прыюта казалі, што і на старым месцы было не лепш як на новым...

Чалавечых імён для нашых выхавальніц не існавала. Яны карысталіся тым, што былі для нас нябачнымі. Мы атрымлівалі мянушкі крыўдныя, часам непрыстойныя, дзе з нейкай злосцю па садысцку высмейвалася наша сляпата. Вучыць нас лічылася бескарысным,—якія з іх грамацеі? І адзінае, чаму нас навучалі, гэта былі малітвы нудныя, доўгія, яны выматвалі душу. Малітвай імкнуліся зрабіць нас паслухмянымі. У мяне і цяпер прабягае ліхаманкавы холад, калі я ўспомню бясконцыя малебны, выстойванне іх на нагах і аднатонныя завыванні святых дзеў... Пасля вуліцы, да якой я прывык, мне было ўтрая цяжэй у гэтым мураваным мяшку. Наша будучыня нікольки не цікавіла выхавальніц. І прафесію яны стараліся нам даць толькі таму, што гэта было выгадна манастыру.

Раніцой мы плялі карзіны, да крыві ранячы рукі вострымі дубцамі...

Потым пераходзілі ў шчотачны цэх, дзе задыхаліся ад пылу, да слёз кашлялі і рабілі шчоткі, якіх шмат хто і не бачыў у вочы. Але на гэтым не канчаўся наш працоўны дзень...

Пасля абеду пад вечар ужо нам знаходзілі работу на агародзе або ў садзе... Але большасці з нас слепата не дазваляла выконваць працу на градках, мы натыкаліся адзін на аднаго, блыталі бульбу з цыбуляй, тапталі ўсходы. Але бессардэчныя сёстры божыя былі няўмольныя. На нашы галовы сыпаліся праклянцці, лаянка, а ад агародных работ не аслабанялі.

Больш за тры месяцы пражыў я ў гэтай душнай і праклятай клетцы. Ад пруткай лазы (мы з яе плялі карзіны) рукі мае былі ўсе падрапаныя, на іх панапухалі мазалі. Але на гэта не звярталі ўвагі, на світанні нас зноў гналі ў цэх. Але ўсё гэта было нішто перад бясконцымі малебнамі. Яны стамлялі і мучылі. Мой сусед па койцы, як і цяпер памятаю яго насмешлівы выклікаючы голас, Віцька Сапажок, які трапіў у гэты прыют з Волгі,—пачаў хавацца ад малебнаў. Ён вобмацкам недзе знайшоў патаемнае месца на скотным двары і гадзінамі адлежваўся там, каб пазбегнуць малітваў, у час якіх нас прымушалі слова ў слова паўтараць усякую лухту. Віцька і мяне цягнуў за сабой. Я адгаварыў яго. На скотным двары нічога не выляжыш. Сёння не знойдуць, а заўтра знойдуць,—давай у час малітвы крыкнем, што хай лепей нас вучаць чытаць...

Віцька схапіў мяне за плечы:

— І ты не пабаішся?

— Ну, вось яшчэ,—смела адказаў я... Мой бацька на фронце быў, снарадаў не баяўся.

Наступнай раніцай, як заўсёды перад пачаткам работы нас пагналі ў манастырскую царкву. Віцька на вуха шапнуў мне, што ён тут і ідзе следам за мной.

— Не забыўся?—спытаў ён мяне.

— Не...

Мы ўжо ведалі сваё месца... Віцька Сапажок бліжэй падышоў да мяне. Бацюшка Серафім, адкашляўшыся, ахрыплым басам зацягнуў малітву.

— Вы нас заместа малітваў,—лепей вучыце,—раптам у цішыні пачуўся мой звонкі голас.

Віцька адразу-ж падтрымаў мяне:

— Не будзем маліцца—вучыце.

Бацюшка Серафім ад нечаканасці на поўслове абарваў малітву.

Грозная начальніца прыюта, расштурхаўшы натоўп сляпых, не стрымліваючы гневу, прашыпела над маім вухам:

— Я вам пакажу, богахульнікі, вон з царквы!..

Узяўшыся з Віцькам за рукі, мы вышлі.

— Ведаеш, Віця,—сказаў я сябру, калі мы пераступілі парог царквы,—нібы камень з плеч зваліўся. Ну, сюды нас цяпер болей не заганяць, і то добра.

Віктар трывожна спытаў:

— Што яны з намі могуць зрабіць?..

Я супакоіў яго.

— Горш не будзе... Карзіны навучыліся плесці?

— Рукі ад іх баляць...

— Ну, гэта не бяда. Пабаляць ды перастануць.

Праз дзве гадзіны пасля сканчэння малітвы раптоўна ўдарылі ў звон, спалоханых выхаванцаў прыюта сабралі ў вялікай зале. Гэта быў непрацоўны час і з усіх бакоў чуліся трывожныя пытанні:

— Нашто?

Зрабілася ціха... Знарок расцягваючы кожнае слова і робячы паўзы між імі, начальніца абвясціла:

— За непаслушэнства і бязбожнасць зараз-жа выключаюцца з прыюту Мікалай Махоцька і Віктар Сапажок.

Віцька стаяў побач са мной. Я навобмацак знайшоў яго руку і неўзаметку паціснуў:

— Не гаруй, Віцька...

Нас нават не пусцілі абедаць і з нейкай зласлівай помстай пад вечар загадалі пакінуць памяшканне. Я яго пакідаў, адчуваючы агіду да гэтага гнілога застою і святых дзеў. Чорт з вамі, падумаў я, закінуўшы за плечы свой клумак... Віцька вышаў са мной; па тым, як ён часта дыхаў, я адчуў як ён перажывае і хвалюецца. За варотамі ён нерашуча спыніўся і раптам сказаў:

— Мне няма куды ісці, я вярнуся...

— Віцька, Віцька,—паклікаў я яго, але ён пабег назад і толькі чутна было як гулка аддаюцца яго крокі ў мураваным калідоры...

Зноў адзін... Адзін у нейкай закінутай глухамані. Пакінуты, калека, бяссільны. Першыя некалькі хвілін і ў мяне з'явілася жаданне вярнуцца. Заплакаць... Упрасіць... Гарачы чай, цяпер, мабыць, там вячэраюць... Цёплая пасцель... Але гэта была хвілінная слабасць, яна хутка прайшла. Я адолеў яе і хуткімі крокамі пайшоў ад манастыра. Першыя некалькі кілометраў прайшоў упэўнена, бо ведаў дарогу, а пасля спыніўся... Вакол ні жывой душы... Свежы

асенні вецер. Мяне пачаў прабіраць холад. Развязаў клумак і накінуў на плечы падраную куртку. Зрабілася крыху цяплей. Але куды ісці... У гэтыя хвіліны я востра адчуў няшчасце сляпаты... Недзе блізка прайшоў гурт авец. Я некалькі разоў наўздагад крыкнуў пастухам: „Эй, паслухайце“,—але ніхто не азваўся... Мільганулася думка пайсці ў пастухі, але зараз-жа я яе адагнаў: „Не возьмуць, не павераць“... Я прывык да цемры, яна была для мяне неадчувальнай. Але ніколі мяне так не мучыла і не палохала мая бездапаможнасць, як у гэтыя хвіліны адзіноты ў полі... Я баяўся ступаць. Мне здавалася, што перада мной страшныя бездані і равы. Жахі награмаджаліся і ахутвалі маё сэрца ўпершыню з усёй сілай пераэрываемым страхам. Я прабаваў крыкнуць, але мой глухі хрыпаваты крык патануў у далечы, недзе выклікаўшы ледзь чутнае рэха.

Што рабіць? Нарэшце, сабраўшыся з сіламі, парашыў ісці далей. Каб не збіцца, я цвярдзей ставіў нагу, вобмацкам адшукваючы вытаптаную сцежку. Быў позні вечар,—гэта я адчуваў па вільгаці, якая лягла на траву. Ад холаду ў мяне дрыжэлі рукі і, стараючыся сагрэцца, я пабег, але хутка ўпаў, зачапіўшыся за пень і да болю абадраў калена. Далей мне прышлося ісці кульгаючы.

* * *

Праз пяць гадоў я зноў пабываў у гэтых манастырах, але то былі другія гады і тады вось мне зноў успомнілася злашчасная асенняя ноч на полі... я заснуў ля дарогі пад кустом, скруціўшыся ў клубок. Пад раніцу мяне знайшлі сяляне з сяла Ганчароўкі і, злітаваўшыся, узялі да сябе. Праз пяць гадоў, калі мне, разам з клубам коннага палка, дзе я знайшоў прытулак і загадваў нескладанай гаспадаркай, зноў давялося пабываць у Ганчароўцы, я пачаў адшукваць тых добрых людзей, што памаглі мне ў памятную ноч... Як роднага прынялі яны мяне, апранутага ў шырокую чырвонаармейскую гімнасцёрку з чужога пляча. Гэта была радасная сустрэча. Нямала я памучыўся, пакуль у сям'і байцоў мяне, асуджанага на цьму, прынялі як роўнага, далі прытулак, абагрэлі, аблашчылі...

Гэта было праз пяць гадоў пасля выгнання з манастыра. Полк ішоў наперад, а мы заўсёды ішлі ўслед. Спачатку мяне прынялі ў палкавы шпіталь—калоць дровы, расстаўляць койкі. Але мяне нэрвавалі вечныя стогны, пах чалавечай крыві, і я адпрасіўся ў клуб... Клуб змяшчаўся на двух вялікіх крытых павозках. У адной мы ўпокат спалі, у другой знаходзілася наша няхітрая маемасць, інструменты музыкантаў, складаныя дэкарацыі, на якіх намаляваны, як мне перадавалі, нейкі запушчаны густы лес. Дэкарацыі былі падрыхтаваны да аднае п'есы, але ставілі мы іх пры кожным выпадку, нават у часе дакладу... Начальнік нашага клуба Барзун быў са страявікоў. Заліхвацкі кавалерыст. Рубака, але неяк у адным баю яму адсеклі кісць левай рукі. Дактары наогул спісалі яго ў расход, так ён сцёк крывёю. Але Барзун выжыў, яго хацелі дэмабілізаваць, ён не згадзіўся. Перавялі

ў клуб начальнікам. Тут не было прастору для баявой заліхвацкасці, без якой ён не мог жыць, і ён часам іранічна гаварыў:

— Ну вось ваякі, адзін сляпы, другі бязрукі...

І ўсё-ж са сваёй работай арганізатара адпачынку і асветы байцоў Барзун спраўляўся бліскуча. Сваімі гераічнымі расказамі ён у нас падтрымліваў баявы настрой.

Мы з прагнасцю чакалі справы—не задавальняючыся самадзейнымі канцэртамі, санітарнымі лекцыямі дактароў на тэму „Бі вош“, рэдкімі кіно-перасоўкамі, у часе якіх я прыпадаў ніцма да падушкі і плакаў наўзрыд. Я не мог бачыць таго, што тварылася на экране, і нават не ўяўляў сабе кіно. Расказы пра яго мяне толькі мучылі, як можна мучыць хворага яго ранамі.

І вось такой-жа глыбокай восенню, як і пяць гадоў назад, мне зноў давялося пабываць у манастыры. Начальнік, адшукваючы зручнейшае месца для стаянкі, спыніў сваю ўвагу на гэтай змрочнай каменнай аграмадзіне. З заміраннем я ўваходзіў у вузкія і сырыя калідоры. Прыюта для сляпых тут ужо не было. Ад вартаўніка я даведаўся, што і манашкі разбегліся адсюль хто куды, толькі ў двух кельях асталося некалькі. Начальніку не спадабалася такое суседства. Я расказаў яму пра той час, які я пражыў у манастыры, пра тое, як мяне выгналі з яго сцен.

— Бач святошы,—і ён паслаў моцнае слоўца на іх адрас.

Гарачая справа прышла нечакана ў той самы момант, калі мы менш за ўсё чакалі яе і кватэравалі ў манастыры. Полк адышоў недзе ў бок і мы, страціўшы сувязь з камандваннем, не ведалі, што рабіць—ісці насустрач ці чакаць тут. Барзун безрэзультатна спрабаваў устанавіць сувязь, пакуль мы выкарыстоўвалі перадышку на сон, у якім заўсёды з-за свайго вандроўнага жыцця адчувалі патрэбу. З таго дня, як мы занялі манастыр, манашкі, якія змяшчаліся недзе на заднім двары, зусім не паказваліся і гэта спачатку супакоіла нашага начальніка.

— Ну, на што гэтае ламачча здольна,—бывала казаў ён. Але ўсё-ж на другі вечар даручыў мне выведаць справы „божых сясцёр“... Я стукаўся ў кельі—мяне не пусцілі. Вартаўнік па сакрэту перадаў, што да манашак гэтыя дні нехта асабліва загасціў.

— Думаюць, што ў вас з сабой казна. Сцеражыся,—сказаў стары і закашляўся ад сухога лісця самасейкі...

Я гэта перадаў Барзуну. Нас было ўсяго восем. Гэта са мной, але-ж я нават не трымаў вінтоўкі ў руках... Куды я магу з яе папасці? Барзун выставіў варту. Мы зноў стукаліся да манашак, але адтуль ні гуку.

— Узламаць дзверы—загадаў Барзун, але было позна. У тую самую хвіліну знадворку пачуліся п‘яныя крыкі і нас саміх акружылі.

Барзун злосна топнуў нагой і моцна стукнуў у дзверы.

— Адсып, шваль, а не, дык развітвайцеся з жыццём.

Пачуўся п‘яны смех. Гэта вывела з сябе Барзуна:

— Бач, ірады!

Ён ціха адклікаў нас у бок.

— Колькі нас? Праверым зброю... Галоўнае, таварышы, беражыце кулі...

Мне далі дзве гранаты.

— Жывым не здавацца,—загадаў камандзір і пачаў зараджаць свой рэвальвер.

З-за дзвярэй пачуліся грозныя, пагражаючыя крокі...

Барзун загадаў маўчаць. Пачуўся стрэл. Куля не прабіла цяжкіх манастырскіх дзвярэй.

Барзун уздыхнуў з палёгкай...

— Калі-б падмога... Куляй яны нас не возьмуць, голад страшны.

Я пачаў навобмацак аглядаць памяшканне. Манастыр меў шмат падземных ходаў. Аднойчы ў садзе, яшчэ ў дні бытавання ў прыюце, мы наткнуліся на патаемны ход, але пра яго нікому не сказалі, пачаўшы скарыстоўваць цёмнае і сырое падзямелле для патаемных сустрэч, і хаваючыся ў ім.

— Ты чаго лазіш... Стаміўся? Легчы хочаш?

— Не,—адказаў я. Але выдаць свае намеры не адважыўся, баючыся адцягнуць увагу таварышоў.

За дзвярамі зрабіліся больш настойлівымі. Пачуліся пісклявыя прычытанні манашак. Пасля нехта пагражаюча запатрабаваў:

— З вамі каса, аддавайце грошы, адпусцім!.

Барзун цяжка дыхаючы маўчаў. Калі-б цяпер гэта было па яго сіле, ён-бы папераґрызаў ім усім горлы.

Манашкі, збіўшыся ля дзвярэй, пачалі знарок уголас маліцца, каб зрабіць на нас цяжкае, прыгнятаючае ўражанне.

— Усе людзі брацці. Люблю з іх брацї я...—раптам зацягнуў камандзір.

З-за дзвярэй пачулася лаянка... Грымнулі два стрэлы. Манашкі змоўклі...

Я працягваў абмацваць сцены. Раптам мае рукі наткнуліся на тую кнопку. Не паверыўшы сабе, я ціха паклікаў таварыша, што быў побач і, узяўшы яго руку паказаў яму знаходку.

— Што гэта?

— Націсні, тут павінен быць выхад.

Падышоў Барзун.

— Чаго вы калупаецеся?

— Тут выхад,—адказаў я.

Адштурхнуўшы нас, ён сам завазіўся ля патайных дзвярэй. Хрыпла заскрыпеўшы, яны пад націскам падаліся.

Тады Барзун паклікаў нас да сябе.

— Пайсці ўсім—заўважаць, вышлюць пагоню, наўрад ці адаб'емся, нас мала. Аднаму трэба пайсці па дапамогу, астатнія застануцца і будуць адцягваць увагу святой сволачы.

На секунду зрабілася ціха. За дзвярамі, акаванымі жалезам, па-ранейшаму ішла п'яная вазня і падрыхтоўка да асады...

Барзун чакаў нашага адказу. Ён быў праў у сваім рашэнні і мы адзін за другім выказалі гэта. Але каму ісці? Я выклікаўся першы. Барзун паклаў руку мне на плячо.

— Ці знойдзеш ты дарогу, ды ці выберашся адсюль?

Як стралок я быў лішні для яго каманды і таму яму выгадней было адпусціць іменна мяне...

У дзверы зноў цяжка застукалі. Выклікаючы гулкае рэха ў каменных сценах, зноў прагрымелі рэвальверныя стрэлы. Кулі стукнулі ў дзверы...

— Трэба спяшацца,—прагаварыў Барзун і дапамог мне выйсці за патаемныя дзверы.

З болем у сэрцы пакінуў я сяброў. Ці змагу ў час прывесці ім дапамогу?

Вільготны пранізваючы холад абдаў мяне ў змрочным падзямеллі. Абмацваючы рукамі сцены, паволі і асцярожна я рабіў кожны крок... Ужо некалькі хвілін я хадзіў па блытаных хадах, а ўсё яшчэ не было выхаду. Я баяўся заблудзіцца. Запамінаючы павароты, я ішоў наперад. Дыхаць рабілася ўсё цяжэй, хвілінамі здавалася, што нехта душыць мяне за горла, і я спыняўся, прагна ўбіраючы тухлае паветра.

З поўгадзіны хадзіў я па пустым калідоры, а ўсё яшчэ няма выхаду. Ці можа я тапчуся на адным месцы? Ці не вярнуцца?

Я прыслухоўваюся. Мёртвая цішыня навісла нада мной. У мяне прападаюць апошнія сілы—вось-вось упаду. Што тады? Там-жа чакаюць дапамогі... Не, не трэба падавацца. Бездапаможна схіляюся на халодную зямлю і, здаецца, падаю ў нейкую бездань. Холад ацвярозіў мяне. Павольна падымаюся і іду далей... Ногі як налітыя волавам. Мне цяжка іх падымаць, але я іду ды іду. Колькі ўжо часу, як я пакінуў сваіх? Я не ўяўляў. Гадзіна, ці болей? Няўжо я заблудзіўся ў гэтых норах? Гэтая думка мяне мучыць. Але што гэта павеяла свежым паветрам? Я збіраю апошнія сілы, лягчэй дыхаю і напоўсагнуўшыся, працягваю ісці. Раптам я не магу знайсці сцяну, свежае паветра мяне адурманьвае. Нарэшце я вылез з гэтых мышыных нор. Недзе зусім блізка плешчацца рака. Я ведаю гэтую мясцовасць, але стараюся асцярожна ступаць, баючыся аступіцца. Вочы мае прывыклі да цемры, але я нейкім унутраным пачуццем успрымаю дзеннае святло і гэта надае мне ўпэўненасці.

Не папасціся-б толькі ў рукі белай сволачы. Барзун казаў, што штаб у Тарасаўцы. Трэба абагнуць лясок, а там пойдзе прамая выезджаная дарога.

Ці трымаюцца там нашы? Ці не ўзламалі гэтыя святыя бандыты з распуснымі манашкамі дзверы ад келы?.. Трэба спяшацца. Пераматаючы стомленасць, іду хутчэй.

Лес скончыўся. Асцярожна шукаю грунтавую дарогу. Цяпер да Тарасаўкі не больш за пяць кілометраў.

— Стой! Хто ідзе?

Нечаканы вокрык прымусіў мяне здрыгануцца. Што адказаць? Свае гэта ці ворагі? Маўчу. Вокрык паўтарыўся.

Мяне спыніў палявы раз'езд нашага-ж палка. Захлынаючыся ад хвалявання, расказаў я байцам пра асаду, манашак, п'яную банду, патайны ход. Нават не даслухаўшы, камандзір устроіў мяне ў сядло свайго каня і вось ужо разам з раз'ездам я імчуся ў ма-

настыр. Дапамога падаспела ў тую самую хвіліну, калі раз'ятраная банда пачала закідваць дзверы ручнымі гранатамі і Барзун, не спадзяючыся дачакацца дапамогі, рызыкуючы жыццём байцоў, парашыў скарыстаць падземны ход...

* * *

Ці думаў я, што жыццё зноў закіне мяне ў тое месца, дзе я столькі перажыў. Дваццаць пяць гадоў назад мае вочы адмовіліся мне сьвяціць. Дваццаць пяць гадоў і дзень і ноч былі аднолькавы для мяне. Але не ўсе гэтыя гады я адчуваў сябе прыніжаным, адарваным, прыбітым. Фронт, работа, вучоба вярнулі мяне ў калектыў. Але як я марыў сваімі вачамі ўбачыць сонечны дзень краіны, якая дала мне жыццё... Паглядзець на аграмадзіны высокіх палацаў, палюбавацца прыгожымі аўтамабілямі, глянуць на светлыя карпусы фабрычных гарадкоў, убачыць, як аруць урадлівую калгасную зямлю магутныя трактары... Колькі іх, шумных, гаварлівых на былых манастырскіх землях, дзе мы, былыя сляпыя рабы, некалі сваімі рукамі рабілі градкі для божых прастытутак, сварлівых манашак.

Мае мары збываюцца. Некалькі месяцаў назад цудоўны старыкашка Фядотаў—наш агульны любімец і весельчак, які загадвае ўзорнай вочнай стацыянарнай бальніцай, адкрытай у абноўленых карпусах былога манастыра, смелы, рашучы, выдатны хірург Фядотаў—зрабіў мне аперацыю...

Больш за чатыры месяцы, не кажучы нічога пэўнага, трымаў мяне стары ў бальніцы...

— Барыс Александравіч,—дрыжачым голасам звяртаўся я да гэтага цудадзея,—скажыце праўду, ці буду я калі-небудзь бачыць ці не? Але кажыце толькі праўду.—Вясёлы стары заўсёды знаходзіў цёплыя словы для абнадзейвання і суцяшэння.

— Колькі вы цярпелі—дваццаць пяць гадоў, гэта, здаецца, не мала, пацярпіце яшчэ крышку. Ну, крышачку, адну гадзінку,—і стары, не кажучы чаму, адкладваў аперацыю.

Бліскучы эксперыментатар, ён хацеў лішні раз праверыць свае доследы па перасадцы рагавіцы, перш чым адважыцца зрабіць аперацыю над маімі вачамі. Але мне не цярпелася і я штодзень дакучаў старому сваімі скаргамі на чаканне.

Адважны Барзун часты госць у нашай клініцы. Некалькі разоў у месяц яго легкавая машына з шумам спыняецца ля прыгожых варот нашай лячэбніцы і Барзун перш за ўсё бяжыць адшукваць мяне. З таго памятнага дня асады ён замяніў мне бацьку, маці, сям'ю. Першыя гады мы вучыліся. Вучыліся разам у агульнаадукацыйнай школе для дарослых, не гледзячы на розніцу ў гадах. Потым абком сарваў Барзуна з вучобы і паслаў працаваць дырэктарам. Я працягваў вучыцца. На лячэнні і аперацыі настойваў Барзун. Ен капаўся ў медыцынскіх журналах, заводзіў знаёмствы з работнікамі медыцыны.

— Ты павінен бачыць, разумееш, павінен,—і ён нястомна шукаў магчымасці смелай, але гарантаванай аперацыі.

Пакутлівае і доўгае чаканне аперацыі развясельвалі прыезды Барзуна... Хворыя ведалі яго баявое мінулае адважнага камандзіра і нас засыпалі пытаннямі. Барзун знайшоў сляды ад куль у дзвярах той кельі, дзе мы былі некалі ў асадзе. Мне ён навобмацак паказаў іх.

Прафесар суправаджаў нас.

— Ці хутка ён убачыць,—з дакорам спытаў Барзун і прафесар, адчуўшы нецярплівасць, назначыў тэрмін аперацыі.

Калі настаў дзень аперацыі, Барзун не адыходзіў ад дзвярэй аперацыйнай, пакуль сівы прафесар не паклікаў яго.

— Не трывожце цяпер яго, хваляванне можа сказацца пагубным, яго трэба прывучыць да думкі аб відушчасці.

Да майго абвостранага слыху дайшлі гэтыя словы, і тады я зразумеў, што ў маім жыцці наступае адраджэнне. Я не забуду першай шэраватай палоскі святла, якая адкрылася перада мной. Нямала гадзін і дзён прайшло з таго часу, але я і цяпер гэта ўспамінаю з хваляваннем.

Свае запіскі я пачаў сляпым. Невыказнага болю поўны праўдзівыя радкі майго цяжкага дзяцінства і юнацтва. Я заканчваю сваю аповесць пры поўным бляску дзённага святла. Хвілінамі я здымаю сінія акуляры, часова прыпісаныя мне слаўным Фядотавым і тады перада мной разліваецца мора святла і я, забыўшыся ад хвалявання, шапчу:

— Нікалай, ты гэта, ці не? Глядзі, вунь калосіцца спелае жыта, па шасейнай дарозе між сакавітых хлябоў паімчаўся аўтамабіль...

— Глядзі!.. Глядзі!... І тады я зноў успамінаю першыя палоскі святла пасля доўгачаканай аперацыі.

Прыпадняўшы абцяжаныя размяклыя павекі, я асцярожна, водзячы вачыма па сценах, убачыў вялікі партрэт. Нехта ласкавы, родны, гледзячы на мяне з партрэта, дабрадушна ўсміхаўся, і тады я сэрцам зразумеў, што гэта партрэт таго, каго я ніколі не бачыў, але так марыў убачыць.

— Сталін,—ускрыкнуў я і нязнаная радасць напоўніла мне сэрца...

Бачу!.. Дзе ўзяць словы, каб аддзякаваць цябе, краіна!..

---

*Анатоль Астрэйка*

# МАЛАДАЯ

Ля гасцінца бярозы стаялі,
Пад гарой тры бярозы сястры,
З імі ўночы і ўдзень размаўлялі
Незнаёмай нам мовай вятры.

Яны іх прыхарошвалі беллю,
Падмяталі навокал шляхі:
Будуць ехаць сваты на вяселле
На калгасных канях вараных.

Падмяталі шляхі, гаварылі
Кучаравым бярозам вятры:
Праляцяць на арліных на крыллях
Да сястры на вяселле браты.

А бярозы схілялі галіны
На прасторны аснежаны шлях;
Яны зналі—ў нявесты-дзяўчыны
Незлічона багаты пасаг.

Ў яе бровы чорнай дугою,
Вусны дзеўчыны—ліпеньскі мёд;
Яна гляне вачмі прад сабою—
Загараецца сонцам усход.

Яна скажа разважліва слова
Да сябровак сваіх маладых,—
У пашане схіляюць галовы
Паважаныя госці—дзяды.

Калі-ж пройдзе нявеста па хаце,
Калі танец яна завядзе,—
Не нацешыцца родная маці,
Уся хата як вулей гудзе.

І бярозы, прыбраныя ў іней,
У чаканні маўклівым стаяць,
Яны чуюць—над белай раўнінай
Строем зладжаным песні звіняць.

30. 12. 37.

*Мікола Жук*

## ЧАКАННЕ ДРУГА

Добра помню той асенні ранак:
Засцілаў туман шумлівы бор.
Гучнымі акордамі баяна
Поўніўся нахмураны простор.

Ўсім калгасам мы ішлі праводзіць
Юнага вартаўніка граніц...
Ждала я, а ты не падыходзіў,
Каб са мной крыху пагаманіць.

Моўчкі я глядзела на дарогу,
Думак не магла сабраць.
З-за вершалін лесу маладога
Сонца залаціла небакрай.

І туман ад сонечных праменняў
Адплываў да лугавых нізін,
І знікаў, як воблачныя цені,
Як прыемны, лёгкі ўспамін.

Падышоў ты ветлы, а не хмуры,
У вачох вясёласць—не туга,
Хоць трывожны ночы на Амуры,
Дзе сурова так шуміць тайга.

Словы я твае, нібы здалёку
Улавіла, каб жылі ў душы,
Каб гады разлукі было лёгка
У палёх шырокіх пяражыць.

Год прайшоў. Я часта цябе сніла
У шынелі шэрай, баявой.
Ты стаяў мне дарагі і мілы,
Слухаў шум, што праплываў тайгой.

Прачыналася здаровай і шчаслівай,
Радаснай я ў поле йшла, на луг,
Што заводы і багацце ніваў
На граніцы беражэ мой друг.

Менск, 1937 г.

*Мікола Жук*

## АДДАНАСЦЬ РАДЗІМЕ

У мірны час кладу я ў мур
Рукамі дужымі цагліны,
Каб рос будынак, што ў час бур
Мы закладалі на руінах.

Не даражу спакоем, сном,
Я не шкадую свае сілы,
Каб славы мужнае вянок
Ярчэйшым быў радзіме мілай.

Каб адзяваліся у бронь,
Мацнелі нашыя граніцы.
Каб нашых спраў палаў агонь
На ўвесь сусвет агнём зарніцы.

Як трэба будзе: у громе дзей
Перанясу любыя раны...
Радзіме радасных людзей
Я да канца увесь аддан.

Паўстынь, 1937 г.

*А. Алешка*

# У ДАЗОРЫ

Каля каравульнага памяшкання цвіў кветнік. Густа пахла півонямі. На слупах веранды віўся хмель, навісаючы над уваходам. Побач на нізенькім століку перамешваў костачкі даміно Міхась іківаў байцам, якія стаялі побач.

— Прашу на адну партыю.

— Можна...

Трое размясціліся за сталом, а Міхась збіў феску і стоячы ўзмахваў рукою.

— Не затрымлівай! Думаеш многа...

Чутны ўдары костачак і гучны смех Міхася. Я сяджу побач і праглядаю газету. Потым адрываюся і пазіраю лявей нашага лагера. Там у кусціках раз-за-разам страляе вучэбнае заданне батарэя артпалка! Уздрыгвае паветра і нібы хто дыхае ў твар. Яшчэ лявей, у нашым ціры, кароткаю чаргою сакоча кулямёт. Лес гудзе ад стрэлаў гармат, а ўзлескі лёгка ўтораць кулямёту.

У каравулцы гадзіннік гучна прабіў дзесяць. З веранды відаць жоўтая паласа лінейкі. На ўзгорку каля палатак паказаўся наш возчык Ніка. Усякі ведае яго ў лагеры, таму што ён кожны дзень раз'язджае на буланым коніку з бочкай вады. Палівае кветкі і ў дадатак выцірае шкло ў ліхтарах, што стаяць на трох лінейках. Ніка маленькі, сутулаваты чалавечак з вялікай кантовай галавою. Зялёная фуфайка цесна напялена на плечы, а шырокія порткі робяць яго яшчэ ніжэйшым. Бялява-рыжыя вусы спадаюць палойкамі лёну і нібы падпіраюць закруглены чырвоны нос. Што асаблівага заўважыў я пры сустрэчы з ім аднойчы, дык гэта вочы. Пад лахматым падстрэшшам рыжых брывей нібы ўмазаны былі шэрабялявыя кружкі вачэй. Ён, не міргаючы, пазіраў на мяне і ад гэтага засталося непрыемнае ўражанне. Ніка вельмі рухавы і лёгкі на слова. Усё яго цікавіць, з усякім ён любіць пагутарыць.

Ужо каторы раз, як толькі я ўбачу яго, мне хочацца стаць дзе-небудзь непрыкметна і наглядаць за ім. Работа ў яго ідзе сёння марудна. Ен ставіць табурэт, доўга корпаецца ў ліхтары і тады ідзе далей.

Я пазіраю на ўзлескі, на шэры замурзаны хмарамі захад з чырвоным акрайкам сонца і іду ў каравулку. Гуляю з каравульным начальнікам у шахматы. Карнач часта пакрэктвае і гуляе марудна. Сумняваецца ўсе, ці так паставіў фігуру. Мы згулялі адну партыю,

а ў палове другой я стаў яго цясніць на левы край. Ён тым часам глянуў на гадзіннік і вылез з-за стала:

— Пара падрыхтавацца.

Я надзеў шынель і дакурваў люльку, як ён падаў каманду:

— Дазор, зараджай!

Перастуквалі баявыя патроны, хаваючыся ў магазіннай каробцы. У падсумку звякалі абоймы. Я накіраваўся ў дазор. Ноч не абяцала спакойнага надвор'я. Хмара закрыла ўсё неба і стала так цёмна, што хоць вока выкалі.

Праз гадзіну пратрубіў гарніст адбой і лагер стаў засынаць. Я ішоў па дарозе і прыслухоўваўся к шолахам. Пад нагамі суха паскрыпваў пясок. Абышоўшы разы два тэрыторыю лагера, я ля днявальнага шаста сустрэў майго напарніка Міхася.

— Каля мехбрыгады пільней глядзі,—параіў я яму.

— Гляджу.

Мы зноў разышліся ў розныя бакі. На чорным фоне неба ў баку артпалігона бачыў я бязгучна ўспыхваючыя кропкі. Яны хутка, адна за аднэй, ляцелі ўгору і гаслі. Такія ланцужкі рознай даўжыні яснымі пацеркамі штохвіліны ўсявалі цёмнае неба. І было дзіўна, што гуку не чуваць, а толькі відаць ясныя чаргі кулямётных стрэлаў.

Крыху пазней цэлым веерам шыбанулі ланцугі пацерак у вышыню неба. Гэта пачалі працаваць зенітныя кулямёты па слядах блакітна-яркага снапа пражэктара. Хмары яшчэ болей згрудзіліся залапатаў дождж. У ліхтарах замільгалі агні.

Вярхі палатак белым пылам закурыліся ад дажджу. Я паставіў каўнер і не спыняў хады. Над галавою пасвістваў вецер.

У лесе было зацішней і я збавіў крок. Бачыць я нічога не бачыў, але ўвесь насцярогся. Адсюль чуваць былі розныя шолахі і трэба адрозніць—каторы з іх выкліканы ветрам, упаўшай галінай, а каторы—крокамі нядобрага чалавека.

Праз гадзіну прамок шынель. Я спыніўся пад ёлкай. Яна была густая і дождж яе не прабіваў.

Шумелі верхавіны дрэў, гучна падалі буйныя каплі дажджу. Далятаў аднекуль сабачы брэх.

Дождж стаў сыпаць драбней, з перагонамі, а потым перастаў зусім. Патухалі зоры. Вецер не сціхаў. Усход паступова святлеў, але навакол была яшчэ туманная сінь. Хутка дзень. Прамокшая рубашка ліпла к целу. Я вышаў з лужка і прайшоў каля канюшань. За імі рэдкі пралесак і дарога на станцыю. Мне здалося, што ад баракаў хтосьці пайшоў у бок дарогі. Я паспяшыў і спыніўся за кустамі. Над раўчуком плаваў туман. Я прайшоў далей і прыслухаўся.

Чутна размова. Я адразу звярнуў у кусты і пачуў трэск ззаду. Гэта скочыў сабака Нікі. Ён нюхнуў палу шыняля і завярнуў назад. У лагеры ён к нам прывык і лашчыўся к кожнаму. „Што можа рабіць тут Ніка? Без яго сабака не пойдзе?"—лезлі ў галаву пытанні. Я выглянуў з-за куста і ўбачыў за прагалінай дваіх. Аставалася поўзагона, а я сагнуўшыся пралазіў ля кустоў.

З лісця арэшніка падалі каплі. Было мокра. Я выпрастаўся і крыкнуў:

— Хто тут?

Стаяўшыя замерлі на месцы, нічога не адказаўшы. Потым адзін накіраваўся да мяне.

— Стой!..

Падышоўшы бліжэй, я пазнаў Ніку і ўраз апынуўся каля другога, на хвіліну збянтэжанага.

— Вам куды?

Ён не адказаў. Потым мармытнуў пад нос і паказаў на Ніку, які таптаўся побач.

— Ды гэта свае,—запэўніваў Ніка.

Я зірнуў на незнаёмага. Ён зашпіляў шэрую сялянскую куртку і, скоса зірнуўшы на мяне, сказаў:

— Пойдзем, Ніканор...

— Ды мы зараз,—аглядаючыся прамовіў Ніка.

Яны ўжо меліся накіравацца да бліжэйшага барака, дзе жыў Ніка, але я скамандаваў:

— У каравульнае памяшканне, арш!

Зняў з пляча вінтоўку і пайшоў за імі.

Ніка спрабаваў гаварыць.

— Я тут жыву, ты мусіць не пазнаў.

— Маўчы!..

Мы выйшлі паўз сталовую на дарогу і сустрэлі Міхася.

Ён зняў вінтоўку з пляча і ішоў поруч са мною. Мокры пясок чаўкаў пад нагамі.

Падышлі да каравульнага памяшкання, а тут-жа за ім у маленькім бараку—дзяжурны па лагеру.

— Прашу дакуманты,—загадаў дзяжурны.

— Яны пра палігон гаварылі і мехбрыгадай цікавіліся,—сказаў я.

Незнаёмага абшукалі. Знайшлі пасведчанне асобы курсанта інжынернай школы і комсамольскі білет на імя байца Н-скага стралковага палка.

— А вашы дакуманты дзе?—запытваўся дзяжурны.

— Няма...

З-за пазухі вытраслі скомканы ліст паперы.

— Гэта што? А-а, тапаграфіяй займаецеся...

На лісту была начырчана схема артпалігона і мехбрыгады, кружочкамі былі абведзены ў радок напісаныя некалькі лічбаў.

— Хто гэта чарціў?

Абодва маўчалі. Я звярнуўся да дзяжурнага, каб ён дазволіў мне ісці.

— Ідзіце,—сказаў дзяжурны.

Я вышаў з каравулкі і спыніўся. Званіў тэлефон і чуцён быў сіплаваты голас дзяжурнага.

— Алё! Мне асобы аддзел.

Праз поўгадзіны прыйшла змена каравула.

---

*Сулейман Стальскі*

# ДУМЫ ПРА РАДЗІМУ

Дні адыходзяць чарадой
О, песня, я знайшоў твой голас.
Цярусіць вецер над зямлёй
Наліты важкі спелы колас.

Шуршыць лістом, як дождж вясной,
Хістае голле над ракой.
У маіх вачах дрыжыць слязой
Песнярскі срэбраны твой голас.

А колькі дзён як з думкай той
Над доляй марыў я тваёй.
О, грымні, песня, як прыбой
І акрылі мой слабы голас.

Няма мне часу. Зноўку ён
Заве твой кліч на схіле дзён,
Хай рассыпаецца, як звон,
Няхай гучыць мой палкі голас

I

Успомніў я жыццё, як сон—
Тых дзён,—што гора і праклён,
Страшны, бязрадасны палон
Мой шлях жыццёвы быў, таварыш.

Я ўспамінаю свет тагды,
Чытаю кнігу злой бяды,
Нядолі, гора скрозь сляды—
Балюча мне чытаць, таварыш.

Сваёй нядолі караван
Вёў за сабой ты, Сулейман,
І шлях быў тонкі, як аркан,
Скрозь долю ўсю маю, таварыш.

Мігцелі зоркі над табой,
Па ўсёй зямлі—зямлі чужой.
З балючай марою сваёй
Ты адзінока йшоў, таварыш.

Я ўспамінаю свой аул,
Князёў агідных, тоўстых мул.
Тут нават камень спіну гнуў
Прад катавым бічом, таварыш.

Глухой магільнаю сцяной
Ляжаў закон над беднатой,
І ў тройчы гідкай ночы той,
Гублялі мы сябе, таварыш.

Было нас многа, ды Адат
Тысячагоддзі плёў разлад.
Ты—лакец, я—лезгін, ён—тат, *)
Без дружбы мы жылі, таварыш.

Бо хітры вораг панаваў,
Масты між намі руйнаваў,
І край касцямі усцілаў,
Касцямі нашымі, таварыш.

Сваёй знясіленай рукой,
Ты браў не меч, а посах свой,
І як сляпы блукаў трапой,
Баяўся ты сваіх, таварыш.

Тагды я ведаў многа зла,
І крыўда грудзі мне пякла,
Там маладосць дарма прайшла,
Як непатрэбны дождж, таварыш!

І мы не зналі ў тыя дні
Што аднае мы ўсе радні.
Што мы, і толькі мы адны—
Гаспадары зямлі, таварыш.

Што ёсць-жа край—дзе ўсё для нас,
Жыццё бясцэнна, як алмаз,
Што партыя, рабочы клас
Ёсць ўсемагутныя, таварыш.

---

*) Горскія яўрэі, якія насяляюць частку Паўднёвага Дагестана.

І раптам прыгадаў ашуг
Старых часоў праклятгы круг.
І погляд кінуў ён наўкруг,
І дзівіцца з сябе, таварыш.

Гляджу, як мой народ жыве,
Як шчасце ён сваё куе,
Жыццё мне кнігу падае
З партрэтам Сталіна сягоння.

II

Краіна ў свеце ёсць адна,
У славе ўсіх часоў яна,
Хай гэта песня словам дня
Радзіму апяе дастойна.

Не азірнуць яе прастор,
Ад волжскіх вод да сініх гор.
Узорны сонечны убёр
Пакрыў чало яе дастойна.

У кальцы магутных гарадоў
Не ціхне гоман цягнікоў,
На морах, у аправе льдоў,
Праходзяць караблі дастойна.

Скрозь буры, снег і туманы
Перасякаюць шар зямны—
Краіны лётчыкі—сыны,
Сусвет аглядваюць дастойна.

Краіна—знішчан дзе прыгнёт,
Дзе вольна ўвесь жыве народ,
Дзе творчай працы палкі ўзлёт,
Пашанай славіцца дастойна.

Дзе знік нядолі горкі дым,
Жыццё ў адзенні дарагім,
Дзе зернем чыстым залатым
Палі засеяны дастойна.

Тут лёгкі дні, як шоўк шатроў,
Як жэмчуг, зоры вечароў,
І кожны дзень, і век-вякоў
Тут будзе ясна і дастойна.

Садоў міндальных арамат
Ахутвае тут кожны спад,
Румянашчокі, як гранат,
Тут золак устае дастойна.

Краіна ў свеце ёсць адна,
У ёй сіла ўсіх часоў відна.
Мацней за песні ўсе яна
На свеце славіцца дастойна.

Народ як волат тут жыве,
Законы творыць ён свае,
Сусвет ён нанава куе,
Каб чалавеку жыць дастойна.

III

Мая краіна, як у сне,
Жыццё адкрыла для мяне,
На кабардзінскім скакуне
Дагнаў я маладосць шчаслівы.

Тут радасць першы раз спаткаў,
І гордасць першы раз спазнаў,
І дружбы, найкаштоўны лал*)
Знайшоў нарэшце я шчаслівы.

Адзін народ і край адзін—
Ён моц, надзея ўсіх краін,
І знойдзе тут сумленны сын
Сваю сям'ю і дом шчаслівы.

Адна размова тут чутна,
Даступная людзям яна.
Да мэты, што для ўсіх відна,
Большэвікі вядуць шчасліва.

І дзе б нагой я не ступіў,
Ваду якую-б я не піў—
Я—дома. Колькі хопіць сіл
Я слаўлю ў песнях край шчаслівы.

Вакол мяне агні ў гарах,
Сады цвітуць на пустырах,
Плады пылаюць у садах,
Дзе салавей пяе шчаслівы.

Вось новых фабрык карпусы,
Тут горад вырасце красы,
Заводаў новых галасы
І смех будаўнікоў шчаслівы.

Далёка-Ўсходні слаўлю край,
Грузінскі горад у гарах,
То калыбель правадыра—
Ён там радзіўся ў дзень шчаслівы.

*) Лал—рубін.

Абхазскіх кветак дзіўны пах,
Ільды каўказскія ў гарах,
І стэп Туркменіі ў пясках
І вецер Поўначы шчаслівы.

Я слаўлю Рубас-чай*) і Дон,
Эльбрус—у промнях сонца ён.
Як сонца ясны наш закон
І сэрца свету—Крэмль шчаслівы.

З усіх краін Масква відна;
Нябёс маскоўскіх шырыня,
Крэмлёўскіх вежаў вышыня,
І на штандары герб шчаслівы.

І ўсюды чуцен, ўсюды жыў
Магутны сталінскі прызыў.
Народы ўсе ён акрыліў,
Будуе ў нас жыццё шчасліва.

Як і для ўсіх—ён чутны мне,
З усімі разам—ён мяне
На кабардзінскім скакуне
Нясе далей, у шлях шчаслівы.

## IV

Таварыш любы, свет вялік,
І чуўся ў ім галодных крык,
І вось з'явіўся большэвік,
Каб свет перарабіць дастойна.

Каб стаў ён шчодры як вясна,
Святлей за мёд, салодзей сна,
Каб быў ён радасней віна
Сярод сяброў, дзе пір дастойны.

Шалее вораг. Бо ідзе
Сусветны наш савецкі дзень.
Падкопы хітра ён вядзе—
Не спі, таварыш мой, дастойны!

Агідна ўпотай уначы,
Нас прагнуць каты пасячы.
Ды пад рукой у нас мячы—
Дадзім адказ мы ім дастойны.

Настане дзень, надыйдзе час,
Гукне наш край на подвіг нас.
Усю сілу сэрца, мужнасць мас
На барацьбу пашлем дастойна.

* Рубас-чай—адна з бурных рэчак Дагестана.

Мы ногу ў стрэмя—і у бой,
Разгорнем крыллі над сабой,
Мы грымнем, быццам гром вясной,
Узброеныя ўсе дастойна.

Надыйдзе дзень, надыйдзе час—
Знянацку не заставуць нас.
Усёй зямлі рабочы клас
Радзіму захіне дастойна.

Пачуўшы кліч сваіх братоў,
Сарве замкі ён ланцугоў,
І супроць зграі чорных псоў
Гнеў аб'яднае ён дастойна.

Краіна ў свеце ёсць адна,
Ёй воля ўсіх часоў відна.
Каб праўду ясную яна
Ўзнімала на зямлі дастойна.

Няма на свеце сілы той,
Каб засланіць шляхі прад ёй.
Магутнай сталінскай бранёй
Адзеты грудзі ёй дастойна.

V

Ты бачыш сам!
Жыццё заўжды
Цячэ—за днямі йдуць гады.
Дзе караван былой бяды
Што шлях твой абступаў, таварыш?

Дзе боль тваіх крывавых ран,
Дзе дом стары твой, Сулейман?
Хто шчасце новага Мерджан *)
Так шчодра даў табе, таварыш?

Прыпомні долю зноў сваю,
Свой цесны двор, сваю сям'ю.
Па сорак раз у тым краю
На дзень ашуквалі, таварыш.

І прыгадай пра ўсё ты зноў,
Хай гневам закіпае кроў,
Каб смела ўперад ты ішоў.
Былому не даруй, таварыш.

Ты многа бачыў, дружа мой,
Ўсё шчасця скарб шукаў ты свой,
Ды толькі гора, крыўды злой,
Бывала не злічыць, таварыш.

*) Мерджан—янтар.

Скажы, як быў ты у пятлі,
Як скарб здабыў свой на зямлі?
І як Советы прывялі
Да шчасця, славы, мой таварыш?

Твой скарб знайсці хто дапамог?
Як сілу ворага ты змог?
Гліняны бедны твой парог
Услаў каўрамі хто, таварыш?

Святло хто ў сэрцы запаліў,
Хто нас адвагай акрыліў,
Хто палка кожны верш натхніў,
Краіны песняроў, таварыш?

Хто вывеў нас з кальца бяды,
Хто бацькам стаў нам назаўжды.
І чыя думка праз гады
Ёсць думка Леніна, таварыш?

Чый голас—ленінскі наказ,
Хто вёў да шчасця заўжды нас?
За росквіт наш, ён кожны час
Змагаўся з юных год, таварыш.

Аб ім і думы ўсіх часоў,
Ён ратаваць сусвет прышоў,
Сон страшны тысячы гадоў
Развеяць ён прышоў, таварыш.

К жыццю народы абудзіць.
Іх дружбай шчырай акрыліць,
Працоўным—каб шчасліва жыць
Было—радзіўся ён, таварыш.

Мяне да шчасця ён узняў,
Любоў і радасць маткам даў.
І ў школе, і ў кругу забаў
Як бацька родны ён, таварыш.

Яго вяліччам свет вялік,
Сабраў ён мудрасць вечных кніг,
І ў лепшы час, мой светлы міг
Аб ім мой верш пяе, таварыш.

Мой верш шуміць, як дождж вясной,
Як лісце шэпча над вадой,
У маіх вачах дрыжыць слязой
І ў круг сяброў заве, таварыш.

Ён птушкай просіцца ляцець,
Міндалем пахкім ён цвіце
Мой просты верш, калі пяе
Ашуг аб Сталіне, таварыш.

*Пераклаў* МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ.

*М. Ільінскі*

# СЛАБАДА

## 1

### Перад навальніцай

Семнаццаты год... Ліпень... Спёка...

І здаецца, што сонца расплавілася па ўсяму небу і ўсё неба дыхае жарам, як сонца... Журботна павіслі гронкі аўсоў; сумна тырчаць запыленыя шчуплыя каласы ўбогіх вузкіх палосак, сярод якіх толькі дзе-ні-дзе буяе збожжа шырокіх палос. Дрыжыць у нерухомасці распаленае, смугой гарачыні зацягнутае паветра і здаецца што ўся, ахопленая смагай прырода стаілася ў адным маўклівым прагным жаданні: „Пі-іць!“

Гэтым маўклівым лямантам прасякнута і ўся мая істота. Стомленыя ногі слізгаюцца з вузкай мяжы на бакі яе; тры качкі, звешваючыся з-пад пояса, пры кожным кроку б'юцца аб калена і абцяжаюць хаду; рамень стрэльбы ўеўся ў плячо, а чэпкая бярозка хапае за пасталы; і, здаецца, няма і не будзе канца гэтай вузкай мяжы, і ніколі не здаволіць мне сваёй смагі, і, здаецца, што сонца вялікае як неба і неба гарачае, як сонца...

Але вось ступаю на распалены пясок—гэта вуліца Слабады.

Аднак дарэмна стукаюся ў маленькія, падслепаватыя акенцы ўбогіх, пахільных, паўраставшых у зямлю хацінак. Вялікія, светлыя хаты, якія ганарыста пазіраюць на вуліцу чыстымі, захінутымі белымі фіранкамі, вокнамі я абыходжу; бо калі вы зойдзеце ў такую хату і прыход ваш не суліць барышу, то, сустрэўшая вас на ганку, гаспадыня на просьбу напіцца адкажа, што ў іх студня завалілася ці папросіць пачакаць „хвілінку“, а сама пойдзе ў хлеў „даваць свінням“ і будзе там чухаць за вухам вяпрука і называць яго пяшчотнымі імёнамі, а вы будзеце сядзець на ганку і марыць аб кружцы вады. Калі-ж праз поўгадзіны яна будзе ісці з хлева ў хату, то скажа:

— Вам піць; дык вазьміце—тут у сенцах вядро і конаўка,—і заходзячы ў хату дадасць, нібы сама да сябе:—Швэндаюцца тут розныя...

А калі вы пойдзеце са двара, то выйдзе паглядзець, ці не ўкралі вы, часам, конаўку ці вядро...

Іду далей, топячы ногі ў жоўтым пяску вуліцы. Сонечнай гарычынёй дыхае яна ў твар і прыпякае ногі праз скураныя пасталы...

Зноў і зноў стукаюся ў маленькія брудныя акенцы, але вёска, не гледзячы на святочны дзень нібы вымерла. Толькі змораныя спёкай сабакі,—гэтыя пільныя вартаўнікі бядняцкага „багацця“,—недзе з-пад паветак ленным брэхам адказваюць на стук.

Абыходжу апошнюю светлую хату і, ледзь перасоўваючы ногі іду ўздоўж бясконцага паркана папоўскага гароду...

Раптам за вуглом вуліцы, затуленай ад мяне вялікім папоўскім гумном, пачуўся гоман натоўпу, бяссільны сіпаты лямант і прарэзлівае сцебанне пугі...

Наддаў хады...

Тое, што ўбачыў за рогам гумна, прымусіла не даць веры вачам, прымусіла на момант скамянець....

Уся вуліца была заліта натоўпам. Нібы аграмадная, шэрая жывёліна натоўп варушыўся і павольна рухаўся. Наперадзе, робячы ў пяску вуліцы цененькім бярозавым дручком ямінкі, крочыў высокі кручканосы стары; ён быў босы і без шапкі. Пакрытая потам галава блішчэла на сонцы скрозь рэдкія пасмы бруднасівых валасоў. За ім хістаючыся брыла яшчэ маладая, але пачаўшая ўжо без пары сохнуць, жанчына. На ёй была адна расхрыстаная кашуля, праз разрэз і дзіркі якой віднелася худое, жоўтае, пакрытае чырвона-шызымі пісягамі, цела; паміж худых грудзей на брудным гайтане, матляўся медзяны крыжык. Паабапал жанчыны ішлі два хлапцы. І постаццю, і аблíччам яны нагадвалі старога. Адзін з іх, відаць, старэйшы, трымаў у руцэ сырамятную пугу, другі—пугу і канец вяроўкі, якой былі звязаны за спіной рукі жанчыны...

Стары павярнуўся да жанчыны:

— Кажы дзе схавала?

— Не веда...

Сырамяць пугі, са свістам лёгшы на плечы, не дала скончыць слова...

— Не брала я ні...

Другі сказ спыніла другая пуга, абвіўшыся вакол грудзей жанчыны.

Словы перайшлі ў сіпаты енк...

Кінуўся наперад, хапіў за плячо старога:

— Што робіш?!

Да мяне павярнуўся худы, з зацягнутымі густой сеткай крывавых жылак вачамі, твар і, душачыся злабой, садыстычным задаваленнем і самагонным духам, скрыгануў рэшткамі зубоў:

— Суд раблю!

— Зладзейку судзім,—нахабна, з сарказмам ухмыльнуўся старэйшы з сыноў старога, ляскаючы пугаўём па халяве бота.

Малодшы, не выпускаючы зацятай паміж пальцамі, вяроўкі, пачаў круціць цыгарку.

„Зладзейка“ ўся трэслася. З шырока раскрытых павекаў глядзелі, страціўшыя бляск жыцця, вочы; і толькі ў чорным бяздонні іх застылі смяротны жах і... абыякавасць. Наўкол сініх вуснаў пе-

ракошанага болем і ашчэранага роту, спяклася пена; бруднабелымі камячкамі ляжала яна ў кутках вуснаў, якія бяззычна лямантавалі: „пі-іць!“..

А сонца было як неба і неба, як сонца...

Хапіў распаленага паветра; устрасянуў за плячо старога:

— Не маеш права!

— Маю!—сіпеў ён, скідаючы з пляча маю руку.

— Маю права, грамадзянін! Не стары час,—вураднiка-ж зараз няма,—слабода зараз...

З натоўпу вырвалася жанчына; абурана кінулася да старога:

— Не на тое слабода, каб людзей катаваць!

— Не людзей—зладзейку! Куфар абакрала!—пляваўся пенаю злосці стары.

Жанчына кінулася да сыноў:

— Пусціце яе!

Свіснула і з лёскатам абкруглілася сырамяць наўкол голых ног. Як падсечаная, павалілася на пясок жанчына і, лямантуючы, на карачках папазла ў натоўп. Пачуліся рэдкія смяшкі,—гэта смяяліся, відаць, аднадумцы старога.

Хапіўся за стрэльбу...

Стары збялеў і падаўся да мяне:

— Не лезце, грамадзянін, у мужыцкія справы. Паляваннем забаўляецеся—не перашкаджаем, а нас не кратайце!..—і з пагрозай закончыў,—бо суд у нас свой—скоры...

Бездапаможна азірнуўся наўкол...

Убачыў натоўп, які жыў, але жыццё яго для мяне было незразумелым. Здолеў толькі разгледзець вочы: пахмурна-журботныя, заплаканыя, абыякавыя і... зларадасныя; і па-над усім гэтым, здавалася панавала звярыная цікаўнасць...

Нехта асцярожна торгаў за рукаў; шпарка павярнуўся і ледзь не збіў з ног пажылага селяніна ў палатанай бравэрцы. Бруднарудаватая бародка яго шматком пакулля збілася на бок; у вачах стаялі слёзы і благанне:

— Не чапайце іх. Раз'юшацца—да смерці закатуюць; а так, мо' пусцяць жывую... Сястра яна мне...

Слязліва сморгаючы носам і размазваючы вялікім пальцам набягаўшыя на запаленыя вочы слёзы, ён шпарка, нібы спяшаючыся, расказаў сутнасць здарэння: жанчыну вінавацілі ў тым, нібы, пакліканая даглядаць хворую жонку старога, яна абакрала куфар з адзеннем. І хаця ніякіх доказаў гэтага, апрача падазрэння, не было—яе „судзілі“.

— Хто-ж дасць веры беднаму, што ён не злодзей?—закончыў брат жанчыны.

— Чаго-ж вы ім дазваляеце?!—абураўся я.

— А як-жа мы можам, калі ўся вёска ў іх пад пазногцем?—здзівіўся ён і паныла дадаў:

— Іхная сіла—іхні і суд.

Тымчасам жанчыну прывязалі да паркана і катаванне працягвалася.

Раптам аднекуль збоку выбегла шчупленькая дзяўчынка год сямі

і з істэрычным крыкам: Мамка!—кінулася да жанчыны... Падбегла і, абхапіўшы тоненькімі ручкамі змардаванае цела маці, забілася ў сударгах рыданняў.

На момант каты збянтэжыліся, але зараз-жа, падбухтораныя старым, не зважаючы на выгукі пратэсту з натоўпу, пачалі пісяжыць шчупленькія плечыкі дзяўчынкі.

Дарэмна старалася, страціўшая ў гэты момант абыякавасць жанчына захінуць сваім целам дзіця, дарэмна благала літасці...

Дзяўчынка адарвалася ад цела маці і, скурчаная болем, кінулася ў натоўп, дзе, б'ючыся ў сударгавым плачы, і спынілася, падхопленая спагаднымі рукамі...

Мяне занудзіла. Амаль трацячы прытомнасць, абапёрся на паркан...

Ірваліся думкі:

— Як выратаваць жанчыну?

Адзін за адным складаліся і рассыпаліся невыканальныя планы...

А сонца было як неба і неба, як сонца.

Стомленыя збіваннем мярзотнікі выціралі пот...

Натоўп шалясцеў шэптамі і ўсхліпваннем.

Раптам, трымцячы шэпат прымусіў павярнуцца. У лапухах за парканам стаілася дзяўчына. На твары быў жах. Жах прымушаў яе касавурыць, прымушаў ляскаць зубы. Жах пакрыў твар бяскроўнай беласцю. Вусны трымцелі шэптам:

— Стрэльце!.. Стрэльце, родненькі!.. Напалохайце гадаў!.. Яна-ж не вінавата...

Ірваўся шэпт, на твар набягала чырвань абурэння... Перада мной паўставаў малюнак нечуванай агіднасці. Хапіў яе за руку:

— Зараз-жа скажы пра гэта ўсім!

Чырвань збегла з твару дзяўчыны, зноў перакасіў жах вочы.

— Ды я-ж у іх служу... У „дзеўках“ у іх...—са стогнам вырвалася з яе вуснаў; і зноў трапяткое благанне:

— Стрэльце!.. Стрэльце!..—

— Не!.. Скажы!.. Кране хто цябе—заб'ю!

Яшчэ шырэй рассунуліся павекі, яшчэ больш пацямнеў блакіт вачэй...

Паветра разрэзаў свіст пугі і ўслед за ім сіплівы енк...

Дзяўчына ўздрыгнула, усхапілася..

Мільганулі праз паркан голыя ногі...

Яшчэ не ўзняліся да паўторнага ўдара пугі, а захоплены гневам абурэння голас звінеў і рваў распаленае паветра:

— Людцы! Мужчынкі!.. Не вінавата яна!.. Гэта яны!—Сыны!.. Патаемна ад старога пакралі адзежу з куфра... Каб прадаўшы пагуляць!.. Я ведаю!.. У пуні... пад сена схавалі!

Натоўп скамянеў... У ім нацягнулася нейкая нябачная струна. Па ёй трэба ўдарыць але зараз, зараз-жа! Бо інакш яна аслабне і тады ўжо будзе позна!..

Шалеючы крыкнуў:—Бі гадаў!..

Мільганулі рукі, твары, жаночыя валасы...

Кудасой матануліся людзі, кудасой завіхурыў гарачы пясок вуліцы...

Не было чым дыхаць...

Ірвануў каўнер...

Гарачае паветра ўдарыла ў грудзі...

Азірнуўся наўкол...

Далёка, на другім канцы папоўскага гароду, мільгалі між град абцасы сыноў старога.

Нястрымнай хваляй каціўся па вуліцы натоўп на чале з братам жанчыны. Ён ужо не плакаў і не благаў—ён заклікаў:

— І гняздо!.. гняздо іх цмокава! ушчэнт разнесці!..

Нібы гадзюка з адсечаным хвастом круціўся на доле з перабітым хрыбтом стары. Шкрабаючы кручкаватымі пальцамі гарачы пясок, ён поўз к паркану, а дапоўзшы, па-звярынаму скруціўся і сціх. А па-завуголлях, угінаючы плечы, хаваліся аднадумцы старога.

Дзяўчына, хліпаючы, адвязвала ад паркана жанчыну. Шчупленькая дзяўчынка, румзаючы і бясконца паўтараючы сваё „Мамка“, цалавала раз-па-разу чырвонашызыя плямы пісягоў.

Жанчына стаяла нерухома. Абыякавасць знікла з вачэй, не было ў іх смяротнага жаху. Вочы былі чорныя, вялікія і сухія. І зрок іх, ідучы з глыбіні істоты, глядзеў усцяж туды, дзе насустрач натоўпу па вуліцы ішоў чалавек у запыленых ботах і шэрым шынялі. За плячамі ў чалавека была вінтоўка.

І хаця сонца здавалася яшчэ вялікім, як неба і неба гарачым, як сонца, але з усходу ішла ўжо навальніца. Яе багровыя хмары паўсталі ўжо над далёкім гарызонтам і лёгкі свежы вецярок папярэджваў аб яе набліжэнні.

Хацелася дыхаць на поўныя грудзі.

## Пасля навальніцы

Трыццаць сёмы год... Верасень...

Толькі што прайшла навальніца. Бурным ліўнем пазмывала ўвесь бруд; абмыла, напаіла стомленую буйным ураджаем, зямлю.

І ляжыць зямля шырокім прасторам; ляжыць яна вольная ад межаў і паўмежкаў, ляжыць і, здаецца, павольна дыхае, нібы толькі што нарадзіўшая маладзіца, а буйныя кроплі расы дажджавой, нібы слёзы радасці, ірдзяць пад сонцам на колкім іржышчы.

І здаецца, што павольна атрасаючы гэтыя кроплі, уся прырода захоплена шэпча: „як добра, як радасна жыць!“

Гэтай радасцю быццам прасякнута і ўся мая істота. Упэўнена, пругка ступаюць ногі па бязмежнай, дзе-ні-дзе зябʼю кранутай, гладзі; са звонкім шэлестам кладзецца пад пасталы цвёрдае іржышча, а тры качкі, звешваючыся з-пад пояса, пры кожным кроку стукаюцца аб калена, нагадваючы аб трапных стрэлах, аб паляўнічай удачы.

І бясконца ішоў-бы вось так. Ішоў бы і дыхаў прыемнай свежасцю паветра і ўглядаўся-б на ўвесь свет, які так дакладна ад-

люстроўвае ў сабе кожная дажджавая расінка... Ішоў-бы і захапляўся радасцю быцця.

Але вось ступаю на хрусткі, ліўнем умяты, пясок—гэта вуліца Слабады.

Выпрасталася яна шырокая, хвалямі навальнічнымі абмытая, а паабапал яе дружна выстраіліся вялікія светлыя хаты і залаціць вераснёвае сонца васковую жаўцізну бярвенняў. Ветліва пазіраюць яны цераз загарожы кучаравых кветнічкоў сваімі прамяністымі пад сонцам, ваконнымі шыбамі.

І такой цішынёй, здавальненнем, спакоем патыхае ад усяго гэтага, што неяк сорамна нават парушаць сваімі слядамі гладзь вільготнага пяску вуліцы.

Але чаму так ціха? Чаму, не гледзячы на выхадны, нідзе ні душы. І толькі куры,—гэты „біч гародаў"—спраўна разграбаюць грады, ды кучы наваленага ля хлявоў гною.

Звонка чмякаючы мокрымі пасталамі, прыемнай вільгаццю ногі спавіўшымі, іду па ціхай, нібы казачным сном абгорнутай вуліцы.

Абмінаю апошнюю, вялікую, ад часу пачарнелую, хату і крочу ўдоўж бясконцага паркана, за якім, нібы знарок увешаны буйнымі, спелымі пладамі, кучаравіцца малады сад. Гудуць між дрэвамі маленькія, празрыста-крылыя працаўнікі, збіраючы апошнюю даніну кветак. Але вось вуха ловіць за вуглом вуліцы, затуленай ад мяне, урослым у зямлю гумном, радасна усхваляваны жаночы голас...

Наддаў хады...

Тое, што ўбачыў за рогам гумна, прымусіла сцішыць хаду, прымусіла старацца зрабіць прыход свой як мага менш прыкметным. Так стараемся мы звычайна, спазніўшыся на паказ, непрыкметна прайсці праз поўную людзей залу і заняць свае месца...

Уся уліца была заліта натоўпам. Нібы нейкі аграмадны цудоўны кветнік з нейкімі нябачанымі дзівоснымі кветкамі ірдзеў ён барвістымі колерамі святочных убранняў. Час ад часу, нібы над парывамі ветрыку натоўп варушыўся, хваляваўся і шалясцеў. На процілеглым ад саду баку вуліцы на высокім, увітым хмелем ганку былога папоўскага дома, а зараз, як апавяшчала прыбітая над ганкам шыльда,—калгаснага клуба, за невялічкім столікам стаяла маладая жанчына і гаварыла...

Павольна падыйшоў і зліўся з натоўпам...

Жанчына гаварыла аб змаганні, аб працы, аб жыцці, аб радасці...

Гаварыла даўно знаёмыя, тысячы разоў чутыя словы. Але з вуснаў жанчыны гэтыя словы выходзілі нібы абмытыя, нібы напоўненыя новым зместам. Яны былі прасякнуты такой шчырай верай у іх, такім захапленнем і такою хвалюючай радасцю, што хацелася лавіць кожнае з іх; яшчэ і яшчэ ўдумацца ў сэнс іх, і як найдаражэйшы скарб захаваць у розуме і ў сэрцы сваім.

Гэтыя словы жанчыны прымушалі натоўп хвалявацца, варушыцца і шалясцець шэптамі, у якіх гучэла: „Як добра, як радасна жыць!"

А жанчына гаварыла і здавалася, што відаць, як у такт словам б'ецца пад шоўкам напятай на крамяных грудзях сукенкі, сэрца яе...

Слухаў жанчыну, глядзеў ёй у вочы; а яны былі вялікія чорныя і такія знаёмыя... Але разам з тым, палаючы ў іх агонь, чалавечая свядомасць і думка блыталі ўспаміны і розум беспарадна адмаўляўся сказаць, дзе бачыў іх, калі сустракаўся з імі.

Не маючы больш сіл цярпець гэтую пакуту бездапаможных успамінаў, пацягнуў за рукаў новага бобрыкавага паліто, падпяразанага вузенькай старасвецкай папружкай. Паліто гэтае было на старэнькім, які, седзячы на паркане і абапіраючыся на цененькі бярозавы дручок, захоплена слухаў жанчыну. Да мяне павярнуўся твар з палаючымі захапленнем вачамі. Радасць захаплення перайшла ў здзіўленне, затым у прамяністую цяплыню... Я зірнуў на збітую на бок, падобную на шматок, пабялеўшага ад часу, пакулля бародку і... Трэслі адзін аднаму рукі...

Старэнькі радасна ўсміхаўся і шпарка, завіхаючыся, задавальняў маю цікавасць: на ганку гаварыла старшыня калгаса, пляменніца старэнькага.

— Сямігодку і курсы скончыла... Комсамолка, а з гаспадаркай як упраўляецца!.. Аднаго збожжа сёлета па 4 кіло на працадзень!— захапляўся старэнькі, і ганаруючыся прадаўжаў:

— Во якая!.. А тады памятаеце: малое, шчуплае... Хто-б падумаў! А праз каго ўсё гэта?

Адказу на апошняе пытанне не патрэбна было—мы яго ведалі.

Зноў зірнуў на маладую жанчыну, на яе вочы і прад зрокам паўсталі другія; такія самыя вялікія і чорныя, але... іншыя.

— А маці яе—сястра ваша?

— Жыве, жыве!—замітусіўся старэнькі,—лепшая стаханаўка ў нас... сёння зноў прэміравалі,—і з зайздрасцю дадаў:—вядома, на дваццаць год маладзей за мяне...

Зайздрасць старэнькага падзяляў і я...

Глядзеў на жанчыну, на рознаколерны натоўп, на групку дзяцей у чырвоных гальштуках, што як вераб'і расселіся на сходах ганка і хацелася скінуць свае дваццаць год і зноў быць восемнаццацігадовым юнаком, як некалі.

Тымчасам старэнькі зноў замітусіўся:

— Вы-ж нікуды не адыходзьце...—і робячы канцом дручка ў вільготным пяску вуліцы ямінкі, знік у натоўпе.

Штормавым ударам хваль аб скалы, грымнулі апладысменты і азваліся рэхам па завуголлях...

Старшыня смяялася шчаслівай усмешкай; старэнькі мітусіўся ўжо ля яе...

Скончыўся сход...

Пабіўся на групкі натоўп...

Гула вуліца смехамі, жартамі...

Разглядалі прэміі, хвалілі... І шчыра, і з захаванаю зайздрасцю хвалілі.

Падыйшоў старэнькі з старшынёй—пазнаёміліся; запрасіла на вячэру:

— „Ураджай у нас сёлета багаты,—можам і пагуляць...“— прамяністая ўсмешка стаяла ў вачах.

Прайшлі за дом на шырокі двор, застаўлены доўгімі сталамі, між якіх мільгалі спраўныя постаці гаспадынь...

Угінаюцца доўгія сталы, уецца над імі лёгкая пара, разыходзіцца ў паветры па двары, смачнымі пахамі прыемна ласкоча ў носе... Пахі вабяць у двор людзей... Прывабілі яны, відаць, і пару крумкачоў, якія, наляцеўшы аднекуль, кружыліся над двăром, агаломшваючы паветра сваім агідным галодным крумканнем...

Старэнькі задзёр уверх бародку:

— Во, наляцелі няпрошаныя госці!—і з усмешкай дадаў:—і хочацца і колецца.

Адна з гаспадынь—сярэдніх год блакітнавокая жанчына, праходзячы міма, задзірыста-весела кінула:

— Паляўнічы яшчэ! Стаіць разявіўшыся... Пужанулі-б іх!—і смяючыся знікла ў сенцах дома.

Ускінуў стрэльбу.

Ох, як цяжка рабіць што-небудзь на вачах у людзей, адчуваючы гэтыя вочы. Але варта толькі захапіцца справай, прасякнуцца жаданнем зрабіць яе, як мага лепш, і ў момант забываюцца вочы, што ўважліва сочаць за табой і справа, нібы сама-па-сабе, робіцца і сам дзівішся, бачучы раптам задавальненне ў назіраўшых за табою вачах.

Злавіў на мушку...

Цісkануў гашэтку...

Адзін з крумкачоў бездапаможна матануў крыламі, скруціўся, і шматом чорнага пер'я бразнуўся пад ногі старэнькаму. Другі, голасна крумкаючы, кінуўся ў бок і, цяжка махаючы крыламі, хутка знік з вачэй...

Старэнькі калупнуў птаха носікам бота. Птах перакінуўся на спіну і застаўся ляжаць са скручанай на бок галавой з расхінутымі крыламі. Старэнькі ўсміхнуўся:

— Ха, якраз нямецкі чорны арол.

А старшыня жартавала:

— Памаж, дзядзька, вапнай—будзе белы.

Старэнькі з лёгкім абурэннем ляснуў рукой па ляжцы:

— Але-ж! Колькі гэтага груґання ля нас круціцца, ды на дабрабыт наш ягліцца. Толькі мусіць усім ім такі канец будзе!—і, адкідаючы канцом дручка птаха пад ногі купцы востравокай дзятвы, ужо разважна-гаспадарчым тонам закончыў:

— Закіньце, дзеткі, куды небудзь на сметнік, бо гэтую дрэнь і свінні есці не будуць.

Хлопчык у чырвоным гальштуку схапіў птаха за канец крыла і, весела падскокваючы, панёсся некуды на задворкі. Рэшта дзяцей з гікам і смехам рынулася ўслед, стараючыся наступіць на другое крыло птаха, што валаклося па зямлі...

Сядалі за сталы...

Пачаліся застольніцы... То даганяючы адна адну, то папярэджваючы звінелі яны, ды рэхам далёкім разносіліся ў прыемна-прахладным, прасякнутым чырванню пажарышча, палымнеючага сонцазахаду.

Ї ў кожнай з іх пераможна гучэла: „Як добра, як радасна жыць!"

У кожнай з іх рознастайныя пяшчотныя, сэрцу блізкія ды магутныя эпітэты спалучаліся з імем таго, хто правёў спевакоў праз змаганне, і боль, і праз працу да гэтага радаснага сёння. Ї ў кожнай з іх услаўлялася гэтае вялікае імя...

Насунулася цёмная зорная ноч. Яе чорна-сінюю апону раздзёрла аранжава-багровае святло факелаў, якія на даўгіх жэрдках пастаўлялі наўкол двара...

Ракой ліліся спевы...

Мяцеліцай круціліся, ды слаліся карагоды...

Кудасой віхурылі танцы...

А старшыня! Усюль і ўсюды паспявала гэтая спрытная жанчына...

Танцуй, весяліся, спявай, маладзіца! Бо ніколі ні цябе, ні дзяцей тваіх сцебаць не будзе кулацкая пуга...

Танцуй і спявай! Бо не будзеш ты ведаць ні гора, ні нэндзы, ад якіх усохлі не адны дзявочыя грудзі...

Танцуй і спявай, бо ты ведаеш, як добра і радасна жыць!

Менск, 1937 г.

*Г. Няхай*

## ПАГРАНІЧНАЯ

Не туман густы над логам
Панавіс трывожным сном...
Я чакала дарагога,
Дарагога за сялом.

Спачывае гай зялёны.
Зацвілі расой лугі
Салаўіным ціхім звонам
Б'юцца хвалі ў берагі.

Заўтра ўзыйдзе сонца рана.
Зашуміць курчавы бор.
Заўтра пойдзе мой каханы,
Мой каханы у дазор.

Між кустоў, між стромкіх хвояў
Не схаваецца шпіён.
І праз поле маладое,
Праз мяжу не пройдзе ён.

За жнівом складаю песні
Пагранічніку свайму.
І вяснянкі напрадвесні
Пра любімага пяю.

Пра юнацкае аблічча,
Выгляд стройны, малады.
Спачывае пагранічча,
Спяць калгасныя сады.

І туман спаўзае з логу
У сцюдзёную ваду
Як пачую кліч-трывогу—
З пагранічнікам пайду.

Менск, 1938 г.

*М. Горкі*

# ПРА Г. УСПЕНСКАГА

У сваіх артыкулах пра літаратуру М. Горкі часта выказваўся пра асобу і творчасць Гл. І. Успенскага, нязменна адзначаючы выключную адкрытасць і шчырасць Успенскага, высокае майстэрства Успенскага-нарысіста, паводле слоў М. Горкага,—„выдатнага знаўцу сялянства" і цудоўнага стыліста. М. Горкі неаднаразова пісаў пра таленавіты паказ Успенскім драпежнікаў Разуваевых і Калупаевых, пра „ўладу зямлі над мужыком, асабліва глыбока зразуметую і перакана́ўча паказаную Глебам Успенскім", пра соцыяльную зоркасць Успенскага. М. Горкі пісаў: „Асабліва ясна было гэта Успенскаму, аўтару двух цудоўных кніг: „Нравы Расцераевай вуліцы" і „Улада зямлі". Соцыяльная каштоўнасць гэтых кніг не страчана і для нашых дзён, ды і наогул апавяданні Успенскага не страцілі свайго выхаваўчага значэння; літаратурная моладзь можа добра павучыцца ў гэтага пісьменніка ўменню назіраць і шырокаму веданню рэчаіснасці" (1928 г.).

Выключную каштоўнасць маюць прызнанні М. Горкага, зробленыя ім у артыкуле—успамінах „Гутарка пра рамяство", 1930 г. У гэтым артыкуле М. Горкі ўспамінае, як у канцы 80-х гадоў на чале літаратурнай грамадскасці стаяў Глеб Успенскі, узбуджаючы асабліва лютыя спрэчкі. М. Горкі кажа: „Мы ўспрыймалі гістарычную лірыку яго апавяданняў пра вёску эмацыяльна, як успрыймаецца музыка, Глеб Успенскі будзіў у нас нейкае асабліва трывожнае і актуальнае пачуццё..." „Глеба Успенскага я чытаў таксама, як некаторыя—паводле іх слоў—чытаюць Дастаеўскага, здзіўляючыся, раздражняючыся, адчуваючы, што аўтар „адольвае мяне", адштурхоўваючыся ад яго. У „божую праўду" Успенскага я не мог верыць, але трапятанне яго гневу і агіды перад „паўсямесным душагубствам" я адчуваў так, як—чытаючы Дастаеўскага—адчуваеш яго непазбыўны страх перад цёмнаю глыбінёю яго-ж уласнай „душы". Я ў нечым згаджаўся з Глебам Успенскім і нечаму не верыў у яго істэрычных крыках пра спешную неабходнасць „зліцца з умовамі сялянскага жыцця", знайсці сабе ў ім месца; мяне не маглі страшыць пагрозы яго: „Горкая будзе справа інтэлігента ў тым выпадку, калі шэсцьдзесят мільёнаў раптам, па шчупаковаму загаду возьмуць ды справяцца самі сабой"... Я думаю, што на мае адносіны да жыцця ўплывалі кожны па свайму—тры пісьменнікі: Памялоўскі, Глеб Успенскі і Лескоў...

Публікуемыя ў гэтым нумары часопісу выказванні М. Горкага дапаўняюць гэтыя характарыстыкі творчасці Г. Успенскага. Выказванні гэтыя, з'яўляючыся найбольш раннімі з вядомых нам выказванняў М. Горкага пра Г. Успенскага, узяты намі з неапублікаванага чарнавога рукапісу лекцый М. Горкага па гісторыі рускай літаратуры, чытаных ім у 1909 г. для рабочых у капрыйскай школе. У рукапісу цытаты з твораў Г. Успенскага не прастаўлены, але ўказаны тамы і старонкі твораў пісьменніка. Карыстаючыся гэтымі ўказаннямі, мы прастаўілі цытаты па поўным зборы твораў Г. Успенскага, выд. А. Маркса, 1908 г. (дадатак да „Нівы").

С. Балухатый

Як-бы ні здаваліся markednym рознароднымі і рознатварымі такія людзі, як граф Талстой, сын лекара Дастаеўскі і губернатар Салтыкоў і сын свяшчэнніка Глеб Успенскі—эпоха налажыла на ўсіх іх свой адбітак крайняй зблытанасці думак і паспешнасці вывадаў, адбітак нервознай крыклівасці і тужлівай роспачы. Кожнаму з іх перш за ўсё даводзілася „апусташаць душу ад асабістай біяграфіі",—г. зн.

ад успамінаў пра тое мінулае, якое так ці іначай судатыкалася з разбэшчваючым уплывам рабства,—рабства, якое пабудавала паміж мужыком і панам цёмную, неадольную сцяну.

Найбольш цэльнай, найменш надарванай душой аказаўся найвялікшы чалавек Л. Талстой, а астатнія—хочучы і нехочучы вымушаны былі апусташацца і напаўняцца новымі ўражаннямі быцця.

Вось як расказвае пра гэта сам Г. Успенскі:

„Усе партыі, людзі ўсіх напрамкаў перш за ўсё ў наш час, хочучы-нехочучы, павінны думаць пра народныя масы, ужо не могуць існаваць, не думаючы пра іх, пра іх становішча, пра іх будучыню. Добра ці дрэнна думаюць прадстаўнікі грамадскіх партый пра народ, усёроўна, але яны, несумненна, думаюць пра яго ўжо так многа і так усебакова, як ніколі ў мінулыя прыгонныя часы не бывала. Гэта раз. Але самае важнае і радаснае ў тым, што ўсё пакаленне людзей, якое вырасла разумова і нраўственна ў парэформенныя часы, хоць і нічога путнага на справе не зрабіла, але ўжо няўхільна заклапочана народнай справай; справа гэтая ўвайшла ўжо ў плоць і кроў, і сутнасць *асабістых* адносін сучаснага пана да мужыка непараўнана больш чалавечная, як гэта было гадоў трыццаць—сорак назад. „Пашэхонская старына“ М. Е. Салтыкова заслугоўвае большай нашай увагі і ўдзячнасці да яе аўтара, як сапраўдны дакумент нашых *асабістых* адносін да грамадства і народа, перапоўненых фактам паўнейшай няўвагі ні да сваёй ні да чужой чалавечай асобы.

Не ведаю, ці памятаеце вы нарысы І. А. Ганчарова „Слугі“, якія зусім не менш яскрава паказваюць іменна *чалавечыя* адносіны пана і мужыка ў недалёкія яшчэ ад нас часы?

У гэтых нарысах перш за ўсё здзіўляе і заслугоўвае ўдзячнасці тая непадфарбаваная і нічым не змякчаная шчырасць, з якою аўтар перадае свае погляды на народ і свае „асабістыя да яго адносіны“.

„... Таксама і ў нас, ва ўсім нашым грамадстве, „народ“ ужо зрабіўся прадметам сур'ёзнай увагі; нямала і ў нас разважаюць пра абузданні, але яшчэ больш, і ва ўсім амаль парэформенным пакаленні, адносна народа ўжо жывуць выключна сімпатычныя пра яго думкі. У асабістых, штодзённых нашых адносінах да народа, у якіх бы становішчах ён з намі не быў, мы не можам ужо не ставіцца да яго інакш, як „да чалавека“, што зусім магло не быць гадоў сорак назад, і прытым у асяроддзі так званага „абранага“ грамадства, г. зн. людзей вышэйшай інтэлігенцыі“. („Верны халоп“).

Калі чалавек свабодна пускае ў душу сабе толькі тое, што супярэчыць няпраўдзе—гэта, вядома, павінна сведчыць пра сілу яго жадання знайсці праўду, але—нас, чытачоў, абавязвае ставіцца да паказанняў такога чалавека з асцярожнасцю і крытыкай.

Мы-ж ведаем, што і тое, што супярэчнасць праўдзе, глыбока важна і каштоўна, мы хочам ведаць усе з'явы жыцця, ва ўсёй іх паўнаце, каб тым паспешней разабрацца ў іх.

Робячы штучны адбор супярэчнасцей няпраўдзе, г. зн. з'яў выключных, Успенскі ў першых сваіх творах з'яўляецца перад намі вялікім народалюбцам, гэта так, але яго мужычок падфарбаваны

па модзе часу і па патрабаванню душ, свабодных ад біяграфіі, г. зн. ад спадчыны, ад культурных традыцый, ад усведамлення наследвальнасці жыцця.

Інакш кажучы расійскі інтэлігент зноў пачаў фантазіраваць, зноў стварыў сабе кумірышча і стукнуўся аб яго нават да смерці да вар'яцтва, як гэта здарылася з Успенскім.

Вось яшчэ адно характэрнае прызнанне Успенскага:

„На самай справе, там у першых класах (парахода),—поўная адсутнасць агульных інтарэсаў, значная схільнасць глядзець на бліжняга, як на дрэннага чалавека, западозрываючы ў ім усялякія агіднасці, звальваючы на яго, на яго сапсаванасць усю бяду і апраўдаўшы сябе гэтым,—меланхалічнае атрымліванне жалавання і бяздзейнасць. Тут, у трэцім класе,—наадварот, няма ні апатыі, ні бяздзейнасці. Тут шмат працы, здароўя, шчырасці і імкнення да таварыскасці,—па ідэі, думцы... Не гледзячы на сваю шчырасць, у самых лепшых прастанародных галовах, што гэта, госпадзі божа мой, за думкі! Сучаснаму вучню павятовага вучылішча нічога не каштуе ў пух і прах разбіць усю гэтую філасофію старца, які расказваў пра зацменне розуму ў Калузе. Кожная думка не гледзячы на тое, што проста на ўласных плячах вынесена з жыцця, адносіць як-небудзь пісьменнага чалавека ў самую глыбокую цемру часоў. З цяжкасцю робіць гэтая думка свае вывады, якія аддаюць для чалавека, мала знаёмага з моваю і манераю выражацца трэцякласнага народа, проста-напроста чысцейшым глупствам!

Такім чынам, што-ж нарэшце? Там—апатыя і звычайнасць патрэб і думкі; тут здаровае і шчырае разумовае глупства, глупства, настоенае на двух-трох чатырохсотгадовым невуцтве і вечнай працы". („Харошая сустрэча").

Хто ўважліва прачытае кнігу Успенскага пра „Уладу зямлі", той непазбежна адчуе ў ёй найглыбейшы фаталізм, упэўненасць у неадольнай сілішчы ўлады зямлі над мужыком.

„Зямля, пра неабмежаваную, магутную ўладу якой над народам ідзе справа, ёсць не якая-небудзь алегарычная або абстрактная, іншасказальная зямля, а іменна тая самая зямля, якую вы прынеслі з вуліцы на сваіх галошах у выглядзе гразі,—тая самая, якая ляжыць у гаршках вашых вазонаў, чорная, вільготная,—словам, зямля самая звычайная, натуральная зямля. Магутнасць гэтай персці, „праха", з найглыбейшай сілай і прастатой паказана яшчэ ў старажытнейшай быліне пра Святагора-багатыра. Па сутнасці гэта нават і не быліна, а загадка, у якой хаваецца ўся сутнасць народнага жыцця..." („Улада зямлі").

„... Я думаю, што мала памылюся, калі скажу, што двухсотгадовая татаршчына і трохсотгадовае прыгонніцтва маглі быць пераҗыты народам толькі дзякуючы таму, што і ў татаршчыне і ў прыгонніцтве ён мог захаваць недатыкальны свой земляробчы тып (ён *знемагаў фізічна* на панскай рабоце, але рабіў тую-ж работу што і для сябе) цэльнасць свайго земляробчага быту і, галоўнае, *земляробчага светапогляду*. Не нагайкі, не бізуны, не лупцаванне на канюшні, не станавыя або ўраднікі, не тым болей пятнаццаць томаў законаў з дваццаццю томамі заўваг—трымалі яго ў паслушэн-

стве, развілі ў ім строгую сямейную і грамадскую дысцыпліну, захавалі яго ад сеючых гніль лжэвучэнняў, а дэспатычная ўлада „любячай“ мужыка маткі-зямлі, якая абавязвала яго цяжкай працай і разам з тым палягчала гэтую працу, робячы яе інтарэсам усяго жыцця, даючы магчымасць у ёй-жа знаходзіць поўнае маральнае задавальненне“. („Народная інтэлігенцыя“).

А вось сам мужык і яго адносіны да людзей.

„Шмат і доўга гаварыў я часам на тэму „пра разуменне ўласнай карысці“, пра грабежніцтва, якому служаць Іваны Ермалаевічы сваёю працай і рукамі, і г. д. і ўсё як у сцяну гарох! Пра ўсякія калектыўныя абароны супроць усякіх сучасных нягод, ідучых на вёску, не магло быць і гаворкі.

— Захацелі вы з нашым народам! Ці наш народ пагодзіш! Ці ён што разумее?

Вось якія былі адказы Івана Ермалаевіча на мае гаворкі пра „іхную карысць“.

... Аднойчы ён мяне здзівіў самым нечаканым у гутарцы пра грамадскія сялянскія пасады:

— Усе яны (выбарныя)—народ ненадзейны... Пакуль жыве сялянствам—нічога, а як выбралі на пасаду чысты робіцца сабака. Як прысягу прыняў, нібы зверам робіцца...“ („Агульны погляд на сялянскае жыццё“).

„Ён наракае...

Ён наракае не на цывілізацыю, не на яе пагібельны ўплыў, ён наракае не на парадкі, павага да якіх укарэнена ў ім, як мы бачылі ў пачатку гэтага ўрыўка, надта грунтоўна, а наракае на народ, на сваіх аднасяльчан саўдзельнікаў. Народ, ці бачыце, зрабіўся не той, сапсаваўся і распусціўся.

— Ды няўжо,—пытаю я Івана Ермалаевіча:—пры прыгонным праве было лепей?

— Барані бог ад гэтага!..—адказвае Іван Ермалаевіч:—здаецца, як толькі тады жывыя асталіся, дзіва варта... Што ўжо ў тую пару добрае? А што раўней было—гэта канечна праўда. У тую пару, трэба так сказаць, усім дрэнна было, усім роўна, а цяпер зрабілася на такі манер: ты хочаш, каб было добра, а суседзі наровяць табе зрабіць дрэнна.

— Ды нашто-ж гэта трэба?

Ды вось пэўна-ж, трэба нашто-небудзь. Табе добра, а мне дрэнна,—дык хай-жа і табе будзе таксама дрэнна. Параўняць...“ („Да чаго прышоў Іван Ермалаевіч“).

„Але новыя часы пачалі расшатваць упэўненасць старога мілягі ў тым, каб у „цяперашні“ час можна было так проста рабіць добрую справу, як раней. Цывілізацыя прадала ў яго коней дваццаць, раздадзеных у доўг, за няўзнос падацей тымі мужыкамі, якім яны былі раздадзены. Яна-ж пачала зводзіць яго з такімі людзьмі, якім ужо нічога не значыць *адмовіцца* ад свайго слова, такімі, якія ўжо ведаюць, што без распіскі нічога не возьмеш і г. д. А аўчыннік—чалавек даўнейшага складу; яму і не па душы, ды і няма калі цягацца па судах, апісваць маёмасць, спаганяць, глядзець на разарэнне чалавека, калі ў яго на душы зусім другое, не падобнае

на жаданне разарыць чалавека,—жаданне памагчы яму. У гэтым годзе ён таксама прыгнаў коней і таксама раздаў іх, але ўжо не абы каму, а людзям надзейным, накшталт Івана Ермалаевіча і другіх прыстойных мужыкоў... І мы самі былі сведкамі таго здзіўлення, з якім нават ужо і да такога разборчывага дабрадзейства ставіліся некаторыя з сялян, ужо вырасшых у новых умовах жыцця.

— Ды як-жа гэта, братка ты мой,—казалі Аўчынніку,—верыш ты ўсякаму?

— А ты няўжо нікому не верыш?—пярэчыць Аўчыннік.

— Ну, а прападзе, здохне калі конь,—з каго спаганяць будзеш?

— А сумленне-ж нашто? Сумленне і спагоніць...

— Ну, брат, дзіўны ты чалавек, адно слова, дзіўны. Верыць усякаму без распіскі!.. Вельмі-ж ты, далібог, чалавек добры, мабыць!..“ („Да чаго прышоў Іван Ермалаевіч“).

І ў той самы час, як Успенскі, з болем у сэрцы, расказваў, які, паводле яго назіранняў, той мужычок, якім ён нядаўна быў захоплены—у той час Дастаеўскі, закрыўшы на ўсё вочы—казаў:

„Такая вера ў сябе не непрыстойная і зусім не пошлае самахвальства. Зусім так і ў народах: хай ёсць народы развэжлівыя, сумленныя і ўмераныя, спакойныя і без усякіх парыванняў, гандляры і караблебудаўнікі, якія жывуць багата і з надзвычайнай ахайнасцю; ну і бог з імі, усё-ж далёка яны не пойдуць, гэта абавязкова выйдзе сярэдзіна, якая нічым не паслужыць чалавецтву, гэтай энергіі ў іх няма, вялікай самаўпэўненасці гэтай у іх няма, трох гэтых рухаючыхся кітоў пад імі няма, на якіх стаяць усе вялікія народы. Вера ў тое, што хочаш і *можаш* сказаць апошняе слова свету, што абновіш, нарэшце, яго лішкам жывой сілы сваёй, вера ў святасць сваіх ідэалаў, вера ў сілу свае любві і жадання служэння чалавецтву,—не, такая вера ёсць залог самага вышэйшага жыцця нацый і толькі ёю яны і зробяць усю тую карысць чалавецтву, якую ім прызначана яму зрабіць, усю тую частку жыццёвай сілы сваёй і арганічнай ідэі сваёй, якую прызначана ім самой прыродай, пры стварэнні іх, аддаць у спадчыну будучаму чалавецтву. Толькі моцная такой верай нацыя і мае права на вышэйшае жыццё“.

„... Мы пераканаемся тады, што сапраўднае соцыяльнае слова нясе ў сябе ніхто іншы, як народ наш, што ў ідэі яго, у духу яго заключаецца жывая патрэба усеяднання чалавечага, усеяднання ўжо з поўнай павагай да нацыянальных асоб і да захавання іх, да захавання поўнай свабоды людзей і з указаннем у чым іменна гэта свабода і заключаецца,—яднанне любві, гарантаванне ўжо справай, жывым прыкладам, патрэбнасцю на справе сапраўднага брацтва, а не гільятынай, не мільёнамі адсечаных галоў“. („Дзённік пісьменніка“).

Кажучы прасцей і карацей, мы прыходзім да наступнага вываду: псіхіка рускай інтэлігенцыі развівалася па двух напрамках: матывы асабістыя штурхалі яе ў бок крайняга індывідуалізма, у бок выдзялення сябе з хаосу грамадскіх адносін у нейкую надласавую групу,—агульнагістарычныя ўмовы заганялі яе ў той або

іншы клас. Ідэалогія класаў камандуючых была разбурана крытыкай самой-жа інтэлігенцыі і не давала разумнага тэарытычнага апраўдання быцця, адсюль—пастаянныя прылівы сумненняў у сілу розуму і неабходнасць прыняць бога, як паняцце, метафізічна прыміраючае ўсе супярэчнасці жыцця.

У нас няма часу прасачыць гэты працэс раздваення асобы на ўсіх літаратарах: возьмем гэты працэс у яго найбольш тыповым і страшным выглядзе—спынімся на псіхічным стане Успенскага ў апошнія гады яго жыцця.

Урач Сінані, які лячыў Г. І., піша ў сваім дзённіку наступнае:

„Трызненне яго адносна людзей, калі яго асэнсаваць, можна перадаць наступным чынам. Калі кажуць: Глеб Іванавіч Успенскі, Александра Васільеўна Успенская, Александр Глебовіч Успенскі і г. д., то гэтыя асобы з'яўляюцца самымі ардынарнымі суб'ектамі, асобамі, нічога не ведаючымі, нічога амаль не вартымі, маючымі ўсякія недахопы. Назваўшы іх звычайнымі іх імёнамі, па бацьку і па прозвішчу, іх пазбаўляюць усякіх вышэйшых духоўных якасцей. Калі-ж іх называць толькі іх імёнамі, то яны вызваляюцца ад усякіх якасцей, уласцівых асобным індывідуумам, уласцівых звычайным чалавечым істотам; тады яны з'яўляюцца носьбітамі высокіх духоўных якасцей, характарызуючых тых святых, якія носяць гэтыя імёны, і не толькі аднаго якога-небудзь святога, але і ўсіх наогул вялікіх людзей пад тымі-ж імёнамі".

Груба яго можна азначыць, як барацьбу новага чалавека Глеба, са старым Іванавічам, г. зн. той самай біяграфіяй, ад якой Успенскі стараўся ачысціць сваю душу, і якая прывяла яго да містыцызма і вар'яцтва.

Гэта—сімвалічная хвароба, мы ведаем яе прычыны; але—паўторым іх яшчэ раз:

У краіне, якая ступіла ў новыя ўмовы, з'явіўся новы чалавек, але гэты новы чалавек заквашан на старых дражджах.

Што гэта за дрожджы?

Гэта спадчына прыгоннага права, рабства—не забудзьцеся, што пяцідзесяці гадоў не прайшло з часу яго знішчэння, што вашы бацькі раслі ў яго атмасферы, і што крыху яго ўласцівасцей ляжыць па сёнешні дзень у натуры кожнага рускага чалавека.

Галоўнейшая ўласцівасць рабства, унаследаванага намі, гэта адсутнасць павагі да чалавека, да асобы.

... Руская прастытутка ў рускай літаратуры—надзіва сумленная і заўсёды ўсведамляе, што займаецца справай грэшнай,—гэта, можа быць, неабходная, але гэта ўсёткі нядобрая хлусня.

І за гэтай хлуснёй ляжыць надобрае, панскае меркаванне.

— Я цябе насілую, але ты ўсёткі не траць чалавечага вобразу,—добры, цярплівы, усведамляючы свае недахопы і грахі.

Гэта трэба для некаторай духоўнай зручнасці, для камфорта.

Такім чынам: усе ў нас імкнуцца—і ў літаратуры і ў жыцці—

стварыць асобу, вызваліцца ад мінулага, ачысціць душу ад біяграфіі, і ніхто яшчэ не дарос да павагі да асобы*).

## Асобныя заўвагі

Пасля мы ўбачым, што такая фігура, як Даль, шмат разоў паўторыцца ў рускай літаратуры, і што Рашотнікаў, Г. Успенскі, Наумаў, Няфедаў маюць нямала агульнага з ім, як у манеры пісаць, так і ў адносінах да матэрыялу.

Як паказваў пан мужыка,—вы, часткова, ведаеце, увогуле мужык з'яўляўся перад культурным грамадствам увасабленнем дабраты, цярплівасці і іншых хрысціянскіх пачуццяў... Але з'явіліся Успенскія, Рашотнікавы, Левітавы і паказалі зусім іншага мужыка: дзікага, невука, не ўмеючага аценіць сваіх інтарэсаў, няздольнага змагацца за іх, інакш як з дапамогай кулака. Паводле сведчання гэтых белетрыстаў аказалася, што і абшчына—установа не салодкая, што яна ўсяк прыцясняе развіццё асобы, што яна пазбаўлена магчымасці развіваць далей, сваю нібы соцыялістычную, тэндэнцыю.

---

*) У рукапісу А. М. Горкага закрэслена:
(А Успенскага мы можам характарызаваць так: гэты пісьменнік дае ў сваіх творах велізарны і важны бытавы матэрыял, які цудоўна адлюстроўвае псіхалогію і становішча мяшчанства, розначынца—інтэлігента, новага купца,—але яго вывады—зусім непрыймальныя.
Ён патрабуе поўнага падпарадкавання асобы грамадству, грамадскай справе, але не верыць, што гэтая грамадская справа можа задаволіць асобу).

*Я. Шарахоўскі*

# А. М. ГОРКІ ПРА МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Сярод артыкулаў Горкага па розных пытаннях вялікае месца займаюць артыкулы пра маладых пісьменнікаў. Горкі быў старэйшым совецкім пісьменнікам, совецкая літаратура ў дачыненні да яго была маладой літаратурай і таму нават у агульных артыкулах пра совецкую літаратуру вельмі часта можна знайсці шмат надзвычай каштоўных для маладога пісьменніка ўказанняў. Калі прыняць пад увагу, што гэтыя ўказанні рабіліся вялікім чалавекам, вялікім пісьменнікам, вялікім грамадзянінам соцыялістычнай радзімы і што адзінаю іх мэтаю было спрыяць вылучэнню ўсё новых і новых талентаў з гушчаў народных мас, то будзе зусім зразумела іх выключнае значэнне ў справе падрыхтоўкі літаратурных кадраў. Не будзе пераўвялічэннем сказаць, што на ўказаннях Горкага будзе выхоўвацца яшчэ не адно пакаленне совецкіх пісьменнікаў.

Выказванні Горкага пра маладых пісьменнікаў простыя і шчырыя, як простае і шчырае ўсё вялікае. Ён звяртаўся да маладога пісьменніка, як старэйшы таварыш, які мае багаты літаратурны вопыт і які можа даць шмат надзвычай каштоўных парад. Гэтыя выказванні сардэчныя па тону, яны прасякнуты вялікай любоўю да маладога пісьменніка і іменна як да маладога пісьменніка—вылучанага працоўнымі людзьмі. Яго да глыбіні душы радаваў бурны росквіт талентаў у Совецкім Саюзе. „Багацце талентаў вылучаемых масай ва ўсе галіны—працы і творчасці,—здзіўляе і радуе“*),—пісаў ён у артыкуле „З поваду аднае палемікі“. Ён бачыў у гэтым вынік вольнага і поўнага жыцця народа ў кожным таленавітым маладым пісьменніку вітаў будучыню совецкай літаратуры. Радасцю за культурны рост краіны советаў, за культурны рост совецкага чалавека прасякнуты ўсе выказванні Горкага пра маладых пісьменнікаў.

Горкі не дае гатовых рэцэптаў, як зрабіцца пісьменнікам, бо іх немагчыма даць. Ён гаворыць пра тое, што кожны чалавек мастак у тым сэнсе, што ў кожнага чалавека ёсць любоў да прыгожага. „Чалавек па натуры сваёй мастак. Ён усюды так ці інакш, імкнецца ўносіць у сваё жыццё хараство. Ён хоча перастаць быць жывёлаю, якая толькі есць, п‘е і даволі бессэнсоўна, напоўмеханічна, пускае на свет дзяцей. Ён ужо стварыў вакол сябе другую пры-

*) М. Горкі „Пра літаратуру“, выд. „Совецкі пісьменнік“ (на рускай мове), Масква, 1937 г., стар. 113, Цытаты ўсюды з гэтага выдання.

роду, тую, якая завецца культурай*). Пры ўсім тым людзей з сапраўднымі пісьменніцкімі задаткамі не так шмат і пісьменнікамі робяцца людзі, у якіх моцна выражаны пэўныя якасці. Вось чаму Горкі ў сваіх артыкулах гаворыць не пра тое, як зрабіцца пісьменнікам, а пра тое, як робяцца пісьменнікамі і, у прыватнасці, як зрабіўся пісьменнікам ён сам. Перш за ўсё трэба, каб у маладога пісьменніка была нутраная патрэба пісаць, каб ён не мог не пісаць. Але для таго, каб з'явілася такая патрэба, неабходна каб было пра што пісаць, каб маладому пісьменніку было што сказаць. Трэба мець запас назіранняў над жыццём, пры чым такіх назіранняў, пра якія варта расказаць людзям. Горкі гаворыць пра гэта так: „Год пад дваццаць я пачаў разумець, што бачыў, перажыў, чуў шмат такога, пра што варта і нават неабходна расказаць людзям.“**) Назіральнасць, уважлівасць да жыццёвых фактаў— гэта адна з якасцей, якія зусім неабходны маладому пісьменніку. Для таго, каб уявіць сабе, якое гэта мае значэнне для пісьменніка досыць указаць на такі факт, што нават такі пісьменнік, як А. П. Чэхаў меў запісную кніжку, куды ён запісваў, трапныя сказы, пачутыя дзе-небудзь, цікавыя здарэнні, якія мелі месца ў тагочасным жыцці і якія ў будучым маглі быць скарыстаны для мастацкіх твораў і г. д.

Назіраючы ў жыцці пэўныя факты, малады пісьменнік ставіцца да іх з прыхільнасцю, калі гэта станоўчыя, харошыя факты і з непрыязню, калі гэта факты адмоўныя, дрэнныя—у апошнім выпадку ён супроць іх змагаецца. Калі малады пісьменнік расказвае пра гэтыя факты ў сваім творы, то ў ім павінны адчувацца яго адносіны да фактаў адмоўных і станоўчых, інакш кажучы павінны быць яго адносіны да рэчаіснасці. Горкі пачынаў пісаць у надзвычай цяжкую эпоху, першыя яго ўражанні ад жыцця апісаны ў такіх яго творах як „Дзяцінства,“ „У людзях“ „Мае універсітэты“. Горкаму шмат чаго не падабалася ў шэрым, нудным існаванні тагочаснага грамадства. Ен бачыў, што народ жыве цяжкім і жорсткім жыццём і таму ў адных творах ён паказваў мары пра іншае, яркае, лепшае жыццё, а ў другіх выкрываў жорсткасці жыцця. Сам Горкі пра гэта гаворыць наступнае: „Такім чынам, на пытанне: чаму я стаў пісаць? адказваю: з прычыны ціску на мяне „нудна, беднага жыцця“ і таму што ў мяне было так многа ўражанняў, што „не пісаць я не мог“. Першая прычына прымусіла мяне паспрабаваць унесці ў „беднае“ жыццё такія вымыслы, „выдумкі“, як „Казка пра сокала і ужа“, „Легенда пра палаючае сэрца,“ „Буравеснік“, а па другой прычыне я стаў пісаць апавяданні „рэалістычнага“ характару—„Дваццаць шэсць і адна“, „Супругі Орловы“, „Озорнік“.***)

Уражанні малады пісьменнік атрымлівае і ад жыцця і ад кніг. Горкі сведчыць, што для яго, як для пісьменніка, кнігі адыгралі вялікую ролю. Кнігі яму значна дапамаглі ў разуменні жыццёвых

*) Стар. 94.
**) Стар. 217.
***) Стар. 205.

фактаў, у выяўленні іх сапраўднага сэнсу. Бывала так, што прачытаўшы кнігу, малады пісьменнік раптам больш глыбока пачынае разумець факт бачаны ў жыцці. Пра гэта сведчыць Горкі: „Мой дзед быў жорсткі і скупы, але—я не бачыў, не разумеў яго так добра, як убачыў і зразумеў, прачытаўшы раман Бальзака „Еўгенія Грандэ“. Бацька Еўгеніі, стары Грандэ, таксама скупы, жорсткі і наогул падобны да дзеда майго, але ён—дурнейшы і не такі цікавы, як мой дзед. Ад параўнання з французам рускі стары, якога я не любіў, выйграў, вырас. Гэта—не прымусіла мяне змяніць мае адносіны да дзеда, але гэта было вялікім адкрыццём—*кніга мае здольнасць даводзіць мне пра чалавека тое, чаго я не бачу, не ведаю ў ім*“.*) (падкрэслена Горкім—Я. Ш.)

Малады пісьменнік павінен шмат чытаць мастацкай літаратуры і не толькі мастацкай. Горкі гэта падкрэслівае не аднойчы. Чытаць трэба пачынаць з класікаў, пры чым чытаць класікаў і рускіх Талстога, Чэхава, Тургенева, Гогаля і інш. і замежных. З замежных класікаў Горкі ў першую чаргу раіць французскіх рэалістаў Стэндаля, Бальзака, Флабера. Наогул Горкі ў кожным артыкуле пра маладых пісьменнікаў падкрэслівае неабходнасць няспыннай вучобы, працы над развіццём сваіх здольнасцей над развіццём свайго культурнага кругагляду. Не будучы высокакультурным чалавекам пісьменнік не здолее глыбока паказаць жыццё, рэчаіснасць.

Асабліва перасцярагае Горкі супроць зазнайства, якое з'яўляецца ў некаторых маладых пісьменнікаў пасля таго, як першыя іх творы трапляюць у друк. Пасля гэтага яны пачынаюць лічыць сябе закончанымі пісьменнікамі, спыняюць працу над сабой, і зусім зразумела, што творчасць іх касцянее, не пасоўваецца наперад, сапраўдных пісьменнікаў з такіх „геніяў“ не выходзіць. Горкі надзвычай рэзка выступае супроць такіх зазнаек: „Мне добра вядома, што сярод „пачынаючых“ ёсць недаумкі і яны думаюць, што ўжо дастаткова вучоныя і нават геніяльныя; ёсць хлапцы, якія памылкова думаюць, што „пісьменніцтва“—лёгкая праца; ёсць ужо хворыя графаманіяй, ёсць, нарэшце, хлапцы, якія пішуць толькі чырвоным чарнілам і прытым такое: „Вы зруйнавалі маю славутую формулу: усе людзі—свінні“.**)

Горкі перасцярагае таксама супроць разумення літаратурнай працы, як справы чыста асабістай, бо гэты пункт гледжання няўхільна вядзе да адрыву ад жыцця. Літаратура—справа глыбока грамадская, яна паказвае жыццё народа, яго светапогляд, яго быт, імкненні, творчую працу і барацьбу з ворагамі—інакш кажучы, яна шчыльна звязана з палітыкай. Гэта не асабістая, а надзвычай адказная грамадская справа: „Літаратура ніколі не была асабістай справай Стэндаля або Льва Талстога, яна заўсёды справа эпохі, краіны, класа“**)—піша Горкі. Ён перасцярагае супроць пошукаў „нейкай“ паласы адчужэння „ад сусветнай бойкі“, пісьменнік павінен быць байцом і зброяй яго павінна быць мастацкае слова. „У нашы дні,—піша Горкі,— пастаўлена пытанне пра неабходнасць

*) Стар. 19.
**) Стар. 69.

больш цеснага зблiжэння мастацтва з рэчаiснасцю, пра актыўнае ўтаржэнне лiтаратуры ў жыццё эпохi, асноўны змест якой—соцыяльная рэволюцыя".*)

Iнакш кажучы, малады пiсьменнiк павiнен выпрацоўваць у сабе якасцi грамадзянiна соцыялiстычнай бацькаўшчыны, грамадзянiна перадавога, якi мог бы ўвасобiць у мастацкiя вобразы перадавы светапогляд свайго часу.

Горкi таксама перасцярагае супроць спешкi ў лiтаратурнай творчасцi, бо спешка прывучае да верхаглядства i вынiкам яе заўсёды будзе твор недапрацаваны, немастацкi. Горкi падае прыклады таго, што некаторыя маладыя пiсьменнiкi спасылаюцца на перагружанасць работай, каб апраўдаць няўважлiвыя адносiны да лiтаратурнай працы i падкрэслiвае, што такiя спасылкi сведчаць толькi аб нежаданнi сур'ёзна працаваць над сваiмi творамi. Ён гаворыць пра тое, што многiя выдатныя пiсьменнiкi мiнулага працавалi проста ў нечалавечых умовах i стварылi незабыўныя помнiкi мастацкай творчасцi, у той час, калi для савецкай моладзi дадзены ўсе магчымасцi для развiцця сваiх талентаў.

Зусiм зразумела, што для таго, каб займацца лiтаратурнай творчасцю трэба мець здольнасцi, талент. Таленавiтасць Горкi вызначае такiм чынам: „Мы лiчым таленавiтымi лiтаратараў, якiя добра валодаюць прыёмамi назiрання, параўнання, адбору найбольш характэрных класавых асаблiвасцей—i ўключэння—выабражэння—гэтых асаблiвасцей у адну асобу, так ствараецца лiтаратурны вобраз, тып". (Стар. 334). Пiсьменнiк паказвае не проста радавыя факты, якiя ён бачыць у жыццi, а факты адабраныя, характэрныя, якiя маюць абагульняючае значэнне. Вось для таго, каб умець такiя факты знайсцi, каб зразумець, убачыць, што такi та факт неiстотны, выпадковы, а такi та характэрны, тыповы—патрэбны, апрача навiральнасцi, высокая культурнасць, перадавы светапогляд, глыбокае разуменне жыцця, урэшце, мастацкая iнтуiцыя. Такая творчасць будзе асэнсаванай, свядомай.

„Факт яшчэ не ўся праўда,—пiша Горкi,—ён толькi сыравiна, з якой трэба выплавiць, узяць сапраўдную праўду мастацтва. Нельга смажыць курыцу разам з пер'ем, а пракланенне прад фактам вядзе iменна да таго, што ў нас змешваюць выпадковае i неiстотнае з карэнным i тыповым. Трэба навучыцца вышчыпваць неiстотнае апярэнне факта, трэба ўмець браць з факта сэнс". (Стар. 109).

Што гэта значыць? Гэта значыць тое, што самы характэрны факт павiнен быць так пастаўлен у творы ў спалучэннi з iншымi фактамi, каб быў вiдаць яго сэнс, яго нутраны змест. Iнакш кажучы тут намячаецца пераход ад тыповага, характэрнага факта, да тыповай, характэрнай сiтуацыi, да тыповых абставiн.

Метад мастацкага абагульнення надзвычай ярка раскрыты Горкiм у наступным выказваннi: „Майстэрства слоўнай творчасцi, майстэрства стварэння характараў i „тыпаў", патрабуе выабражэння, здагадкi, „выдумкi". Апiсаўшы аднаго знаёмага яму крамнiка, чы-

*) Стар. 67.

ноўніка, рабочага, літаратар зробіць больш або менш удалую фатаграфію іменна аднаго чалавека, але гэта будзе толькі фатаграфія, пазбаўленая соцыяльна-выхаваўчага значэння, і яна амаль нічога не дасць для пашырэння, паглыблення нашага пазнання аб чалавеку, аб жыцці.

Але калі пісьменнік здолее ўзяць ад кожнага з 20—50, з сотні крамнікаў, чыноўнікаў, рабочых найбольш характэрныя класавыя рысы, прывычкі, густы, жэсты, вераванні, ход гаворкі і г. д.,—узяць і аб‘яднаць іх у адным крамніку, чыноўніку, рабочым, гэтым прыёмам пісьменнік стварае „тып“,—гэта будзе мастацтва“.

Пісаць малады пісьменнік павінен толькі пра тое, што ён добра ведае. Чым больш будзе ведаць малады пісьменнік, тым больш змястоўнымі будуць яго творы. Горкі гаворыць што дрэннае ў жыцці трэба ведаць гэтак-жа дакладна, як добрае. Прычым ён звяртае ўвагу маладых пісьменнікаў на тое, што яны звычайна матэрыялам для сваіх твораў бяруць адмоўныя здарэнні, з тае прычыны, што іх лягчэй заўважыць у жыцці. Зусім зразумела, што трэба выкрываць усё адмоўнае, варожае, што мае месца ў нашым жыцці, але пры гэтым трэба сачыць, каб не ўпасці ў аднабаковасць, каб не сказіць перспектывы, каб даць праўдзівы малюнак жыцця. Адмоўнае паказваць лягчэй, а між тым, як гэта падкрэслівае Горкі: „У нашай рэчаіснасці асабліва неабходна адзначаць, асвятляць, паказваць усё тое, якасна важнае, новае „станоўчае“, што ў ёй няўхільна расце“. Трэба мець на ўвазе, што іменна станоўчыя вобразы людзей маюць найбольшае выхаваўчае значэнне, бо яны даюць жывы прыклад станоўчай, карыснай дзейнасці, у той час, калі на адмоўных вобразах чытач толькі бачыць як не трэба рабіць.

Як вялікую станоўчую якасць савецкай літаратуры, Горкі адзначае яе шчыльную сувязь з жыццём народа, тое што яна ідзе ў нагу з жыццём. „Але мы маем права сказаць,—піша Горкі,—што ніколі яшчэ і нідзе літаратура не ішла так „нага ў нагу“ з жыццём, як яна ідзе ў нашы дні ў нас“. (Стар. 55). Жыць аднымі імкненнямі з народам, вучыцца асэнсоўваць іх, асэнсоўваць творчую працу народа пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі па стварэнню соцыялістычных форм жыцця малады пісьменнік павінен адначасова з авалоданнем пачаткамі літаратурнай тэхнікі. Гэта адзіны, арганічна спалучаны працэс. Трэба памятаць, што голае вывучэнне тэхнікі не стварае пісьменніка, яно вядзе да фармалізма, да трукацтва, да адрыва ад жыцця і творчага знясілення. Накапленне ўражанняў, жыццёвага вопыта ідзе ў савецкага пісьменніка не так, што жыццё ён назірае збоку, з‘яўляецца пасіўным сведкай адбываючыхся падзей, а так што ён сам з‘яўляецца актыўным удзельнікам барацьбы за соцыялізм, так што творчыя намаганні народа і асабістая практыка пісьменніка—гэта адно цэлае.

Але зусім зразумела, што калі маладому пісьменніку ёсць пра што пісаць, то ён павінен умець пісаць, умець ператварыць матэрыял у мастацкія вобразы. Вось чаму Горкі надаваў вялікае значэнне вывучэнню літаратурнай тэхнікі, таго, як пісаць. „Можна шмат бачыць, чытаць,—пісаў Горкі,—можна сёе-тое ўявіць, але, каб

зрабіць, неабходна ўмець, а ўмельства даецца толькі вывучэннем тэхнікі". (Стар. 97).

Веданне мовы, мастацкае чуццё ў карыстанні словам мае для пісьменніка першаступянёвае значэнне. Недарма Горкі называе слова першаэлементам літаратуры. Вось чаму асабліва значэнне мае адбор словаў, тое, каб кожнае слова ў мастацкім творы стаяла на сваім месцы. У артыкуле „Гутарка з маладымі" Горкі пісаў: „Ад мастацкага твора, які ставіць мэтаю паказаць скрытыя ў фактах сэнсы соцыяльнага жыцця ва ўсёй іх значнасці, паўнаце і яснасці, патрабуецца выразная, дакладная мова, старанна адабраныя словы". Стар. 313).

Усім вядома, як востра змагаўся Горкі за чыстату літаратурнай мовы, супроць засмечвання яе розным моўным хламам. Пісьменнік павінен адбіраць для мастацкіх твораў лепшае з скарбніцы народнай мовы, бо ў літаратуры слова тое-ж самае, што ў жывапісі фарба, слова з'яўляецца сродкам мастацкага выражэння. Як на багатую крыніцу мовы, апрача вывучэння жывой народнай мовы, Горкі паказвае на пасловіцы і прыказкі. „Іменна пасловіцы і прыказкі выражаюць мысленне народнай масы ў паўнаце асабліва павучальнай, і пачынаючым пісьменнікам надзвычай карысна знаёміцца з гэтым матэрыялам"...

Горкі падкрэслівае, што праца над моваю твораў—гэта надзвычай складаная, цяжкая, але затое і вельмі ўдзячная праца, бо яна накіравана на найбольш мастацкі паказ жыцця, служыць мэтай такога паказу. „Наогул надзвычай цяжка,—піша Горкі,—знайсці дакладныя словы і паставіць іх так, каб нешматлікімі было сказана шмат, „каб словам было цесна, думкам—прасторна", каб словы далі жывы малюнак, каротка адзначылі асноўную рысу фігуры, умацавалі адразу ў памяці чытача рукі, ход і тон мовы паказваемай асобы". (Стар. 219).

Паколькі мэта літаратуры, як гаворыць Горкі, „паказаць скрытыя ў фактах сэнсы соцыяльнага жыцця ва ўсёй іх значнасці, паўнаце і яснасці", то асабліва вялікае значэнне мае тое, каб твор быў праўдзівым, каб ён не скажаў рэчаіснасці, каб ён адпавядаў патрабаванням соцыялістычнага рэалізма. Слова—праўда—гэта якраз тое слова, якое нясе на сваіх сцягах совецкая літратура. Патрабаванне праўдзівасці —гэта адно з асноўных патрабаванняў, якія высоўваў А. М. Горкі—вялікі совецкі пісьменнік, у прыватнасці ў сваіх артыкулах пра маладых пісьменнікаў. Іменна за глыбокую адданасць справе соцыялізма, за палкія словы праўды пра краіну Советаў, якія гаварыў А. М. Горкі ўсяму лепшаму, што ёсць у сусветнай дэмакратычнай грамадскасці, так узненавідзелі вялікага пісьменніка гады права-трацкісцкага блока, эсераўшчыны і рознай іншай мярзоты. Ім удалося па зладзейску ўмярцвіць яго, але словы горкаўскай праўды гэтак-жа моцна гучаць і на сёння, як гучэлі тады, калі ён быў жывы, бо праўда неўміручая.

---

*Ю. Дворкіна*

# ПАЭЗІЯ „НОВАЙ РЭЙНСКАЙ ГАЗЕТЫ“

*(Да 90-годдзя рэволюцыі 1848 года ў Германіі)*

1848 год з'явіўся годам рэволюцыйных выбухаў ва ўсёй Еўропе. Лютаўская рэволюцыя ў Парыжы скінула трон „караля банкіраў“ Луі-Філіпа. Рэволюцыйная хваля магутна разлілася па ўсёй Еўропе, знайшоўшы свой водгук у Германіі, Аўстрыі, Венгрыі, Польшчы, Англіі і іншых краінах. Рад нямецкіх паэтаў-эмігрантаў з захапленнем віталі лютаўскую рэволюцыю ў Францыі, правільна ўбачыўшы ў ёй пралог да ўсееўрапейскіх рэволюцыйных выступленняў.

Славуты паэт Фердынанд Фрэйліграт, які жыў тады ў Лондане, хутка адклікваецца на гэтыя падзеі. „У гарах адчуўся першы гром“,—піша ён у гонар лютаўскай рэволюцыі. Паэт выказвае ўпэўненасць у тым, што гэты гром загрыміць паўсюды, што лавіна народнага гневу:

Уж катится и приведет Ломбардию в движенье
С поляков, венгров сбросит гнет
Затем в Германии падет,
Бессильно принужденье.

Фрэйліграт захапляецца мужнасцю французскіх рабочых, якія са зброяй у руках змагаліся на барыкадах за свае правы. Вось, напрыклад, як адлюстроўваецца малюнак боя на барыкадзе:

Смыкай ряды. Команда „пли“!
И вновь клади заряды.
Народ, что сталь. Скорей вали
Омнибус, тачки. Из земли
Растут пусть баррикады.
К смерти готовы; налегке
Поют с булыжником в руке.
„Mourir pour la patrie!“
И знамя реет, засвистал
Булыжник с пулей вместе,
С коня слетает генерал
„Ça ira“ и хлынул вал
Блуз синих из предместья.

Блізка стаячы апасля да „Саюза комуністаў“ А. Шультэ прысвяціў вершы выгнанню Луі-Філіпа. Вядомы палітычны паэт Готшаль прысвяціў лютаўскай рэволюцыі ў Парыжы шэсць сваіх паэм.

Паэт-сатырык Веерт, вітаючы вясну, якая несла з сабой рэвалюцыю, апяваючы гэтую вясну народаў, гаворыць аб тым, што гэта лепшы падарунак для людзей.

На лютаўскую рэвалюцыю ў Францыі Германія адказала сакавіцкай рэвалюцыяй. 13 сакавіка ў Вене, 18 сакавіка ў Берліне— нямецкі народ узняўся супроць сваіх феадальных прыгнятальнікаў супроць феадальна-юнкерскага ладу, за дэмакратычную рэспубліку, за свае правы.

Супроць феадальнай манархіі былі настроены ўсе „жывыя сілы“ краіны—рабочы клас, сялянства, дробная буржуазія і буржуазія. На берлінскіх барыкадах змагаліся рабочыя, працоўныя элементы дробнай буржуазіі, рамеснікі. Іменна іх крывёю была заваёвана перамога. Паэт Фрэйліграт у сваім славутым творы „Берлін“ малюе геранчную барацьбу нямецкага народа на берлінскіх барыкадах:

Земля дрожала и одни
Не дрогнувши, в теченьи
Тринадцати часов, они
Дрались в ожесточеньи.
Ни песен, вроде „Ça ira“
Лишь стон и крик осипший,
Дрались в молчании тогда,
Скользя в крови налипшей.

Паэт Э. Шультэ прысвяціў берлінскай рэвалюцыі паэму „у ноч з 18 на 19 сакавіка“, у якой апяваў барацьбу і геразм барацьбітоў:

Вот баррикада ввысь растет,
Как башня с грозными зубцами.
В победном шествии народ.
Прокладывает путь штыками.
И крепостью стал каждый дом
И каждый гражданин—героем.

Рад левых паэтаў указвае, што сакавік з'явіўся толькі пачаткам рэвалюцыйнага руху, што трэба далейшай барацьбой замацаваць заваёвы. Але нямецкая буржуазія, баязлівая, прэсмыкаючыся перад манархіяй, спужалася перамогі, якая дасталася ёй. Выступленне і барацьба рабочых у Францыі, энергічныя баі рабочых на барыкадах Берліна і Вены, прымусілі нямецкую буржуазію зменшыць свае захапленні і ўбачыць, што ў Германіі нарастае пагроза з боку пролетарыята. Буржуазія спужалася таго, што рабочы клас, які змагаўся са зброяй у руках супроць манархіі, зможа павярнуць у далейшым і супроць самой буржуазіі.

Скліканы 30 сакавіка Прадпарламент меў поўную свабоду дзеяння, бо берлінскія рабочыя сваёй барацьбой паралізавалі прускія войскі. Выгнанне Метэрніка з Вены таксама развязвала рукі народнаму прадстаўніцтву. Але буржуазія больш баялася сваіх саюзнікаў, чымся ворагаў. Пагэтаму, франкфуртскі нацыянальны сход паспяшаўся заключыць згоду з Саюзным сеймам, замест таго, каб, абапіраючыся на рэвалюцыйны народ, трымаць у страху караля і дваранства.

Усегерманскі нацыянальны сход, які адчыніўся 18 мая і які складаўся з ліберальных балбатуноў, сваёй нерашучасцю канчаткова здрадзіў справе рэволюцыі.

У падрыхтоўцы рэволюцыі 1848 года ўмацаваўся ўласна пролетарскі рэволюцыйны рух. У 1847 годзе ў Лондане адбыўся з'езд „Саюза справядлівых“, які быў потым перайменаваны ў „Саюз комуністаў“. У лютым 1848 года Марксам і Энгельсам была надрукавана праграма „Саюза комуністаў“—бессмяротны „Комуністычны маніфест“, у якім з выключнай сілай была дана сціслая, але яркая крытыка буржуазнага грамадства, яго супярэчнасцяў; была выразна сфармуліравана роля пролетарыята, паказаны шляхі барацьбы за дыктатуру пролетарыята і пабудову бяскласавага комуністычнага грамадства. Як-раз перад рэволюцыяй у Германіі былі выпрацаваны асноўныя палажэнні „Комуністычнага маніфеста“—гэтай тэарэтычнай асновы, праграмы і кіраўніцтва к дзеянню для пролетарыята ўсіх краін. Ідэі „Комуністычнага маніфеста“ былі пакладзены ў аснову дзейнасці „Саюза комуністаў“ і „Новай Рэйнскай газеты“ ў перыяд рэволюцыйных баёў 1848 года.

Незадоўга да рэволюцыі, Маркс звяртаецца ў Парыж, дзе, рэарганізаваўшы ЦК „Саюза комуністаў“, пачынае весці энергічную рэволюцыйную работу, галоўным чынам, сярод нямецкіх рабочых—эмігрантаў. Весткі аб сакавіцкай рэволюцыі ў Германіі з энтузіязмам былі сустрэнуты нямецкімі эмігрантамі. Але тут-жа вызначыліся і прынцыповыя разнагалоссі. На гэтай глебе адбыўся разрыў між Марксам і паэтам Георгам Гервегам. Апошні вырашыў арганізаваць атрад, каб уварвацца ў Германію і ўтварыць там рэволюцыю, г. зн. імпартыраваць яе звонку. Карл Маркс і ўвесь „Саюз комуністаў“ асудзілі гэтую авантурна-путчыскую тэндэнцыю Гервега і яго прыяцеля—анархіста Бакуніна. Маркс і Энгельс лічылі, што ўсе члены „Саюза комуністаў“ павінны звярнуцца ў Германію для таго, каб на мясцох весці працу.

Пры першых-жа паведамленнях аб рэволюцыі, „Саюз комуністаў“ накіраваў члена саюза, паэта Георга Веерта, азнаёміцца з становішчам спраў у горадзе Кёльне і вынайсці магчымасць для заснавання друкаванага органа Саюза. У Кёльне існавала вялікая арганізацыя „Саюза комуністаў“, якою кіравалі Віліх, Бюргерс, Готшальк, Даніельс і інш. Карл Маркс і ўвесь „штаб“ Саюза ў маі пераехалі ў гор. Кёльн, дзе за кошт гераічных намаганняў арганізавалі друкаваны орган саюза—„Новую Рэйнскую газету“. Першы нумар газеты быў выдадзены 1-га чэрвеня 1848 года. Галоўным рэдактарам яе быў Карл Маркс, членамі рэдакцыі—Фрыдрых Энгельс, Дронке, бр. Вольф, Бюргес і Веерт. Такім чынам, упершыню ў гісторыі класавай барацьбы, быў створан друкаваны орган партыі пролетарыята, вакол якога і сталі групавацца найбольш паслядоўна-рэволюцыйныя элементы Рэйнскай вобласці.

„Новая Рэйнская газета“ пачала выходзіць ужо тады, калі нямецкая буржуазія здрадзіла рэволюцыі, істэрычна лямантуючы аб „парадку і законнасці“, дрыжучы ад страху перад рухам мас. Фрыдрых Энгельс наступным чынам характарызуе Франкфуртскі Нацыянальны Сход: „Гэты сход старых баб з першага дня свайго

існавання горш за ўсякія загавары ўсіх германскіх урадаў, разам узятых, баяўся малейшага народнага руху".*) З першага-ж нумара „Новая Рэйнская газета" павяла энергічную барацьбу супроць рэакцыі, крытыкуючы Франкфуртскую гаварыльню, паказваючы сродкі і шляхі да перамогі. У першым сваім нумары газета ўказвае на неабходнасць агалошання суверэнітэта народаў, утварэнне канстытуцыі на аснове гэтага суверэнітэта, нарэшце, яна патрабуе ўтварэння ўзброенай арміі рэвалюцыі „для падаўлення ўсіх прошукаў рэакцыі, для ўмацавання рэвалюцыйнай асновы". Першымі-ж нумарамі „Новая Рэйнская газета" заваявала велізарны аўтарытэт сярод шырокіх мас працоўных.

У сваіх артыкулах Маркс і Энгельс паказалі на тыя непасрэдныя задачы і мэты, за якія патрэбна было тады змагацца. Бліжэйшай задачай рэволюцыі яны лічылі заваяванне адзінай дэмакратычнай рэспублікі, г. зн.—звяржэнне манархіі і аб'яднанне Германіі. Зразумела, што гэта далёка не з'яўлялася іх канчатковым імкненнем, а было толькі сродкам для пераходу да барацьбы ўжо за пролетарскую рэволюцыю. Энгельс пісаў: „для нас люты і сакавік маглі мець значэнне сапраўднай рэволюцыі толькі ў тым выпадку, калі-б яны былі не завяршэннем, а, наадварот, выходным пунктам працяжнага рэволюцыйнага руху, у якім—як у час вялікага французскага пераварота—народ, у ходзе сваёй барацьбы, развіваўся-б далей, партыі ўсё больш і больш абасабляліся-б адна ад другой, пакуль яны не сталі-б супадаць з буйнымі класамі: буржуазіяй, дробнай буржуазіяй, пролетарыятам,—рэволюцыйнага руха, у якім пролетарыят паступова заваёўваў-бы ў радзе боек адну пазіцыю за другой".**) Пагэтаму задачы партыі і яе друкаванага органа вынікалі з спецыфічнага характару рэволюцыі ў Германіі. „І сапраўды,—піша Энгельс,—пакуль не была расчышчана глеба для самастойных дзеянняў рабочых, пакуль прамое і ўсеагульнае выбарчае права не было яшчэ ўстаноўлена, пакуль трыццаць шэсць буйных і дробных дзяржаў працягвалі раздзіраць Германію на бязлікія шматкі,—што іншае магла рабіць пролетарская партыя, як не сачыць за маючым для яе першаступеннае значэнне парыжскім рухам і не змагацца супольна з дробнай буржуазіяй за дасягненне тых правоў, якія дазволілі-б ёй у будучым павесці самастойную барацьбу за свае інтарэсы".***) Ітак, у аснове праграмы дзейнічання „Новай Рэйнскай газеты" ляжала барацьба за дэмакратычную германскую рэспубліку і—далей—за перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў пролетарскую. Замежная палітыка газеты заключалася ў падтрыманні рэволюцыйных рухаў Еўропы, а таксама і тых краін, якія змагаліся за сваё нацыянальнае вызваленне, калі гэтая барацьба расхіствала і паслабляла рэакцыйныя ўрады.

Гераічная барацьба Венгрыі і Польшчы за сваё нацыянальнае вызваленне, рэволюцыйны рух у Францыі, вайна з Даніяй—знаходзяць найжывейшы водгук на старонках „Новай Рэйнскай га-

*) *Маркс і Энгельс.* Творы, т. VI, стар. 54.
**) *Маркс і Энгельс.* Творы, т. VI, стар. 8 (Дзяржвыдат. 1930 г.)
***) *Маркс і Энгельс.* Творы, т. VI, стар. 50.

зеты“. Газета,—на чале якой стаяў найвялікшы з людзей той эпохі Карл Маркс—вельмі чула і хутка рэагавала на ўсе палітычныя падзеі, выразна вызначаючы план дзеянняў, паказваючы шляхі барацьбы. Не гледзячы на тое, што „Саюз комуністаў“ на гэтым этапе дзейнічаў разам з дэмакратычнай партыяй, між імі існавалі прынцыповыя адрозніванні. „Толькі па трох пунктах пролетарская партыя істотна адрознівалася ў сваёй палітычнай дзейнасці ад дробнабуржуазнага класа, ці, уласна кажучы, так званай дэмакратычнай партыі“—пісаў Энгельс.—„Па-першае, яна інакш ацэньвала французскі рух. Дэмакраты нападалі, а пролетарскія рэволюцыянеры абаранялі крайнюю партыю ў Парыжы; па-другое, яна агалашала неабходнасць устанаўлення германскай рэспублікі, адзінай і непадзельнай, між тым, як самыя крайнія з дэмакратаў асмельваліся толькі ўздыхаць аб федэральнай рэспубліцы; па-трэцяе, яна па ўсякай прычыне праяўляла рэволюцыйную смеласць і гатоўнасць да дзеянняў, якіх ніколі не будзе ў партыі, якою кіруюць дробныя буржуа і якая складаецца галоўным чынам з дробнай буржуазіі“.*)

З'яўляючыся адзіна паслядоўна-рэволюцыйным органам, „Новая Рэйнская газета“, сваёй прынцыповасцю і непрымірымасцю да ворага, стала актыўным арганізатарам і выхавацелем мас. Газета бічавала здрадніцтва буржуазіі, заклікала са зброяй у руках змагацца супроць наступаючай рэакцыі, заклікала не дапусціць разгона Нацыянальнага схода і аказаць усямернае супраціўленне рэакцыі. Так, у часе разгону берлінскага Нацыянальнага схода, толькі „Новая Рэйнская газета“ заклікала прыйсці яму на дапамогу. Буйным шрыфтам, накшталт аншлага, выдзяляюцца ў № 142-м словы: „Барацьба, значыць, непазбежна і абавязак Рэйнскай правінцыі—пасляшацца на дапамогу берлінскаму Нацыянальнаму сходу людзьмі і зброяй“. У дні ўмацавання рэакцыі, з дня ў дзень, газета заклікае грамадзян не плаціць падаткаў рэакцыйнаму ўраду. „Keine Steuern mehr!“ (Ніякіх больш падаткаў!)—напісана ў форме лозунга ў радзе нумароў буйным шрыфтам на першай старонцы. Газеце даводзілася весці барацьбу не толькі супроць рэакцыі, супроць буржуазіі, але і супроць путчысцкіх настрояў у асяроддзі самой рэволюцыі. Так, газета рэзка крытыкавала няўдалую спробу Гервега ўварвацца ў Германію з сваім добраахвотніцкім атрадам, і яго роўнадушша да лёсу прыцягнутых ім і потым атрымаўшых паражэнне рабочых.

Такім чынам „Новая Рэйнская газета“ з гонарам выконвала выключна цяжкую—ва ўмовах тэрора—задачу арганізацыі мас і выхавання ў іх рэволюцыйнай закалкі.

Карл Маркс высока ацэньваў значэнне мастацкага слова ў класавай барацьбе і—у якасці галоўнага рэдактара „Новай Рэйнскай газеты“—імкнуўся прыцягваць да працы лепшых паэтаў, якія стаялі па сваіх палітычных поглядах блізка да ідэй газеты.

Георг Веерт і Фердынанд Фрэйліграт з'явіліся тварцамі мастацкага аддзела газеты пад кіраўніцтвам Маркса. Гэтае кіраўніцтва было ўважлівым, штодзённым, таварыскім. Паэзія Фрэйліграта

*) *Карл Маркс* і *Фрыдрых Энгельс.* Творы, т. VI, стар. 50.

і сатырычныя творы Веерта з'яўляліся мастацкім уцелясненнем ідэй „Новай Рэйнскай газеты“. Амаль у кожным нумары газеты, побач з палітычнымі артыкуламі, змяшчаліся фельетоны Веерта, гучалі рэволюцыйныя заклікі Фрэйлігаата—„трубача рэволюцыі“.

Фрэйлігат і Веерт з'яўляюцца не толькі паэтамі „Новай Рэйнскай газеты“, але наогул буйнейшымі палітычнымі паэтамі рэволюцыі 1848 г., першы—у галіне лірыкі, другі—у галіне сатыры. Іх лепшыя творы створаны ў перыяд супрацоўніцтва ў „Новай Рэйнскай газеце“, аб чым потым пісаў Маркс Фрэйлігату. Веерт састаяў членам „Саюза комуністаў“ з першага дня яго заснавання, Фрэйлігат-жа прышоў да яго ў працэсе развіцця рэволюцыі.

* * *

Георг Веерт быў адным з арганізатараў „Новай Рэйнскай газеты“ і з першых-жа дзён яе існавання, разам з палітычнымі артыкуламі, змяшчаў і свае дасціпныя вясёлыя фельетоны і сатырычныя вершы, у якіх знішчальна высмейваў ворагаў і вельмі трапна паражаў іх. Ён гаворыць аб задачах сваёй сатыры:

Узнаешь высшее счастье ты,
Кусая врагов без счета.

Фельетоны Веерта, як і яго сатыры цалкам адпавядалі тактыцы „Новай Рэйнскай газеты“. Ён энергічна крытыкуе як прускае рэакцыйнае юнкерства, урадавых чыноўнікаў („Я хацеў бы быць начальнікам паліцыі“), так і ролю нямецкай буржуазіі ў рэволюцыю.

Першы фельетон Веерта „Пан Прайс у небяспецы“ прысвечаны паказу паводзін буржуа для якога рэволюцыя з'яўляецца нечуванай злыбедай, бо яна ўплывае на падзенне акцый і выклікае біржавую паніку. Яму нават сніцца, быццам на барыкадах змагаюцца не людзі, а лічбы з нулямі. Наступны фельетон гэтай-жа серыі „Як пан Прайс прыстасоўваецца да абставін“ яшчэ больш паглыбляе гэты вобраз. Для буржуа „грошы не пахнуць“. Пасля рада няўдалых праектаў, пан Прайс пачынае спекуляваць шрапнеллю, забяспечваючы ёю ўсіх, хто добра плоціць, у тым ліку і ворагаў рэволюцыі. Нарэшце, заключны фельетон „Быціе пана Прайса мае сусветна-гістарычнае значэнне“ паказвае, як выкарыстоўваецца шрапнель для барацьбы з рэволюцыйным народам. Прайс называе сваю шрапнель „пілюлі супроць суверэннага народа“. Гэтымі пілюлямі народ патрэбна лячыць, па думцы пана Прайса, ад рэволюцыйнай ліхаманкі і іншых непрыемных для яго хвароб. Упершыню ў нямецкай літаратуры мы сустракаем такі выразны і глыбокі аналіз сутнасці нямецкай буржуазіі. Значнае месца ў творчасці Веерта займае тэма нямецкага мяшчанства, баязлівага, дрыжачага пры думцы аб узброенай барацьбе. Гэтаму жалкаму „баласту рэволюцыі“ прысвячае Веерт і сатырычныя вершы і рад фельетонаў. У вершы „Смуцьян і плакса“ ён здзекваецца над мяшчанствам і яго баязлівасцю перад рэволюцыяй. У серыі фельетонаў „З дзённіка Плаксы“ ён адлюстроўвае гэтых маленькіх людзішак, якія дыскуеюць за шклянкай піва аб рэволюцыі, але якія трацяць прытом-

насць пры вестцы аб паўстанні ў Кёльне. Іх мяшчанскія аргументы супроць „анархіі“ з бліскучай ірoніяй малюе Веерт. Зусім у стылі сатыр Гейне высмейвае Веерт страх мяшчан перад комунізмам, іх баязлівы страх за сваю ўласнасць. У дасціпнай сатыры здзекваецца Веерт над уяўленнем мяшчанства аб комуністах і прыпісваннем ім усялякіх грахоў. Веерт піша:

Сегодня я еду в Дюссельдорф,
Сосед у меня на славу:
Советник правительства—он бранил
„Рейнской газеты“ нравы.

— Этой газеты редактора,—
Так говорил он,—воры,
Бога они не боятся все
И самого прокурора.

Для всех болезней земных они
Знают одно исцеленье:
Республики их красный цвет,
Имущества разделенье.

На миллионы участков они
Разделяют море и сушу;
Доля земли, доля песку,
И несколько волн на душу.

Люди получат по куску
Счастья, любви и света—
Лучший кусок—редакторам
„Новой Рейнской газеты“.

Мечта их—женщин обобществить
Отмена брака—цель их...

І далей:

Да, переменится все на земле
Вследствие мудрости этой,—
Но самых красивых женщин возьмут
Сотрудники „Рейнской газеты“.

Такім чынам, ужо тады Веерт высмейваў мяшчанскі паклёп аб „нацыяналізацыі жанчын“. Веерт, як і ўсе рэдактары „Новай Рэйнскай газеты“, чула адклікаўся на палітычныя падзеі дня, рэзка бічаваў канкрэтныя адмоўныя бакі рэчаіснасці. Адным з лепшых фельетонаў Веерта на тэму „Пасіўнага супраціўлення“ рэакцыі, з'яўляецца фельетон „Непрызнаныя геніі“. Веерт указвае, што ліберальная буржуазія ўмее толькі гаварыць пыхлівыя фразы пра абарону свабоды. Але калі патрабавалася ад слоў перайсці к дзеянню, прускі парламент прыбегнуў да вельмі арыгінальнага метада барацьбы: дэпутаты проста раз'ехаліся па кватэрах. Веерт рэзка бічуе іх за баязлівасць, ён іранічна заўважае: „Вы—бедныя, непрызнаныя геніі. З-за вашай геніяльнасці мы разам з вамі звярнуліся к выходнаму пункту! Мы з Альп свабоды ў Люненбургскі стэп ранейшага злапалучча; вы—з трыбун на родную печку!“ Выключна змястоўны і рэзкі фельетоны, прысвечаныя

барацьбе за імперскую канстытуцыю і абранню рэакцыянера, прускага караля Фрыдрых—Вільгельма IV усегерманскім імператарам. Здзекваецца Веерт і над імперскай арміяй, якая зусім бяздзейнічала і цярпела паражэнне за паражэннем на знешніх франтах, але якая аднак праявіла сваю „доблесць“ у барацьбе з рэволюцыяй:

Святая немецкая рать
Удачей своей щеголяла
Из Гессена лучших парней,
Из Швабии навербовала.

Святая немецкая рать
Тянула к Швейцарии руки,
Но задержалась—она
Латала проклятые брюки.

Святая немецкая рать
Весь Лимбург сожрать решила.
Уже она вышла, но—ах!
Порох проклятый забыла.
і г. д.

Але ў сваёй большасці фельетоны гэтага бліскучага сатырыка накіраваны супроць асноўнага ворага рэволюцыі, супроць нямецкага феадала—юнкера. Самым буйным творам Веерта з'яўляецца раман „Рыцар Шнапганскі“. Напісаны ў форме перайманвя старых авантурных рыцарскіх раманаў, гэты раман уяўляе сабою твор, насычаны нянавісцю да героя. Тут Веерт даў „вечную карыкатуру“ на ворага прагрэса, на асноўную сілу рэакцыі—Прускага юнкера. Галоўны герой—Шнапганскі думае аб сабе, як аб сусветным героі—рыцары. Выключны баязлівец—ён бясконца хваліцца сваёй храбрасцю. Яго здольнасць да маны—выключная. Сваімі расказамі ў стылі барона Мюнгаузена ён утварае сабе ў вышэйшым свеце арэол храбраца. Шнапганскі пушчаецца на розныя авантурныя прыгоды, але ў яго на душы адна цяжкая трагедыя: у яго няма грошай. Але і тут ён знаходзіць выйсце. Пакарыцель жаночых сэрцаў (алзінае месца, дзе ён умее перамагаць), рыцар жэніцца хоць на вельмі старой, але затое багатай графіні. Тут пачынаецца яго палітычная кар'ера. У апошняй частцы рамана Веерт малюе яго ўжо ў ролі дваранскага дэпутата ў Франкфуртскім Нацыянальным сходзе, дзе з агідай адносіцца да дэпутатаў дэмакратыі, нахабна і выклікаюча выступае ў абарону рэакцыі і дваранскіх прывілегій.

Пад „Рыцарам Шнапганскім“ Веерт мае на ўвазе зусім пэўную асобу—князя Ліхноўскага. Але Веерту ўдалося стварыць вялікае абагульненне, вобраз—надзвычайна тыповы. Гэта—збіральны тып, уцелясненне чванлівага высокамернага юнкера—рэакцыянера, ярага ворага народа. Гэты вобраз не згубіў сваёй актуальнасці і ў наш час, калі ў Германіі гаспадараць і твораць бясчынствы прамыя патомкі гэтага манюкі—баязліўца, рэакцыянера, шавініста. У рамане „Рыцар Шнапганскі“ ярка выступае майстэрства Веерта, першага стваральніка пролетарскай сатыры.

Рэзка выступіў Веерт і супроць умацавання рэакцыі ў верасні, калі контррэволюцыя, справацыраваўшы масы на барыкадныя баі, выкарыстоўвае выпадак і ўводзіць асаднае становішча ў Кёльне і зачыняе „Новую Рэйнскую газету“.

Веерт апісвае і ўвядзенне асаднага становішча, дае малюнак выступлення мас.

Город штыками, как дикообраз,
Сразу пополз, колючий—
Прусских архангелов шла толпа
До рынка сенного тучей.
Прошел лейтенант мимо дверей
В сопровожденьи пикета,
Он об'явил, барабаня смерть
„Новой Рейнской газеты“.

І далей Веерт паказвае, як рэагаваў на гэта народ:

В Кёльне скандал действительно был, —
Сказал я старому Зоггеру,—
Не знаю откуда, ряды баррикад
Взошли без числа, без меры.
В мгновенье руки воздвигли их
Повсюду—с фронта и с тыла,
Из стульев церковных, соборных камней
Из старых пустых бутылок.

Гэтай-жа падзеі прысвячае таксама Генрых Гейне сваю сатыру „Успаміны пра дні тэрора ў Крэвінкелі“. Таленавіты фельетаніст, сатырык Веерт карыстаўся вялікай любоўю і павагай Маркса і Энгельса. Энгельс потым успамінаў, што ні адна газета не мела такога вясёлага фельетона, як „Новая Рэйнская газета“.

Але газета „Саюза комуністаў“ не толькі высмейвала, выкрывала сваіх ворагаў метадам рэволюцыйнай сатыры. У газеце гучала палкая страсць, гучаў палкі рэволюцыйны пафас. Калі Веерт бліскуча выконваў першую задачу—сатырычнага выкрыцця ворагаў, то другі бок газеты ажыццяўляўся ў вершах Фердынанда Фрэйліграта. Фрэйліграт з самага пачатку рэволюцыі заняў пазіцыі саюзніка пролетарыята. Яшчэ ў сваім зборніку вершаў 1846 года „Ça ira“, у вершы „Знізу ўверх“, Фрэйліграт заявіў аб магутнасці пролетарыята, аб тым, што не кароль, а пролетарыят—сапраўдны гаспадар жыцця. Яшчэ не будучы членам „Саюза комуністаў“, у 1848 годзе Фрэйліграт піша вершы, блізкія па свайму зместу да поглядаў „Новай Рэйнскай газеты“. Яго славутыя творы „Песня пра смерць“, „Мертвыя жывым“ зусім адпавядалі становішчу газеты. У іх паэт кідае гнеўныя папрокі па адрасу здраднікаў рэволюцыі, кляйміць здраду буржуазіі, патрабуе пераходу да рашучых дзеянняў супроць контррэволюцыі, як таго патрабавалі Маркс і Энгельс. Паэт заклікае да новай рэволюцыі, бо гэта была даведзена толькі напалову. Яго „Песня пра смерць“ гучыць нянавісцю, пагардай да буржуазіі, так подла прадаўшай справу народа. Паэт прыгадвае ім, што яны засядаюць у парламенце толькі па „міласці паўстання“. Амаль што ў гэтых-жа словах, што і Маркс, здзекваецца Фрэйліграт над іх крыклівымі фразамі пра„дэмакратычны базіс“, пра „парламенцкія рашэнні“ і г. д., над усімі лозунгамі, з дапамогай якіх буржуазія ашуквала народ, заключаючы пад шумок саюз з манархіяй.

Вы хотите, чтоб, как тридцатый, блеснул
И сорок восьмой бесплодным огнем,—

гнеўна ўскліквае паэт у „Песні пра смерць“.

У № 6 „Новой Рэйнскай газеты“ Фрэйліграт змясціў свой верш „Наперакор усяму“. Тут паэт прама называе буржуазію апорай трона і рэакцыі. Але цікавей усяго тое, што тут паэт, выступаючы ад імя народа, апяваў народ і яго непахіснасць. Ён звяртаецца да рэакцыі, заяўляючы:

Вы—то, что гибнет и падет,
Вы—кости, вопреки всему.
Мы—человечество, народ,
Мы—вечны, вопреки всему.

З'яўленне гэтага верша ў „Новай Рэйнскай газеце“ сведчыла пра тое, што ў сваім палітычным развіцці Фрэйліграт наблізіўся да „Саюза комуністаў“ і яго органа. Толькі газета пролетарскай партыі магла змяшчаць такія творы, у якіх гучала-б бадзёрасць і сіла класа, якому належыць будучае.

Асаблівую папулярнасць стварыў паэту верш „Мёртвыя жывым“. Ён уяўляе сабою шэдэўр рэволюцыйнай паэзіі 1848 года. Паэт звяртаецца ў ім ад імя ахвяр сакавіцкіх баёў з папрокам жывым, якія прадалі справу рэволюцыі. Ён выкарыстоўвае эпізод сакавіцкіх баёў, калі народ прымусіў караля зыйсці з балкона і схіліць галаву перад прынесенымі да палаца трупамі загінуўшых барацьбітоў. Ад іх імя і гаворыць паэт:

В крови и со свинцом в груди, с раскроенными лбами
Так нас несли вы на досках, подняв над головами,
Убийце трупы напоказ средь яростного крика,
Чтоб был их вид навек ему проклятье и улика!

Мерцвякі абураны тым, што іх заваёвы прададзены, што жывыя ганебна адступілі перад рэакцыяй:

Мы думали: не даром, нет, мы голову сложили,
Теперь навеки можем мы спокойно спать в могиле.
Вы обманули нас! Позор живым! Вы проиграли
В четыре месяца все то, что мы завоевали.
И подвиг наш, и нашу смерть, вы предали их тоже,
Все слышим мы, всё знаем мы в могилах братских лёжа.

Ад імя загінуўшых змагароў Фрэйліграт ганьбіць перамогу рэакцыі. Але, у адпаведнасці з ідэямі „Новай Рэйнскай газеты“, паэт упэўнены ў надыходзячай перамозе, у тым, што гнеў народны не памрэ. Мёртвыя ўпэўніваюць жывых:

О, слишком много каждый день паденья и позора,
И верьце мертвым нам,—опять тот гнев воскреснет скоро.
Он в нас живет. И вспыхнет вновь! От спячки всех пробудит
И революция уже не половинной будет.
Он лишь мгновенья ждет в тиши и ширится неслышно
И в буре рук, голов, опять пожаром станет пышно.
И с ружей ржавчину сотрет, нальет свинец в зарядах
И знамя красное опять взовьет на баррикадах.

Ні адзін верш не выклікаў такога бурнага водгука, як „Мёртвыя жывым“. Ён быў надрукаваны ў выглядзе лістоўкі ў коль-

касці дзевяці тысяч экземпляраў і зараз-жа разыйшоўся па руках. Але і рэакцыя не дрымала. Паэт быў прыцягнуты да суда прысяжных па абвінавачванню ў падбухторванні грамадзян да ўзброенага паўстання. Генеральны пракурор, які падпісаў абвінаваўчы акт, надзвычай падрабязна прааналізаваў на судзе „Мёртвыя жывым“, зрабіўшы наступнае заключэнне: „Не да маральнай барацьбы, а да ўзбраення, да бойкі пад чырвоным сцягам, да звяржэння трона, да рэволюцыі, да выгнання князёў і да лозунга „рэспубліка“ кліча ён народ“. Не гледзячы на неаднаразовае падкрэсліванне пракурорам закліка да барацьбы „пад чырвоным сцягам—сімвалам комуністычнай рэспублікі“, суд прысяжных апраўдаў паэта, што з'явілася сімптомам таго, што грамадскае ўзбуджэнне не было заспакоена.

Гэта падзея ўзбудзіла ўвесь Дзюсельдорф. Паэта пры выхадзе з суда сустрэў вялікі натоўп з воклікамі—„ура“; яго закідалі кветкамі, а ўвечары ў яго гонар было наладжана факельнае шэсце. Пасля працэса, Фрэйліграт, па запрашэнню Маркса, пераехаў у Кёльн, дзе ўступіў у „Саюз комуністаў“. Калі, пасля забароны, зноў стала выходзіць „Новая Рэйнская газета“, дык у першым-жа нумары, за 12 кастрычніка Карл Маркс, як галоўны рэдактар, паведамляў, што склад рэдакцыі папоўніўся новым членам, вядомым паэтам Фрэйліігратам.

Іменна, дзякуючы свайму ўступленню ў „Саюз комуністаў“, дзякуючы паўсядзённым зносінам з выдатнымі правадырамі пролетарыята,—Марксам і Энгельсам, і „першым паэтам пролетарыята“—Веертам, Фрэйліграт змог стаць буйнейшым паэтам рэволюцыі 1848 года. Энгельс, указвае, што „ні адна з нямецкіх газет—ні раней, ні пасля—не мела падобнай сілы і ўплыву, не ўмела так электрызаваць пролетарскія масы, як „Новая Рэйнская газета“. І гэтым яна абавязана была галоўным чынам Марксу“. Дзякуючы кіраўніцтву Маркса, яго штодзённым клопатам і выхаванню паэтаў „Новай Рэйнскай газеты“,—літаратурны аддзел яе знаходзіўся на надзвычай высокім ідэалагічным узроўні.

* * *

Кастрычніцкае паўстанне ў Вене з'явілася падзеяй выключнай важнасці для Германіі. Яно паставіла на абвестцы дня пытанні, якія можна было вырашыць толькі сілай зброі. Маркс і Энгельс у сваіх артыкулах крытыкавалі планы дэмакратычнага саюза аб падачы петыцый сваім урадам і аб фарміраванні добраахвотніцкіх атрадаў для дапамогі Вене. Яны ўказвалі, што дапамогаю Вене павінна з'явіцца выступленне ў кожнай нямецкай дзяржаве супроць сваіх урадаў супроць сваёй контррэволюцыі. У такім выпадку, урад не зможа адцягнуць войска для падаўлення Венскага паўстання. Фрэйліграт таксама адгукнуўся на гэтыя падзеі сваім вершам „Вена“. Эпіграфам да яго ён узяў апошнія словы з артыкула Маркса аб дапамозе Вене.

К чему скулиць покорно? Мужчины, в горны битв,
В кулак сжимайте руки не для пустых молитв.
Молитвенные позы утратили свой вес,
Сжимайте левой—ножкы, а правою—эфе

далей:

Восстанье великанов—могучая борьба
За Вену—только это—достойная борьба.

Верш „Вена“ з'яўляецца прыкладам таго, як супрацоўнічаў Маркс з паэтамі „Новай Рэйнскай газеты“. Артыкул Маркса з'явіўся ў газеце другога лістапада ўвечары. А Фрэйліграт здаў свой верш раніцаю 3 лістапада, узяўшы эпіграфам да яго апошні абзац артыкула Маркса. Маркс папярэдне знаёміў прыяцеляў і саратнікаў з сваімі артыкуламі, што з'яўлялася надзвычайным выхаваўчым момантам. Дружба, аснованая на супольнай працы і барацьбе, на ідэйнай блізасці і глыбокай прынцыповасці—характарызавала адносіны Карла Маркса з сваімі таварышамі, і наогул адносіны між членамі „Новай Рэйнскай газеты“.

Але паўстанне ў Вене было падаўлена. На венскіх барыкадах быў схоплены і расстраляны адзін з левых дэпутатаў Франкфуртскага Нацыянальнага схода, Роберт Блюм. Імя Блюма, як мучаніка за рэволюцыю, абляцела ўсю Германію, Карл Маркс прысвяціў памяці Блюма вельмі прачулы артыкул. Фрэйліграт ушанаваў яго памяць надзвычайна задушэўным вершам, у якім, не гледзячы на смутак аб загінуўшым, бадзёра гучыць надзея на прыход „красной мстительницы“, якая змяце з твару зямлі ўсіх катаў. Паэт апісвае пахаванне Блюма, і ў музыцы аргана ён чуе грозныя гукі будучага:

И мне казалось, слышу я в прибое звуков шопот:
Поверь! Трубою боевой органный станет ропот!
И те, кто молится сейчас, возьмут оружье в руки,
В борьбе и только лишь в борьбе искупятся все муки!

Паэт заклікае выканаць завет расстралянага таварыша, „які пакінуў у спадчыну свой непакой“. Паэт аддае ўсеагульнай ганьбе імя ката, па загаду якога быў расстраляны Блюм. У вершы „Крываваму сабаку—Віндзішгрэцу“ ён паказвае садзісцкую расправу яго з насельніцтвам Вены, пахвальбу ката чыстай работай“.

„Новая Рэйнская газета“ аддавала шмат увагі рэволюцыйнай барацьбе ў Венгрыі. Энгельс даў рад бліскучых артыкулаў, якія змяшчалі ў сабе аналіз венскіх падзей, агляд вайсковых дзеянняў і г. д. Фрэйліграт і Веерт таксама адгукнуліся на гэтую тэму. У вершах, прысвечаных Венгрыі, Фрэйліграт паказвае на гэтую барацьбу, як на прыклад для іншых народаў. Ён піша аб тым, што мадз'яры ўзнялі зноў высока,—подла праданы,—сцяг свабоды.

Смотрите, остальные!
Один народ хоть есть,
Чьи мускулы стальные
Поддерживают честь.
Среди пустынь Востока,
Он бьется одиноко,
И нет конца боям.
И отступая в степи
Он разбивает цепи
Чтоб волю дать и вам.

Паражэнне Венгрыі азначала перамогу рэакцыі па ўсёй Еўропе. Майскія падзеі ў Германіі яшчэ больш умацавалі рэакцыю. Рэдак-

цыя „Новай Рэйнскай газеты“ вельмі добра разумела, што хутка ёй давядзецца спыніць выданне газеты. Але ў супроцьвагу хныканню дробнабуржуазных палітыкаў, „Новая Рэйнская газета“ да канца захоўвае свой бадзёры тон, сваю непрымірымасць. Перадавыя артыкулы Маркса і Энгельса заклікаюць нямецкі народ змагацца з контррэволюцыяй, не здаваць сваіх заваёў. У тон артыкулам гучаць і песні Фрэйліграта. Так, 17 сакавіка, на банкеце, прысвечаным гадавіне сакавіцкіх баёў, замест тоста, Фрэйліграт выступае з чыткай сваёй новай песні „Зоря“. Тут формай і памерам сваёй песні паэт пераймае Марсельезу. Ен гаворыць у ёй пра неабходнасць паследваць прыкладу барацьбітоў на чэрвеньскіх барыкадах. Неабходна, каб чэрвень (пролетарскае паўстанне) завяршыў справы сакавіка:

Июнь приходит, чтоб весенний,
Чтоб мартовский посев созрел.
Приди же июнь, пора свершений
Мы жаждем подвигов и дел!
Мы жаждем подвигов и дел!
Лепи же грозовые тучи
Из облаков, прозрачный пар,
И в наш позор метни удар
Разящей молнии летучей!

Рефрэн у стылі французскай марсельезы заклікае да барацьбы пад чырвоным сцягам за новую, цэльную рэволюцыю.

З прычыны ўмацавання рэакцыі „Новую Рэйнскую газету“ вельмі часта турбуюць рознымі працэсамі, прыцягваюць да суда яе рэдактароў і, нарэшце, зусім забараняюць яе выхад. Супроць рада рэдактароў узбуджаюцца судовыя справы.

19 мая 1849 года выходзіць апошні нумар „Новай Рэйнскай газеты“, № 301, увесь надрукаваны чырвонай фарбай, славуты „Чырвоны нумар“. Верш „Развітальнае слова „Новай Рэйнскай газеты“, напісаны Фрэйліґратам, як і адозва рэдакцыі да кёльнскіх рабочых пераконваюць нас у тым, што бадзёрая вера ў будучай перамозе пролетарыята не пакідае правадыроў пролетарскай рэволюцыі, што ва ўмацаванні рэакцыі яны бачаць толькі часовую з'яву, пасля якой зноў узнімецца рэволюцыйная бура. Адозва канчаецца так: „Апошнім словам іх (рэдакцыі) будзе заўсёды і ўсюды—„Вызваленне рабочага класа“.

Сугучна гэтаму і „Развітальнае слова“. Фрэйліграт уяўляе газету ў вобразе гразнага воіна, якога „забілі не ў чэсным баю“, а з-за вугла. Але і паміраючы, пераможна гучыць яе заклік—„Рэволюцыя!“ Поўная веры ў будучае, развітваецца яна, але не назаўсёды. Яна яшчэ ўваскрэсне, яшчэ стане ў рады тых, хто змагаецца.

И когда последний трон упадет,
И народ в оп'янении мести
Заплатит в борьбе последний свой счет,
Тогда будем мы снова вместе.
На Дунае, на Рейне, словом, мечом,
Народу восставшему всюду
Бунтовщица, затравленная врагом,
Я подругою верною буду.

У тон „Развітальнаму слову“ гучыць і другі, не менш вядомы верш Фрэйліграта, —„Рэволюцыя“. І ў ім паэт сцвярджае надыходзячую рэволюцыю, указвае, што ніхто і ніщто не спыніць яе, калі прыдзе для яе час. Цвёрда гучыць гордасць рэволюцыянера ў словах:

Пусть серну чистую, ее
Вы, затравив втоптали в грязь,
Пусть сворой диких палачей
Ее на казнь вели, глумясь.
И пусть, песчаный холм покрыв,
Давно могильная трава
Над ней печально шелестит,—
Но знайце вы: она жива!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
И пусть в изгнании ее
Травите вы и здесь и там
И пусть, безмолвная, она
К чужим подходит берегам
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Как встарь, она к себе
Народы радостно зовет
И ей смешны ваш жалкий гнев,
Изгнанье, пытки, эшафот.

Уплыў „Новай Рэйнскай газеты“ не вычэрпваўся толькі тымі творамі, што змяшчаліся ў самой газеце. Пад уплывам творчасці Веерта і Фрэйліграта, пад уплывам палітычных артыкулаў газеты, стваралася масавая палітычная літаратурная прадукцыя.

Так, напрыклад, у сваім артыкуле „Германская кампанія за імперскую канстытуцыю“ Энгельс прыводзіць урывак з масавай песні, якая спявалася рэспубліканскай моладдзю:

Тридцать шесть престолов сбросить надо,
Чтоб республике расчистить путь;
Рушьте-же их, братья, без пощады,
Смело пулям подставляйте грудь!

Шырока спявалася ў самой Вене песня „Дерзкий бан“, напісаная студэнтам Франклем. Гэта песня высмейвала Елагіча, харвацкага бана, які задушыў потым венскае паўстанне.

Атрымала вялікую вядомасць „Нямецкая марсельеза“, напісаная саксонскім рэволюцыйным паэтам, студэнтам Шанцам. Палка гучыць тэма барацьбы ў яго „Марсельезе“. Малады, 20-гадовы паэт з энтузіязмам заклікае народ да барацьбы з тыраніяй.

Вострепещи тиран смятенный!
Дрожи, отродье палачей!
Раздался голос угнетенных,—
Раздастся скоро стук мечей!
Поднялся весь народ горою,—
Пускай падет за строем строй,
На место них придет другой!
Еще родит земля героев!
Товарищи, к ружью! На деспотов в поход!
Вперед, вперед, чрез кровь,—рабов победный путь ведет!

Асабліва часта ў масавай паэзіі трактуецца тэма Вены. Няма амаль ні аднаго, больш менш вядомага паэта, які-б не прысвяціў гераічным барацьбітам Вены некалькі твораў. Паэт Готшаль стварае цыкл вершаў „Венскія імартэлі“: дзе разгортвае рад малюнкаў і падзей. У яго творчасці пафас злучаецца з атрутнай сатырай. Побач з гарачымі, запальваючымі вершамі, у якіх апяваюцца барацьбіты за свабоду, маюцца і сатыры, накіраваныя супроць „новых Аттил“, супроць тыранаў і іх верных лёкаяў, якія захавалі для „імператара ідыёта“ трон.

З'яўляюцца ў вялікай колькасці ананімныя рэвалюцыйныя песні. У газеце „Студэнцкі кур'ер“ быў змешчаны цэлы рад вершаў, заклікаючых знішчыць пры дапамозе гільёціны ворагаў рэволюцыі. У ананімнай „Рэволюцыйнай песні“ чытаем мы наступныя радкі:

Настанет день, настанет день,
Тот день не за горами
Дворян развесим мы везде,
Под всеми фонарями
Пусть деспот первый подойдет
Ему готова плаха,
Вздохнет страна, когда она
Увидит труп монарха,
Настанет день, настанет день,
Тот день не за горами.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
О, мой народ! Оружье сжав,
Пора подняться людям,
Глухие гулы мятежа
Уж прокатились всюду.
Настанет день, настанет день,
Тот день не за горами!

З паэтаў найбольш блізкіх па сваіх переконаннях да „Новай Рэйнскай газеты“ неабходна адзначыць Ю. Швенда і Э. Шультэ, чыё імя было названа намі раней. Швенда напісаў верш, таксама змешчаны ў „Студэнцкім кур'еры“, пад шмат значучай назвай:— „A la lantbrne“ (На ліхтар). Асабліва неабходна адзначыць яго серыю „Пролетарскіх песень“, дзе ён вельмі востра ставіць соцыяльныя пытанні. Так, у вершы „Неимущий“, ён называе буржуазію— трутнямі, якія наядаюць мёд рабочых пчол. Швенда запальвае пафасам барацьбы і нянавісці.

Эд. Шультэ асабліва быў блізкі да „Новай Рэйнскай газеты“ і да „Саюза комуністаў“. Яго рэволюцыйныя вершы асабліва выклікалі нянавісць і праследванне контррэволюцыі. Ён патрабуе ў вершы „Разряжение“ пакарання караля, патрабуе паглыблення рэволюцыі; ён з'яўляецца палкім агітатарам за справу комунізма (верш „Комуніст“).

У паэме „Погляд назад“, напісанай у апошнія дні 1848 г. ён дае надзвычай правільны аналіз хода рэволюцыі. Але ён сумуе аб тым, што рэволюцыя засталася незакончанай. Шультэ адгукаецца і на паражэнне Венгрыі цэлай серыяй вершаў. На гэту-ж тэму напісана паэма Каспара Буца. Буц таксама знаходзіўся пад уплывам

„Новай Рэйнскай газеты“. Ён быў правадыром рэвалюцыйнага паўстання ў Ізерлоне. У сваёй паэме „Венгрыя“, ён піша:

На белом свете ты одна
Еще высоко держишь знамя.
Осталась непокорена
Лишь ты одна меж всеми нами.

На паражэнне рэвалюцыі 1848 года са смуткам адгукаецца і найвялікшы палітычны паэт той эпохі, сябра Карла Маркса, Генрых Гейне. Прыкаваны цяжкой хваробай да пасцелі, Гейне не мог прымаць ніякага ўдзелу ў барацьбе „Новай Рэйнскай газеты“. Але смутак яго з прычыны разгрома рэвалюцыі перамог яго фізічныя пакуты. У радзе сатыр: „Міхель пасля сакавіка“, „Успаміны аб страшэнных днях у Крэвінкелі“, „Аслы—выбаршчыкі“, „У кастрычніку 1849 г.“ і інш. ён выразіў сваю нянавісць да душыцеляў рэволюцыі, да рэакцыі, якая спраўляла ўрачыстасць перамогі.

* *
*

У „Развітальным слове“ „Новай Рэйнскай газеты“ Фрэйліграт заявіў, што ў наступнай рэволюцыі газета, „паважаная рэволюцыянерка“, зноў стане поплеч з барацьбітамі за свабоду. Гэтыя словы ажыццявіліся. Прынцыпы „Новай Рэйнскай газеты“ былі адноўлены ў большэвіцкай „Искре“, „Правде“ і дарэволюцыйнай „Звезде“, у такіх газетах брацкіх компартый“, як „Юманітэ“, „Ротэ Фане“ і інш.

Маркс і Энгельс надзвычай цанілі паэтаў, умелі іх прыцягваць і выхоўваць у духу рэволюцыйнай стойкасці, прынцыповасці, непрымірымасці да палітычных ворагаў. Таксама выхоўваліся і выхоўваюцца зараз кадры рабочых паэтаў і празаікаў „Звездой“, „Правдой“, „Роте Фане“, „Юманітэ“.

Літаратурная палітыка „Новай Рэйнскай газеты“ высока ўзняла сцяг палітычнай паэзіі. Наперакор лямантам розных эстэтаў, „Новая Рэйнская газета“ давяла, што паэзія можа і павінна быць звязана з палітычнай барацьбой; яна ўплывала на высокую мастацкую каштоўнасць палітычнай паэзіі.

Дзевяноста год аддзяляюць нас ад „Новай Рэйнскай газеты“. За гэты час адбылася Вялікая Соцыялістычная Рэволюцыя, упершыню ў гісторыі класавай барацьбы стварыўшая пролетарскую дзяржаву. Прынцыпы „Новай Рэйнскай газеты“, праграма „Саюза комуністаў“. „Комуністычны маніфест“ з'яўляюцца сцягам сусветнай рэволюцыі. І з вялікай любоўю працоўныя ўсяго свету захоўваюць памяць аб першым баявым органе пролетарскай партыі аб „Новай Рэйнскай газеце“, якая заклала асновы большэвіцкага пролетарскага друку.

---

*В. Вольскі*

# МАРШАЛ ВАРАШЫЛАЎ У ТВОРАХ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ ПАЭЗІІ

(Агляд)

Абаронная тэматыка пачынае займаць усё больш значнае месца ў творах беларускай совецкай паэзіі. Пытанне абароны соцыялістычнай бацькаўшчыны, героіка грамадзянскай вайны, быт і вучоба Чырвонай Арміі знаходзяць сабе ў апошні час досыць шырокае адлюстраванне ў творчасці беларускіх совецкіх паэтаў. Тэматыка абароны радзімы ахапляе ўсё большае кола паэтычных жанраў.

Вершы, песні, паэмы, прысвечаныя Чырвонай Арміі, яе слаўным байцам і камандзірам, знаходзім мы ў творчасці амаль усіх паэтаў БССР.

Вялікая колькасць паэтычных твораў, прысвечана непасрэдна правадыру Чырвонай Арміі,—жалезнаму наркому абароны, маршалу Варашылаву. Гераічны вобраз палкаводца рэволюцыі даўно ўжо натхняе нашых паэтаў.

З ліку твораў, прысвечаных маршалу Варашылаву і напісаных на працягу апошніх некалькі год, асобнае месца займаюць „12 песень пра нашу непераможную Чырвоную Армію, пра яе творца і натхніцеля вялікага Сталіна, пра яе палкаводца Клімента Варашылава“.

Пад гэтай агульнай назвай аб'яднаны вядомыя творы беларускіх паэтаў, а таксама і новыя іх вершы і песні, прысвечаныя Чырвонай Арміі.

„12 песень“, таксама як і не менш вядомае „Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну“, карыстаецца шырокай і заслужанай папулярнасцю сярод народных мас БССР. У гэтых песнях знайшла сабе мастацкае адлюстраванне глыбокая і шчырая любоў беларускага народа да сваёй Чырвонай Арміі, да яе кіраўніка—маршала Варашылава, да правадыра народаў вялікага Сталіна.

Паэтычныя асаблівасці „12 песень“ арганічна звязаны з лепшымі прыёмамі і традыцыямі народнай песеннай лірыкі. Удалае спалучэнне палітычнага зместу песень, высокай ідэйнай накіраванасці з мастацкімі асаблівасцямі вуснай народнай паэтычнай творчасці, абумовілі вялікі поспех гэтых твораў. Неаднойчы ўжо гаварылася аб тым, што, сіла „12 песень“—у іх народнасці, у простай, жывой і выразнай

мове, у народных эпітэтах і параўнаннях, у непасрэднасці маляўнічых вобразаў, у яснасці фарбаў і тонаў, у агульным, сапраўды народным каларыце.

Элементы народнай паэзіі адчуваюцца асабліва моцна і арганічна ў такіх песнях, прысвечаных маршалу Варашылаву, як „Быў слёсар луганскі", „Раскажы, як Варашылаў вёў рабочых панства біць", „Сам таварыш Варашылаў прынімаў парад ваенны" і інш.

У песні „Быў слёсар луганскі" апяваецца слаўная рэволюцыйная маладосць чырвонага маршала.

Легендарны жыццёвы шлях К. Е. Варашылава захапляў і захапляе выбражэнне народных мас. Народ ведае, што пераможнае завяршэнне гэтага шляха ад будкі чыгуначнага вартаўніка, у якой нарадзіўся Клім Варашылаў, да непераможнага маршала магутнай соцыялістычнай дзяржавы, было магчыма толькі ў нашых умовах, ва ўмовах, створаных Кастрычнікам. Народ бачыць у Кліме Варашылаве яскравае пераможнае ўвасабленне тых невычарпальных сіл, здольнасцей і талентаў, крыніцай якіх з'яўляюцца глыбачайшыя нетры народных мас нашай радзімы. Вось чаму так дорага народу мінулае таварыша Варашылава, вось чаму так цікавяцца масы юнацтвам, маладосцю і першымі рэволюцыйнымі крокамі свайго маршала.

У песні Янкі Купалы „Быў слёсар луганскі" пяецца пра тое,—

Як вырас з луганскага слёсара маршал
Як стаў ён любімым савецкім наркомам.

Вобраз тав. Варашылава ў выглядзе маладога, вясёлага рабочага набывае тут алегарычнае значэнне: малады слёсар куе для народа волю, сваімі спевамі ён абуджае народ да барацьбы за волю, за лепшую будучыню:

І слухалі песню
Заводы і бор,
Імчаў яе вецер,
Адносіў віхор.
. . . . . .
Біў молат магутна,
Як гора, як гнеў,
Кавадла звінела
І молат звінеў.

І кузня звінела,
І слухала даль...
І выкаваў волю,
Як іскру, як сталь.

Нібы працягам гэтай песні з'яўляецца другая песня Янкі Купалы з гэтага цыклу „Раскажы, як Варашылаў вёў рабочых панства біць". У ёй апяваецца мінулае К. Е. Варашылава ў часы грамадзянскай вайны. Расказ пра барацьбу тав. Варашылава на чале партызанскіх атрадаў супроць нямецкіх акупантаў на Украіне ўвасоблены ў форму народнай калыханкі, якую спявае свайму маламу сыну беларуская маці-калгасніца:

Заспявала калыханку,
Як збіраўся рад у рад
За ракою, за Луганкай
Варашылаўскі атрад.

Выцiралi ўпотай слёзы
Непаслушныя жанкі
Камандзір—луганскі слесар
Аглядаў браневікі.

Добра помніць Дубавязка
Як пакінуўшы майдан
Уцякалі немцы ў касках
Ад луганскіх партызан;

Як нязломнаю калонай,
Пад шрапнельны свіст і звон,
Варашылаў і Будзённы
Вялі войска цераз Дон.

Беларускія народныя масы добра ведаюць, каму абавязаны яны сваім вызваленнем ад варожых акупацый. Яны ведаюць, што барацьба на Украіне мела непасрэднае дачыненне і да Беларусі. Лёс беларускага народа вырашаўся не толькі ў барацьбе Чырвонай Арміі і беларускіх партызанскіх атрадаў супроць палякаў на Заходнім фронце, але таксама і на палях і раўнінах Украіны, у данскіх стэпах і ўзгор'ях Паўночнага Каўказа. Перамогі на поўдні, над нямецкімі акупантамі, над рускімі белагвардзейцамі, над польскімі драпежнікамі і іх прадажнай агентурай — петлюраўскімі бандамі, забяспечылі стварэнне і развіццё Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, таксама як і непасрэдная барацьба беларускіх працоўных мас супроць сваіх адвечных ворагаў — польскіх паноў. Гэта непасрэдная і арганічная сувязь паміж барацьбою працоўных розных нацый на розных франтах супроць аднаго агульнага ворага выразна падкрэсліваецца ў песні.

Беларускі народ добра памятае, як уцякала польская шляхта ад бязлітаснага, нястрымнага націску Чырвонай конніцы пад кіраўніцтвам Варашылава і Будзённага:

Беларускія загоны,
Не забудуцца й яны,
Як ад конніцы чырвонай
Беглі польскія паны.

Калыхаючы сына, спяваючы яму пра Варашылава, маці-калгасніца навучае:

Слава нашага наркома
Прагрымела з краю ў край...
Будзь-жа й ты, сынок, свядомы,
Нам на радасць падрастай.

Будзь адважным, мужным сынам,
Падрастай на ўцеху ўсім,
Беражы сваю краіну,
Як луганскі слесар Клім.

Маршал Варашылаў сам выйшаў з народных мас. У арганічнай, штодзённай сувязі яго з масамі, у выключнай папулярнасці яго ў радах Чырвонай Арміі і сярод самых шырокіх пластоў насельніцтва, сярод усіх народаў СССР заключаецца сіла тав. Варашылава, як палкаводца. Яго прастата і даступнасць вядомы ўсім. Яны выклікаюць

адпаведнае пачуццё глыбокай прыхільнасці і шчырай сімпатыі з боку народных мас нашай краіны. Гэтыя пачуцці да Варашылава знайшлі сабе асабліва моцнае і выразнае адлюстраванне ў вершы Янкі Купалы „Сам таварыш Варашылаў прынімаў парад ваенны", уключаным таксама ў цыкл „12 песень".

У народных тонах і фарбах, проста, але моцна, яскрава і выразна, малюе Янка Купала паэтычны вобраз непераможнага кіраўніка Чырвонай Арміі. Воблік маршала Варашылава паўстае перад намі ў шчырых і непасрэдных словах бясхітраснага апавядання чырвонаармейца сваёй каханай:

— Ды скажу табе я, мілай,
Быў дзянёк, ды няштодзенны:
Сам таварыш Варашылаў
Прынімаў парад ваенны.

Невысокі сабе ростам,
Невысокі і не нізкі,
А такі вясёлы, просты,
А такі прыветны, блізкі.

Пачуццём гарачай любові і адданасці роднаму маршалу Кліму прасякнуты народныя масы. Легендарны вобраз любімага наркома жыве ў народнай свядомасці, абкружаны арэолам славы. Для маладых чырвонаармейцаў ён з'яўляецца ўзорам для пераймання, прыкладам для ўдасканалення:

А свой погляд, свой юначы,
Калі кіне, бы зарніца,—
Сэрца з радасці заскача,
Кроў адвагай забурліцца.

Адным словам, свой брат родны,
Так і хочаш, мая Каця,
Быць яго дастойным, годным,
За яго жыццё аддаці.

Шчырасцю і непасрэднасцю пачуцця насычаны гэтыя радкі.

У творчай фантазіі народа воблік першага маршала краіны соцыялізма ўпадабляецца казачнаму герою. Нават конь яго незвычайны, легендарны, багата расквечаны яркімі фарбамі народнага выабражэння:

Конь пад ім—ну, вярнігора!
А як скача, як гарцуе!
Ён вачыма лічыць зоры,
Ён вушамі вайну чуе.

Вайну чуе, броў не хмура,
Толькі бліскаюць падкоўкі,
Бо яздок на ім, што бура,
З віхрам пойдзе ў перагонкі.

І вось, нарэшце, заключныя радкі гэтага верша, поўныя бязмежнай гордасці і давер'я:

У міжбур'і з ім жыць міла,
Лёгка-ж будзе і ў паходзе.
Во, які наш Варашылаў!
Во, які наш палкаводзец!

У гэтым каларытным вершы з вялікай эмацыяльнай сілай і мастацкай пераканальнасцю выяўлена велізарная любоў беларускага народа да сваёй доблеснай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, да яго любімага, авеянага легендарнай славай палкаводца.

Матывы, якія гучаць з такой паэтычнай выразнасцю ў прыгаданых вышэй радках Янкі Купалы, знаходзім мы амаль ва ўсіх вершах нашых паэтаў, прысвечаных маршалу Варашылаву.

Вялікая колькасць гэтых вершаў звязана з выбарамі ў Вярхоўны Совет СССР. Неабходна адзначыць, што пісьменнікі БССР прынялі актыўны ўдзел у велізарнай агітацыйна-прапагандысцкай рабоце, якая разгарнулася ў сувязі з выбарамі. Мастацкае слова адыграла ў падрыхтоўцы да выбараў немалую ролю. Пісьменнікі ўдзельнічалі ў ёй сваімі нарысамі пра лепшых людзей краіны—кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР, сваімі вершамі і непасрэднымі выступленнямі на перадвыбарчых сходах. Тут можна прыгадаць між іншым, некалькі вершаваных лозунгаў, створаных да перадвыбарчай кампаніі паэтамі П. Броўкам і П. Глебкам:

Самая моцная Армія—наша,
Ею камандуе сталінскі маршал.

---

Армія, танкі—за радам рад.
Клім Варашылаў—наш кандыдат.

---

Кожны шчаслівы і кожны рад:
Клім Варашылаў—наш кандыдат.

---

Каб мірна, спакойна квітнела радзіма—
Мы галасуем за маршала Кліма.

---

За Варашылава, нашага друга,
Мы галасуем усёю акругай.

„Выбары ў Вярхоўны Совет СССР паказалі маральна-палітычнае адзінства совецкага народа, яго высокую адданасць ідэям комунізма, яго маналітную спаянасць вакол партыі Леніна—Сталіна, яго бязмежны патрыятызм, бязмежную любоў да сваёй бацькаўшчыны“,— пісала „Правда“ ў перадавым артыкуле ад 11 лютага 1938 года.

Гэтыя моманты знайшлі сабе адлюстраванне ў вершах беларускіх совецкіх паэтаў, напісаных у сувязі з перадвыбарчай кампаніяй.

Шматлікія паэтычныя творы, апублікаваныя ў гэты час, сведчаць аб тым, што нашы паэты могуць хутка, аператыўна адгукацца на важнейшыя падзеі грамадскага жыцця і ствараць палітычныя вершы высокай паэтычнай якасці.

Амаль усе гэтыя вершы прасякнуты адной думкай, адным пачуццём. У іх аднаўляюцца ў паэтычнай форме гераічныя традыцыі часоў грамадзянскай вайны і барацьбы з інтэрвентамі. У іх апяваецца магутнасць Чырвонай Арміі—надзейнай абароны мірнай працы Совецкага Саюза. У іх гаварыцца пра пільную ахову непа-

рушных межаў совецкай краіны, пра гатоўнасць народа да будучых баёў з ворагамі соцыялістычнай бацькаўшчыны. У кожнага з паэтаў па-рознаму, у своеасаблівай форме, у розных варыяцыях, але ва ўсіх з аднолькавай накіраванасцю гучаць ідэі абароны бацькаўшчыны.

З вялікай радасцю сустрэў увесь беларускі народ паведамленне пра той гонар, які аказаў тав. Варашылаў нашай рэспубліцы сваёй згодай балатыравацца ў дэпутаты Совета Саюза па Менскай выбарчай акрузе.

Гэта вялікая радасць беларускага народа ўвасабляецца ў вершы Янкі Купалы „Нашаму дэпутату“:

Ї песні, і музыка, й людзі гамоняць
Ад фабрык да фабрык, ад хат і да хат.
Народ беларускі шчаслівы сягоння;
Клімент Варашылаў яго дэпутат.

Беларускі народ лічыў вялікім гонарам аддаць свае галасы за маршала Кліма. Сваім аднадушным галасаваннем 12 снежня 1937 г. ён даказаў усяму свету сілу тых пачуццяў, якія звязваюць яго з Чырвонай Арміяй і яе правадыром:

Народ усім сэрцам, як роднага брата,
Шануе і любіць яго па над свет,
Ї сэрца аддасць за свайго дэпутата,
Пасла-дэпутата ў Вярхоўны Совет.

Клім Варашылаў—стары, выпрабаваны друг беларускага народа і беларускі народ ганарыцца гэтай дружбай. Ён ганарыцца той перавагай, якую аказаў маршал Клім беларускай сталіцы, згадзіўшыся выставіць у Менску сваю кандыдатуру:

У нашым Совецкім Саюзе не мала,
Хто нам пазайздросціць,—вось так—з дабраты,—
Дык ведайце: маршал даўно ўжо і стала
Любіў Беларусь нашу й любіць, браты!

Калі ён бывала да нас на манеўры
Прыедзе агледзець капцы, рубяжы,
О колькі той радасці, колькі той веры,
Што вораг не пройдзе ўжо нашай мяжы!

Паважна старыя вітаюць наркома!—
Падносяць хлеб-соль, караваі і мёд,
Ї кветкі—вяночкі—дзяўчаты, вядома,—
Падносяць яму на шчаслівы прыход.

Народ ведае, што нашай краіне пагражаюць лютыя ворагі, але ён упэўнены ў сіле і магутнасці сваёй Чырвонай Арміі. У кожную хвіліну гатовы ён даць адпор варожаму нападу:

Краса нашай Арміі слаўнай Чырвонай,
Мы пойдзем з табой у паходы не раз!
Бо час як надыйдзе і гром бітвы ўдара,
Ї трубы затрубяць, паклічуць на бой,—
Супроць банд фашысцкіх, пагромаў, пажараў,
Народ беларускі паўстане з табой.

Імя Клімента Ефрэмавіча заўсёды будзе жыць у сэрцах беларускага народа:

А сонейка будзе ўсходзіць, заходзіць,
Плысці будуць рэчкі, шумець б  дзе бор,
Жыць будзе ў свабодным, шчаслівым народзе
Імя палкаводца ад зорак да зор.

Цікавыя бытавыя малюнкі дае нам Купала ў двух сваіх вершах для дзяцей пад агульнай назвай „Выбары“.

Малая Галінка расказвае, як яна прасіла сваіх бацькоў дазволіць ёй прыняць удзел у галасаванні, і як маці адмовіла ёй, сказаўшы, што яна сама разам з бацькам панясе свой голас „за Сталіна, за сонца“, а Галінцы трэба пачакаць, пакуль яна падрасце.

— Ды йшчэ кажа, што малая,
Урны не дастану...
Што-ж такое?—пачакаю,
Пакуль большай стану.

Пройдзе зімка, пройдзе лета,
Як сказаці слова,—
Дачакаюся я гэтак
І выбараў новых.

Будуць рады татка, мама,
Калі падрасту я,
І за Сталіна таксама
Я прагаласую.

У другім вершаваным малюнку для дзяцей старая бабулька, якая звычайна ўвесь час „сядзіць, не злазіць з печкі“, збіраецца цяпер кудысьці з хаты, не гледзячы на тое „што баляць ёй грудзі“. Сямігадовы ўнучак Данілка просіць, каб яна засталася ў хаце, але старая гаворыць, што ідзе галасаваць за Варашылава.

Варашылаву свой голас
Аддам з сэрцам разам.

Данілка адразу згаджаецца:

— Варашылаву?—Я знаю,
Сам я з ім вітаўся.—
Ён, калі былі манеўры,
У нашым быў калгасе.

Ён адважны, дужы, смелы,
Чалавек вядомы!
Галасуй, ідзі, бабулька,
Я пабуду дома.

У слаўным імені маршала Кліма ўвасабляецца ў вачах народа ўрачыстасць соцыялістычнай рэволюцыі. У ім увасабляецца несакрушальная магутнасць нашай доблеснай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. Пад яго выпрабаваным кіраўніцтвам Чырвоная Армія зорка і нястомна ахоўвае ад ворагаў свяшчэнныя, недатыкальныя рубяжы вялікай краіны соцыялізма. Чырвоная Армія на чале з

сваім кіраўніком заўсёды на варце. Пра гэта ў мужных урачыстых тонах піша Кандрат Крапіва ў сваім вершы „Жалезны маршал“.

Спакойна сей, спакойна жні,
Даследуй ведаў глыбіні,
Працуй спакойна за станком:
На варце працы друг-нарком—
Ён любы нам і страшны ім,
Жалезны маршал, родны Клім.

Пад спевы матчыны ў цішы
Спакойна спіце, малышы.
Салодкі ваш чароўны сон
Ад ворагаў вартуе ён—
Ён любы нам і страшны ім,
Жалезны маршал, родны Клім.

Чырвоная Армія, выхаваная на гераічных традыцыях грамадзянскай вайны, узброеная першакласнай ваеннай тэхнікай і высокім аператыўна-тактычным майстэрствам, абкружаная любоўю народа, натхнёная высокімі ідэаламі комунізма, з'яўляецца надзейнай абаронцай мірнага соцыялістычнага будаўніцтва. Чырвоная Армія хоча міра, яна ахоўвае мір, але ў любы момант гатова яна ў поўным узбраенні сустрэць ворага, калі ён адважыцца напасці на нашы граніцы, парушыць мірную творчую працу савецкага народа. Тады вораг будзе знішчаны:

Хай толькі вораг нападзе,
Яму ні ў небе, ні у вадзе
Не будзе літасці нідзе:
У люты бой нас павядзе
Ён, любы нам і страшны ім,
Жалезны маршал, родны Клім.

Яму, жалезнаму маршалу, роднаму Кліму, нясе паэт свой голас у дзень выбараў у вярхоўны Совет:

Саратнік Сталіна і друг,
Граза фашысцкіх псоў і слуг,
Нязломны у працы і ў баю,—
Яму я голас аддаю:
Ён любы нам і страшны ім,
Жалезны маршал, родны Клім.

Значная колькасць паэтычных твораў, прысвечаных Варашылаву, напісана ў форме песень, але не ўсе яны адпавядаюць цалкам сваёй назве.

Сапраўдная песня павінна быць простай, выразнай, эмацыянальнай. Акрамя папулярнасці зместа, блізкага і зразумелага народным масам, вялікае значэнне набывае ў песні рытмічнасць тэксту. Тэкст песні павінен быць разлічаны не для чытання, а для спеваў. Паслядоўнасць і сугучнасць слоў павінна быць такая, каб яны лёгка вымаўляліся і хутка засвойваліся. Радкі павінны быць кароткія, думкі—сціслыя, трапныя, лагічныя. Сапраўдная народная песня любіць сталыя эпітэты і простую выразную рыфму, яна не можа абыйсціся без паўтораў і прыпева.

Нам здаецца, што якраз ґэтыя якасці песеннага ладу ўдала ўвасоблены ў чырвонаармейскай песні К. Крапівы „Пра Кліма легендарнага“.

Сваім рытмам гэта песня нагадвае вядомую чырвонаармейскую песню пра конніцу Будзённага.

Байцы палка ўдарнага,
Раўняйцеся ў страю.
Пра Кліма легендарнага
Я песню запяю.

Імя яго нам дарога,
І клятву мы далі:
Як ён, біць будзем ворагаў
Совецкае зямлі.

У песні Крапівы ўспамінаюцца перамогі тав. Варашылава на франтах грамадзянскай вайны, адзначаецца блізасць яго да Сталіна:

Ён побач быў са Сталіным
У дні цяжкіх баёў.—
Краіну ратавалі нам
З драпежных кіпцюроў.

Былі баі вялікія—
Царыцын і Данбас,
Дзе Клім граміў Дзенікіна
За волю і за нас.

Палякаў гнаў ён конніцай,
Як гоніць ліст віхор,
Навек панам запомніцца
Пад Кіевам адпор.

З Будзённым коннай лаваю
На Врангеля ішоў,
Пакрыў бяссмертнай славаю
Сцягоў чырвоных шоўк.

Моцна, баявым уздымам гучаць апошнія радкі песні:

За славу легендарную
Байца-правадара,
За подвігі, за армію
Чырвоную— ура!

Імя яго нам дарага,
І клятву мы далі:
Як ён, біць будзем ворагаў
Совецкае зямлі.

У песенным ладзе напісаны верш Пятруся Броўкі „Любімы нарком“:

Мы можам спакойна
За працаю жыць.
Ён моцна на варце
Радзімы стаіць.

Праходзіць граніцай,
Калгасным сялом
Клімент Варашылаў,
Любімы нарком.

Мы горача любім
Наркома свайго.
Мы ўсе галасы
Аддамо за яго.

У другім сваім вершы—„Радасны дзень“ П. Броўка піша пра 12 снежня 1937 года, дзень выбараў, калі ва ўсіх мясцовасцях вялікага неабсяжнага Совецкага Саюза народ ішоў аддаць свае галасы за Сталіна, за партыю, за лепшых сыноў сваёй соцыялістычнай радзімы. Паэт піша пра росквіт краіны соцыялізма:

Ёй красавацца і расці
Вялікай, дужай, маладой,
Хай толькі хто падыме меч,
Не вернецца назад,

Бо будзе пільна вартаваць
Магутны росквіт і спакой
Жалезны маршал, слаўны Клім,
Наш менскі дэпутат.

Народны паэт БССР Якуб Колас прысвяціў маршалу Варашылаву свой верш „Парад“. Маршал аглядае ўзброеныя сілы Совецкага Саюза. Бязмерна ўзрасла магутнасць Чырвонай Арміі:

Грознай лавай мкнуць тачанкі,
Сотні танкаў, цьма гармат.,.
Ці гадаў, прастор Луганкі,
Ты пра гэтакі парад?

З такой сілай можна смела глядзець у будучыню:

Хіба-ж пэўным быць не можна
З грознай сілаю такой?
Маршал бачыць час трывожны
І ў душы яго спакой.

Верш „Варашылаўскія паходы“ з'явіўся значным паспехам для паэта Міколы Хведаровіча. Гэта—лепшы з яго паэтычных твораў. Радкі верша, хаця і не ўсюды роўныя па якасці, прасякнуты баявым пафасам. Аўтар апявае ў сваім вершы героіку грамадзянскай вайны, героіку цяжкой, самаадданай барацьбы супроць шматлікіх ворагаў за совецкую радзіму. Ён піша пра баявыя дні вялікіх паходаў:

То дні былі ярчэй агня,
Мы марай сэрца грэлі.
Два фунты сена на каня,
На ўзвод—па тры шынелі.

Ніхто спагады не прасіў,
Хоць тыднямі не спалі.
Нас рэзаў голад, тыф касіў
Вастрэй дамаскай сталі.

Няма на свеце тых пакут,
Што мы не спрабавалі.
Сям'ю пакінуўшы, свой кут—
Радзіму ратавалі.

Нас вёў тады жалезны Клім,
Народны палкаводзец,
Ён родным братам быў усім
У бойцы і паходзе.

Адгрымелі баі, народ будуе сваё шчаслівае жыццё і ўспамінае недалёкае мінулае:

Пяе ў песнях наш народ
Вялікай справы былі.
Навек запомніць белы зброд,
Як мы тады іх білі.
Да самай смерці помніць ім
Як з-пад Бярозы гналі...
Мы за цябе, наш родны Клім,
Жыццём галасавалі.

Слава народнага палкаводца грыміць па ўсяму свету:

Яна грыміць праз дваццаць год,
У творчасці імклівай,
Пяе совецкі наш народ,
Багаты і шчаслівы.

І цяпер, праз дваццаць год, у мірныя часы соцыялістычнага будаўніцтва, права служыць у Чырвонай Арміі, права са зброяй у руках ахоўваць пад кіраўніцтвам маршала Варашылава мірную працу народа, з'яўляецца для совецкай моладзі вялікім гонарам і вялікай радасцю.

Гэта—справа пачэсная і адказная. Чырвоная Армія і яе байцы—сыны народа, абкружаны ўсеагульнай увагай і клопатам. Чырвоная Армія— школа, якая выхоўвае моладзь, дае веды, культуру. Таму так ахвотна ідзе совецкая моладзь у рады Чырвонай арміі. Лепшых сваіх сыноў пасылае народ на службу да маршала Кліма:

Паслаў ён да цябе сыноў—
Байцоў дывізій нашых,
Да новых штурмаў і баёў
Рыхтуй іх, родны маршал.
Ваякі будуць, хоць куды
Стаханаўцы па зброі
Вазьмі іх дужых маладых—
Усе яны героі.

Беларускі народ жыве на рубяжы з капіталістычным светам, на рубяжы з панскай Польшчай. Адтуль пагражае совецкаму народу небяспека будучай вайны. На гэта ніколі не забываюцца народныя масы прыгранічнай БССР:

Як пагранічнік, рубяжы
Ахоўваем мы сёння.
А трэба, родны, нам скажы—
І сядзем мы на коней,

З сынамі станем мы у строй,
Клінкі бліснуць зарніцай.
Нахічэванскі ўспомнім бой
І слаўны наш Царыцын.

Падыме зброю ўвесь народ
Магутнае дзяржавы.
Ты павядзеш нас у паход,
Вялікі маршал славы.

Паэт Пятро Глебка ў сваёй „Песні пра наркома" таксама ўспамінае „мінулыя годы, суровыя бітвы і нашы паходы". Ён успамінае часы, калі—

За шчасце людское, за волю Радзімы—
На ворагаў лютых—да радасных мэт
Вёў нашую армію маршал любімы
І наш кандыдат у Вярхоўны Совет.

Пятро Глебка заканчвае свой твор радкамі, у якіх выяўляецца гатоўнасць народных мас да будучых баёў з ворагамі радзімы:

І хай паспрабуюць бандыты напасці
На сонечны край чалавечага шчасця,
На мірную працу, палі і заводы,—
Ізноў мы ўспомнім былыя паходы
І нас на змаганне за волю радзімы—
На ворагаў лютых да радасных мэт
Усіх павядзе палкаводзец любімы
І наш кандыдат у Вярхоўны Совет.

Ідэямі абароны бацькаўшчыны, пільнай аховы дзяржаўных межаў, прасякнуты верш Аркадзя Куляшова „Мы жывем на граніцы". Дзень выбараў у Вярхоўны Совет паэт называе днём „шчаслівага светлага свята":

На шчаслівае, светлае свята
Выйдзе нашай акругі сям'я.
Кожны зноў урачыста і ўзнята
Прачытае наркома імя.
Бачым: танкі праносяцца міма
Самалёты рыхтуюцца ў бой,
Гэта армія нашай радзімы
Засланяе граніцу сабой.

Адчуванне прымежнага становішча Совецкай Беларусі, адчуванне адказнасці за непарушнасць радзімы праходзяць праз увесь верш Куляшова. Асабліва выразна гучыць яно ў канцоўцы:

За радзіму сваю дарагую,
Калі трэба—жыццё аддадзім.
Мы жывем на граніцы,
Якую
З намі разам ахоўвае Клім.

У вершы „Авеяны славай“ паэт Андрэй Александровіч піша пра тыя пачуцці, з якімі грамадзяне беларускай сталіцы неслі свае галасы за авеянага славай неператожнага маршала:

Мы ўсе, як адзін, галасы аддамо
Таму, хто разбіў векавое ярмо.
Як шчасце людское, як сонечны свет,
Ен першым увойдзе ў Вярхоўны Совет,
Як друг і як верны саратнік, за ім—
Увойдзе авеяны славаю Клім.

Яму—легендарнаму большэвіку—
З любоўю народ паціскае руку.
Народ свае шчырыя думкі сабраў,
Яму, дэпутату свайму, перадаў:
Хай мудраму з мудрых раскажа пра нас,
Праўдзівым і радасным будзе расказ.

Пра вялікі ўздым, з якім рыхтаваліся да выбараў у Вярхоўны Совет працоўныя Менска, пра радасць галасаваць за Варашылава з натхненнем пісаў незадоўга да сваёй смерці заўчасна памёршы паэт Алесь Гурло:

З нас сёння кожны агітатар:
Мы ціснем горача руку
Табе, ад Менска дэпутату
І лепшаму большэвіку!

(З верша „Наркому Варашылаву“)

У вершы „Варашылаву слава“, напісаным у народным стылі, паэт Анатоль Астрэйка называе наркома абароны „сынам беларускага народа“

То не гучных гудкоў адгалоскі
Рэхам звонкім калышуць сусвет,—
Свайго сына народ беларускі
Пасылае ў Вярхоўны Совет.
Гэта жыта схіляецца ў пояс,
Гэта зоры заззялі з Крэмля,
Аддае за наркома свой голас
Беларусі совецкай зямля.

. . . . . . . . . . . . . .

Славіць Сталіна ў песнях, былінах,
Славіць радасці светлы прыход,
Славіць сталінца слесара Кліма
Беларускі шчаслівы народ.

Маршал Варашылаў амаль кожны год наведвае Беларусь, кіруючы манеўрамі Беларускай ваеннай акругі. Беларускі народ не аднойчы сустракаў на сваёй зямлі славутага палкаводца. Гэтай тэме прысвечаны верш Міхася Калачынскага „Сустрэча наркома“.

Конь, як птушка, ляціць па гасцінцы,
Нібы снег, капыты зіхацяць.
Сабіраюцца ўсе на дзядзінцы
Дарагога гасця сустракаць.

Завязаўшы фартух каляровы,
Выйшла маці наперад другіх,
Што на пост баявы, ганаровы,
Пасылала сыноў дарагіх.

Ветлай радасцю свецяцца вочы,
Усміхаецца горда яна,—
Запытаць Варашылава хоча
Аб армейцах—любімых сынах.

У канцы верша паэт заклікае:

Па ўсім краі ён добры вядомы.
Палкаводзец і наш кандыдат.
Абярэм дарагога наркома
Аднадушна у Вярхоўны Урад.

Варта ўспамянуць таксама і верш маладога, пачынаючага аўтара Аркадзя Гейне „Сустрэча з маршалам“.

Верш напісаны для дзяцей. Хлопчык сніць, як пад'ехаў да яго маршал і ўзяў да сябе на каня:

Вось яго на рукі
Да сябе ўзняў,
Пасадзіў з усмешкай
На свайго каня.
І яны няспынна
На кані удвух
Праз палі імчацца—
Захапіла дух.
Хлопчыку здаецца:
Стаў вялікім ён.
За яго плячыма
Вырас эскадрон.
Ён вядзе атрады
Скрозь агонь і дым,
Як вадзіў калісьці
Варашылаў Клім...
Ворага знішчае
Ён клінком сваім,
Як знішчаў калісьці
Варашылаў Клім...

Верш напісаны проста, лірычна, шчыра.

Ва ўсіх прыгаданых намі вершах адлюстроўваюцца з большай ці меншай сілай мастацкага ўздзейнічання тыя пачуцці, якімі ахоплены шырокія масы беларускага народа.

Клімент Ефрэмавіч Варашылаў, блізкі і дарагі сэрцу народных мас нашай краіны.

„Усё Ваша жыццё звязана з жыццём і барацьбой партыі Леніна—Сталіна за ідэалы чалавецтва,—пісалі ў пісьме да тав. Варашылава працоўныя чырвонай сталіцы БССР.—Усё ваша жыццё кроўна звязана з жыццём і барацьбой рабочага класа і працоўных за соцыялізм у нашай краіне. Мы цвёрда ўпэўнены, што і ў далейшай рабоце, як дэпутат вярхоўнага органа нашай улады, Вы з яшчэ большай страснасцю будзеце змагацца за нашу агульную справу—за справу Леніна—Сталіна, за комунізм. Вы—верны сын

слаўнай партыі Леніна—Сталіна. Вось чаму, аддаючы голас за Вас, у Вашай асобе мы галасуем за нашу партыю, за ленінска-сталінскі Цэнтральны Камітэт, за нашага дарагога і горача любімага таварыша Сталіна".

У народнай свядомасці вобраз маршала Варашылава неадрыўна і арганічна звязаны з комуністычнай партыяй, з яе непахісным ЦК, з правадыром і настаўнікам народаў, вялікім Сталіным. І нездарма ў заключных строфах „12 песень пра Чырвоную Армію" пяецца:

Падымем-жа чаркі сям'ёю народаў
За армію нашу, за грозную сілу,
За маршала нашых геройскіх паходаў, —
Хай доўгія годы жыве Варашылаў!

Падымем-жа чаркі за партыю нашу,
Што нас прывяла да здабыткаў вялізных,
За мудры ЦК, баявы і бясстрашны,—
Хай славіцца Ленінскі штаб большэвізма!

Падымем-жа самыя поўныя чаркі
За вобраз, раскрыўшы нам светлыя далі,
За слаўнае імя, за геній наш яркі,—
Хай славіцца Сталін!

— НЯХАЙ ЖЫВЕ СТАЛІН!

---

# ХРОНІКА

*28 сакавіка споўнілася 70 год з дня нараджэння вялікага рускага пісьменніка Аляксея Максімавіча Горкага.*

■ *У Менскім Доме Чырвонай Арміі* праведзены лекцыі і гутаркі аб значэнні Горкага ў рускай літаратуры і аб літаратурных творах, напісаных ім у пасля-кастрычніцкія гады.

■ Гарадская бібліятэка імя Пушкіна правяла канферэнцыю чытачоў. Бібліятэка імя Пушкіна, якая абслугоўвае перасоўкамі многія прадпрыемствы і калгасы, уключыла ў гэтыя перасоўкі павялічаную колькасць кніг Горкага, на якія вельмі вялікі попыт. Аўтамабіль-бібліятэка дзяржбібліятэкі імя Леніна абслугоўвае горкаўскай літаратурай калгасы.

■ *Байцы, камандзіры і палітработнікі* часткі, дзе камісарам тав. Начынкін, да 70-годдзя з дня нараджэння вялікага рускага пісьменніка Горкага правялі некалькі літаратурных вечароў. 20 сакавіка ў частцы адбыўся агульны сход ваеннаслужачых разам з сем'ямі начскладу. Пасля даклада аб жыцці і дзейнасці А. М. Горкага, з чыткай твораў вялікага рускага пісьменніка выступілі чырвонаармейцы і камандзіры. 22 сакавіка ў частцы арганізавана спецыяльная радыёперадача аб жыцці і літаратурнай дзейнасці А. М. Горкага.

■ *У сувязі з 70-годдзем з дня нараджэння вялікага рускага пісьменніка А. М. Горкага* з 20 па 30 сакавіка на ўсіх прадпрыемствах, установах і навучальных установах Менска, згодна рашэння гаркома КП(б)Б, былі праведзены даклады, гутаркі, урачыстыя сходы, прысвечаныя памяці класіка пролетарскай літаратуры.

22 сакавіка ў доме партыйнага актыва адкрылася выстаўка твораў А. М. Горкага і літаратуры аб Горкім. 28 сакавіка ў дзень нараджэння Горкага, у памяшканні Беларускага Дзяржаўнага Тэатра адбылося аб'яднанае ўрачыстае пасяджэнне гаркома КП(б)Б, Горсовета, Акадэміі Навук БССР і Саюза совецкіх пісьменнікаў БССР. На вечары з чыткай твораў, прысвечаных А. М. Горкаму, выступілі беларускія паэты і пісьменнікі т. т. Я. Купала, Я. Колас, П. Броўка, М. Лынькоў і Агняцвет.

У горкаўскія дні на прадпрыемствах Менска адбыліся чыткі твораў Горкага На буйнейшых прадпрыемствах былі выпушчаны спецыяльныя нумары шматтыражак, прысвечаныя А. М. Горкаму.

■ *Украінская грамадскасць адзначыла 70-годдзе з дня нараджэння А. М. Горкага.*

У цэхах Кіеўскага чырвонасцяжнага завода, на машынабудаўнічым заводзе „Большэвік“ і на другіх прадпрыемствах горада праведзены гутаркі аб творчасці вялікага пролетарскага пісьменніка. Артысты кіеўскіх тэатраў выступілі з чыткай твораў А. М. Горкага.

■ *Інстытут літаратуры Акадэміі Навук СССР і Ленінградскі універсітэт* 28 сакавіка правялі ўрачыстае паседжанне, прысвечанае памяці вялікага пролетарскага пісьменніка. Дамы культуры, рабочыя клубы Ленінграда і Ленінградскай вобласці наладзілі выстаўку, прысвечаную творчасці Аляксея Максімавіча. У Ленінградскім лекторыі праведзены цыкл дакладаў і лекцый аб Горкім.

■ *У Карэліі з 25 сакавіка праведзена горкаўская літаратурная шасцідзёнка:* у клубах і чырвоных кутках заводаў і калгасаў рэспублікі адбыліся даклады і лекцыі аб Горкім.

## „МАКСІМ ГОРКІ НА РАДЗІМЕ“

Горкаўскае абласное выдавецтва выпусціла да 70-годдзя з дня нараджэння вялікага пролетарскага пісьменніка А. М. Горкага зборнік успамінаў „Максім Горкі на радзіме“.

Матэрыялы асвятляюць апошнія гады знаходжання М. Горкага ў Ніжнім-Ноўгарадзе (1896—1904), літаратурную, публіцыстычную і грамадскую дзейнасць пісьменніка і яго ўдзел у рэволюцыйным руху.

## БІЯГРАФІЯ М. ГОРКАГА

У Лендзяржвыдаце выходзіць новае выданне біяграфіі А. М. Горкага, якая напісана Ільёй Груздзёвым. Новае выданне перагледжана і дапоўнена раздзелам, які расказвае аб рабоце А. М. Горкага над чацвертай часткай „Кліма Самгіна“ і аб апошніх гадах жыцця вялікага рускага пісьменніка.

І. Груздзеў здаўВыдавецтву першы том манаграфіі „Горкі і яго час“. Гэты том ахоплівае перыяд ад нараджэння А. М. Горкага да 90-х гадоў

## 60-ГОДДЗЕ З ДНЯ СМЕРЦІ МІРЗА ФЕТХ-АЛІ АХУНДАВА

Грамадскасць Азербайджанскай рэспублікі шырока адзначыла 60-годдзе з дня смерці Мірза Фехт-Алі Ахундава, буйнейшага азербайджанскага пісьменніка, філосафа, грамадскага дзеяча, асновапаложніка азербайджанскага тэатра і драматургіі.

У сваіх мастацкіх і філасофскіх творах Ахундаў выступаў супроць феадальнага дэспатызма, змагаўся з невуцтвам, з дзікімі звычаямі, мракабессем і фанатызмам Іслама. Ен быў палымным барацьбітом за раўнаволенне жанчыны. У паэме „На смерць Пушкіна“ Ахундаў узняў гнеўны голас пратэста супроць тыраніі Нікалая І.

Творы Ахундава карыстаюцца вялікай любоўю народаў савецкага Азербайджана. Яго камедыі не сыходзяць са сцэны і выдаюцца вялікімі тыражамі.

У азнаменаванне юбілея Азербайджанскі дзяржаўны драматычны тэатр паказаў „Гаджы Кара“ у новай пастаноўцы. Азербайджанскі філіял Акадэміі Навук СССР рыхтуе да друку новае акадэмічнае выданне збору твораў класікаў азербайджанскай літаратуры. Асобнай кнігай выйдзе манаграфія аб Ахундаве.

## УКРАІНА РЫХТУЕЦЦА ДА ЮБІЛЕЯ ТАРАСА ГРЫГОР'ЕВІЧА ШЭЎЧЭНКА

У рукапісных фондах аддзела рукапісаў бібліятэкі Акадэміі Навук УССР захоўваюцца каштоўныя гісторыка-бібліяграфічныя матэрыялы аб жыцці і творчасці вялікага украінскага паэта Т. Г. Шэўчэнка.

Вялікую цікавасць прадстаўляюць два аўтографы паэта. Першы з іх—вядомы верш „Парадзіла мяне маты ў білых палатах“, з малюнкамі, зробленымі рукой паэта.

Другі аўтограф—пісьмо Шэўчэнка з Горскай цытадэлі (датавана 16 ліпеня 1847 года). У пісьме паэт звяртаецца да кіеўскага губернатара Фундуклея з просьбаю прысладь рэчы, сярод якіх ёсць каштоўныя арыгінальныя малюнкі вядомага французскага мастака Ватто і замалёўкі Кіева, зробленыя паэтам і „пакінутыя“ ў сябе губернатарам.

■ *Выдавецтва дзіцячай літаратуры ЦК ЛКСМУ* рыхтуе для старэйшага і сярэдняга ўзроста вялікі ілюстраваны аднатомнік выбраных твораў паэта, пад рэдакцыяй прафесара А. І. Белецкага. У аднатомніку будзе змешчаны біяграфічны нарыс аб Шэўчэнка. Тое-ж выдавецтва выпускае асобныя творы Шэўчэнка: „Кацярына“, „Сон“, „Каўказ“, „Наймічка“ і інш. тыражом у 25.000 экземпляраў. Будуць выданы асобныя маленькія зборнічкі твораў паэтаў для дзяцей малодшага дашкольнага ўзросту.

■ *У Кіеўскім Доме-музеі Шэўчэнка, дзе жыў паэт у 1846 годзе* арганізуецца вялікая выстаўка карцін-ілюстрацый савецкіх мастакоў, прысвечаная жыццю і творчасці паэта. Работнікі музея падрыхтавалі фота-альбом, куды ўвайшлі фотаздымкі з лепшых карцін, аутографаў паэта, а таксама малавядомы партрэт Н. В. Гогаля работы Шэўчэнка.

■ У выдавецтве „Мастацтва“ вышаў зборнік „Народныя пераказы пра Пушкіна, Шэўчэнка і Горкага“. „Пераказы“ запісаў Дм. Касарык. У выдавецтве выходзіць зборнік песень на тэксты Тараса Шэўчэнка, п'еса В. Сухадольскага „Юнацтва Шэўчэнка“, манаграфія С. Раеўскага, кніга „Запаведнік“ Т. Г. Шэўчэнка і інш.

## ДОМ-МУЗЕЙ ТАРАСА ШЭЎЧЭНКА

Кіеўскі Дом-музей Тараса Шэўчэнка, дзе жыў вялікі украінскі паэт рэвалюцыянер у 1846 г. рыхтуецца да прадстаячых юбілейных дзён.

Музей арганізуе вялікую выстаўку карцін і ілюстрацый савецкіх мастакоў, прысвечаную жыццю і творчасці Тараса Грыгор'евіча.

У карцінах і эцюдах будуць паказаны найбольш цікавыя перыяды жыцця паэта—яго дзіцячыя гады, знаходжанне ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў.

Здан у друк фотаальбом, які паказвае творчы шлях Т. Г. Шэўчэнка.

## ВЫСТАЎКА, ПРЫСВЕЧАНАЯ ПАМЯЦІ ШЭЎЧЭНКА

Бібліятэка імя ВКП(б) арганізавала выстаўку, прысвечаную памяці Т. Г. Шэўчэнка.

Першы раздзел выстаўкі: „Класікі

Марксізма пра Шэўчэнка і яго эпоху. Тут сабраны лісты Карла Маркса і Ф. Энгельса пра Расію, работы В. І. Леніна і І. В. Сталіна пра нацыянальнае пытанне, выказванні Уладзіміра Ільіча пра святкаванне памяці Шэўчэнка.

Раздзел: „Рэволюцыянеры-дэмакраты пра Шэўчэнка" змяшчае выказванні Дабралюбава, Чэрнышэўскага і Герцэна пра паэта. У гэтым раздзеле знаходзіцца ліст Чэрнышэўскага да Герцэна з вядомым яго заклікам „К топору зовите Русь" і поруч радкі з верша Шэўчэнка — „Я нездужаю нівроку", у якім паэт-рэволюцыянер таксама заклікае вастрыць сякеру.

У раздзеле „Вялікі паэт, рэволюцыянер-дэмакрат" сабрана рад выданняў кобзара Т. Г. Шэўчэнка. Тут фотатыпія першага выдання кабзара, лейпцыгскае выданне вершаў Пушкіна і Шэўчэнка.

Акрамя паэзіі выстаўлена шмат малярскіх работ Т. Г. Шэўчэнка.

## ЛІБРЭТА НА ТЭКСТЫ Т. Г. ШЭЎЧЭНКА

Да 125-годдзя з дня нараджэння Т. Г. Шэўчэнка, па ўмове Дзяржаўнага Акадэмічнага ордэна Леніна тэатра оперы і балета УССР, паэт Л. Дмітэрка піша літаратурнае лібрэта для балетнай пастаноўкі па творах Т. Г. Шэўчэнка „Пятрусь", „Причинна", „Тапаля".

■ *Дзяржаўнае літаратурнае выдавецтва Украіны рыхтуе ілюстраванае выданне* паэм вялікага паэта Т. Г. Шэўчэнка (мастак Іжакевіч) і масавае выданне „Кабзара".

## ДА 75-ГОДДЗЯ ЛІТАРАТУРНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ ДЖАМБУЛА

Сталіца Казахстана рыхтуецца дастойна адзначыць 75-годдзе літаратурнай дзейнасці вядомага акына народнага песняра рэспублікі ордэнаносца Джамбула.

Пісьменнікі, паэты і акыны выязджаюць у гарады і буйныя прамысловыя цэнтры рэспублікі, дзе выступаюць з дакладамі аб творчым шляху і грамадскай дзейнасці юбіляра. Вядомыя народныя акыны Умурзак Каргабаеў і Утэп Онгарбаеў рыхтуюць песні аб Джамбуле. Выпускаецца кароткаметражны фільм, прысвечаны ордэнаноснаму акыну. У сувязі з надыходзячым юбілеем Джамбула з усіх канцоў Савецкага Саюза пясняр атрымлівае шмат пісем.

■ *У Саюзе савецкіх пісьменнікаў Казахстана атрыманы весткі аб тым, што ў сувязі з юбілеем народнага песняра Казахстана ордэнаносца Джамбула* мастак Петроў закончыў работу над яго партрэтам і бюстам. Партрэт і бюст Джамбула зроблены ў натуральную велічыню.

Дзяржлітвыдат выпусціў нядаўна зборнік твораў Джамбула „Песні і паэмы". У бліжэйшы час Дзяржлітвыдат выпусціць другі зборнік твораў Джамбула „Падарожжа на Каўказ".

Выдавецтва выяўленчых мастацтваў да юбілею Джамбула выпускае вялікім тыражом мастацкі плакат і паштоўкі, з паказам вядомага казахскага акына.

■ *У сувязі з 75-гадовым юбілеем народнага паэта Казахстана акына Джамбула* Праўленне Саюза пісьменнікаў УССР вырашыла выдаць аднатомнік выбраных твораў паэта ў перакладзе на украінскую мову. Паэт А. Навіцкі пераклаў ужо вершы: „Нарком Ежоў", „Совецкі Саюз", „Вялікі Сталінскі закон", „Вершы аб Вярхоўным Совеце" і інш. Каб зрабіць падстрочнікі і выбраць патрэбныя творы, у Казахстан выязджае паэт М. Бажан, пад рэдакцыяй якога выйдуць выбраныя вершы Джамбула.

## ПАЭМЫ ДЖАМБУЛА НА УЗБЕКСКАЙ МОВЕ

Да 75-гадовага юбілея творчай дзейнасці народнага паэта Казахстана Джамбула узбекскія пісьменнікі рыхтуюць да друку на узбекскай мове зборнік яго лепшых твораў.

## ТВОРЫ ДЖАМБУЛА НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ.

Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі выдае зборнік твораў Джамбула на беларускай мове ў перакладзе А. Жаўрука, А. Ушакова і А. Зарыцкага.

## ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА СУЛЕЙМАНА СТАЛЬСКАГА

Навукова-даследчы інстытут нацыянальных культур у Дагестане працуе над прывядзеннем у парадак літаратурнай спадчыны народнага паэта Дагестана Сулеймана Стальскага.

Інстытутам ужо сабраны і зверавы ўсе тэксты песень, прапетых паэтам на роднай лезгінскай мове. З усяе літаратурнай спадчыны Сулеймана Стальскага маецца толькі адна песня, якая прапета ім не на роднай мове. Гэта прамова Стальскага на Першым Усесаюзным З'ездзе пісьменнікаў, якую ён, імкнучыся зрабіць даступнай большай колькасці слухачоў, прапеў на азербайджанскай мове.

Уся гэта работа праводзіцца, як падрыхтоўка да выдання акадэмічнага зборніка твораў С. Стальскага.

Адначасова дагестанскае выдавецтва выпускае ў гэтым годзе аднатомнік выбраных твораў нябожчыка ашуга. У гэты аднатомнік увойдзе амаль поўнасцю ўся паслярэволюцыйная творчасць Стальскага, якая перавышае 5000 радкоў.

## ТВОРЫ СТАЛЬСКАГА НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі ў 1938 годзе выдае зборнік твораў Сулеймана Стальскага пад назвай „Вершы і паэмы" на беларускай мове ў перакладзе Міколы Хведаровіча.

## ТВОРЫ О. ТУМАНЯНА НА ГРУЗІНСКАЙ МОВЕ

Дзяржаўнае Выдавецтва Грузіі выпусціла ў свет зборнік твораў вядомага армянскага пісьменніка Ованеса Туманяна на грузінскай мове.

У зборнік увайшлі найбольш вядомыя творы: „Гікор", „Пес і кот" і рад вершаў, у прыватнасці „Да паэтаў Грузіі".

Асобным выданнем выпушчана кніга Туманяна „Капля мёда".

## НОВЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ АБ ГЛЕБЕ УСПЕНСКІМ

Тульскі краяведчы музей сабраў новы вельмі каштоўны матэрыял аб жыцці і творчасці Глеба Успенскага. Вялікую цікавасць прадстаўляюць матэрыялы, якія паказваюць быт і норавы тульскай мужчынскай гімназіі, дзе вучыўся Г. Успенскі ў 60-х гадах мінулага стагоддзя.

Знойдзена перапіска Успенскага з пісьменнікам Н. Н. Златаўратскім і В. М. Гаршыным, якая пацвярджае знаёмства і сувязі Успенскага з рэволюцыянерамі.

Усе гэтыя матэрыялы будуць прадстаўлены на выстаўцы, якая арганізуецца музеем.

## ЮНЫЯ ДРАМАТУРГІ

Вучні 9 класа Якаўлевіцкай сельскай сярэдняй школы К. Касцюшкін і І. Плюшчыкаў разам напісалі п'есу. У п'есе паказваецца, як сельскія комсамольцы пад кіраўніцтвам партыі вялі барацьбу з кулацтвам за арганізацыю калгасаў.

П'еса будзе пастаўлена вучнямі той-жа школы.



АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.

ЗМЕСТ



---






